Алесь Зайка

# ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК Косаўшчыны



Слонім
«Слонімская друкарня»
2011

УДК 811.161.3’282’374(476.7)
ББК 81.2Беи-67
З-17

Рэцэнзент

М. М. Аляхновіч, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі УА «Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна»

**Зайка, А.**

З-17 Дыялектны слоўнік Косаўшчыны / Алесь Зайка. — Слонім : Слонімская друкарня, 2011 — 272 с.

ISBN 978-985-6602-93-4.

«Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» змяшчае лексіку насельнікаў паўночнай часткі Івацэвіцкага раёна. У слоўніку падаецца каля 4000 слоў, запісаных за апошнія 35 гадоў.

Разлічаны на шырокія колы лінгвістаў. Карысны матэрыял знойдуць для сябе этнографы, фалькларысты, гісторыкі — усе, хто шануе жывое народнае слова.

**УДК 811.161.3’282’374(476.7)**
**ББК 81.2Беи-67**

**ISBN 978-985-6602-93-4**

# ПРАДМОВА

Сучасны Івацэвіцкі раён, так склалася спрадвеку, умоўна дзеліцца на тры рэгіёны: Быценшчыну, Косаўшчыну ды Целяханшчыну. І кожны куток адметны, своеасаблівы, непаўторны, варты пільнага вока і гісторыка, і этнографа, і мовазнаўцы. 63 вёскі належаць да Косаўшчыны (39 з іх вядомыя з 16 ст.), і кожнае паселішча лучыць з мястэчкам Косава свая дарога. З поўначы, захаду і ўсходу край здаўна атуляюць Буленская, Бялавіцкая ды Любішчыцкая пушчы, з поўдня да яго падступаюць Целяханскія балоты. Само Косава (упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1494 годзе) ляжыць на высокай градзе – мяжы вялікага водападзелу паміж Чорным і Балтыйскім морамі. Праз Косава праходзіў старажытны шлях, «дорога звычайная звечная» з Вільні на Валынь. Тут ад сярэдзіны 16 ст. ладзіліся шумныя кірмашы. З 1594 па 1765 гады мястэчкам і маёнткам Косава (7 фальваркаў, 17 вёсак) валодалі знакамітыя Сапегі (пабудавалі касцёл, царкву, адкрылі школы пры іх). Усё 19 стагоддзе Косава з вакольнымі вёскамі – уласнасць багатых прамыслоўцаў Пуслоўскіх (заклалі суконную, дывановую і коўдраткацкую фабрыкі, працавалі гута, бровар, цагельня, смалакурня). З 1921 па 1939 гг. мястэчка – цэнтр Косаўскага павета, з 1939 па 1947 – цэнтр Косаўскага раёна. Як бачым, ад самага пачатку і да сягоння Косава было і ёсць тым ядром-цэнтрам, які аб'ядноўваў, групаваў вакол сябе мясцовы люд.

Размаўляюць на Косаўшчыне гаворкай, характэрнай для Гарадзенска-Баранавіцкай дыялектнай групы, якая вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку: дзеканне і цеканне, пераход *в, л* у пэўнай пазіцыі ў *у* нескладовае, цвёрдыя шыпячыя, *р, ц,* аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і склада перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на

канцы слова, чаргаванне *ро, ло, ле* з *ры, лы, лі* і інш. Разам з тым у слоўнікавых артыкулах адлюстраваны дыялектныя адметнасці Косаўшчыны, а іменна: а) захаванне канцавога ненаціскнога *о* ў назоўніках, прыслоўях (*сонцо, жыто, просо, мамо, тато, моцно, кепско, мало, много*); б) прыстаўное *г* перад пачатковым *а, у* (*гарэшнік, гануча, гараць, гарабіна, гуліца*); в) канчатак *-а* ў назоўным склоне множнага ліку ў назоўніках ніякага роду (*вокна, кацянята, гнёзда*); г) ужыванне старой, сінтэтычнай формы будучага часу дзеясловаў незакончанага трывання (*пісацьму, рабіцьму, касіцьму)*; д) наяўнасць моцнага якання ў канчатках дзеясловаў другой і трэцяй асобы адзіночнага ліку (*будзяш, трымаяш, танцуя, спявая*), першай і другой асобы множнага ліку (*выбіраям, колям,гуляяц, сябруяця);* е) *о* на месцы *а* ў афіксе *-ся* зваротных дзеясловаў прошлага часу ў ніякім родзе і ў безасабовых дзеясловах *(сонцо схавуласё, дрэво зламаласё, хмурыласё, сніласё*); ж) канчатак *-і* ў месным склоне назоўнікаў мужчынскага роду (*у лесі, у хлебі)* і канчатак *- э* ў месным склоне адзіночнага ліку ў назоўніках з асновай на шыпячыя і *р ( на шашэ, на пячэ, на дварэ, на мяжэ);* з) канчатак *–ом* у назоўніках мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне (небом, горадом, светом, медом); і) наяўнасць выбухнога *г (**г**анок, **г**узік);* к) разам з поўнай формай прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў ужываецца кароткая форма *(добра карова, нова хустка, гэто сяло, сёма гадзіна);* л) пашыранасць прыназоўніка *да* з родным склонам назоўнікаў у словазлучэннях тыпу *пайшоў жыць да сына, паехоў да Косава, пайшоў да шаўца* і прыназоўніка *па* з вінавальным склонам назоўнікаў у словазлучэннях тыпу *ісці па воду, ісці па хлеб.*

Слоўнікавыя артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку.

Загалоўнае слова прапануецца ў арфаграфічным напісанні з абазначэннем націску пасля галосных і

захаваннем дыялектных рыс. Арфаграфічнае напісанне перадае як фанетычны склад мовы, так і яго рэальнае вымаўленне, адпаведнае нормам беларускай арфаэпіі. Выбуховы *г* перадаецца тоўстым шрыфтам **Г, г**.

У слоўніку падаюцца ўсе часціны мовы. Загалоўнае слова прыводзіцца ў пачатковай форме, адзначана характэрнымі граматычнымі паметамі. Для назоўнікаў гэта род. Лік паказваецца толькі ў адзіночналікавых ці множналікавых назоўніках. У тых выпадках, калі ў слоўніку даецца форма множнага ліку, хоць магчыма ўжыванне гэтага слова і ў адзіночным ліку, загалоўнае слова таксама пазначана паметай *мн.* Зборныя назоўнікі маюць пазнаку *зб.*

У самастойных слоўнікавых артыкулах падаюцца дзеясловы закончанага і незакончанага трывання, адзначаецца безасабовасць дзеяслова.

Для іншых слоў сродкам граматычнай характарыстыкі з'яўляюцца адзнакі, якія абазначаюць прыналежнасць слова да канкрэтнага граматычнага класа.

У самастойных слоўнікавых артыкулах падаюцца вышэйшая і найвышэйшая формы ступеней параўнання прыметнікаў, дзеепрыметнікі, дзеепрыслоўі, усе прыставачныя ўтварэнні.

Пасля граматычных памет да многіх слоў даюцца стылістычныя адзнакі, паводле прыналежнасці слова да пэўнай лексіка-тэматычнай групы ці ў залежнасці ад характару экспрэсіўна-эмацыянальнай афарбоўкі.

Мнагазначнасць слова пазначаецца лічбавым паказчыкам, напрыклад:

КВАС *м.* 1.*кулін.* Суп, галоўным кампанентам якога з'яўляюцца сушаныя грыбы... 2.*кулін.* Халаднік...

У сваю чаргу аманімічнасць пазначаецца рымскімі лічбамі, што стаяць адразу пасля загалоўнага слова, і падаецца ў самастойным артыкуле. Напрыклад:

ЛЯК I *м.* Нешта вельмі салёнае, лёк...

ЛЯК II *м. абрад.* Спалох…

У слоўніку змешчана лексіка, якая збіралася аўтарам апошнія 35 гадоў на Касаўшчыне. Мы свядома не фіксавалі словы, што маюць адзнакі абласное, размоўнае, устарэлае ў вялікім "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы". Нам здаецца, што шырокае бытаванне і ўжыванне іх па ўсёй тэрыторыі Беларусі дазваляе ўвесці ў стан літаратурных. Прынамсі, на Касаўшчыне яны вядомыя, часта ўжываюцца.

У слоўніку знайшла сваё адлюстраванне самая разнастайная па значэнню лексіка: назвы страў, адзення, абутку, назвы прадметаў ужытку, тэрміны рыбалоўства, ткацтва, будаўніцтва, лясной гаспадаркі, батанічная і заалагічная лексіка, лексіка медыцыны, ветэрынарыі і інш. Усе яны маюць адпаведныя паметы ў слоўнікавых артыкулах. Таксама шырока прадстаўлены назвы дзеянняў, стану, якасці, уласцівасцей і прымет прадметаў.

Значэнне слова тлумачыцца па-рознаму: пры дапамозе літаратурнага эквівалента, напрыклад: **апірачкі** `лыжныя палкі´, **бархан** `мультан´, **варстат** `варштат´ і інш.; значэнне слова можа раскрывацца сінонімамі, напрыклад: **глэўшыць** `здзекавацца, мучыць´, **клішавы** `касалапы, крываногі´, **ковал** `кусок, кавалак´ і інш.; апісальным шляхам, напрыклад: **абертуха** `луста хлеба на ўвесь бохан´, **брэнкаць** `касіць слабую траву´, **буркаўка** `костка без мяса´ і інш.; адсылкай да слова, якое тлумачылася раней: **кумяк** `тое ж, што і камяк´, **друзалкі** `тое ж, што і грузалкі´.

Нярэдка пасля асноўнага тлумачэння слова ў дужках прыводзяцца дадатковыя звесткі пра сферу яго ўжывання, напрыклад: **аб'еддзе** `аб'едкі (пра сена)´, **борух** `кукса (род жаночай прычоскі)´ і інш. Пераносныя значэнні слоў суправаджаюцца паметай *перан.*

Пасля кожнага прыкладу ўказваецца населены пункт, у якім запісана слова, яго адміністрацыйная

прыналежнасць (назва сельсавета).

У матэрыялах не паказана фразеалогія рэгіёна: намі падрыхтаваны асобны "Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны", які, спадзяёмся, таксама пабачыць свет.

У канцы слоўніка прыводзяцца звязныя тэксты, што яскрава ілюструюць дыялектныя асаблівасці жывой гаворкі Косаўшчыны.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## СЕЛЬСКІЯ САВЕТЫ

Жытл. - Жытлінскі
Квас. - Квасевіцкі
Кос. - Косаўскі
Люб. - Любішчыцкі
Міл. - Мілейкаўскі
Падст. - Падстарынскі
Стайк. – Стайкаўскі
Ягл. - Яглевіцкі

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

абрад.- абрадавае
абразл.- абразлівае
адз.- адзіночны лік
анат.- анатамічнае
асудж.- асуджальнае
бат.- батанічнае
безас.- безасабовы дзеяслоў
біял.- біялагічнае
буд.- будаўнічая справа
вет.- ветэрынарнае
вык.- выказнік
выкл.- выклічнік
выш.- вышэйшая ступень
г.- горад
гіст.- гістарычнае
груб.- грубае
дзеепрым.- дзеепрыметнік
дзеепрысл.- дзеепрыслоўе
дзіц.- дзіцячае
ж.- жаночы род

жарт.- жартаўлівае
заал.- заалагічнае
займ.- займеннік
зак.- закончанае трыванне
зб.- зборны назоўнік
знач.- значэнне
зневаж.- зневажальнае
іран.- іранічнае
каго-н. – каго- небудзь
кім-н.- кім-небудзь
крав.- кравецкая справа
кулін.- кулінарнае
ліч.- лічэбнік
м.- мужчынскі род
мед.- медыцынскае
мн.- множны лік
н.- ніякі род
наз.- назоўнік
насм.- насмешлівае
незак.- незакончанае трыванне
павел.- павелічальнае
пабочн.- пабочнае
пагардл.- пагардлівае
пад. - падалей
памянш.- памяншальная форма
перан.- пераноснае значэнне
польск.- польскае
прым.- прыметнік
прыназ.- прыназоўнік
прысл.- прыслоўе
пчал.- пчалярства
родн.- родны склон
рыб.- рыбалоўства
рэліг.- рэлігійнае
'тс'- тое самае

ткац.- ткацтва
тэкст.- тэкстыльнае
устар.- устарэлае
царк.- царкоўнае
цясл.- цяслярская справа
цяпер.- цяперашні час
часц.- часціца
чаго-н.- чаго-небудзь
чым-н.- чым-небудзь
шав.- шавецкая справа
экспр.- экспрэсіўнае
этнагр.- этнаграфічнае

# АД СКЛАДАЛЬНІКА

Гэты слоўнік складаўся цягам 35 гадоў. У ім не толькі словы, выразы, сказы, для мяне  слоўнік гучыць, ён жывы, поўніцца галасамі людзей, што зберагл і такое моўнае айчыннае багацце. Вялікі ім дзякуй! На жаль, многія з іх адышлі ў іншасвет – вечная ім памяць. Няма ўжо і маіх бацькоў, Тамаша Якаўлевіча і Аляксандры Пятроўны, шчырых памочнікаў і апекуноў. Колькі адметных, непаўторных слоў пачуў я ад іх! Кожнае новае, прывезенае з вандровак, абмяркоўвалася і толькі з іх згоды ўхвалялася, папаўняла картатэку.  Гэтую кнігу я ім і прысвячаю.

Шчыра дзякую майму навуковаму кіраўніку і рэдактару М.М.Аляхновічу, дацэнту, загадчыку кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі УА "Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С.Пушкіна", прынцыповаму крытыку, зычліваму дарадцу.

А яшчэ я маю шчасце даўняга і дарагога для мяне сяброўства з паэтам Алесем Разанавым. Гэта дзякуючы яго маральнай і матэрыяльнай падтрымцы ўбачыла свет гэтая кніга.

Выказваю глыбокую падзяку аператару раённай газеты "Івацэвіцкі веснік" Г.І. Хаванскай, якая са згоды рэдактара пасля сваёй асноўнай працы выканала камп'ютэрны набор.

У працы побач са мною была мая жонка Антаніна. Часта, пакідаючы тэрміновыя гаспадарчыя справы, я ездзіў па навакольных вёсках у пошуках самабытнага слова, песні, легенды, і ніколі не чуў ад яе папрокаў, нараканняў. Дзякуй табе.

***Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор,***
***і гэты твор – мова.***
*Алесь Разанаў*

# А

**АБАБІ´ЦЦА** *зак.* Знайсціся. *Абаб'ецца работа, зараблю грошай, куплю целявізар.* Заполле Кос.

**АБАБО´ЎЧЫЦЬ** *зак. экспр.* Моцна, знянацку ўдарыць. *Ні лезь, ні трывож душы, пабачыш, абабоўчу качаргою.* Азярцо Падст.

**АБАБЭ´НЧЫЦЬ** *зак.* Тое ж, што і а б а б о ў ч ы ц ь. *Ад'еў душу жонцы, а жонка ўзяла чапялу да абабэнчыла па галаве, мужык і згарнуўся.* Альшаніца Квас.

**АБАЛО´НЬ** *ж.* Абалона. *З абалоні вакон рабіць ні будзяш: моль паточыць, сыпацца будзя.* Быч Стайк.

**АБАРВА´ЦЦА** *зак.* Прыйсці ў нягоднасць (пра адзенне). *Абарваўся, як жабрак, і купіць адзежыну німа за шчо.* Жамайдзякі Міл.

**АБА´ЧНАСЦЬ** *ж.* Павага, пашана. *О, настаўнік пры Польшчы павагу меў, як казалі, абачнасць.* Няхачава Стайк.

**АББАРАБА´НІЦЬ** *зак. іран.* Абстрыгчы. *Гэто ж ты хлопца на лысо аббарабаніла, а ён ўжэ на дзяўчат заглядаяцца.* Хадоркі Кос.

**АБГАЛАСІ´ЦЬ** *зак. асудж.* Не захаваць тайны, падзяліцца з іншымі. *Разыходзіцца дачка, то нашчо было казаць, а то на ўсё сяло абгаласіла.* Сярадава Жытл.

**АБГО´РВАЦЬ** *незак.* Акучваць. *Картоплі пара абгорваць, бо праз тыдзянь ні ўлезяш: велькія будуць.* Панкі Люб.

**АБГУ´ДЗІЦЬ** *зак.* Абгаварыць, зняславіць. *Кажуць, ягады збірала з Маняю, то за дзень усіх жанок абгудзілі.* Альба Квас.

**АБДЗІ´РУС** *м. жарт.* Рухавы, шустры хлапчына, які не шануе адзення. *Прывязлі мне на лето ўнука, а ён такі*

*абдзірус, на кожны плот пачэпіцца, адзежы ні наўмеяшся.* Заполле Кос.

**АБ'Е́ДДЗЕ** *н.* Аб'едкі (пра сена). *Вечаром карові цэлы цэбяр аб'еддзя на сечку рэжу.* Халап'я Падст.

**АБЕ́ДЗЬВІ** *ліч.* Абедзьве. *Абедзьві адзінакія: адна адной ні ўступяць.* Заполле Кос.

**АБЕ́РТУХА** *ж.* Луста хлеба на ўвесь бохан. *Як намажаш маслом абертуху, то адразу наясіся.* Альшаніца Квас.

**АБЕ́ЧКО** *н.* Абадок рэшата, сіта. *Абечко яловае, моцнае.* Падстарынь Падст.

**АБЖА́ЦЦА** *зак.* Кончыць жніво. *Дзякаваць Богу, абжаліся, няхай рукі адпачнуць перад капаннем.* Уласаўцы Жытл.

**АБЖА́ЦЬ** *зак.* 1. Апярэдзіць у жніве. *Стараліся адна перад адной, хто каго абажне, маладыя былі.* 2. Зжаць чужое. *Пры калхозі сена вобмаль давалі, то пожню касілі, вось і стараліся абжаць другого, каб гэтай пожні больш было.* Альшаніца Квас.

**АБЗО́Л** *н.* Неабрэзаны край дошкі. *Не хапая па шырыні дошкі, то, кажуць, абзол пайшоў.* Верашкі Квас.

**АБЗО́ЛІСТЫ** *прым.* З няроўнымі краямі, неабрэзаны. *Абзолістая дошка пайдзя на рыштаванне.* Куляшы Міл.

**АБКАЛЯСІ́ЦЬ** *зак. іран. насм.* Ездзячы, пабыць у многіх месцах. *Абкалясіў паўсвета, а, бач, вярнуўся: німа нідзе лепш, як дома.* Размеркі Стайк.

**АБЛАПУШЫ́ЦЬ** *зак. экспр.* Ababраць, абтрэсці. *Сліўка ядрона была, то без пары дзетвара аблапушыла.* Харошча Міл.

**АБЛІВА́НЕЦ** *м. насмешл.* Поўны, тоўсты мужчына. *Гэты абліванец за пузом зямлі ні бачыць.* Квасевічы Квас.

**АБЛІВА́НЦЫ** *мн.* Гумовыя чаравікі. *Пры Польшчы на гумовыя чаравікі казалі абліванцы.* Хадакі Жытл.

**АБЛЮ́ДНЕЦЬ** *зак.* Пабыць у людзях, набрацца жыццёвага вопыту. *Пабыў у людзях, аблюднеў, хоць*

*гаварыць з людзьмі навучыўся.* Майск Люб.

**АБМА́НКА** *ж.* Самаробная соска. *Хлеб пажуеш з цукром да ў ганучку льняную, ніткаю перавяжаш і ў рот дзіцяці – абманкай называлі.* Аляксейкі Стайк.

**АБМА́НЧЛІВЫ** *прым.* Абманны (пра вальс). *Е дамскі вальс, калі дзяўкі прыглашаюць кавалероў. А е абманчлівы вальс. Танцуюць пары ў крузі, падыходзіць да якой пары дзеўчына і адбівая хлопца. Той кідаяцца да яе, хоча ўжэ з гэтай дзеўкай танцаваць, але яна кідае яго пасярод круга, а запрашая другога хлопца на вальс. Хлапец застаўся на бубнях: і першую кінуў, а другая сама ні схацела. Гэто так жартавалі даўней.* Заполле Кос.

**АБМАРЫ́ЦЬ** *зак.* Змарыць (пра сон). *Абмарыў сон, хоць плач. Трохі прылягу.* Альшаніца Квас.

**АБМЫВА́ЦЬ** *незак. асудж.* Тое ж, што і а б г у д з і ц ь. *Нічого ні робіця, ано абмываяця людзей.* Галік Міл.

**АБО́ДРАНІК** *м. пагардл.* Чалавек, які носіць старое, лапленае адзенне. *Абодранік, на табе ўся адзежына свіціцца.* Квасевічы Квас.

**АБРАБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Парабіць усе работы па гаспадарцы. *Мяне зіма ні застаня неспадзеўкі, бо я ўжэ абрабіўся: і пагараў, і дроў прывёз, і смеցця павывозіў.* Рацькевічы Міл. 2. Упэцкацца, забрудзіцца. *Дзе ты гэдык абрабіўся? Вымазаны ўвесь.* Заполле Кос.

**АБРАКА́ЦЦА** *незак.* Заракацца. *Абракаўся, казаў, шчо ні будзя сварыцца з жонкаю, і тыдня не вытрымаў, зноў вайна ў хаці.* Заполле Кос.

**АБРА́КНУЦЬ** *зак.* Абрызнуць. *Учарашняе малако ўжэ абракло.* Заполле Кос. *Малако абракло, хай скісая, то адтаплю.* Хрышчонавічы Квас.

**АБРА́Т** *м.* Адыходы ад перапрацаванага на млячарні малака. *Кажуць, што надто парасята на абраці растуць, на вачах.* Яблонка Жытл.

**АБРО́ЧНАЯ ТО́РБА** *ж. зневаж.* Тоўстая жанчына. *Табе, торбе аброчнай, яно і танцаваць.* Яглевічы Ягл.

**АБРЫ́ДЗІЦЬ** *зак.* Абганіць, узвясці паклёп. *Абрыдзіла, абганіла, а зара слатою ў вочы лезя.* Аўсто Стайк.

**АБСМАКТА́ЦЬ** *зак. перан.* Абабраць, украсці. *Абсмакталі мяне, як сабакі костку.* Заполле Кос.

**АБСУ́НУЦЬ** *зак.* Абдзерці, параніць. *Ішла це́мначы дахаты, цярнулася аб плот, надто моцно руку абсунула.* г. Косава.

**АБХАЛАСТРЫ́ЦЬ** *зак. экспр.* Ababраць, вынесці з хаты. *Абхаластрыла ў мінюту, зладзейка.* Кушняры Падст.

**АБЦЕ́ПНУЦЦА** *зак.* Выцепціся, выцерціся. *Абцепся швэдар, яно ў ім ужэ да кароў хадзіць.* Квасевічы Квас.

**АБЦЁ́ГІНЫ** *толькі мн.* Атрэп'е. *Як падымаяш лён, а добра выляжаны, то ўжэ патрэскаўся, валакно ідаць. У кулі' ставіш, то трэба абцягаць, каб роўненькі быў. Тое, што абцягаяцца, і будуць абцёгіны.* Альшаніца Квас.

**АБУ́ЎКА** *ж.* Абутак. *Абуўку даўней бераглі. Ідзеш, бало, у цэркоў, туфелькі ў руках нясеш. Гэта ўжо ля цэрківі яно і абуяшся.* Гладышы Міл.

**АБЦЭ́НГІ** *толькі мн.* Абцугі. *Нясі абцэнгі, трэба цвікі паўрываць.* Руда Падст.

**АБЫСЦІ́** *безас.* Пакрыўдзіцца. *Мне абышло, што ты мяне папракнула за леташнія вішне.* Юкавічы Стайк.

**АБЫ-ЯК** *прысл.* Бедна, цяжка. *Яна і зара абы-як жыве, німа чаго на плечы накінуць.* Бараны Яглев.

**АБЭ́РЖА** *ж.* Вялікая прасторная будыніна. *Хату паставіў, як абэржу, усім места хопіць, на ўсё места будзя.* Заполле Кос.

**АВАДЗЁ́Н** *м.* Авадзень. *Такі гомаз, надто авадзён каравам дапякая.* Боркі Падст.

**АВО́** *часц.* Вось. *Шукаяш сваю ўнучку? Аво яна, у нас.* Гошчава Стайк.

**АГАЛАВЕ́ЧЫЦЬ** *зак.экспр.* Стукнуць па галаве. *Не чапай, а то агалавечу паленом.* Заполле Кос.

**АГЛАБІ́НА** *ж.* Аглобля. *Ядрона гарабіна – калу па аглабіны.* Заполле Кос.

**АГЛАБЛЁ´ВА** *ж.* Апошняя чарка перад развітаннем. *Пытаюцца ўсе: "А чаму аглаблёва?" – "Бо пасля яе каня ў аглоблі запрагаюць ды збіраюцца ехаць дадому".* Альшаніца Квас.

**АГЛАБУШЫ´ЦЬ** *зак. экспр.* Знянацку, моцна стукнуць. *Аглабушыў з-за вугла майго хлопца, а сам наўцёкі.* Ятвезь Квас.

**АГЛАШЭ´ННЕ** *н. царк.* Паведамленне аб намеры маладых уступіць у шлюб; абвяшчэнне. *У гэту нядзелю ажні тры пары падалі на аглашэнне.* Лазаўцы Міл.

**АГНО´ЕК** *м.* Гнілое дрэва. *Пайдзеш у лес, то столькі агнойкоў ляжыць, гніе.* Заполле Кос.

**АГНО´ЙКІ** *мн.* Гнілякі. *Якія гэто дрова – адны агнойкі!* Сакоўцы Міл.

**АГО´ЎТАЦЦА** *зак.* Асвойтацца, прывыкнуць да чаго-н. *Я не тутэйшая, я з другого сяла, сюды замуж пайшла. Агоўталася, прывыкла, жыву, міруся з людкамі.* Галенчыцы Ягл.

**АГРЫ´ЗОК** *м.* 1. Агрызак. *Гэто зара агрызкі хлеба валяюцца, даўней упадзя акрайчык хлеба са стала, чалавек падымя і пацалуя.* Була Міл. 2. *перан. абразл.* Недабітны чалавек. *Ну, усім агароды камбайны памалацілі, засталіся адны агрызкі: пенсіянеры да ўдовы.* Заполле Кос.

**АГРЭ´БНІК** *ж. і м., асудж.* Неахайны чалавек. *Пакараў мяне Бог нявесткаю: агрэбнік, ажно брыдко людзей.* Мілейкі Міл.

**АГУ´ЗКАВАТЫ** *прым.* Каржакаваты (пра чалавека, яго постаць). *Малады яшчэ, але агузкаваты хлопец у Андрэя. Андрэй мяшок з картоплямі адзін бярэ на плячо, і сын ужэ ад яго не адстае.* Быч Стайк.

**АДБАРАБА´НІЦЬ** *зак. экспр.* Набіць. *Біў ён, адбарабанілі яго: галава гуза знойдзя.* Грыўда Міл.

**АДБІ´ЦЬ** *зак. перан.* Адгаварыць. *Да Алены некі сватаўся ўдавец, але адбілі людзі.* Міхнавічы Стайк.

**АДБУ´ХАЦЬ** *зак. экспр.* Пабудаваць прасторны, вялікі

будынак. *Мой сват хату адбухаў на ўсе сяло: як шклянка стаіць.* Сенькавічы Падст.

**АДБЯГА́ЦЬ** *незак. біял.* Не пакрыцца (пра карову). *Карова мая так і не пабегала, адбягая.* Скураты Квас. *Карова адбягая, зноў трэба вясці да быка.* Грыўда Міл.

**АДВАЛІ́ЦЬ** *зак.экспр.* Набіць. *Адчапіся, а то адвалю, як каня.* Заполле Кос.

**АДВАЛКАВА́ЦЬ** *зак.экспр.* Моцна набіць кулакамі. *Быў п'яны, то адвалкавала, як схацела.* Заполле Кос.

**АДВАРО́ТНЫ** *прым.* Непрыветны, нелюдзімы. *Адваротны ён чалавек, як воўк той, усё сам сабе.* Старажоўшчына Кос.

**АДГАДЗІ́ЦЦА** *зак.* На добры ўчынак чалавека адказаць тым жа. *Адгадзілася суседцы: яна мне атаву памагла грэбці, а я ёй два дні картоплі пакапала.* Зыбайлы Жытл.

**АДДЗЯ́ЖЫЦЬ** *зак. экспр.* Набіць рэменем, папругай. *Нашкодзіў хлопяц, то папругай аддзяжыў.* Альба Квас.

**АДЖЫМА́ЦЬ** *незак.* Мыць, паласкаць. *Аджымаць буду, усё гразнае, німа чаго адзець.* Альшаніца Квас.

**АДЗЕРАВЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Анямець, страціць адчуванне. *Цэлы дзень лён парвеш, то рук ні чуяш, адзеравянеюць.* Заполле Кос.

**АДЗЕ́ЖА** *ж.* Адзенне. *Адзежы, якой хочаш, навязлі ў магазін.* Бялавічы Кос.

**АДЗЁ́Р** *м. мед.* Дзіцячая хвароба, якая праяўляецца высыпкай. *Мой унук на адзёр захварэў.* Скураты Квас. *Як высыплюць прышчэ ў дзіцяці па ўсім целі, кажуць, гэто адзёр.* Быч Стайк.

**АДЗІНА́КІ** *прым.* Аднолькавы, подобны, такі самы. *Усе мужыкі адзінакія.* Заполле Кос.

**АДЗІНАЛІ́ЧНО** *прысл.* Аднаасобна. *Тады яшчэ калхозоў ні было, адзінанічно жылі.* Аляксейкі Стайк.

**АДЗІЧА́ВЕЦЬ** *зак.* 1. Адзічаць, зрабіцца дзікім. *Сабака зусім адзічавеў: усё недзі па лесі валочыцца.* Заполле Кос. 2. Поле, якое не апрацоўвалася, зарасло. *Поле не горано,*

*адзічавело зусім.* Заполле Кос.

**АДКІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Адсадзіць, аддзяліць. *Я ў чатэры нядзелі адкінуў цяля.* Скураты Квас. 2. *перан.* Вылечыць. *У майго дзіцяці было загараво, кінулася да бабоў, то адкінулі, зара і следу німа таго загарава.* Альшаніца Квас.

**АДКРЫВА́ЧКА** *ж.* Прылада для адкрыцця бляшанак,накрывак са слоікаў. *Не псуй нажа, адкрывачку вазьмі.* Гошчава Стайк.

**АДЛІ́ГНУЦЬ** *безас.* Адліжыць, спасці (пра мароз). *Адлігло: снег да лыж ліпня.* Заполле Кос.

**АДЛЮ́ДНІК** *ж. і м. асудж.* Нелюдзімы чалавек. *Адлюднік твой Андрэй, усе сам сабе.* Гладышы Міл. *Адлюднік, ты да людзей баішся падысці.* Быч Стайк.

**АДНАРУ́ЧКА** *ж.* Мера льну, роўная адной жмені. *Возьмяш льну ў добрую жменю, атрэпляш, пакладзеш, во табе і аднаручка, а дзве аднаручкі – павесмо.* Альшаніца Квас

**АДПРАВЭ́НДЗІЦЬ** *зак. экспр.* Выправадзіць. *Нарэшці адправэндзіла сваіх гасцей: замучылася стаяць каля пліты ды міскі мыць.* Заполле Кос.

**АДПУНІ́ЦЬ** *зак.* Адвярнуць, павярнуць у супрацьлеглы бок. *Адпуні карову, а то ў шкоду пойдзя.* Була Міл.

**АДПЫНІ́ЦЬ** *зак.* Тое ж, што і а д п у н і ц ь. *Адпыні каравы, а то як уб'юцца ў шкоду, то папабегаяш.* Квасевічы Квас.

**АДРАБІ́ЦЬ** *зак.* Зняць сурокі, чары. *Казалі, адна Бэўчыха магла адрабіць, зняць чары.* Гошчава Стайк.

**АДРУБІ́ЦЦА** *зак.* Адпароцца. *Спаніца адрубілася, а я і ні бачу.* Бялавічы Кос.

**АДРЫ́НОК** *м.* Трохсценак каля хлява. *У нас на трохсценок пры хляве кажуць свінінец, а ў Скуратах адрынок.* Альшаніца Квас.

**АДСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Зліць ваду з варанай бульбы. *Бульба зварылася, адсаджу, будзям вячэраць.* Дубітава Кос. 2. Адрабіць таму, хто памагаў садзіць бульбу. *У суботу свае картоплі пасадзіла, а сёні пайду Хрысціні адсаджваць.*

Хрышчонавічы Квас.

**АДСЕ́КАЦЦА** *зак. асудж.* Пярэчыцца, агрызацца. *Нямашака павагі да маці, на кожнае яе слова адсекаяцца.* Галынка Міл.

**АДТАДУ́РЫЦЦА** *зак.* Адклеіцца, адстаць. *Адтадурылісь шпалеры, трэба ўжэ новыя клеіць.* Заполле Кос.

**АДТАДУ́РЫЦЬ** *незак.* Расчыніць, раскрыць. *Адтадурыў дзверы, прыкрый, а то холад ідзе.* Заполле Кос.

**АДТАПТА́ЦЬ** *зак.* Зрабіць слядамі мяжу. *Адтапчы мне граду на цыбулю.* Заполле Кос.

**АДТАРАБА́НІЦЬ** *зак. 1. экспр.* Набіць, адлупцаваць. *Палез курэй красці, паймалі, то добра адтарабанілі.* Заполле Кос. 2. Хутка расказаць завучанае. *Адтарабаніла вершык настаўніцы па пяцёрку.* Альшаніца Квас.

**АДТУЖЫ́НІЦЬ** *зак.* Змяніць сваё становішча пад уздзеяннем якой-н. сілы і вярнуцца пасля спынення гэтага ўздзеяння; спружыніць. *Зачапіў быў галінку ў лесі, а яна так адтужыніла і ляснула па твары, ажно чырвоны пісяг застаўся.* Заполле Кос.

**АДТУ́ХНУЦЬ** *зак.* Прыйсці да нормы. *Рука адтухла, можа, ні будзя ўжэ балець.* Яблонка Жытл.

**АДУ́РА** *ж. насм.* Назола, тлум. *Адура галавы твая гармоня.* Бусяж Міл. *Гэты целявізар – адура галавы.* Зыбайлы Жытл.

**АДШЛО́ПАЦЬ** *зак. экспр.* Набіць, надаваць плескачоў. *Залез у воду ў новых баціначках: добра адшлопала по мяккім месці.* Заполле Кос.

**АДЫСЦІ́** *зак.* Адсырэць, стаць вільготным (пра сена). *Здаецца, сухое сено было, а пад вечар раса прыпала, то адышло.* Бялавічы Кос.

**АДЭ́РВАТЫ** *дзеепр.* Адарваны. *Адэрвата дошка ў плоці.* Заполле Кос.

**АД'Я́ДА** *м. і ж. асудж.* Чалавек, які непакоіць сваімі ўчынкамі, паводзінамі; назола. *Ад'яда, дай спакойно*

*пасядзець, не тлумі мне голаву.* Юкавічы Стайк. *На гэтую ад'яду трэба вялікае цярпення мець.* Бараны Ягл.

**АЖМЯНІ'ЦЬ** *зак.* Натаміць, навярэдзіць руку. *Як даўней жалі? Займеш сярпом у жменю жыта, пераломіш на серп, сажнеш і кладзеш жменя да жмені. Нахтватаяшся за цэлы дзень, так ажмяніш руку, што пальцоў ні чуяш.* Заполле Кос.

**АЖЭ'ГНУЦЦА** *зак. экспр.* Расчаравацца, памыліцца. *Замуж мой няўдалы. А зара як ажэглася на адном, то залатого сватай, не пайду.* Альшаніца Кос.

**АЗІЯ'Т** *м. зневаж.* Нядобры, злы чалавек. – *Чула? Іван сына з нявесткай з хаты выгнаў. Насупроць зімы, дзіцятко маленькае... – Вядома, добры чалавек так ні зробіць, а азіяту ўсё можно.* Скураты Квас.

**АІ'Р** *м. бат.* Аер. *Аір расце па нізкіх мястах, сушанае карэнне памагая ад страўніка.* Бялавічы Кос.

**АКА'ЛУХ, АКА'ЛУХА** *ж.* Чалавек, які не падтрымлівае парадак, чысціню ў хаце, вакол яе. *Акалух яна, ёй сабакі місы ліжуць.* Альшаніца Квас. *Акалуха, прыграбі хоць надворка, смецця – не параступіць.* Рацькевічы Міл.

**АКАРА'ВЕЦЬ** *зак.* Пакрыцца брудам. *У вайну ад немцоў па лесі хаваліся, месяцамі ні мылі адзежы, акаравеяш так, што гатова паламацца тая сарочка.* Альшаніца Квас.

**АКЛА'ДЗІНА** *ж.* Дошка, якую кладуць на ніз воза, у драбінкі. *Акладзіну ў воз робяць з шырокае дошкі.* Сакоўцы Міл.

**АКНО'** *н.* 1. Адтуліна ў яме, пограбе. *На зіму на крышку ў акне накідаям лахманоў, каб бульба ні памерзла.* Грыўда Міл. 2. Чыстае ад расліннасці, глыбокае месца ў балоце. *У акно ні лезь, з галавой схаваяшся.* Заполле Кос. 3. *рыб.* Чыстае, незарослае месца на рэчцы, возеры. *Дзе акно, то лягчэй лавіць, бо леска не чапляяцца.* Заполле Кос.

**АКРО'ЕК** *м.* Акравак. *З акройкоў палавікі ткалі.* Альшаніца Квас.

**АКРУ'ЖАНЫ** *прым.* Светлы круг вакол месяца. *Дождж*

*будзя, месяц акружаны.* Скураты Квас. *Цяпло станя і снег пойдзя, бо месяц акружаны.* Хадоркі Кос.

**АЛЁС** *м.* Гразкае багністае месца, парослае чэзлым хмызняком. *У алёсі яно вужы вадзіліся.* Плехава Любішч.

**АЛЬБЫ´** *часц.* Абы, толькі, толькі б. *Яму альбы ехаць, хоць на калу.* Даргужы Міл. *Ідзі сабе, дачушка, замуж, альбы добры хлопяц быў.* Галік Міл.

**АЛЬФАБЭ´Т** *м. зневаж.* Непісьменны, неразвіты чалавек. *І гэты альфабэт, казалі, брыгадзіром у калхозі быў.* Заполле Кос.

**АЛЬШЫНА´** *ж.* Стары альховы лес. *За сялом нізкавато, то адна альшына расце.* Бялавічы Кос.

**АМБА´Л** *м. груб.* Здаравенны, дужы, але лянівы мужчына. *Здаровы амбал, табе яно шпалы насіць.* Боркі Падст.

**АМЕРЫКА´НКА** *ж.* Дачка чалавека, які ездзіў у Амерыку на заработкі. *Уладзё, бач, амерыканку замуж узяў, адных даляроў капу прынясла да зямлі палавінку.* Квасевічы Квас.

**АМЕ´ЦІ** *толькі мн.* Дробная саломка, каласкі, якія застаюцца ад змалочанага збожжа; амецце. *Прыграбі амеці, то карові цэбра паставім.* Гошчава Стайк.

**АМЯЛА´** *ж. бат.* Амяла. *Амяла расце на многіх дрэвах. Ведаю, што сасновая амяла памагая ад сэрца.* Заполле Кос.

**АНАЛЬФАБЭ´Т** *м.* Тое ж, што і а л ь ф а б э т. *І вучыўся ты ў школі, але нічому ні навучыўся, анальфабэтом вышоў.* Квасевічы Квас.

**АНДЫЛЯ´ЦЫЯ** *ж.* Завіўка (пра валасы). *Старыя людзі не кажуць завіўка, а андыляцыя.* Міхнавічы Стайк.

**АНО´** *часц.* Толькі. *Ано была адна дачка ў мяне, як вока ў ілбе, і тая за свет замуж пашла.* Заполле Кос.

**АНЧУ´ТКА** *м. і ж.* Нячысцік, сатана. *Не чалавек ты, а анчутка.* Заполле Кос.

**АПАЛА´ЦЬ** *незак.* 1. Кідаць. *Варажылі на Каляды так. Клалі ў апалушкі дзяўчата чаравікі і апалалі. Чый паляціць*

*і ўпадзя на зямлю наском уперад, тая першая замуж пойдзя.* Альшаніца Квас. 2. Правейваць. *Пускалі на ветры зерня з апалушкоў, казалі, апалалі.* Скураты Квас.

**АПАЛО´ХАЦЦА** *зак.* Моцна каго-н., чаго-н. баяцца. *Была атруцілася грыбамі, то гэдак апалохалася, шчо і ў рот не бяру грыбамі.* Бялавічы Кос.

**АПАЛО´ХАЦЬ** *зак.* Надоўга спалохаць. *Апалохала ўнука русалкаю, то да вады баіцца падыходзіць.* Руда Падст.

**АПА´РЫ** *прысл. кулін.* У выразе: на апары. Спосаб прыгатавання цеста для пірага, калі спачатку запарваецца мука параным малаком ці варам. *Я заўсёды піраг на апары пяку: доўго ні чарсцвея і пахучы.* Заполле Кос.

**АПА´ТРЫЦЬ** *зак.* Прыбраць да рук, падпарадкаваць. *Бачыш, як хутко апатрыла. Хітрая дзеўка, чуя, што грошы ў кавалера водзяцца.* Альшаніца Кос.

**АПЕ´НЬКА ВО´ЎЧАЯ** *ж. бат.* Апенька несапраўдная, цагельна-чырвоная. *Апенькі я баюся збіраць, баюся назбіраць апенек воўчых.* Альшаніца Квас.

**АПЕ´ЧОК** *м.* Невялікая ніша ў печы, пячурка. *Апечок у пячэ, там клалі сушыцца рукавіцы.* Хадакі Жытл.

**АПЕ´ЧАНЫ** *дзеепр.* Абсмажаны цалкам. *Да вяселля кумпякі цестом абмажаш і ў добра выпаленую печку. Лепшай закускі, як апечаныя кумпякі, німа.* Альшаніца Квас.

**АПІВО´Ш, АПІВО´ША, АПІВО´ШЫНА** м і ж *пагард.* П'яніца. *Ты не чалавек, ты – апівош.* Бялавічы Кос. *Апівошы гэтыя цэлы дзень таўкуцца каля магазіна.* Стайкі Стайк. *Апівошына рабіць не хоча, адно ўкрасці, прадаць і напіцца.* Галынка Міл.

**АПІРА´ЧКА** *ж.* Лыжная палка. *Яшчэ хлапчанём быў, як бацько зрабіў лыжы мне, моцныя, ясянёвыя, і да іх апірачкі, лёгкія, лясковыя.* Заполле Кос.

**АПЛАВІ´НЫ** *мн.* Прыстасаванне з тонкіх жэрдачак, якое значна пашырае воз, сані. *Бало, едзяш зімою па сено, аплавіны бярэш. Раскладзеш на ўсе сані, як гуру вязеш.* Заполле Кос.

**АПЛЭ́П** *м. экспр.* Канец, смерць. *Не дажыве да вясны сват мой, аплэп яму.* Альшаніца Квас.

**АПО́Й** *м. вет.* Прастудная хвароба, ад якой слабеюць, дрыжаць, пухнуць ногі ў коней. *Апой цяжко лячыць.* Руда Падст.

**АПО́НА** *ж.* Веласіпедная камера. *Старэйшыя людзі і зара кажуць апона, а маладыя – камера.* Корачын Жытл.

**АПРАНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Стукнуць. *Ты пагавары ў мяне, вось зара як апрану, то выпруцішся.* Ятвезь Квас.

**АПРА́ТАЦЬ** *зак.* 1. Прыбраць, навесці парадак. *Апратала надворка, як перад Сёмухай.* Хадакі Жытл. 2. Пакінуць, зысці з хаты. *Табе добра, Алена, апраталі дзеўкі хату, адна за адной замуж пайшлі.* Юкавічы Стайк. *Апрач хату, і каб духу твайго тут не было.* Ёдчыкі Квас.

**АПСІ́К** *выкл.* Вокрык, якім адганяюць ката. *Апсік, каб ты здох! Зноў малако з банкі хлебча.* Старажоўшчына Кос.

**АПУ́ХЛІК** *м. бат.* Бабка (падбярозавік). *Падбярозавікі яшчэ ў нас называюць апухлікамі, як ужэ надто старыя.* Альшаніца Квас.

**АПЫЛІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць чалавеку брыдка, асадзіць.

*– Людзі стаяць, а ты па галовах лезяш у гэты аўтобус! – Добра ты яго апыліла, Ганна, дала пытлі. Будзе ведаць, на чым сабака хвост носіць.* Альшаніца Квас.

**АПЫНІ́ЦЦА** *зак.* Аб'явіцца там, дзе не чакаюць. *Як забралі бацька ў польскую армію ў 39 годзі, то апыніўся ў Англіі. Ужэ пасля вайны аб'явіўся. Так і застаўся жыць там.* Быч Стайк.

**АПЫНЯ́ЦЦА** *незак.* Быць, знаходзіцца. *Ён не апыняецца дома, усё па гэтых камандзіроўках.* Грыўда Міл.

**АПЯЧЫ́СЯ** *зак. перан.* Памыліцца. *Апяклася на першом мужыку, то ніякі другі замуж мне не патрэбян.* Верашкі Квас.

**А́РХА** *ж.* Веялка, арфа. *Былі ручныя веялкі, архай называлі.* Бялавічы Кос.

**АРХАВА́ЦЬ** *незак.* Веяць, арфаваць. *Стараліся*

*архаваць зерне, бо ўручную так не вычысціш, ні аддзеліш лепшае ад хужэйшаго.* Бялавічы Кос.

**АРЭ́Й** *м. бат.* Тое ж, што і а і р. *На Тройцу ў цэрківі, а людзі ў хатах высцілалі падлогу арэём. Як арэй схне, то надто пахня.* Заполле Кос.

**АСЕ́** *часц.* Толькі, ажно, аж. *Прыглядзеўся я, асе бачу, павярнулі да мае хаты парцізаны.* Заполле Кос.

**АСЕ́КАЦЬ** *незак.* Ссякаць зелле матыкай. *Цэлы дзень асекала буракі, і канца ні відаць.* Аляксейкі Стайк.

**АСЁ́Н** *м.* 1. *этнагр.* Кій, якім паганялі валоў. *Асён на валы рабілі з ядлоўца: і моцны, і лёгкі.* Заполле Кос. 2. *устар.* Мера даўжыні ў 3 аршыны. *Зара казою мераюць поле, а даўней асном: даўжыня яго ў 3 аршыны, цяпер гэто 2 метры і 13 см.* Заполле Кос. 3. *этнагр.* Сімвал доўгу. *Старыя людзі казалі, шчо можно было ўзяць гарэлкі ў жыда напавер, пад залог будучаго ўраджаю. А сімвалом гэтаго доўга служыў асён. Так казалі: выпіў гарэлкі на 3 асны. А колькі трэба было аддаць збожжа на адзін асён, я не ведаю.* Заполле Кос.

**АСЛАБЕ́ЦЬ** *зак.* Страціць прытомнасць. *Аслабела наша Ніна, то ледзь адхукалі.* Була Міл.

**АСЛА́ВІЦЬ** *зак.* Зняславіць. *Аславіла дачка на ўсё сяло: дзіця нагуляла.* Боркі Падст.

**АСМА́ЛОК** *м.* 1. Галавешка. *Згарэлі мы ў вайну, адны асмолкі засталіся. Выбег з хаты як стаю.* Бялавічы Кос. 2. *незак. іран.* Пра смуглага, чарнявага чалавека. *Як гэтаго Кастуся і дзеўкі любяць, асмалок, чорны, як негр.* Няхачава Стайк.

**АСНЫ́** *толькі мн.* Зачаткі пер'я. *Восенню, калі куры ці гусі ліняюць, то новае пер'е вырастая з асноў.* Альшаніца Квас.

**АСМЫ́ЧЫНЫ** *толькі мн.* Ачоскі. *Калі на шчатках лён чэшуць, то застаюцца на дроці асмычыны.* Альшаніца Квас. *Асмычыны пралі і ткалі мяхі.* Заполле Кос.

**АСО́БНЕ** *прысл.* Асобна. *Жылі браты ў адной хаці, але асобне гаспадаркі вялі.* Альшаніца Квас.

**АСО́ВІК** *м. бат.* Жоўцевы грыб. *Асовік, бы баравік. Але возьмяш на зуб, то доўго пляваць будзеш: горкі бы чэмяр.* Заполле Кос.

**АСПРЭ́ЧЫЦЬ** *зак.* Адмовіцца, адказацца. *Не аспрэчвай, а кажы праўду.* Хрышчонавічы Квас.

**АСТА́ЦЦА** *зак.* Спазніцца. *Каб хоць ні астацца ад аўтобуса.* Сярадава Жытл.

**АСТУПО́К** *м.* Узвышанае месца сярод балота, парослае лесам. *На цэлы тыдзень ішлі касіць на болото, то на аступках буданы ставілі, начавалі ў іх.* Бялавічы Кос.

**АСУ́ШОК** *м.* Сухі выраст у спечаным хлебе. *Пасадзіш пячыся хлеб у печ, то часом вылязя асушок.* Альшаніца Квас.

**АСЦЕКЛЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Знерухомець (пра вочы). *Так напіўся-насвяткаваўся мой Міхась, аж вочы асцеклянелі.* Юкавічы Стайк.

**АСЦЮКІ́** *мн.* Тое ж, што і а с н ы. *Курыца так выліняла, у адных асцюках ходзіць.* Плехава Любішч.

**АСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Акучыць. *Добры хлопец расце ў Міканорыка: і сабе, і мне асыпаў картоплі.* Харошча Міл.

**АСЯНЧУ́К** *м.* Падсвінак, які нарадзіўся восенню. *Асянчука колоць будзям.* Даргужы Міл.

**АТАПТА́ЦЬ** *зак.* Пратаптаць. *Атапчы сцежку да калодзязя.* Заполле Кос.

**АТО́ПТВАЦЬ** *незак.* Прытаптаць. *Добра атоптвай сено, каб не зацёк стажок, як дажджэ пайдуць.* Стайкі Стайк.

**АТРУБ'Е́** *зб. н.* Вотруб'е. *Як вальцавалі пшаніцу, то на пыцель пускалі, адходы ад гэтаго – атруб'е.* Заполле Кос. *Атруб'е пасля вальцоўкі: імі свіней кармілі.* Плехава Люб.

**АЎСЯ́НІСКО** *н.* Аўсянішча. *Каравы на аўсяніско пажану пасвіць.* Мілейкі Міл.

**АХАЛАСТРЫ́ЦЬ** *зак. экспр.* Абабраць, вынесці. *Ахаластрыў гэты п'яніца зусім: усё папрапіваў, што яно можно.* Размеркі Стайк.

**АХА́ЯЦЬ** *зак.* Прыбраць, навесці парадак у хаце.

*Выбачайця, дзеткі, старая я ўжэ, цяжко хату ахаяць.* Аўсто Стайк. *Трохі ахаяла хату, а то тыдзянь навят не падмятала.* Заполле Кос.

**АЦЕ´ПНУЦЦА** *зак.* Абшарпацца, выцепціся. *Ацепся рукаў у пальце, ажно ніткі вісяць.* Скураты Квас.

**А´ЦІЦА** *ж. заал.* Лічынка. *Аціца – добрая прыманка для рыбы.* Гошчава Стайк.

**АЦЯРО´БАК** *м.* Кавалачак, скрылік гародніны. *Трэш бульбу ці бурачок на тарцы, у руках застаецца скрылік – ацяробак.* Альшаніца Квас.

**АЧАЛАВЕ´ЧЫЦЦА** *зак.* Ажаніцца. *Быў ты кавалер, нарэшці ачалавечыўся.* Альба Квас.

**АЧУЖА´ЦЦА** *зак.* Перарваць сваяцкія адносіны. *Ачужаліся цяпер, а яна ж мне траюрадная сястра.* Сакоўцы Міл.

**АЧЫ´СТКА** *ж.* Прарэджванне (пра лес). *Там, дзе раслі баравікі, ачыстка ідзе.* Харошча Міл.

**АШАНАВА´ЦЬ** *зак.* 1. Апанаваць, авалодаць (пра настрой, думкі, пачуцці). *Ішоў ноччу праз лес, то такі ашанаваў страх.* Заполле Кос. 2. Акружыць з усіх бакоў. *Дайця прайсці, ашанавалі. Ні ведаю я, калі соткі будуць даваць.* Заполле Кос.

**АШЛЯ´ГНУЦЬ** *зак.* Аслабець. *Купілі карову ў Косаві. Дарогаю ашлягла так, шчо ледзве прывялі.* Харошча Міл.

**АШЛЯМАВА´ЦЬ** *зак.* Абкінуць ніткамі край адзення. *Швачка харашэ мне блюзку пашыла. І ўсе крае ашлямавала, каб ні выцяпліся.* Скураты Квас.

**АШМЭ´ЛКІ** *толькі мн.* Лахманы, рызманы. *Былі прывязлі немцы гуманітарку ў Косаво, то за гэтымі ашмэлкамі душыліся, як пры канцы свету.* г. Косава.

# Б

**БА** форма загаднага ладу ад дзеяслова бачыць. *Ба, які вырас, хутко і бацька дагоніць.* Азярцо Падст.

**БА́БКА** *ж.* 1. Знахарка, варажбітка. *Людзі рады шукаюць ад хваробы ні толькі ў дактароў, але і ў бабок.* Заполле Кос. 2. *бат.* Трыпутнік. *Бабку да ран і нарывоў прыкладаюць.* Быч Стайк. *Даўней бабку запарвалі, як жывот баліць.* Альшаніца Квас.

**БАВАЛЬНІ́ЦА** *ж.* Баваўняныя ніткі. *Воўну па бавальніцы паткала, добрыя радзюшкі вышлі.* Жамадзяйкі Міл.

**БАГДА́НКА** *ж. заал.* Рудая мурашка. *Багданкі найбольш па грудах на балоці, чырвоненькія такія, маленькія, надто ж моцно кусаюцца.* Заполле Кос.

**БАГО́Н** *м. бат.* Багун. *Я надто багон люблю, ён і ад кашлю памагая.* Няхачава Стайк.

**БАГО́РЫК** *м рыб.* Прылада з круком на канцы, з дапамогай якой выцягваюць злоўленую рыбу. *Зімой з падсачыком пад лёд ні падлезяш, то багорыком пад жабры рыбы задзяюць.* Заполле Кос.

**БАДЗЯ́К** *м.* 1. *бат.*Асот палявы. *Бадзяк расце ўсюды.* Бялавічы Кос. 2. Тое ж, што і а л о й. *Бадзяк памагая ад кашлю, але трэба, каб яму было больш чым тры годы.* Заполле Кос.

**БАЖАНЯ́ТЫ** *толькі мн.* 1. *рэліг.* Негадавыя рэлігійныя святы. *Каб бажаняты ўсе святкаваць, то, мусіць, чалавек зусім ні рабіў бы, адно свята святкаваў.* Хадоркі Кос. 2. Унукі. *Бажаняты мае ідуць, як мак у агародзі цвіце.* Сярадава Жытл.

**БА́ЗА** *ж.* Частка калгаснага двара. *Канюшня, хамутнік - место пад тапалямі, дзе стаялі вазы, называлі база.* Заполле Кос.

**БА́ЙСТАР** *м. зневаж.* Пазашлюбнае дзіця. *Бачыш, байстар, а вывучыўся, вялікі начальнік стаў.* Бялавічы Кос.

**БАЙСТРУ́К** *м. перан.* Бервяно-ўточка ў зрубе. *Бывая, ні хватая дзеравіны ад вугла да вугла ў зрубі, то кладуць уточкі-байструкі.* Заполле Кос.

**БАЛАЦЯ́НКА** *ж. заал.* Маленькая чырвоная мурашка. *Балацянкі жывуць на высокай купі.* Заполле Кос.

**БАЛДАВЕ́ШКА** *ж.* 1. Кол з паступовым патаўшчэннем на канцы. *Балдавешкай забіваюць калкі, як гародзяць.* Квасевічы Квас. 2.*перанос., груб. м і ж.* Лянівы, някемлівы чалавек. *Балдавешка ты, такое простае задачы ні рошыш.* Размеркі Стайк.

**БА́ЛО** *пабочн.* Бывала, калісьці. *Бало,па тыдню бяз хлеба сядзелі, бо ні было з чаго спячы.* Халап'я Падст.

**БАЛО́ТНІК** *м.* Бляшаны абруч над колам веласіпеда. *Балотнік адваліўся, ды ўся гразь на ногі ляціць.* Заполле Кос.

**БАЛАЎНЫ́, БАЛУЎНЫ́** *прым.* Дураслівы, непаслухмяны. *Натто Марылін унук балаўны.* Галік Міл. *Адзін хлопчык у бацькоў, то натто балуўны.* Альшаніца Квас.

**БА́ЛУШКІ** *толькі мн.* Гарэзлівасць, дураслівасць. *Глядзеця, ато гэтыя вашыя балушкі да бяды давядуць.* Заполле Кос.

**БАЛЬЗА́М** *м.* 1. *бат.* Тое, што і а л о й. *Бальзамом лечаць хворыя лёгкія.* Бялавічы Кос. 2. *бат.* Кадзіла сармацкае. *Бальзам – рэдкая расліна, яеніможно рваць.* Заполле Кос.

**БАЛЬСА́Н** *м. бат.* Тое, што і а л о й. *У мяне ў вазоні бальсан расце, яго п'юць за лякарство.* Заполле Кос.

**БАЛЯ́ЧЫ** *прым.* Які пастаянна баліць. *У мяне паляц балячы, карову ні падаю.* Квасевічы Квас.

**БАНДУ́РА** *ж.* Вялікая груваcткая рэч. *Купілі шкафа, завалілі хату гэтай бандурай.* Падстарынь Падст.

**БА́НКА** *ж.* Высокая бляшаная пасудзіна для адстойвання малака. *Адкруці краніка, хай збяжыць малако з банкі.* Харошча Міл.

**БАРАВА́Я** *прым.* Урадлівая (пра зямлю). *На баравой зямле ўсё расце.* Заполле Кос.

**БАРАДА́** *ж.* 1. *абрад.* Лапіна нязжатай збажыны. *Як канчаюць жаць, то пакідаюць лапіну жыта – бараду. Полюць яе, кладуць у бараду хлеб, соль, свянцонай вадой пасвенцяць, пасля за тры разы сажнуць, сплятуць косу, зробяць снапок і паставяць у хаці на покуці.* Альшаніца Квас. 2. *ткац.* Ніжняя частка кудзелі на прасніцы. *Адкуль скубуць і цягнуць нітку з кудзелі, барадой называлі.* Альшаніца Квас. 3. *рыб.* Зблытаная леска. *Бараду цяжко распутаць.* Яблонка Жытл.

**БАРАЗЁ́ННЫ** *прым.* Які ва ўпрэжцы ходзіць у баразне (вол, конь). *Абы-які конь баразённым ні будзя.* Панкі Люб.

**БАРА́Н** *м. ткац.* Кола, якое не дазваляе навою круціцца. *Баран – гэто калясцо на навоі, якое мацуецца такім чыном, каб навой не круціўся, каб тугі быў.* Заполле Кос.

**БАРВІ́НЕЦ** *м. бат.* Барвенак малы. *На могліцах много барвінцу е.* Альшаніца Квас.

**БАРКА́НТ** *м.* Паркан. *Як баркант з яловых лап, ён сто год прастоіць.* Альшаніца Квас. *Баркант найдаўжэй пастаіць.* Мілейкі Міл.

**БАРКАНЦІ́НА** *ж.* Кол з паркана. *Трэба гушчэй барканціны паплясці, каб куры ні лазілі.* Альшаніца Квас.

**БАРО́ДУЎКА** *ж.* Барадаўка. *Як дуўней людзі ратаваліся ад бародуўкі? Абкруцяць яе ніткай, пасля раскруцяць тую нітку, завяжуць у гузельчык і закапаюць у зямлю. Нітка ў зямлі згіне-прападзя, прападзя і бародуўка.* Альшаніца Квас.

**БАРХА́Н** *м. тэкст.* Мультан. *Пашыла сабе сукенку з бархану, хай будзя цёплая.* Боркі Падст.

**БАРХАНО́ВЫ** *прым.* Мультановы. *Бархановая адзежына мякенькая, ноская.* Квасевічы Квас.

**БА́РЫНЬКІ** *мн. бат.* Ірга. *З барынёк і варэнне вараць, і пірагі пякуць.* Заполле Кос.

**БАСА́К** *м.* Багор. *Басакі даўней на сценах па хатах віселі на выпадок пажару.* Верашкі Квас.

**БАЦВІ́ННІСКО** *н. зб.* Бацвінне. *Летом німа клопату, чым свіней накарміць: бацвінніска наламлю, накрышу, з мукой памяшаю і даю.* Куляшы Квас.

**БА́ЦЬКАЎШЧЫНА** *ж.* Месца, дом, дзе жылі бацькі, дзе нарадзіўся сам. *Трэба на бацькаўшчыну з'ездзіць паглядзець.* Рацькевічы Міл. *Німа нічого даражэй за бацькаўшчыну.* Размеркі Стайк.

**БАЯЗНО́** *прысл.* Страшна, боязна. *Баязно вечаром адной у хаці.* Квасевічы Квас.

**БЕ́ГАНКА** *ж.* Карова ў перыяд палавой актыўнасці. *Сёні карова галоднаю прышла: за беганкаю цэлы дзень пралетала.* Хрышчонавічы Квас.

**БЕГУНО́К** *м.* Прыстасаванне, якое дапамагае дзецям хутчэй навучыцца хадзіць. *Гэты бегунок яшчэ застаўся мне ад бабулі.* Хадакі Жытл.

**БЕ́ДНО** *прысл.* Дрэнна, у нястачы. *Яны бедно жылі, хлеб яно па святах бачылі.* Любішчыцы Люб.

**БЕЗ** *м. бат.* Бэз. *Німа нічога харашэй, як без цвіце.* Падстарынь Падст.

**БЕЗ БЕ́ЛЫ** *м. бат.* Бузіна. *Рукі як забаляць, то націраюць настойкаю з безу белаго.* Заполле Кос.

**БЕ́ЛЬМЫ** *толькі мн.груб.* Вочы. *У мяне суседка такая злая, як вылупіць бельмы, то аж дух займя.* Була Міл.

**БЕ́ЛЫ МАРО́З** *м.* Шэрань. *Прысцісня першы марозік восянню – усё ў іняі. Кажуць тады – белы мароз на дварэ.* Заполле Кос.

**БЕЛЯХЦЕ́ЦЬ** *незак.* Бялець. *Гэто зара летом вечаром халадно, апранацца трэба, а даўней уся гуліца беляхцела ад дзявочых блюзок ды хлапечых рубашок.* Грыўда Міл.

**БЕРАЗІНА́** *ж.* 1. Бярозавыя дровы. *Прывёз я сабе на зіму аднае беразіны.* Куляшы Міл. 2. Бярозавы лес. *За выганом пад горачку чубок аднае беразіны.* Сакоўцы Міл.

**БЕ́РДО** *н. ткац.* Берда. *Радзюшкі ткуць адным бердом, а ручнікі – другім.* Руда Падст. *Е бердо на 16 пасмоў, а е і на 15, на 14, на 13 пасмоў, якое трэба.* Юкавічы Стайк.

**БЕТАНЯ'РНЯ** *ж.* Месца, дзе ладзілі вырабы з бетону. *Бетанярня ў Косаві была, недалёко ад жвіроўні. Там рабілі чарапіцу, калодзезныя трубы, межавыя слупкі.* г. Косава.

**БЗДЫ'ЧКА** *ж. груб.* Нервовая, нястрымная жанчына. *З гэтаю бздычкаю цяжко рабіць: усе нервы стрэпля.* Ятвезь Квас.

**БЗІ'КАЦЬ** *незак. экспр.* Зікаць, злавацца. *Чаго ты бзікаяш, як аса?* Яблонка Жытл.

**БЗЫЯ'ЦЬ** *незак.* Звінець, гусці. *Як павіднея, ужэ мухі бзыяць, не дадуць спаць.* Яглевічы Ягл.

**БІЗУ'Н** *м. груб.* Неслух. *Сказаў свайму бізуну дрова пакалоць, а ён пабег у футбол граць.* Гічыцы Ягл.

**БІКЛА'ШКА** *ж.* Біклага. *Не забудзься наліць вады ў біклашку.* Бусяж Міл.

**БІРУ'ЛЬКА** *ж.* Самаробны драўляны гузік. *Бірулькі з ядлоўца рабілі, з бярэзіны.* Быч Стайк.

**БІ'ТКА** *ж. абрад.* Пабітае велікоднае яйцо. *Каму трапіцца мацак, то цэлую шапку біток навыбівая.* Бялавічы Кос.

**БІЧ** *м. перан., груб.* Гультай. *Гэты біч ано спіць і есць.* Галынка Міл.

**БІЧАЎНІ'К** *м.* 1. Пратаптаная сцежка па балоце. *Шукалі дзе сушэй прайсці па балоці, гэтую пратоптаную сцежку называлі бічаўнікам.* Заполле Кос. 2. Паласа зямлі абапал канавы, дарогі. *Німа чаго тае канавы касіць: адзін бічаўнік.* Гошчава Стайк.

**БЛЁ'ВІНЫ** *толькі мн.* Ваніты. *Прыбяры свае блёвіны, калі дарваўся да гарэлкі.* Гладышы Міл.

**БЛІЗНА'** *ж.* 1. *ткац.* Блюзна. *Пападуць дзве ніткі ў трасціні – во табе і блізна.* Дубітава Міл. 2. Спосаб пасадкі бульбы. *Мы картоплі на кожны адвал плуга садзім, у кожную блізну.* Ёдчыкі Квас. *Як добры год, то і ў блізнах картоплі парастуць, нічого, што густо.* Жамадзяйкі Міл.

**БЛО'ТНІК** *м.* Тое, што і б а л о т н і к. *Блотнік над калясом у ровары.* Альшаніца Квас.

**БЛО́ШКІ** *мн. бат.* Свінакроп. *Блошкі рэдко ўбачыш, бо растуць яны па палях і ядахімікатамі іх вынішчылі.* Заполле Кос.

**БЛЫ́НТАЦЦА** *незак.* Блытацца, сноўдацца, швэндацца. *Блынтаяшся пад нагамі, сядзь лепш, пасядзі.* Альшаніца Квас. *Пайшла па ягады, яно блынталася па лесі, а ягад добрых ні знайшла.* Лазаўцы Міл. *Блынтаяшся па гуліцы, як Лейзарава карова.* Кушняры Падст.

**БЛЭ́НДЗІЦЬ** *незак., экспр.* Гаварыць недарэчнае, несці лухту. *Стары чалавек, а блэндзіць абы-што.* Мілейкі Міл.

**БЛЮ́ЗКА** *ж.* Блузка. *На свято шыю сабе новую блюзку.* Альшаніца Квас.

**БЛЯШНЯ́К** *м. бат.* Касач. *Расце па канавах бляшняк, цвіце жоўтым цветом.* Заполле Кос.

**БО́БЯХ** *м.* Плод на бульбяным кусце. *Кажуць, як бобяхоў на кусце много, то пад карчом картоплёў много будзя.* Альшаніца Квас.

**БО́ЖАЕ ДЗЕ́РАВО** *н. бат.* Палын. *Божае дзерава – від палыну. Расце кустом, ім зубы лечаць.* Заполле Кос.

**БО́ЛАБАЦЕНЬ** *м. груб.* Пустабрэх, пустаслоў. *За цэлы дзень гэты болабацень так голаву адурыў, ажно трашчыць.* Заполле Кос.

**БО́ЛБАТКА** *ж.* Бурбалка. *Як дождж ідзе і на лужах болбаткі, то ні хутко ён перастаня.* Падстарынь Падст.

**БО́МКАЦЬ** *незак. экспр.* Мармытаць, бурчаць. *Шчо ты там бомкаяш усе?* Бялавічы Кос.

**БО́НДА** *ж.* Жывёла, якую даюць у пасаг дачцэ. *Забірай сваю бонду, бо мне німа чым яе карміць.* Сенькавічы Падст.

**БО́НДАЧКА** ж. Малая булачка хлеба з рэшткаў цеста. *Выбяраш цесто з дзяжы, выскрабяш добра, і з гэтаго цеста бондачку спячэш.* Рацкевічы Міл.

**БО́РУХ** *м.* Кукса (род жаночай прычоскі). *Памятаю, адзін час усе жанкі з борухамі на галаве хадзілі: мода была такая.* г. Косава.

**БО́ЎТ** *м. рыб.* Качарга, якой каламуцяць ваду і

заганяюць рыбу ў рыбалоўную снасць. *Бяры боўт і лезь у рэчку, а я сачка буду трымаць.* Грыўда Міл.

**БО'ЦІКІ** *мн. бат.* Аканіт. *Боцікі цвітуць розным цветом: і жоўтым, і сінім, і фіялетавым.* Заполле Кос.

**БО'ЦМАН** *м. кулін.* Бульбяны аладак, начынены мясам. *Як госці ў хату, мая жонка боцманы пячэ: натто ёй боцманы ўдаюцца.* Альшаніца Квас.

**БРА'МА** *ж. абрад.* Урачыстая арка, якая будуецца ў час вяселля. *На вяселлі каля хаты маладой у варотах ставяць дзве бярозкі ці елкі і звязваюць вярхі. Гэто брама. Там маладых і дружыну віншуюць, падымаюць на ўра.* Альшаніца Квас.

**БРОД** *м.* 1. Сцежка, якая ў час дажджоў запаўнялася вадой, а ў пагоду высыхала. *Зараз сухо, і бродом можно ісці.* Жытлін Жытл. 2. Водмель. *Трэба шукаць брод, каб пералезці канаву.* Заполле Кос.

**БРО'ІЦЬ** *незак. экспр.* Гаварыць лухту, плявузгаць. *Броіш ты, чалавеча, абы-што. Што сліна да губы прынясе.* Яглевічы Ягл.

**БРО'ХАЦЬ** *незак.* Валтузіцца ў вадзе, плёскаць. *Перастань брохаць, пырскі ляцяць.* Верашкі Квас.

**БРУСЯНЕ'ЦЬ** *незак.* Рабіцца тугім, цвёрдым (пра вымя). *Вымя ў каровы брусянея, трэба медом расцерці.* Альшаніца Квас.

**БРЫДА'** *ж.* Мяжа, лінія, граніца, якая раздзяляе адзін участак сенакосу ад другога. *Спачатку брыду адбіваюць, тады косяць.* Заполле Кос.

**БРЫДЗЕ'ЦЬ** *незак.* Свярбець, гаіцца. *Рана на руцэ зацягнулася, але ж натто брыдзіць.* Галік Міл.

**БРЫ'ДКАСЦЬ** *ж.* Сорам. *Яму німа брыдкасці, яму плюй у вочы, ён скажа – дождж ідзе.* Заполле Кос.

**БРЫДО'ЦЦЕ** *м. ж. зневаж.* Непрыгожы, няўклюдны чалавек. *Нявесту здалёк прывёз. Ды такое брыдоцце! Але ж гарадская!* Альшаніца Квас.

**БРЫЗГО'ТЛІВО** *прысл.* Сыра, мокра. *Туман як ападая*

*восянью, то неяк мокро, непрытульно. Брызготліво на дварэ, кажуць людзі.* Панкі Люб.

**БРЫЗЯНТО´ВІКІ** *мн.* Абутак, верх у якім з брызенту. *Брызянтовікі намоклі, ногі паабрэзвала.* Скураты Квас.

**БРЫКЕ´ЦІНА** *ж.* Адна плітка брыкету. *Акуратно торф насеця, кожная брыкеціна грош каштуя.* Бусяж Міл.

**БРЫСКО´ТЛІВО** *прысл.* Тое ж што і б р ы з г о т л і в о. *Брыскотліво на дварэ: марозу велькаго німа, а мерзняш.* Заполле Кос.

**БРЭ´НКАЦЬ** *незак. перан.* Касіць слабую траву. *Німа гэты год травы, але ж трэбо нешчо брэнкаць.* Ёдчыкі Квас.

**БУ´БЕН** *м.* 1. Пустая, неўрадлівая зямля. *Пасеяў трохі ячменю на агародзі, але ж шчо на гэтом бубні вырасця?* 2. Выгрызеная, выбітая капытамі жывёлы трава на выпасе. *Якое малако будзя ў той каровы, калі пастух цэлы дзень пратрымаў каравы на бубні за школаю.* Була Міл. 3. Высокае неўрадлівае месца на палетку. *На гэтом бубні нічого ні вырасця.* Заполле Кос.

**БУ´БЛІКІ** *мн.* 1. Тое ж, што і б о б я х і. *Як перацвітуць картоплі, то бублікі на картапленні вісяць.* Заполле Кос. 2. Мелодыя марша. *Як бублікі зайграюць, то тую дзеўку, якая адмовілася танцаваць з хлопцом, выводзяць пад рукі на гуліцу.* Альшаніца Квас.

**БУГО´Р** *м.* Пагорак. *На гэтом бугрэ ніц ні вырасця, як ні ўгнойвай.* Заполле Кос.

**БУ´ДКА** *ж.* 1. Будан. *Пасем цялят на адгоні, а начуям у будцы.* Квасевічы Квас. 2. Жыллё для сабакі. *Сабака гэты стары, з будкі ні вылазіць.* Гладышы Міл. 3. Зімовы паўпальтак. *Ладная будка вышла, бо сукно тонкае, далікатнае.* Заполле Кос. 4. Каўнер да зімовага паліто. *Даўней шылі каўнер да пальта круглы, высокі, стаячы. Спераду зашпільвалі, будкай каўнер называлі.* Альшаніца Квас. 5. *абразл.* Тоўсты, поўны з твару чалавек. *Твая будка цагліны просіць.* Скураты Квас.

**БУДО´ЎЛЯ** *ж.* 1. Сукупнасць будынкаў на падворку.

*Будоўля новая, нідаўно стаўляная.* Быч Стайк. 2. Адзін будынак (любы) на сялянскім двары. *Гэту будоўлю ўжэ трэба пусціць на дрова: уся спарахнела.* Скураты Квас.

**БУЙДА́** *ж.* Плётка. *Не разнось буйду па сяле, бо гэтаму праўды німа.* Размеркі Стайк.

**БУ́ЛАЧ** *м.* Вялікі нож. *Булач гадзіцца на ўсе: кроіць хлеб, шаткаваць капусту, чысціць буракі.* Альшаніца Квас.

**БУЛІНА́** *ж. бат.* Палын звычайны. *Даўней буліну кідалі ў хатах ад блох.* Заполле Кос. *Калі прыехалі з бежанства з Расіі, то гуліца буліною ды крапівою зарасла.* Зыбайлы Жытл.

**БУЛЬБАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Бурна кіпець (пра вадкасць). *Шчалакі бульбацяць, зара снедаць будзям.* Заполле Кос.

**БУНТАВА́ЦЬ** *незак. экспр.* Зводзіць у зман, збіваць з панталыку. *Не бунтуй людзей, ніхай робяць спакойно.* Размеркі Стайк.

**БУРАКАВЕ́ННЕ** *н.* Бацвінне, лісце буракоў. *Летом мае свіня на буракавенні жывуць.* Квасевічы Квас.

**БУРАЧЭ́ННЕ** *н. зб.* Тое ж, што і б у р а к а в е н н е. *Наламі трусам бурачэння, хай ядуць.* Дубітава Міл.

**БУРВА́ЛОК** *м. экспр.* Здаровае, тоўстае дзіця. *Твае дачкі хлопяц добры бурвалок: малы, а тоўсты.* Даргужы Міл.

**БУРВІНЕ́Ц** *м. бат.* Тое ж, што і б а р в і н е ц. *З бурвінца раней вянкі вілі і на крыжы вешалі.* Альшаніца Квас.

**БУРДА́** *ж.* Невялікі скрутак, жмут. *Глянуў , а ў яго бурда грошай.* Заполле Кос.

**БУРДО́ВЫ** *прым.* Бардовы. *Бурдовы нос у цябе, сват, мусі, ты ўжэ корка панюхоў.* Міхнавічы Стайк.

**БУ́РКАЛКА** *ж. дзіцяч.* Цацка. *Праз дзве дзірачкі ў гузіку працягваюць моцную нітку. Закручваюць нітку з гузіком у адзін бок, тады цягнуць за нітку, нітка размотваяцца, гузік гудзіць.* Заполле Кос.

**БУ́РКАЎКА** *ж.* Костка без мяса. *Абрэжаш з лапаткі мясо, застанецца адна буркаўка.* Заполле Кос.

**БУ́РКЛЯ** *м. і ж. жарт.* Чалавек, які любіць выказваць

незадавальненне па дробязях. *Буркля, і не надакучыць табе бурчаць*. Быч Стайк.

**БУСЬКО́** *м*. Бусел. *Як убачыш вясною першы раз буська лецячы, то цэлы год ногі лёгкія будуць, не балецьмуць.* Падстарынь Падст.

**БУХІ́КАЦЬ** *незак*. Бесперастанку кашляць. *Не бухікай мне пад вухом, я цябе не выпраўляла на коўзанку.* Даргужы Міл.

**БУХТО́РЫЦЬ** *незак. экспр.* Ліць без меры. *Што ты бухторыш свіням адну ваду: з вады сало не нарасце.* Хадоркі Кос.

**БУХТАВА́ЦЬ** *незак*. Гарэць вялікім полымем, ажно гудзець. *Печка так бухтуя, ажні дзверцы ляскацяць.* Галынка Міл.

**БУХЦЕ́ЦЬ** *незак*. Гудзець. *Падкіняш у печку бярозавых дроў, аж бухціць*. Альшаніца Квас.

**БУЎТУ́Н** *м*. Неаплодненае яйцо, баўтун. *Пасадзіла курыцу на гусіныя яйца, то ж адны буўтуны.* Альшаніца Квас.

**БУ́ЧНО** *прысл*. Густа расці, разрастацца (*пра расліны*). *Годзіць жыту, бучно расце, добра кусціцца.* Заполле Кос.

**БУШАВА́ЦЬ** *незак*. Сваволіць, дурэць. *Бушуюць дзеці. Утомяцца, то добра спаць будуць*. Галенчыцы Ягл.

**БЫ́ТО** *часц*. Быццам, нібы. *І сніцца мне сон, быто іду я па дарозі, а насустрач мне бацько-нябожчык*. Заполле Кос.

**БЫ́ТТО** часц. Тое ж, што і б ы т о. *Зрабілі аперацыю на воко, бытто другімі вачыма стала на свет глядзець.* Квасевічы Квас.

**БЫЧА́ТНІК** *м*. Будынак, дзе стаяць на адкорме быкі. *І як Трахім спраўляўся з быкамі, не ведаю. Ніводнага разу ні была ў том бычатніку: баялася моцно.* Воля Жытл.

**БЭ́ЗЛО** *м. ж. груб*. Нявыхаваны, грубы чалавек. І *як гэта жаночына ды з такім бэзлом жыве?* Юкавічы Стайк.

**БЭ́ЙБУС** *м. зневаж*. Гультай, абібок. *Кусок бэйбуса, зусім ні хоча рабіць*. Альба Квас.

**БЭ́ЙЛЯ, БЭЛЯ** *ж. груб.* Неахайная жанчына. *Гэтая бэйля адно пра гарэлку думая, а ў хаці не пераступіць.* Альшаніца Квас. *І шчо зрабіласё з жанчынай, пачала піць, бэля як ёсць.* Заполле Кос.

**БЭ́МБАЛЬ, БЭ́МБЕЛЬ** *м.* Вадыр, пухір. *Апячэш руку – бэмбаль выскачыць.* Аўсто Стайк. *Нейкая мошка ўкусіла, ажні бэмбель выскачыў.* Размеркі Стайк.

**БЭ́ЦНУЦЬ** *незак.* Ударыць рэзка, адзін раз. *Ні трымаюць людзі сабак на прывязі, курам цеста ні паставіш з-за іх. Папаўся адзін. Як бэцнула, то ажно скруціўся.* Аляксейкі Стайк.

**БЭ́РСАЦЬ** *незак.* Блытаць, борсаць. *Ні бэрсай ніці, бо канцоў ні знойдзяш.* Галік Міл.

**БЯГУ́Н** *м.* Тое ж, што і б е г у н о к. *Купіла бягуна,каб дзіця хучэй хадзіць навучыласё.* Яблонка Жытл.

**БЯДО́ВЫ** *прым.* 1. Няшчасны, калека ад нараджэння. *Цяжко, міленькая, табе з ім, бядовы ён хлопяц. І накармі з ложкі, і паднясі, і вынясі.* Бялавічы Кос. 2. Няўдалы, прапойца. *Бядовы гэты мужчына, гарэлка да дабра не давядзе.* Ятвезь Квас. 3. Распусны. *Бядовая дзеўка, сама на шыю хлопцам вешаяцца.* Руда Падст.

**БЯРКІ́** *прым.* Хапаткі, порсткі. *Быў у мяне буланы конік. Эх, і бяркі быў ў хамуце!* Заполле Кос.

**БЯРЭ́ЗНІЧОК** *м. памянш.* Невялікі бярозавы лес. *У гэтом бярэзнічку павінны расці краснагаловікі.* Заполле Кос.

**БЯСКО́НЦА** *прысл.* Вельмі, надта. *Іван бясконца добры чалавек.* Скураты Квас. *Бясконца смачны пірог удаўся. Адна бяда: скарынка адстала. А як скарынка ў пірагу адстала, то тады смяюцца, што пад скарынку кот схаваўся.* Альшаніца Квас.

**БЯСПА́ЛЫ** *прым.* Бяспальцы. *Бяспалы з фронту прыйшоў, але сам навучыўся і пісаць, і ложку трымаць.* Ёдчыкі Квас.

# В

**ВА́ГА** *ж.* Кол для падважвання. *Не бяры на пуп, а вагаю падваж дзеравіну.* Юкавічы Стайк.

**ВА́ДЗІЦЬ** *незак. дзіц.* Весці, кіраваць гульнёю. *Гэтым разом вадзіць будзя Антон.* Заполле Кос. *Давайця палічымся, каб ведаць, хто будзя вадзіць.* Альшаніца Квас.

**ВАДЗЯНА́Я КАЛЯДА́** *ж. абрад.* Свята, якое адзначаецца 6 студзеня ст.ст.; Вадохрышча. *На Вадзяную Каляду вараць квас, куццю, пякуць ламанцы, ядуць адно поснае. Гэто бедная Каляда.* Альшаніца Квас.

**ВАДЗЯНА́Я КРАПІВА́** *ж. бат.* Расліна. *Расце ў вадзе, апячэшся ёю, усё цело чырвонымі плямамі пакрыяцца, пачне свярбець.* Заполле Кос.

**ВАДЗЯНЫ́ ПЕ́РАЦ** *м. бат.* Драсён вадзяны. *Вадзяны перац расце па нізкіх месцах, цвіце дробненькім цветом, зеленавато-белым.* Бялавічы Кос.

**ВАЗАВО́Е** *н. устар.* Плата за дровы. *Даўней плацілі вазавое. Пры Польшчы за воз бярозавых дроў плацілі 3 злотыя, за сасновыя – 2 злоты.* Заполле Кос.

**ВАЙЦЯ́ЦЬ** *незак.* Выказваць незадавальненне ўчынкам ці паводзінамі іншых. *Карыто свіням ні зрабіў, то жонка цэлы дзень вайцяя.* Гошчава Стайк.

**ВАЛА́Н** *м. крав.* Фасон пашыву адзення з абручамі. *Спаніца называлася валан. Шылі яе доўгую, шырокую, з абручамі пасярэдзіні. Ад мамы свае чула, што такія спаніцы насілі.* Альшаніца Квас.

**ВАЛАСНІ́К** *м. ветэр.* Выступ з доўгай шэрсцю на назе каня ззаду над капытам. *Вазьмеш за валаснік, і конь адразу ногу падымя.* Заполле Кос.

**ВАЛАЧО́НАЕ** *н. абрад.* Велікоднае яйка. *Хадзі, Верка, валачонае дам.* Альшаніца Квас.

**ВАЛЁ́М** *м.* Палеглы лес. *Бура прайшла – адзін валём.* Альшаніца Квас.

**ВАЛКАВА́ТЫ** *прым.* Недасушаны, сыраваты (пра сена). *Прыехалі грабці, паглядзелі, а сено валкаватае яшчэ.* Азярцо Падст.

**ВАЛКАВА́ЦЬ** *незак.* Мясіць цеста на хлеб, пірог. *Валкуяш на стале, дабаўляяш мукі ў цесто і зноў месіш, валкуяш.* Альшаніца Квас.

**ВАЛНУ́ШКА** *ж. бат.* Ваўнянка. *Валнушок гэты год много, будзям саліць.* Альшаніца Квас.

**ВАЛО́КІ** *мн.* Аборы да лапцей. *Завяжы валокі, бо наступіць хто, упадзяш.* Заполле Кос. *У пасталах валокі.* Любішчыцы Люб.

**ВАЛО́ВІК** *м. бат.* Макруха яловая. *Валовікі рэдко чарвівыя, але як зварыш, то надто чорныя.* Заполле Кос.

**ВАЛО́СКІ** *прым.* У выразе: Валоскі арэх – грэцкі арэх. *Валоскія арэхі і ў нас растуць, і выспяваюць арэхі.* Быч Стайк.

**ВАЛО́ШКА** *ж. бат.* Васілёк. *З валошкі дзяўчата вянкі ўсё плялі.* Бялавічы Кос.

**ВАЛЬ** *м. абрад.* Вэлюм. *Даўней валь быў адзін на ўсё сяло, а зара кожна дзеўка купляя сабе на вяселля.* Жамайдзякі Міл.

**ВА́ЛЬНУЦЦА** *зак. экспр.* Грымнуцца, бразнуцца. *На гладкой дарозі вальнуўся, аж цёмно ў вачах стало.* Заполле Кос.

**ВА́ЛЬНУЦЬ** *зак. 1. экспр.* Моцна стукнуць. *Як вальнуў пад вухо хлопцу, той і згарнуўся.* Няхачава Стайк. 2. *экспр.* Бразнуць, грымнуць. *Як вальнуў мяне аб зямлю, аж млосно стало.* Хадоркі Кос.

**ВА́ЛЬЦЫ** *толькі мн.* Млын дробнага памолу. *Каб мець муку для пірагоў, то вязлі пшаніцу на вальцы малоць.* Заполле Кос.

**ВАЛЭ́НДАЦЦА** *незак.* Прымаць у разлік, мець справу. *Німа чаго з табой валэндацца, абыдуся без цябе.* Сярадава Жытл.

**ВАЛЮ́ЛЯ** *м і ж. груб.* Марудны, павольны чалавек.

*Добры валюля, ідзе і спіць.* Любішчыцы Люб.

**ВАЛЯР'Я'НКА** *ж. бат.* Валяр'ян лекавы. *Валяр'янкі зараз мало, бо балото асушылі.* Бялавічы Кос.

**ВА'НТУХ** *м. груб.* Жывот, трыбух. *Рыгор так кажа: "Вантух – гэто мой трудавы мазоль".* Альба Квас.

**ВАНЦА'К** *м. 1. кулін.* Каша, куцця. *Ванцак варылі з ячменных круп.* Альшаніца Квас. 2. *мед.* Боль у жываце, апендыцыт. *Ванцак схапіў, з жывата аж канчаяцца.* Альшаніца Квас. *Даўней ванцак як прычэпіцца, то людзі паміралі з яго, не было ратунку.* Заполле Кос.

**ВАНЦАКАВА'ТЫ** *прым.* 1. Зацяты, упарты. *Пра ванцакаватую жонку легенды ходзяць.* Бялавічы Кос. 2. Запальчывы, гарачы. *У маёй сястры такі мужык ванцакаваты, як разлуецца, то ні прыступу, ні подступу.* Альшаніца Квас.

**ВА'РА** *ж.* Страва, ежа, варыва. *Гэта вара замучыла: кожны дзень думай, шчо наварыць.* Зялёны Бор Стайк.

**ВАРО'ЦЕЧКА** *мн. памянш.* Рашотка, якой закрывалі падпечак. *Вароцечка рабілі няшчыльнымі, каб да курэй святло даходзіла.* Падстарынь Падст.

**ВАРСТА'Т** *м. ткац.* Вартштат. У мяне два месяцы ўжэ варстат у хаці, усё палавікі тку. Харошча Міл.

**ВАРША'ЎКА** *ж.* Гатунак бульбы. *Варшаўкі – скараспелкі.* Уласаўцы Жытл.

**ВАРЭ'НЯ** *ж.* Кошык без ручкі. *У варэню гаспадыня складвала сыр, масло, яйкі.* Альшаніца Квас.

**ВАСІ'ЛЬ** *м. абрад.* Новы год па стараму стылю. *І даўней, і зара раніцай на Васіля хлопчыкі ходзяць па хатах, віншуюць гаспадароў і пасыпаюць кругом зярнятамі.* Заполле Кос.

**ВАСІЛЕ'** *мн. бат.* Радоўка фіялетавая. *Людзі рэдко бяруць васіле, а яны смачныя соляныя.* Заполле Кос.

**ВАСТО'ЧНІК** *м.* Мужчына з Расіі або з Усходняй Беларусі. *Мой мужык васточнік, з Смаленска.* Аляксейкі Стайк.

**ВАСТО́ЧНІЦА** *ж.* Жанчына з Расіі або з Усходняй Беларусі. *Яна васточніца, але навучылася гаварыць па-нашаму.* Верашкі Квас.

**ВАСЬМУ́ХА** *ж. устар.* Восьмая частка зямельнага надзела. *Было много такіх пры Польшчы, у каго была толькі васьмуха. Гэто па-цяперашняму 2 гактары.* Заполле Кос.

**ВАТО́ВІКІ** *мн.* Ватовыя штаны. *Адзень ватовікі ў лес ехаць, цяплей будзя.* Галік Міл. *Шануй здароўе, на матацыкл садзішся, то ватовікі адзявай.* Куляшы Міл.

**ВАТРАБЯ́НКА** *ж. кулін.* Каўбаса, зробленая з ліверу. *Ватрабянок нарабіла да свят.* Рацкевічы Міл.

**ВАЎКІ́** *толькі мн.* 1. бат. Насенне ваўчкоў трохраздзельных. *Бало, пайдзеш рваць ваўчкі (трава такая, у ёй дзяцей малых купаюць), то ваўкоў набярэшся.* Хрышчонавічы Квас. 2. бат. Шышкі лопуха. *Карова з пашы прышла – уся ў ваўках.* Хадакі Жытл.

**ВАЎЧКІ́** *мн. бат.* Ваўчкі трохраздзельныя. *У адвары ваўчкоў малых дзяцей купаюць ад залатухі.* Бялавічы Кос.

**ВА́ХТАР** *м. устар.* Пасрэднік пры продажы ці куплі жывёлы. *Пашанцавало мне: цягавітая кабылка. Праз вахтара, у жыдоў косаўскіх купіў.* Любішчыцы Люб.

**ВАШЫ́ВІК** *м. абразл.* Той, хто завашывеў, неахайны, брудны. *Вашывіка гэтаго цярпець німа як.* Аўсто Стайк.

**ВЕ́ЛЬКІ** *прым.* 1. Дарослы. *Велькі ўжэ, а розуму німа.* Галынка Міл. 2. Вялікі. *Хата ў Івана велькая, прасторная.* Куляшы Міл. 3. Многа, вялікая колькасць. *Велькае стадо дзікоў пахадзіло тут.* Юкавічы Стайк. 4. Моцны па сіле, працягласці ўздзеяння. *Велькая бура была.* Воля Жытл.

**ВЕ́ЛЬКА ГО́ЛКА** *ж.* Іголка для шыцця тоўстымі ніткамі. *Велькай голкай мяшкі шылі.* Ятвезь Квас.

**ВЕ́РАЦЕНЬ** *м. устар.* Мера даўжыні ў 120 крокаў. *Загоны мералі на вератні.* Заполле Кос.

**ВЕРАЦЁ́ННІЦА** *ж. заал.* Бязногая яшчарка. *Е змяя такая, чырвоная, верацённіцай яе завуць.* Заполле Кос.

**ВЕРАЦЯЕ´** *мн.* Нізкае, мокрае месца ў балоце, у лесе. *З верацяёў альбо выносілі сено на грудок, альбо клалі на высокія падкі.* Заполле Кос.

**ВЕРХ** *м.* Верхняя частка чаго-н. *Кладзі апоўзіны, каб вецяр вярха ў стажку ні скінуў.* Корачын Жытл.

**ВЕРЦЮЖО´К** *м. рыб.* Прыстасаванне, якое не дазваляе блытаць леску. *Верцюжок звычайно ставяць на донкі, на спінінг.* Заполле Кос.

**ВЕРШНЯКІ´** *мн.* 1. Паўкруглая чарапіца, якая закрывае вільчык даху. *Зараз мало ў каго на шыферы вершнякі ляжаць, а даўней на чарапіцы ва ўсіх былі.* Азярцо Падст. 2. Кафлі, якія кладуць на верх печкі, печы. *Паўкруглыя верхнія кафлі на печы – вершнякі.* Боркі Падст.

**ВЕСЕЛІНЯ´** *ж.* Весялосць. *У нас веселіня летом. Дзяцей много ў сяле. З горада ўнукі прыязджаюць.* Була Міл.

**ВЕ´ТРЫНА** *ж.* Асаблівы пах, які чуваць ад сабакі. *Не люблю сабак, ад іх ветрынай нясе.* Альшаніца Квас.

**ВЕСЯЛО´** *прысл.* Весела. *Даўней весяло было ў сяле, бо маладых много было.* Бусяж Міл.

**ВЕ´ТКА** *ж.* Назва коласа проса, аўса. *Гэты год авёс харошы, веткі велькія.* Альшаніца Квас.

**ВЕ´ТРАНКА** *ж. буд.* Дошка на краю даху. *Ветранка прыбіваяцца на краю страхі да лат. Гэто каб ні здзірало салому ветром.* Гладышы Міл.

**ВЕ´ТРАНКІ** *толькі мн.* Басаножкі. *Летом я абуваю ветранкі: нагам вальней і здаравей.* Альшаніца Квас.

**ВЕТРУГА´** *ж.* Вялікі моцны вецер. *Ветруга на гуліцы, аж з ног збівая.* Даргужы Міл.

**ВЕЧАРКІ´** *толькі мн.* Вячоркі. *Зара на вечаркі ні ходзяць, а дуўней з кудзеляю да поўначы сядзелі.* Дубітава Міл.

**ВЕ´ЧНЕ** *прысл.* Заўсёды. *Хто цябе прасіў гаварыць, вечне ты ўлезяш са сваім языком.* Ёдчыкі Квас.

**ВЕ´ШАЛО** *н.* Нізка. *Будзям гэтую зіму квас есці: тры вешалы адных праўдзівікоў насушыў.* Кушняры Падст.

**ВЕ´ШНІЦЫ** *толькі мн.* Вароты. *Не вешайся на*

*вешніцы, звалішся.* Міхнавічы Стайк. *Робяць вешніцы аднастворчатыя, а бываюць з двух палавінок.* Лазаўцы Міл.

**ВЕ́ШНІЧКІ** *толькі мн.* Веснічкі. *Закрый вешнічкі, а то свіней на гуліцу павыпускаяш.* Размеркі Стайк.

**ВЗДУ́ХА** *ж.* Гіблае месца на балоце. *Дзе вздуха, не ступай, праваліўшся.* Альшаніца Квас.

**ВІ́ДЗІК** *м.* 1. Вышыўка. *Цяпер і на базары вышыўкамі таргуюць, па-іхняму відзікамі.* г. Косава. 2. Відэамагнітафон. *Зараз відзікі е ў многіх дамах.* г. Івацэвічы.

**ВІЖДЖА́РЫ** *мн.* 1. Топкае балота, багна. *Касілі ў вадзе кароткаю касою, а вазілі сено зімою, калі добры мароз скуе гэтыя віжджары.* Стайкі Стайк. 2. Выгаралае месца на балоце, запоўненае вадой. *Загарыцца на балоці торф, выгарыць, ямы стануць, вадой набягуць, – гэто віжджары.* Заполле Кос.

**ВІЛКІ́** *толькі мн.*1. Памянш. да вілы. *Вілкі – на маленькія чыгуны.* Альшаніца Квас. 2. Палка-рагаціна, якой ператрасаюць сена, салому. *Вілкамі ператрасаям сено, салому на трасянку.* Альшаніца Квас.

**ВІ́ЛЫ** *толькі мн.* 1. Вілы. *Чаранок адгарэў у вілах, асадзі, бо німа чым чыгуна ў печ уставіць.* Гошчава Стайк. 2. *перан.* Раздваенне дарог, асушальных каналаў і інш. *Ідзі, касі ў вілах: там трава лепшая.* Заполле Кос.

**ВІ́РГАЦЬ** *незак.* Матаць, матляць. *Сядзі ціхо, не віргай нагамі.* Рацкевічы Міл.

**ВІРО́К** *м.* Драўляная прылада з дзіркай на канцы, пры дапамозе якой матаюць ніткі на клубок. *Як много ніцей трэба матаць на клубок, то без вірка не абыйсціся, бо пальца парэжаш.* Заполле Кос.

**ВІ́СКУЦЕНЬ** *м.* Пранізлівы, парывісты вецер. *Страшно на гуліцу выйсці: такі віскуцень на дварэ.* Заполле Кос.

**ВІ́СНУЦЬ** *зак. экспр.* Рэзка ўдарыць. *Як вісну па плечах, то выпруцішся.* Заполле Кос.

**ВІТУ́ШКА** *ж. ткац.* Вяртушка. *На вітушку матаюць*

*ніці.* Альшаніца Квас.

**ВІ´ЎКАЦЬ** *незак.* Выбрыкваць (пра каня). *Конік у мяне малады, сыцянькі, паша добрая, яно віўкая.* Руда Падст.

**ВІ´ХЛЯ** *ж. груб.* Легкадумная дзяўчына. *Цяжко мне з дачкою, ужэ дваццаць год, а ў галаве ніц німа – віхля.* Сакоўцы Міл.

**ВІ´ШАР, ВІША´Р** *м.* Не скошаная да марозу трава. *Ві´шар зімою косяць, па лёдзі, хто сена не нарабіў.* Заполле Кос. *Вішаром падсцілалі ў хляве.* Бялавічы Кос.

**ВО´БМАЛЬ** *прысл.* Малавата. *Сена вобмаль, каб хоць хапіло да Благавешча.* Заполле Кос.

**ВО´БРЫЦЬ** *ж.* Аброць. *Новую вобрыць купіў на каня.* Сенькавічы Падст.

**ВО´БУЙ** *м.* Абутак. *Вобуй даўней бераглі, бо ні было за шчо купіць.* Скураты Квас.

**ВО´БШЫЎКА** *ж. крав.* Аблямоўка на поясе ў штанах, спадніцы. *Вобшыўку з ганавіц на шыю карові чаплялі, каб урокоў ні баялася.* Альшаніца Квас. *Мышыныя вочы выпорвалі, ушывалі ў вобшыўку і вешалі на шыю карові. Гэто каб урокоў не баялася.* Була Міл.

**ВО´ГІР** *м.* 1. Жарабец. *Мой сусед вогіра трымая, у хамут ні запрагая.* Заполле Кос. 2. *перан. насмешл.* Ганарлівец. *Іван ходзіць вогіром па клубі.* Квасевічы Квас.

**ВО´ГНІК** *м. мед.* Болькі на твары. *Дзе балячка, а пастаіш ля агню, то пячэ, чырвоно, кажуць тады: вогнік прыпаў.* Заполле Кос. *Мая баба вогнік лячыла, усё глёўём каля балячкі тыцала.* Зыбайлы Жытл.

**ВО´ГНІСКО** *н.* Месца, дзе быў касцёр. *Нехто кастра паліў, вогніско яшчэ цёплае.* Старажоўшчына Кос. *Дзе было вогніско, там доўго трава не расце.* Боркі Паст.

**ВО´ЗДЗЯКА** *прысл.* Вось тут. *Дзе вядро? Воздзяка паставіла і ўжэ німа.* Скураты Квас.

**ВО´КІЦЬ** *ж.* Непагадзь, слата. *Вясна ўжэ, а тут снег пайшоў. Кажуць, гэто вокіць на буслоў, на шпакоў.* Заполле Кос.

**ВО́ЛАС** *м. мед.* Запаленчы працэс на пальцах. *Як волас прыпадзе на паляц, то параць ніжыперснік у малацэ і прыкладаюць да пальца.* Заполле Кос.

**ВО́ЛІК** *м. і ж. зневаж.* Павольны, гультаяваты чалавек. *Гэты волік нідзе ні паспяшыць.* Хадоркі Кос.

**ВО́ЛКІ** *прым.* Вільготны. *Адзежына яшчэ волкая, павесь, хай дасохня.* Альба Квас.

**ВО́ЛЬЕ** *н.* Валляк. *Бач, як гусі наеліся, аж волье пакрывіло.* Халап'я Падст.

**ВО́ЛЬНЫ** *прым.* Гарачы, сухі. *Павесь каўбасу ў вольны дух, хай абсохня.* Харошча Міл. *Калі жар у пячэ спадзя, ужэ вольны дух, можно грыбы сушыць.* Альшаніца Квас.

**ВО́НДЗЯКА** *прысл.* Вунь там. *Вондзяка клуб, а за ім наша хата.* Хрышчонавічы Квас.

**ВО́ПАДЗЬ** *ж. мед.* Эпілепсія. *У яго вопадзь, часто кідая, і ратунку ад гэтай хваробы німа.* Ятвезь Квас.

**ВО́ПСАСОМ** *прысл.* Настойліва, назойліва. *Куры вопсасом у сені лезуць, ні аджанешся.* Воля Жытл.

**ВО́ТАТО** *прысл.* Неўзабаве, у хуткім часе. *Пачакай яшчэ, вотато прывязуць хлеб.* Стайкі Стайк.

**ВО́ЎЧАЕ ВЯСЕ́ЛЛЕ** *н.* Пара цечкі ваўчыц, калі ваўкі збіраюцца ў чароды. *Ні хадзі праз лес, бо якраз воўчае вяселле.* Заполле Кос.

**ВОЎ́ЧАЯ ЛІСІ́ЦА** *ж. бат.* Лісічка несапраўдная. *Воўчая лісіца яркая, жоўтая, у яе тоненькая ножка.* Альшаніца Квас.

**ВО́ЎЧАЯ МЯ́ТА** *ж. бат.* Чысцік лясны і балотны. *Воўчую мяту параць, каб цело ачысціць.* Заполле Кос.

**ВО́ЧКО І.** *н.* Чарвяточына на гародніне. *Пакуль павыкалупваяш вочкі ў картоплі, то збрыдая скабліць.* Заполле Кос.

**ВО́ЧКО ІІ.** *н.* Лямпачка ў ліхтарыку. *Самае лепшае вочко ў ліхтарык у 2,5 вольта.* Любішчыцы Люб.

**ВО́ЧКО ІІІ.** *н. ткац.* Адтуліна ў ніце, у якую працягваецца нітка. *Трэба быць пільным, каб у кожнае вочко нітка*

*трапіла*. Бусяж Міл.

**ВУГАЛО́К** *м*. Вуглавыя кафлі. *Е простыя кафлі, а е вугалкі, якія кладуць на вугал печкі*. Галенчыцы Яглеў.

**ВУЖ I**. *м*. Гуж. *Вужэ ў хамуце моцныя, з добрай сырамяці*. Кушняры Падст.

**ВУЖ II**. *м. перан*. Лоўкі, вёрткі чалавек. *Гэтаго вужа нікды ні паймаюць*. Панкі Люб.

**ВУЖА́ВАЕ** *прым*. Дрэнна ўсмажанае ці старое (пра мяса). *Як ні вары, а старое мясо кожнае вужавае*. Азярцо Падст.

**ВУЖО́ЎКА** *ж. устар*. Бярозавы дубец, скручаны ў круцель, служыў для замацавання аглобляў да саней. *Аглобля прывязваяцца да капыла. Робіцца гэто з дапамогай вужоўкі*. Быч Стайк.

**ВУ́ЖЫК** *м*. Раменная прывязка ў цэпе. *Вужык у цэпі парваўся*. Жамайдзякі Міл.

**ВУЖЫ́ШЧА** *ж*. Вяроўка для ўціскання паклажы на возе, санях. *Вужышча – тоўстая вяроўка, якой уціскалі рубель*. Квасевічы Квас.

**ВУ́ЗАЛАВОК** *м*. Вузгалоўе (у возе). *Вузалавок – гэто частка перадка*. Заполле Кос. *У вузалавок устаўляюцца рашвора і ручкі*. Бялавічы Кос.

**ВУЗУ́Р** *м*. Ніжняя частка сцябла злакавых раслін. *Усе рукі вузурамі пакалоў, пакуль снапы ў мэндлі паставіў*. Няхачава Стайк.

**ВУЗЯЛО́ВОК** *м*. Тое ж, што і в у з а л а в о к. *Вузяловок – гэто драўляны брусок пад пярэдняй воссю ў возі, робяць яго з густой бярэзіны*. Хадоркі Кос.

**ВУ́НАКА** *часц*. Вунь. *Вунака аўталаўка прыехала*. Сярадава Жытл.

**ВУ́НЬДЗЯКА** *прысл*. Тое ж, што і в о н д з я к а. *Вуньзяка жураўле паляцелі*. Юкавічы Стайк.

**ВУСА́Ч** *м. заал*. Шчыпоўка. *Вусач – рыба вёрткая*. Заполле Кос.

**ВУЎКАВА́ТЫ** *прым*. Нелюдзімы, маўклівы. *Мой сусед –*

*прымак. І такі вуўкаваты, ні пагаварыць з ім, ні папрасіць чаго.* Майск Люб.

**ВУШКО́ І.** *н.* Ямка на прыпеку для попелу і вуголля. *З печы жар заўша выгрэбаюць у вушко, ад яго цяпло на хату ідзе.* Заполле Кос.

**ВУШКО́ ІІ.** *н.* Вушка (у іголцы). *У гэтой голцы малоя вушко, нітку цяжко ўсадзіць.* Була Міл.

**ВУШКО́ ІІІ.** *н.* Ручка ў збанку. *Колькі ні насі збанком воду, канец будзя: вушко адарвецца, збанок паб'ецца.* Альшаніца Квас.

**ВУ́ШЛЫ** *прым.* Кемлівы, цямлівы. *Міхась хлопяц вушлы, яму паляц у рот ні кладзі.* Бялавічы Кос.

**ВУ́ШЫ** *толькі мн. цясл.* Вертыкальны пас у брусе. *Каб запусціць дзеравіну ў шулу, трэба выдзяўбці вушы ў шуле.* Квасевічы Квас.

**ВЫ́БАЙ** *м і ж.* 1. *груб.* Гультай. *Гэты выбай за ніц ні бярэцца, ніц яго ні рупіць.* Альшаніца Квас. 2. *асудж.* Той, хто вядзе распуснае жыццё. *Гэты выбай жонкі ні глядзіць, усё па другіх бегая.* Заполле Кос.

**ВЫ́БІЦЦА** *незак.* Прыдбаць, займець. *Андрэй заводзіць гаспадарку: выбіўся на карову, купіў дзве авечкі.* Бялавічы Кос.

**ВЫБО́І** *мн.* Ямы на саннай дарозе, выбоіны. *Дарога да лесу ў адных выбоях.* Заполле Кос.

**ВЫ́БІЦЬ** *зак.* Вывіхнуць, зрушыць. *Упаў з ровара, мусіць, руку выбіў.* Квасевічы Квас.

**ВЫБО́РЫ** *мн.* Зборы ў дарогу. *Твае выборы надакучылі, хутчэй, бо людзі чакаюць.* Альшаніца Квас.

**ВЫБРЫ́КВАЦЬ** *незак. экспр.* Насіцца, лётаць. *Цялятко маленькае, а так выбрыквая ў хляве, паглядзіш і парадуяшся.* Размеркі Стайк.

**ВЫ́ВАЙЦЯЦЬ** *зак.* Выгаварыць, вылаяць. *Вывайцяла суседу, што яго сабака маю курыцу задушыў. Хай прывязвая.* Заполле Кос.

**ВЫ́ВАЛІЦЦА** *зак.* Вырасці высокім, выцягнуцца. *Ну,*

*ты іываліўся, зараз бацька дагоніш.* Халап'я Падст. *Вырас, выналіўся, як жэрдка.* Уласаўцы Жытл.

**ВЫВЕ'ТРЫВАЦЦА** *незак.* Сушыцца на ветры. *Палавікі на плот павесіла, хай выветрываюцца.* Панкі Люб.

**ВЫ'ВІЛ** *м.* 1. Паварот. *Вывіл дарогі.* Аляксейкі Стайк. 2. Лука, круты паварот ракі. *На самым вывіле ў віры самы жывуць.* Сенькавічы Падст.

**ВЫГАВА'РВАЦЬ** *незак. этнагр.* Адгаворваць. *Мая баба вогнік выгаварвала.* Заполле Кос.

**ВЫ'ГІБНУЦЬ** *зак.* Згінуць, прапасці. *Уся капуста выгібла, трэба зноў насаджваць.* Бялавічы Кос.

**ВЫГО'ДА** *ж.* Добрыя зручныя ўмовы для жыцця ўсяму жывому: і чалавеку, і жывёле, чаму спрыяе прырода. *Выгода якая жыць табе тут: і рэчка, і лес, і паша каля хаты, гадуй цялят, разводзь гусей.* Альшаніца Квас.

**ВЫ'ДРА** *ж. перан. абразл.* Сварлівая жанчына. *Твая свякроў добрая выдра: нікого ні прапусціць, усё цябе гудзіць.* Верашкі Квас.

**ВЫ'ДУНДЗІЦЬ** *зак. экспр.* 1. Выссаць. *Пайшла карову даіць, але дзе там – цяля ўсе выдундзіло.* Куляшы Міл. 2. Выпіць. *Банку вады выдундзілі і яшчэ піць хочацца.* Рацкевічы Міл.

**ВЫ'ДЫМІЦЬ** *зак.* Трымаць цыбулю зімою у цёплым месцы. *Павесіла цыбулю на печ выдыміць.* Харошча Міл.

**ВЫ'ДЫХНУЦЦА** *зак.* Страціць вастрыню паху і смаку. *Гарчыцу выкідай, выдыхнулася, ніякаго смаку ў ёй німа.* Хадакі Жытл.

**ВЫ'ДЗЯРОК** *м.* Выробленая пад поле аблога. *Столькі гадоў пуставала зямля, а ўзялі разрабілі і на гэтом выдзярку жыто пасеялі.* Юкавічы Стайк.

**ВЫ'ЖАЛАПАЦЬ** *зак.* Выпіць, выжлукціць. *Сено граблі, то ажно пяцілітровую каністру вады выжалапалі.* Воля Жытл.

**ВЫ'ЖАР** *м.* Нізкае куп'істае месца, зарослае асакой. *У выжарах качкі хаваюцца.* Скураты Квас.

**ВЫ́ЖАРЫЦЬ** *зак.* Ад жары, гарачыні высахнуць. *Выжарыло на грудку ўвесь лес: ад жары пасох.* Заполле Кос.

**ВЫЖАРЭ́** *мн.* Ямы, дзе гарэў торф. *Выжарэ на балоці, вада ў іх, там рыба водзіцца.* Заполле Кос.

**ВЫ́ЖЛА** *ж. груб.* Жанчына, якая дабіваецца свайго ўсімі сродкамі, нават амаральнымі. *Яна добрая выжла, яна праз любого перааступіць, а свайго даб'ецца.* Ятвезь Квас.

**ВЫ́ЖЫМКІ** *мн.* Жамерыны. *Выжымкі ад яблык свіням аддаем.* Воля Жытл.

**ВЫ́ЗБІРАЦЬ** *зак.* Сабраць дарэшты. *Гэдык ягады вызбіралі, шчо з пустым вядром дахаты прышла.* Плехава Люб.

**ВЫ́ЗІКНУЦЬ** *зак. экспр.* Са злосцю крыкнуць. *Сказала была нешчо нявестцы, то як вызікнула, ажно мову ў мяне адняло.* Боркі Падст.

**ВЫЗІРА́ЦЬ** *незак.* Цікаваць, назіраць, віжаваць. *Схаваямся ў жыці і вызіраям, куды пайдзе дзядзько Антось, а тады шусь у яблыкі.* Заполле Кос.

**ВЫКАБЛУ́ЧВАЦЦА** *незак. груб.* Задавацца, выхваляцца. *Чаго ты выкаблучваяшся, усе ведаюць цябе.* Грыўда Міл.

**ВЫ́КАБЛУЧЫЦЦА** *зак.* Сагнуцца, скруціцца ў дугу. *Даў так, ажно выкаблучыўся.* Яблонка Жытл.

**ВЫ́КАПАНЫ** *прым.* Вельмі падобны да каго-небудзь. *Мой брат – выкапаны бацько, і крышкі яго пабраў.* г. Косава.

**ВЫ́КАРАБУНІЦЦА** *зак.* Вылезці, вырвацца. *Ледзві ад гэтаго гада выкарабунілася, усё яму пакінула. Хай жыве адзін, калі я яму кепская.* Руда Падст.

**ВЫКА́ТВАЦЬ** *незак.* Выціскаць (пра мёд). *Гэты год дажджлівы, кепскі для пчол, усяго два вядра выкатаў мёду.* Жытл. Жытл.

**ВЫ́КАТ** *м. крав.* Выраз у адзенні. *Брыдко ажно глядзець на маладых: выкат такі, што ўсе грудкі ў дзявок гэтых відны.* Бараны Ягл.

**ВЫ́КРУЦІЦЦА** *зак.* Натанцавацца. *Наробішся за дзень, а вечаром выкруцішся ў гэтых танцах да знямогі. Але каб*

*гэто ўсе. Глядзіш яшчэ, каб хлопяц правеў. Прасядзіш да ранку, падрэмляш гадзінку, і маці штурхая, будзіць: трэба ісці жаць. І жалі, і жывыя, і халера ні брала, і вясёлыя былі.* Заполле Кос.

**ВЫЛІВА́ЦЬ** *незак. абрад.* Пэўнымі магічнымі дзеяннямі лячыць ад сполаху. *Сабака спалохоў, пайду да Тахфілі, каб выліла пярэпалахі.* Панкі Люб.

**ВЫ́ЛІТЫ** *прым.* Вельмі падобны. *Твая Іра вылітая баба, каб ні ведоў чыя, то пазнаяш.* Галенчыцы Ягл.

**ВЫ́ЛЯПАЦЬ** *зак. ткац.* Выткаць. *Паставіла кросна, да Каляд выляпаю.* Корачын Жытл.

**ВЫ́МАГЛЯВАНЫ** *дзеепрым.* Пафарбаваны, размаляваны. *Бач, якая хата вымаглявана.* Заполле Кос.

**ВЫ́МАГЛЯВАЦЬ** *зак.* Выштукаваць, упрыгожыць. *Столькі дзён унучок рабіў слончык, вымагляваў, стаў слончык, як цацка.* Заполле Кос.

**ВЫ́МАНУЦЬ** *зак.* Выманіць. *Гэтыя Вольчыны бэйбусы выманулі ў маіх унукоў усе цукеркі.* Яблонка Жытл.

**ВЫ́МЯРГАВАЦЬ** *зак.* Выгадаць, разлічыць. *Пашыла дачцэ сукенку і сабе вымяргавала на спаніцу.* Бусяж Міл.

**ВЫПАДА́ЦЬ** *незак.* Вылазіць (пра валасы). *Натто косы выпадаюць, трэба якую раду шукаць.* Даргужы Міл.

**ВЫ́ПАЛАКАЦЬ**. *зак.* Выпаласкаць, памыць. *Сарочкі ў рэчцы добра выпалакала, дома ў начоўках так ні выпалашчаш.* Сенькавічы Падст.

**ВЫ́ПРУНДЗІЦЦА, ВЫ́ПРЫНДЗІЦЦА** *зак. экспр.* Здохнуць, прапасці. *Выпрундзіліся за гэту зіму ўсе куры, трэба будзя куранят купляць.* Дубітава Міл. *Каб ты выпрындзіўся з гэтай гарэлкі!* Квасевічы Квас.

**ВЫ́ПУСТ** *м.* Месца, пустое ад пасеву; агрэх. *Пасеялі абы-як, выпустоў много.* Заполле Кос.

**ВЫ́ПШЫКАЦЦА** *зак.* Знясілець, аслабнуць. *Зранку з ахвотай ягады збіраяш, а да вечара выпшыкаяшся, шчо ўжэ глядзець на тыя ягады гадко.* Заполле Кос.

**ВЫ́ПЫТЛЯВАЦЬ** *зак. перан.* Вырабіць, абрабіць (пра

глебу). *Выпытляваў Іван так агарода, каб вош паўзла, убачыў бы.* Заполле Кос.

**ВЫ́РАБІЦЬ** *зак.* І. Аформіць (пра дакументы). *Вырабіў сабе новы пашпарт.* Альшаніца Квас.

**ВЫ́РАБІЦЬ** *зак.* ІІ. Зарабіць, выпрацаваць (пра пенсію). *Вырабіў мой чалавек яшчэ неблагую пенсію.* Заполле Кос.

**ВЫ́РАБІЦЦА** *зак.* Стаць нядужым, слабым. *Шчо хацець: вырабіўся чалавек за свой век.* Ёдчыкі Квас.

**ВЫ́РВУС** *м. жарт.* Няўрымста, свавольнік. *Мой малы такі вырвус, кожны дзень якую шкоду зробіць.* Жамайдзякі Міл.

**ВЫ́САЛАПІЦЦА** *зак. асудж.* Прагаварыцца, выдаць сакрэт, тайну. *Што ты высалапіўся, хто ў цябе шчо пытаўся? Хочаш, каб усё сяло ведало пра твайго зяця, які ён?* Куляшы Міл.

**ВЫ́СВІСТАЦЬ** *зак. экспр.* Набіць, адхвастаць. *Сёні я цябе пугаю высвішчу, як хату адну пакіняш.* Кушняры Падст.

**ВЫСКА́КВАЦЬ** *незак.* Дагаджаць, патрапляць. *Як хочаш, каб дачка добра жыла, то трэба выскакваць перад зяцем.* Скураты Квас.

**ВЫ́СКАЛІЦЦА** *зак.* 1. Смяяцца. *Што ты выскаліўся перада мною?!* Заполле Кос. 2. *перан.* Паказвацца з-за хмар (пра сонца). *Сонцо выскаліцца на мінюту і схаваяцца.* Лазаўцы Міл.

**ВЫ́СКАЛКА** *ж. жарт.* Жанчына, якая па прычыне і без прычыны смяецца; вышчарка. *Пра выскалку кажуць: "Па чым зубы прадаеш?"* Мілейкі Міл.

**ВЫ́СКІРКА** *ж. жарт.* Тое ж, што і в ы с к а л к а. *У цябе вечне зубы наверсе, нездарма пра цябе кажуць – выскірка.* Міхнавічы Стайк.

**ВЫ́СЛІБІЗАВАЦЬ** *зак.* Адшліфаваць. *Рэжаш дрова, то так выслібізуяш ручкі ў піле, ажно блішчаць.* Заполле Кос.

**ВЫ́СНЯКАЦЦА** *зак.* Высмаркацца. *Выснякайся, лягчэй дыхаць будзя.* Няхачава Стайк.

**ВЫ́СТЫДЗІЦЬ** *зак.* Пасарамаціць, прабраць.

*Выстыдзіла дзеўку перад людзьмі, ажно на гуліцу саромяяца выйсці.* Падстарынь Падст. *Выстыдзі добра, то больш так рабіць ні будзя.* Зыбайлы Жытл.

**ВЫ'СЫПАЦЬ** *незак.* Абазначыць, акрэсліць грады. *Высыпала грады, можно ўжэ садзіць.* Любішчыцы Люб.

**ВЫ'ТРАПАЦЦА** *зак.* Вынасіцца (пра адзенне). *Вытрапаўся каптан, аж свіціцца.* Размеркі Стайк.

**ВЫ'ХАВАЦЬ** *зак.* Захаваць. *Выхавала да вясны свежу капусту.* Бусяж Міл.

**ВЫ'ХАРАШЫЦЬ** *зак. перан.* Вымазаць, выквацаць. *Выхарашыла пальто, пляма на ўвесь рукаў.* Руда Падст.

**ВЫХО'ДЗІЦЬ** *незак. перан.* Выкопваць. *Неблагі капаннік трэба, каб за дзень тры баразны на сто метроў картоплёў лёгко выходзіў.* Сакоўцы Міл.

**ВЫ'ЦЕПНУЦЦА** *зак. крав.* Раскідвацца (пра прадзіва). *Выцяпліся ніткі, трэба нанава края абкідваць.* Сенькавічы Падст.

**ВЫЦІЛІ'НГВАЦЬ** *незак.* 1. Імітаваць мелодыю языком. *Яму ні трэба гармоня: ён языком выцілінгваць умея.* Була Міл. 2. Іграць на губным гармоніку. *Нябошчык Пятрусь Легатоў так спрытно выцілінгвоў на губным гармоніку, шчо гарманіста часом падмяняў на му'зыках.* Заполле Кос.

**ВЫ'ЦУГЛІЦЬ** *зак.* 1. Выссаць. *Прыйшла карову даіць, вымя пустоя: цяля выцугліло.* Скураты Квас. 2. *перан. жарт.* Выпіць. *Мой малы цэлу бутылку малака выцугліў.* Хадоркі Кос.

**ВЫ'ЦЫГАНІЦЬ** *зак. перан.* Вымануць, выпрасіць. *Прасіла, прасіла – і выцыганіла сабе на цукеркі.* Стайкі Стайк.

**ВЫ'ЦЯРЦІ** *зак.* Сабраць насенне з высадкаў. *Выцярла кроп, расаду, хай сваё насення будзя.* Альшаніца Квас.

**ВЫ'ЧАЎКІ** *мн.* Выжымкі. *Вычаўкі з яблык аддаем карові.* Альшаніца Квас.

**ВЫ'ЧЫТ** *м.* Пахавальны ліст. *Гэта жоначка шчасліваю нарадзілася: прыйшоў вычыт, а праз паўгода мужык аб'явіўся: раняны ў шпіталі ляжаў.* Заполле Кос.

**ВЫ́ШТУКАВАЦЬ** *зак.* Зрабіць што-небудзь, уклаўшы ў зробленае ўсё сваё ўмельства, душу. *Але ж і выштукавоў граблі! Не граблі, а цацка!* Заполле Кос.

**ВЫЯДА́ЦЬ** *незак.* Есці ўсё смачнае, быць пераборлівым у ядзе. *Добра зара людзям жывецца, не ведаюць, шчо выядаць. Даўней картоплю рады былі.* Стайкі Стайк. *Дзяды нашы гаварылі: хлеб, соль ды вада – німа галада. Гэто зараз людзі ні ведаюць, шчо выядаць.* Халап'я Падст.

**ВЫ́ЯМОК** *м.* Яма, кар'ер. *Збірала грыбы ў пасадцы ля выямка.* Мілейкі Міл. *Бралі, бралі жвыр у выямку, выбралі, зараз там адно вада.* Міхнавічы Стайк.

**ВЫ́ЯНЧЫЦЬ** *зак.* Дабіцца свайго праз плач і енк. *Мая дзеўка выянчыла грошы на новыя туфлі.* Харошча Міл.

**В'ЮН** *м. заал.* Уюн. *В'юны робяць сабе продухі ў балоці, у ямах зімой, каб дыхнуць духу.* Размеркі Стайк.

**ВЯДЗЕ́РКО** *н. памянш.* Вядзерца. *Ягад гэтае вядзерко назбірала за тры гадзіны.* Халап'я Падст.

**ВЯДРО́НЫ** *прым.* Ураджайны, ядроны. *Кажуць, калі вядрона рабіна, то восянь будзя мокрая.* Хадоркі Кос. *Гэты год на ўсе годзіць, усё вядронае.* Хрышчонавічы Квас.

**ВЯЗЫ́** *толькі мн.* Карак. *Вязы баляць, мусі, надуло ці кепско ляжаў.* Юкавічы Стайк.

**ВЯРЦЁЛКА** *ж. і м.* Непаседа, вяртун. *Вярцёлка, не вярціся, пасядзі спакойно.* Заполле Кос.

**ВЯРШНЯ́К** *м. перан. жарт.* Чалавек, які верхаводзіць у кампаніі. *Ганна ў нас усюды першая, усюды яе верх павінен быць. Яна ў нас – вяршняк.* Заполле Кос.

**ВЯСЦІ́СЯ** *зак.* Пладзіцца, памнажацца. *Ёй каравы вядуцца, і да малака добрыя.* Ятвезь Квас. *У нас кажуць: "Як вядзецца, то і пятух нясецца".* Заполле Кос.

**ВЯТРО́ЎКІ** *мн.* Басаножкі. *Прыехала ўнучка з горада ў вятроўках, а дзед думоў, шчо парвала абуток, увесь у дзірках, то ўзяў налапіў.* Альшаніца Квас.

**ВЯЧЭ́РА** *ж. абрад.* Памінальная вячэра. *Усе прыходзьця на вячэру, памянем нябожчыка.* Воля Жытл.

# Г

**ГАВАРО́К** *м. іран.* Прамоўца. *Гаварок быў, гаварыў, як з кніжкі чытаў.* Бялавічы Кос.

**ГАВЭ́НДЗІЦЬ** *незак.* 1. *экспр.* Несці лухту. *Такое гавэндзіць, шчо гадко слухаць.* Азярцо Падст. 2. *экспр.* Уядацца, жміндзіць. *Астанецца мужык ад работы, то ўсё яму ні так, гавэндзіць і гавэндзіць.* Альшаніца Квас.

**ГАВЭ́НДЫ** *мн.* Пустыя размовы. *Зыдуцца жанкі да калодзязя і гавэндзяць гавэнды.* Быч Стайк.

**ГА́ГАВІЦА** *ж.* Шыя, горла. *Схавай **гагавіцу**, узаўтры скажаш, горло баліць.* Заполле Кос.

**ГАДАВІ́НЫ** *мн. абрад.* Памінальная вячэра па нябожчыку праз год пасля смерці. *На гадавіны збіраюцца самыя блізкія памерламу.* Жамайдзякі Міл.

**ГАДАВІЧО́К** *м. рыб.* Невялікі шчупак. *Гадавічок маладзенькі, зеленаваты.* Заполле Кос.

**ГА́ДАЦЬ** *незак.* Працяглы час размаўляць, пляткарыць. *Бачыш, ты і ў магазін сходзіла і дахаты ідзеш, а мы ўсё з Аленай **гадаем**.* Заполле Кос.; *параўн.* польск. gadac – гаварыць.

**ГАДО́ВАНІК** *м.* Прыёмны сын, выхаванец. *Гадованік, а дагледзяў да смерці бацька як роднаго.* Няхачава Стайк.

**ГАДО́ТА** *ж.* Агіда, брыдота. *Гарэлка – гадота, ні адарвеш ад рота.* Альшаніца Кос.

**ГАЁ́ВЫ** *м.* Ляснік. *Зараз кажуць ляснік, а даўней гаёвы казалі.* Сярадава Жытл.

**ГАЙ** *м.* Невялікі ўчастак лесу ў полі. *Гай – гэто ўжэ место для адпачынку.* Бялавічы Кос.

**ГА́ЙВАРАН** *м.* Грак. *Гайвараны на агародзі курыцу задзяўблі, адзін шкілет застаўся.* Заполле Кос.

**ГАЙДА́** *ж.* Вясёлае, шумнае свята. *Смяюцца з маладое пары: дзень гайды, навек бяды.* Альшаніца Квас.

**ГАК** *м.* Матыка. *Гаком з зубцамі добра на балоці бульбу*

*капаць.* Любішчыцы Люб.

**ГАКІ´** *мн.* Шыпы на падкове. *Трэба падкову памяняць, бо гакі сцерліся.* Заполле Кос.

**ГАКТА´Р** *м.* Гектар. *Далі мне, старой, цэлы гактар буракоў апалоць.* Майск Любішч.

**ГАЛАВА´ТЫ** *прым.* З вялікай галавой, галавасты. *Паглядзі, які чалавек галаваты, яму і шапку да галавы цяжко дабраць.* Альба Квас.

**ГАЛАДАМЕ´Р** *м. і ж. экспр.* Галота, басота. *Чаму галадамер? Бо без работы сяджу.* Бялавічы Кос.

**ГАЛАМ'Я´** *ж.* Сям'я, у якой многа малых дзяцей. *І як гэту галам'ю пракарміць?!* Квасевічы Квас.

**ГАЛА´НКА** *ж.* Печ для абагрэву, звычайна кафлёвая. *Галанку перарабілі, кафлямі абклалі, каб харашэй было.* Квасевічы Квас.

**ГА´ЛАС** *м.* Крык, шум. *Сварацца суседзі мае, галасу нарабілі не ўвесь грудок.* Верашкі Квас.

**ГАЛАСНІ´К** *м.* Разнавіднасць свістка. *Звычайныя свісткі свішчуць прарэзліва, а галаснікі басавіта.* г.Косава.

**ГАЛАЎНЯ´ І** *ж. экспр.* Галава. *Галаўня ў цябе! Чым ты раней думаў, калі прадаваў такую карову ды за такія грошы?* Падстарынь Падст.

**ГАЛАЎНЯ´ ІІ** *ж.* Бязрогая карова. *Без рог і карова на карову ні пахожа, кажуць на яе галаўня.* Халап'я Падст.

**ГАЛАЎНЯ´ ІІІ** *ж. бат.* Спарыння. *Галаўня ў жыці, у коласі.* Зыбайлы Жытл.

**ГАЛАШЧО´КА** *ж.* 1. Мерзлая зямля, без снегу. *Снегу яшчэ німа, а зямля мерзлая, кажуць, замерзла зямля на галашчоку.* Альшаніца Квас. 2. Восеньская галалёдзіца, калі і снегу яшчэ няма. *Галашчока на дварэ, ледзь прыйшла, слізко.* Заполле Кос.

**ГАЛЁПА** *ж. груб.* Худая, высокая дзяўчына. *Галёпа пайшла, ёй ано чэрві з яблынь абіраць.* Альшаніца Кос.

**ГАЛІ´ТАР** *ж. і м. абразл.* Бедны чалавек. *Як я прыйшла ў мужыкову хату, то свякроў і слова другого ні знала да*

*мяне: усё галітар ды галітар.* Заполле Кос.

**ГАЛОЎКА** *ж. ткац.* Драўляны вінт, які рэгулюе нацяжэнне шнура ў калаўроце. *Галоўку круціш і нацягваяш шнур.* Заполле Кос.

**ГАЛУ́ЗА** *ж.* Галушка. *Укінула круп у суп, а яны зліпліся ў галузу.* Альшаніца Кос.

**ГАЛЬ** *ж.* Палянка ў лесе, на якой можна было касіць сена. *Даўней шукалі людзі, дзе ўкасіць сена, усе галі выкашвалі.* Заполле Кос.

**ГАЛЫ́СТЫ** *прым.* З вялікай колькасцю галін. *Яблыня старая, галыстая.* Аляксейкі Стайк.

**ГА́ЛЬКА** *ж.* Жаночая сарочка з карункамі. *Гальку шылі з белаго палатна, знізу кружава прышывалі, адзявалі на свята.* Верашкі Квас.

**ГАЛЭ́НДЗІЦЬ** *незак.* Тое ж, што і г а в э н д з і ц ь 1, 2. 1. *Галэндзіць, што сліна на язык прынясе.* Квасевічы Квас. 2. *Як той камар бзыіць над вухом, так і ён цэлы дзень галэндзіць, ні сціхая.* Квасевічы Квас.

**ГАЛЭ́НДЗЯ** *н. зб.* Галлё. *Хадзіла ў лес, назбірала вязку сякого-такого галэндзя, у грубцы буду паліць.* Альшаніца Квас.

**ГАЛЭ́ПОМ** *прысл.* 1. Галопам. *Конь бяжыць галэпом.* Куляшы Міл. 2. *перан.* Хутка, не трацячы часу. *Галэпом ляці дахаты: у сваты да цябе прышлі.* Размеркі Стайк.

**ГАЛЮ́НІКІ** *толькі мн.* Галюцынацыя. *Нап'ецца да свінячаго піску, то галюнікі здаюцца.* Заполле Кос.

**ГАЛЯ́К** *м.* Дзяркач, венік. *Які даўней прыбор у хаце? Пяском пасыпляш на лаву да галяком падзярэш, да зямлю жоўценькім пясочком ссыплеш, вось і ўсё, і ўвесь прыбор. Жджэш ужэ, калі кавалеры прыдуць.* Альшаніца Квас.

**ГАЛЯ́ЦЬ** *незак.* Лётаць, гойсаць. *Цэлы дзень галяў па Косаві, а клею так і ні купіў.* Размеркі Кос.

**ГА́МАРЫ** *мн.* Трубкі па канцах папярочнай пілы. *У гамары забіваюцца калочкі-ручкі, і паехала пісаць губернія.* Заполле Кос.

**ГАМАТНЫ´** *прым.* Завялікі, прасторны (пра вопратку). *Купіў пальто, гаматное мне.* Заполле Кос.

**ГАМО´Н** *м. экспр.* Смерць, канцы. *Паймаў ён мяне аднаго. "Тут, - кажа, - і гамон табе будзя." Моцно напалохоў мяне.* Уласаўцы Жытл.

**ГА´МТАЦЬ** *незак.* Камячыць. *Не гамтай сукенкі, ты ж у людзі ідзеш.* Панкі Люб.

**ГАНАВІ´ЦЫ** *толькі мн.* Нагавіцы. *Купіла бацьку кортавыя ганавіцы на работу хадзіць.* Хадакі Жытл.

**ГАНАРО´ВЫ** *прым.* Ганарлівы, задавасты. *Нявестка ў Надзі ганарова.* Аўсто Стайк.

**ГАНІ´ЦЬ** *незак.* Гнаць, пасвіць (жывёлу). *Гані цяля на луг, хай паходзіць.* Галік Міл.

**ГАНУ´ЧА** *ж.* 1. Ануча. *Дзе мае ганучы? Можа, ты абуў?* Грыўда Міл. 2. Рваная паношаная рэч для мыцця падлогі. *Мыць падлогу бяры вельку ганучу.* Галынка Міл.

**ГАНУ´ЧКА** *ж. памянш. да* г а н у ч а 2. *Ганучкай пратры шыбу ў акне.* Гошчава Стайк.

**ГАНУ´ЧНІК** *м.* Чалавек, які збірае старое рыззё, анучнік. *Ганучнік ездзіць, можа, батарэйкі да ліхтарыка е.* Даргужы Міл.

**ГА´ПКА** *ж.* Прарэх у адзенні для гузіка. *Мода цяпер стала: у каптане адна гапка, на адзін гузік зашпільваюцца.* Заполле Кос.

**ГАПЛІ´К** *м.* Металічны кручок у адзенні, аплік. *Салдацкія шынялі на гаплікі зашпільваюцца.* Альшаніца Квас.

**ГА´РА** *ж.* 1. Едкі пах ад няпоўнага згарання чаго-н. *Гара чутна, мусі, дзеці пакрышкі палілі.* Дубітава Міл. 2. *перан.* Гарэлка. *Не пі гэтае гары, то і галава ні будзя трашчаць.* Куляшы Квас.

**ГАРАБЕ´Й** *м.* Верабей. *Гараб'е на вінаград напалі, ні аджануся.* Кушняры Падст.

**ГАРАБІ´НА** *ж.* Арабіна. *Е такая прыкмета: ядрона гарабіна – снежная зіма будзя.* Заполле Кос.

**ГАРБУЗЕ´ННЕ** *н.* Гарбузнік. *Гарбузенне коляцца,*

*назабівала асцюкоў у пальцы.* Старажоўшчына Кос.

**ГАРБУЗЯНЯ́ТА** *мн.* Насенне гарбузоў. *Назбірала кіль пяць гарбузянят, пашлю ўнукам.* Кушняры Падст.

**ГАРБЫ́ЛЬ** I *м.* Аполак. *Гарбылямі вышкі ў хляве выкладалі.* Стайкі Стайк.

**ГАРБЫ́ЛЬ** II *м. рыб. заал.* Акунь. *Гарбыль, бо гарбаты.* Размеркі Стайк.

**ГАРГА́РА** *ж.* Вялікі будынак, вялікая рэч. *О, у цябе не гумно, а гаргара цэлая.* Лазаўцы Міл. *Паставіў гаргару пасярод надворка ды абходзь твой трактар.* Скураты Квас.

**ГАРДО́ВІЦА** *ж. бат.* Хацьма. *Мая маці гардовіцу ў агародчыку садзіць, бо рожу ёю вылечыла, лісты прыкладвала.* Бялавічы Кос.

**ГАРКА́ВІК** *м.* Чалавек, які нячыста, няправільна вымаўляе гукі "р" або "л". *Як гаркавік, то ўсё словы на "р" яму пападаюць.* Заполле Кос.

**ГАРКА́ВЫ** *прым.* Картавы. *Цяжко яму будзя з людзьмі, кожны перакрывіць, бо гаркавы.* Квасевічы Квас.

**ГА́РКАЦЦА** *незак. экспр.* Лаяцца, сварыцца. *Ні буду я з вамі гаркацца, вам сам чорт ні дакажа.* Мілейкі Міл.

**ГАРКА́Ч** *м. заал.* Гарчак. *Гаркач – сінянькая рыба, як маленькі карасік, але надто горкая. Пасоліш, і то гарката ні гіня.* Заполле Кос.

**ГАРЛАВІ́НА** *ж. павел.* Горла. *Вываліў гарлавіну, прастудзішся.* Заполле Кос.

**ГАРМО́НЯ** *ж.* Гармонік. *Бало, як на гармоні гарманіст заграя, то ногі самыя ў скокі ідуць.* Міхнавічы Стайк.

**ГАРМУ́ШКА** *ж. кулін.* Цура. *Хлеб крышылі, аблівалі кіпятнём, засквархвалі і елі. Гэту страву гармушкай называлі.* Альшаніца Квас.

**ГАРНО́** *н.* Горан. *Дзе кузня – там і гарно.* Гічыцы Ягл.

**ГАРО́НКІ** *мн.* Карункі. *Як звяжа гаронкі, то рукі трэба цалаваць гэтай жанчыні: такія прыгожыя ўзоры выходзяць.* Руда Падст.

**ГАРО́НЧКА** *ж. мед.* Ліхаманка. *Усё клялі старыя бабы даўней: каб цябе гарончка ўзяла.* Хрышчонавічы Квас.

**ГАРО́ШНІСКО, ГАРО́ШЫСКО** *н.* Гарохавішча. *Гарошніско на корм пакідалі.* Юкавічы Стайк. *Гарошыско на вышкі закінь, хай ні мокня.* Альшаніца Кос.

**ГА́РУС** *м. заал.* Чорны бусел. *Е бусел, увесь чорны, яно падкрылкі ў яго белыя, гарус завецца.* Бялавічы Кос.

**ГАРЦЫ́ЛЯ** *ж. груб.* Жанчына, апранутая без густу. *Як е гарцыля: на ёй гэтая шляпка сядзіць, як на свіні набэдрыкі.* Альшаніца Квас.

**ГАРШЭ́ЧНІК** *м.* Чалавек, які робіць гаршкі; ганчар. *Гаршэчнік ездзіць па сяле, трэ збанка купіць.* Яблонка Жытл.

**ГАРЭ́ЛІК** *м.* Прыгарэлая на полымі верхняя бульба ў чыгуне. *Агледзялася: адны гарэлікі ў гаршку засталіся.* Галенчыцы Ягл.

**ГАРЭ́ШНІК** *м.* Арэшнік. *Дзецьмі бегалі ў гарэшнік па арэхі.* Заполле Кос.

**ГАТОЎ** *кароткая форма ад* гатовы *– дапаможнага дзеяслова ў спалучэнні з неазначальнай формай.* Ахвочы, схільны зрабіць што-н. *Такі злы чалавек: гатоў кінуцца біцца, як што ні па ём.* Заполле Кос. *Так моцно стукнула паляц, гатоў плакаць.* Бялавічы Кос.

**ГАЎКАНІ́НА** *ж. экспр.* Сварка. *У хаці адна гаўканіна, німа ні днём, ні ноч'ю спакою.* Заполле Кос.

**ГА́ЧКА** *ж.* Тое ж, што і г а к. *Натто хвацкія гачкі робіць наш каваль.* Заполле Кос.

**ГВАЗДЗІ́ЦЬ** *незак.* З сілай біць, гваздаць. *Не гваздзі ты гэтаго каня, зараз мы паможам выехаць з лужы.* Альшаніца Квас.

**ГВІ́ЗДАЦЬ** *незак.* Адмаўляць, не прызнаваць. *Гвіздала я яго, прыедзя, то і на парог ні пушчу.* Заполле Кос.

**ГЕ́БЛІК, ГЭ́БЛІК** *м. стал.* Рубанак. *Да таго файны ў цябе геблік: і да рук добры, і жаляско гострае.* Азярцо Падст. *Прынясі гэблік, дошку трэба пагабляваць.* Скураты

Квас.

**ГЕ´ГНУЦЬ** *зак. экспр.* Памерці. *Так узяло за сэрцо, думаў, **гегну**.* Быч Стайк.

**ГЕЛБ** *м. заал.* Пячкур. ***Гелб** – зусім малая рыбка.* Хадоркі Кос.

**ГЕ´РЗАЦЬ** *незак.* Гаварыць неразборліва, несці лухту. *І што ты герзаяш, гавары добра, а то нічого ні разумею.* Заполле Кос.

**ГІБА´** *ж. ткац.* Мера асновы ці палатна, роўная даўжыні сноўніцы. *Сем гіб палавікоў выткала.* Альшаніца Квас. *Казалі бабы даўней так: "Як пачну лопаць, то за тыдзянь локаць, а за сорак дзён гіба вон".* Альшаніца Квас.

**ГІБА´ЦЬ** *незак.* Мясіць цеста для каравая. *Перад тым, як каравай гібаць, каравайніцы мыюць рукі ў місе, а пасля нясуць і ваду з місы выліваюць пад вішню.* Бялавічы Кос.

**ГІ´ДЗІЦЬ** *незак.* Гудзіць, зневажаць. *Я ні разумею гэтаго чалавека: гідзіць, брыдзіць цябе, а пасля перад табою лістом сцеля.* Заполле Кос.

**ГІЗАВА´ЦЬ** *незак.* Дурэць, сваволіць. *Прыдуць хлопцы на вечаркі, то яно цэлы вечар гізуюць, і прасці не дадуць.* Гошчава Стайк. *Ужэ вялікія, а гізуяця на сені, як малыя.* Заполле Кос.

**ГІЛГІТА´ЦЬ** *незак.* Казытаць. *Не **гілгічы** дзіця, бо кончыцца ад смеху.* Яблонка Жытл.

**ГІ´ЛІК** *м. заал.* Гіль. *Гілік увесь як сінічка, яно ў гіліка дзюбка таўшчэйшая і большая.* Скураты Квас.

**ГІ'МЕЛЬ** *ж.* Нячысцік, злы дух. *Гімель ты, цябе людзі страшацца.* Стайкі Стайк.

**ГІ´НДА** *ж. абразл.* Худая высокая жанчына. *Гэдыку гінду ды такі харошы хлопяц замуж узяў.* Заполле Кос.

**ГІ´НШЫ** *займ.* Іншы. *Гіншае дзіця і ведая, але расказаць таго ўрока ні ўмея.* Плехава Люб.

**ГЛАДЫ´Ш** *м.* Гладкі пляскаты камень. *Гладышом сыр прыціскаць добра.* Панкі Люб.

**ГЛАМЯНУ´ЦЬ** *зак.* Перакусіць. *Гламянуў на хаду ды зноў*

*за работу.* Заполле Кос.

**ГЛЁ´ВІНА** *ж.* Вугалёк. *Паліла яловымі дрыўмі, то ў гаршчок глёвін нападало.* Жамайдзякі Міл.

**ГЛЁЎЕ** *н. зб.* Вуголле. *Глёўе добра свіням даваць: хучэй растуць, чарвей ні будзя.* Альшаніца Квас.

**ГЛІЗ** *м.* Падмыты вадой бераг рэчкі. *Не пускайця дзяцей на рэчку. Пасля паводкі глізы паявіліся, зямля панавісла над вадой.* Панкі Любішч.

**ГЛУХА´Я КРАПІВА´** *ж. бат.* Яснотка. *Глухой крапівой жаночыя хваробы лечаць.* Бялавічы Кос.

**ГЛУХА´Я СЦЕ´ЖКА** *ж.* Сцяжынка, па якой мала хто ходзіць ці ездзіць. *Гэты ягаднік мала хто ведая, натто туды глухая сцежка вядзе.* Заполле Кос.

**ГЛУ´ШАНЬ, ГЛУ´ШМЕЛЬ** *ж. і м. экспр.* Глухі чалавек. *Гэты глушань ні чуя, але чуя, як даеш.* Альшаніца Квас. *Такі глушмель, хоць страляй пад вухом, ні пачуя.* Заполле Кос.

**ГЛЫГА´ЦЬ** *незак.* Глытаць, каўтаць. ***Глыгаў, глыгаў** і ніяк ні мог праглынуць пілюлю без вады.* Заполле Кос.

**ГЛЫГНУ´ЦЬ** *зак.* Глынуць, пракаўтнуць. *І як я **глыгнуў** костачку ад рыбы, сам ні ведаю, засела ў горлі.* Заполле Кос. *Горло баліць, ні магу **глыгнуць**.* Ёдчыкі Квас.

**ГЛЭ´ЎШЫЦЬ** *незак. экспр.* Здзекавацца, мучыць. *Нап'ецца гэты бандзіт ды глэўшыць мацяру: ано давай грошы.* Заполле Кос.

**ГЛЯ´НУЦЦА** *зак.* Спадабацца. *Гэты хлопяц у Насці такі харошы, не адной глянуўся, гатовы дзяўкі за яго пабіцца.* Заполле Кос.

**ГНАЯ´НКІ I** *мн. бат.* Шампіньёны. *Усе поле ад гнаянок белае.* Дубітава Міл.

**ГНАЯ´НКІ II** *мн.* Дошкі ў возе, калі возяць гной. *Замест драбінок у воз кладуць дошкі-гнаянкі.* Альшаніца Квас.

**ГНЁТ** *м.* 1. Груз для прыціскання чаго-н. *Камень пад гнёт ні просто знайсці, бо трэба круглы, пляскаты. Памятаю, аднаго гнёта ажні з-пад Ворлі нясла дахаты, за 5 км.* Альшаніца Квас. 2. Рубель. *На гнёт трэба ёлка: і*

*моцны, і лёгкі.* Альшаніца Квас.

**ГНІ́ДЫ** *мн. бат.* Свінакроп. *Гніды – зелье дробнянькае, белянькім цвіце, як макрыца, уецца.* Альшаніца Квас.

**ГНЭ́МБІЦЬ** *незак.* Душыць, мучыць, здзекавацца. *Хопіць гнэмбіць яе, колькі можно здзекі цярпець, звані ў міліцыю.* Заполле Кос. *Гнэмбіць цёшчу гэты зяць, ажні людзі заступаюцца.* Заполле Кос.

**ГНЯСЦІ́СЯ** *незак.* Тужыцца праз меру, напінацца. *Чаго ты адзін гняцешся з гэтым паленом? Давай памагу падняць.* Заполле Кос.

**ГО́ЙДАНКА** *ж.* Гушкалка. *Зрабіў дзецям гойданку, то ў хату цэлы дзень не заходзяць.* Аляксейкі Стайк.

**ГО́ЙДУШКА** *ж.* Тое ж, што і г о й д а н к а. *Мой бацько быў добры, гойдушку зрабіў для ўсіх дзяцей на нашом грудку.* Квасевічы Квас.

**ГО́ЛГІТКІ** *толькі мн.* Казытанне. *Хто баіцца **голгіткоў**, то, кажуць, той раўнівы.* Грыўда Міл.

**ГО́ЛКА** *ж.* Іголка. *Мне старой ужэ цяжко ў голку нітку засадзіць.* Гошчава Стайк.

**ГО́МАЗ** *м.* Гіз. *Такі гомаз, што кароў ледзьві на пашы ўтрымаў.* Аўсто Стайк.

**ГО́МЗІЦЬ** *незак. экспр.* Жміндзіць, бурчаць. *Гомзіць цэлы дзень, аж слухаць надакучыло: усё яму ні так…* Гладышы Міл.

**ГО́НІ** *мн. устар.* Мера даўжыні ў 120 крокаў. *Зграаў поле на двоя гоняў даўжынёю.* Заполле Кос.

**ГО́ПНУЦЦА** *зак. экспр.* Зваліцца, грымнуцца. *Заснуў ды гопнуўся з печы.* Боркі Падст.

**ГО́ПНУЦЬ** *зак.* Кінуць, бразнуць. *Падымі да гопні, каб адчапілася гэта слата.* Галынка Міл.

**ГО́РАЙ** *прысл.* Горш. *Яшчэ горай галава баліць, чым учоры.* Альшаніца Квас.

**ГО́РБА** *ж.* 1. Куча зямлі, наточаная кратамі. *Усю землю стачылі краты ў агародзі – адны горбы чарняць.* Була Міл. 2. Куча чаго-н. *Горбу буракоў нанасіла.* Галік Міл.

**ГО́РНАСЦЬ** *ж.* Жаль, сум. *Успомню нябожчыкоў бацькоў, то такая горнасць бярэ, не вытрымаць.* Заполле Кос.

**ГО́РШЧЫК** *м. памянш.* Гаршчок. *У маленькім горшчыку і кашка смачна. Так казалі людзі, калі чаго вобмаль.* Верашкі Квас.

**ГО́РЫН, ГО́РЫНЬ** *м.* Ніткі для вышывання. *Горын ні аблазіць. Ручнікі, вышытыя горыном, яркія, кідкія.* Бусяж Міл. *Горынь усё прадае баба з Бялавіч.* Скураты Квас.

**ГО́ЦАЦЬ** *незак.* Гайдаць, гушкаць. *Дзеці любяць, як іх гоцаюць, аж заходзяцца ад смеху.* Быч Стайк.

**ГРАБА́ЛКА** *ж.* Прылада для збірання ягад. *Я грабалкаю за дзень два вядры ягадназбіраю.* Альшаніца Квас.

**ГРАБЕ́ННІК** *м.* Грабельнік, грабец. *Кажуць так: на аднаго касца два грабенніка трэба.* Заполле Кос.

**ГРАБІНА́** *ж.* Грабовы лес. *Там нізко, адна грабіна.* Бялавічы Кос.

**ГРАБЯЛЬКІ́** *толькі мн.* Прыстасаванне да касы ў выглядзе чатырох драўляных зубоў. *Калі касою косяць жыто, то каб роўно клаўся пакос, прымацоўваюць да косся грабялькі.* Заполле Кос.

**ГРАБЛІ́СКО** *н.* Грабільна. *Грабліско бывае або лясковае, або яловае.* Квасевічы Квас.

**ГРАБЯНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Узяць, хапнуць. *Маня грошай грабянула за парасят.* Панкі Люб.

**ГРАДА́** *ж.* Прадаўгаватае ўзвышэнне на балоце, у лесе. *У лесі на баравой градзе адны баравікі растуць.* Заполле Кос. *З балота на граду сено выносілі.* Альшаніца Квас.

**ГРАДАБО́ВІЦА** *ж. рэліг.* Першая серада пасля Вялікадня. *На Градабовіцу на полі ні робяць, бо, кажуць, гром заб'е.* Альшаніца Квас.

**ГРАЗЮ́КА** *ж. павел.* Вялікая гразь. *Навальніца прайшла, то на гуліцы ног ні выцягнуць, гэдыка гразюка.* Халап'я Падст.

**ГРАКАТА́ЦЬ** *незак. безас.* Хрыпець. *Прастудзіўся, то як дыхаю, у грудзях гракоча.* Куляшы Міл.

**ГРАКАЦЕ́ЦЬ** *незак. безас.* Грукацець. *Прастудзіўся, возячы дрова, ажно ў грудзях гракаціць.* Заполле Кос.

**ГРА́КАЦЬ** *незак.* Стукаць, грукаць. *Не гракай, дай спокуй.* Мілейкі Міл.

**ГРАМА́ДЗІЦЬ** *незак.* Складваць сена ў копы. *Міл сено касіў, я за ім грамадзіла. Так пелася ў адной песні.* Заполле Кос.

**ГРАНЯ́** *ж. устар.* Мяжа, граніца. *Даўней граняю была дарога паміж панскімі і сялянскімі палеткамі.* Бусяж Міл.

**ГРАЦКО́ЎЕ** *н.* Грэцкая салома. *Грацкоўе сушылі і пакідалі на корм жывёлі.* Кушняры Падст.

**ГРАЦЬ** *незак.* 1. Іграць на якім-н. інструменце. *Мой дзед на скрыпцы ўмеў граць.* Лазаўцы Міл. 2. Іграць па заказу на святы, урачыстасці. *На вяселлі ў дачкі папрасілі граць сваяка.* Хадоркі Кос.

**ГРАЧА́НІСКО** *н.* Поле, дзе расла грэчка. *Грачаніско на вячэрнім сонцы агнём гарыць.* Мілейкі Міл.

**ГРАШО́ВА ГО́ЛКА** *ж.* Тое ж, што і в е л ь к а г о л к а. *Грашова голка з велькім вушком, ёю мяшкі шылі.* Старажоўшчына Кос.

**ГРУ́БКА** *ж.* Тое ж , што і г а л а н к а. *На кухні хлябовая печ, а ў пярэдняй – грубка. У ёй есці ні вараць, яна для абагрэву служыць.* Альшаніца Квас.

**ГРУД** *м.* Узгорак, высокае месца сярод балота. *На груду месцамі касілі, месцамі не, бо пападалі лысіны-пясчугі.* Альшаніца Квас.

**ГРУ́ДКА** *ж.* Кавалак, кусок чаго-н. *Не было грошай, узяла грудку масла, тры дзясяткі яец, занясла на базар, прадала. Цяпер я пані, з грашыма.* Міхнавічы Стайк.

**ГРУДО́К** *м.* Частка вёскі, якая адрозніваецца ад іншых яе частак (грудкоў!) прыроднымі асаблівасцямі і працягласцю сумеснага пражывання. *На нашом грудку адны старыя халасцякі жывуць.* Заполле Кос.

**ГРУЗА́ЛКІ** *мн.* Цвёрдыя камячкі бульбы ў стоўчанай бульбяной кашы. *Кумяк кепско стаўкла – адны грузалкі.*

Няхачава Стайк.

**ГРУЗІНА´** *ж.* Багна, твань. *На балоці такая грузіна была, што па пояс правальваліся, сено выносячы.* Альшаніца Квас.

**ГРЫ´ВА** *ж.* Трава, якая застаецца пасля кашэння; агрэх пры касьбе. *Пакасілі пайкі, яно грывы тырчаць. Вось якія зараз няўмелыя касцы.* Заполле Кос.

**ГРЫЗА´** *ж. экспр.* Сварка, грызня. *Цяжко мне з гэтым чалавеком жыць: кожны дзень грыза ў хаці.* Падстарынь Падст.

**ГРЫЗО´ТА** *ж.* Тое ж, што і грыза. *У гэтай хаці адна грызота: ні яна, ні ён адно аднаму не ўступяць.* Размеркі Стайк.

**ГРЫ´МАЦЬ** *незак.* Стукаць, грукаць. *Спаць лёг ужэ, але чую: нехто грымая мне ў акно.* Юкавічы Стайк.

**ГРЫ´ПА** *ж.* Грып. *На грыпу захварэла, шэсць дзён ляжала.* Скураты Квас.

**ГУ´ДЗІЦЬ** *незак.* Судзіць, абгаворваць. *Марыля нявестку ўсё гудзіць: гультай, нядбайліско.* Рацкевічы Міл.

**ГУЖА´ВАЕ** *прым.* Тое ж, што і вужавае. *Гужавае мясо, ні на мае зубы.* Квасевічы Квас.

**ГУЗЫ´Р** *м.* Тое ж, што і вузур. *Аб гузурэ ўсе рукі пакалола.* Альшаніца Квас.

**ГУК** *м. заал.* Кныр. *Суседка гука трымая, з усяго сяла свіней гоняць.* Руда Падст.

**ГУКА´ЦЬ** *незак.* Паляваць (пра свіней). *Свіня гукуя.* Сакоўцы Міл.

**ГУ´ЛАЧКА** *ж.* Завулак. *У горадзе пішуць завулак, а ў нас кажуць гулачка.* Заполле Кос.

**ГУ´ЛІ** *толькі мн. экспр.* Танцы, вечарынка, гулянне. *Мужык уваабраўся, як кавалер, і пайшоў на гулі, а ты сядзі адна з малымі дзецьмі.* Плехава Люб.

**ГУЛЫ´ГА** *ж.* Нараст, ненармальнае патаўшчэнне на якой-н. частцы арганізма. *Не ведаю прычыны, але нейкая гулыга пад лапаткаю вырасла ў хлопчыка.* Хрышчонавічы

Квас.

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак.* .Быць свабодным, незанятым. *У мяне хлеў гуляя: карову здала.* Хадоркі Кос. *За сялом цэлае поле гуляя: калхоз не паспеў да маразоў засеяць.* Альшаніцы Квас.

**ГУ́МНІСКО** *н.* Месца перад гумном, гумнішча. *Дбайныя гаспадары гумніско выбрукоўвалі.* Заполле Кос.

**ГУМО́ЎЦЫ** *толькі мн.* Жаночы гумовы абутак з кароткімі халяўкамі. *Купіла гумоўцы на абцасах, харошыя, спрытныя.* Юкавічы Стайк.

**ГУ́РА I** *ж.* Пад'ём у назе і абутку. *Купіў бацінкі ды ні падышлі: гура ў мяне высокая.* Любішчыцы Любішч. *У каго гура высокая, то абуўку таму цяжко падабраць.* Воля Жытл.

**ГУ́РА II** *ж.* Гурба. *За ноч гуры па плот намяло.* Ятвезь Квас.

**ГУРКАВЕ́ННЕ** *н.* Агурочнік. *Трэба гуркавенне спаліць, пасохло.* Яглевічы Ягл.

**ГУРО́К** *м.* Агурок. *Гурка свежанькаго з'еш.* Жытлін Жытл.

**ГУСІ́НАЯ ЛА́ПКА I** *ж. бат.* Дуброўка гусіная. *Гусіная лапка расце на мхах, у траве, цвіце жоўтым цветом.* Бялавічы Кос.

**ГУСІ́НАЯ ЛА́ПКА II** *ж. бат.* Гусялапка. *Гусінай лапкай лечаць печань, яна мачагонная.* Заполле Кос.

**ГУСТЭ́РА** *ж. заал.* Гусцяра. *Густэра пахожа на падлешчыка.* Корачын Жытл.

**ГУ́ЦАЦЬ** *незак.* Тое ж, што і г о ц а ц ь. *Бывало, бацько паставіць на ногу і гуцае малую Зінку.* Заполле Кос.

**ГУШЧЭ́РА** *ж.* Гушчар. *Пашла па грыбы, залезла ў такую гушчэру, думала, да вечара ні выйду.* Заполле Кос.

**ГЫН** *прысл.* Вунь, там. *Гын твае гусі, у падпаветцы.* Гічыцы Ягл. *Гын твае куры, у агародзі палошчуцца.* Квасевічы Квас.

**ГЭ́БЛІК** *м.* Гэбель. *Гэблік у мяне яшчэ бацькоў.* Заполле Кос.

**ГЭ́ДАК** *прысл.* Так, гэтак. *Гэдык ты ўвесь абуток збаёдаяш, калі будзяш кідаць, дзе папало.* Гошчава Стайк.

**ГЭ́ДУЛЬКІ** *прысл.* Стolькі. *Гэдулькі грыбоў у лесі: за сыраежкай лень нагнуцца.* Хадоркі Кос.

**ГЭ́ДАКІ** *займ.* Такі, гэтакі. *Гэдакі хлопяц разумны: радасць бацькам.* Квасевічы Квас.

**ГЭ́МБІЦЬ** *незак.* Здзекавацца, мучыць. *Гэмбяць простаго чалавека начальнікі, німа як жыць.* Заполле Кос.

**ГЭ́ТТА** *прысл.* Тут. *Да вайны гэтта наша хата стаяла.* Квасевічы Квас.

# Д

**ДАБА´ВОК** *м.* Дабаўка, прыбаўка; тое, што дабаўлена, прыбаўлена, падбаўлена. *Пайду дабавок касіць, падавалі, бо дзялку я ўжэ і зграбці паспеў.* Заполле Кос.

**ДАБІТНЫ´** *прым.* Прабіўны, бойкі, хваткі. *Дабітному трэба быць, а то з чаргі выпхнулі.* Заполле Кос.

**ДАБРА´ЦЬ** *зак.* Доўга падбіраць па нейкіх вызначаных стандартах. *Гэтых маладых як хто дабраў. Адзін аднаго вартыя: і як ростом, і як хараством.* Заполле Кос.

**ДАБРО´** *н. зб.* Пра ўсё, што мае матэрыяльную каштоўнасць. *Трэба плёнкаю салому ад дажджу накрыць, каб дабро ні прапало.* Альшаніца Квас. *Каля вады ходзячы намочышся, а каля дабра ходзячы пажывішся.* Заполле Кос.

**ДАБРУ´ТКІ** *прым.* Цэлы, дабраякасны. *Нехто боты выкінуў на сметнік, паглядзеў, а яны дабруткія, яшчэ можно было б насіць.* Заполле Кос.

**ДА´ВАНЫ** *дзеепрым. у знач. вык.* Дадзена. *Пайду, а то каровам ні давано.* Азярцо Падст.

**ДАГАНЯ´ЦЬ** *незак.* Папракаць. *Вось чалавек: зробіць табе дабро, а пасля даганяя.* Заполле Кос.

**ДАЖДЖАВІ´К** *м. бат.* Склерадэрма (порхаўка фальшывая). *Даждждавікі вырастаюць велькія.* Бялавічы Кос.

**ДАЖДЖЭ´ВІЦА** *ж.* Зацяжны дождж. *Дажджэвіцы гэтай канца краю німа: ужэ другі дзень дождж лье, ні сціхая.* Бялавічы Кос.

**ДАЙНІ´ЦА** *ж.* Даёнка. *З дайніцаю ішлі даіць карову. Гэто драўляная пасудзіна з адным вушком.* Жамайдзякі Міл.

**ДАКО´ПІНЫ** *мн.* Дакопкі. *У нас сёні дакопіны, ужэ буду па грыбы хадзіць.* Альба Квас.

**ДАКУ´МАНТ** *м.* Дакумент. *Даўней чалавек ніякіх дакумантаў ні меў, адно рабіў на зямле.* Ёдчыкі Квас.

**ДАКУМЕ́КАЦЬ** *зак.* Дадумаць, дапетрыць. *Жонка купіла сепаратара малако пераганяць, то ледзьві дакумекаў, шчо да чаго.* Аляксейкі Стайк.

**ДАЛЕ́ЦЕЦЬ** *зак. экспр.* Дабегчы, паспець. *На гэты раз і я далецела: такія файныя боцікі купіла.* Дубітава Міл.

**ДАЛІКА́ТНЕ** *прысл.* Асцярожна. *Далікатне трэба.* Заполле Кос.

**ДАЛІ́НКА** *ж.* Ямачка пад грудзьмі. *Мусі, нешчо кепскае з'ела: натто ў далінцы баліць.* Даргужы Міл.

**ДАЛЯ́Р** *м.* Долар. *Яе за даляры замуж узялі, а так – ссівела б.* Була Міл.

**ДАПАДНЫ́** *прым.* Прабіўны. *Добра, як у цябе мужык дападны, я сваім нідзе ні падапруся, як гнілое дзерава.* Заполле Кос.

**ДАРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Рабіць абы-што, вытвараць. *Сын перастаў слухаць бацькоў, дарабляе нівядома шчо.* Бусяж Міл.

**ДАРЭ́СЦІЦЬ** *зак.* Даламаць, дабіць. *Дарэсціў-такі лыжы, а на новыя грошай німа.* Бялавічы Стайк.

**ДАСТА́ЦЬ** *зак. перан.* Купіць. *Гэто зараз пачалі купляць, а нядаўно ўсё па блату даставалі.* Гошчава Стайк.

**ДАСЦІ́БНЫ** *прым.* Прабіўны, бойкі, хваткі. *Андрэй натто дасцібны: кругом ён першы, усюды дабяжыць.* Заполле Кос.

**ДАТО́КНУЦЬ** *зак.* Дабегчы, дапасці да чаго-небудзь. *Датокнула і я: цэлы кош маладзенькіх баравікоў ў Зелямоху нарэзала.* Альшаніца Квас.

**ДАТУЛІ́ЦЦА** *зак.* Дакрануцца, даткнуцца. *Датулілася да галавы, а ў яго гарачка.* Гладышы Міл.

**ДАТЫ́КІ** *мн. 1. ткац.* Палачкі, на якія прывязваюць аснову, каб даткаць яе канцы. *Да датыкоў чапляюць аснову.* Альшаніца Квас. 2. *ткац.* Канцы асновы, якія адразаюцца пасля датыкання кроснаў. *Трэба адрэзаць датыкі.* Заполле Кос.

**ДАЎБЕ́ШКА** *м. перан. груб.* Някемлівы чалавек. – *Але ж*

*і даўбешка ты. – Так, я яшчэ моцны чалавек.* Заполле Кос.

**ДАХАЛЕ́РЫ** *прысл.* Многа, шмат. *Гэтым летом дахалеры камароў было.* Альшаніца Квас.

**ДА́ЦЦА** *зак.* I. Натаміцца, абяссілець. *Нешчо я за гэту зіму зусім далася.* Гічыцы Ягл.

**ДА́ЦЦА** *зак.* II. Збяднець. *За вайну мы ўсе даліся.* Альшаніца Квас.

**ДАЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Дакрануцца. *Да цябе ні дачапіся, такая гордая.* Верашкі Квас.

**ДВАЙКО́** *зб. ліч.* Двое. *Яны яшчэ маладыя, ано двайко дзяцей.* Галік Міл.

**ДЖВА́ГНУЦЬ** *незак. экспр.* Стукнуць. *Так конь джвагнуў, аж зоры з вачэй пасыпаліся.* Галынка Міл.

**ДЗВІ́НУЦЬ** *зак.* Скрануць з месца, панясці. *Наклаў чамадан як дзвінуць, ледзь да поязда даняслі.* Гладышы Міл.

**ДЗВІ́ЦЦА** *незак.* Глядзець. *Дзвіся, Валя зноў да сябе некаго мужыка прыняла.* Харошча Міл. *Дзвіся, колькі грыбоў назбірала.* Зялёны Бор Стайк.

**ДЗЕВЯСІ́ДЛО** *н. бат.* Дзівасіл высокі. *Дзевясідло гадуюць у агародах, капаюць каране і п'юць ад печаней.* Заполле Кос.

**ДЗЕРАВІ́НА** *ж.* 1. Спілаванае і ацярэбленае дрэва. *У гэтай дзеравіне два кубы смело будзя.* Харошча Міл. 2. Ачэсанае ці апілаванае дрэва, брус. *Што за цесляры, што за цэлы дзень дзеравіну не прыпусцяць?!* Хадоркі Кос.

**ДЗЕ́РАВО** *н.* 1. Дрэва. *Добра пад дзеравом у цяньку пасядзець.* Хадоркі Кос. 2. Лесаматэрыял. *Дзерава з бору стрыжнёвае, смольнае.* Куляшы Квас. 3. Стрэмка. *Дзерава ў палец загнала.* Старажоўшчына Кос.

**ДЗЕРАВЯНЫ́** *прым. перан.* Цвёрды. *Гэто мясо дзеравяное: ніяк не ўварыш.* Стайкі Стайк.

**ДЗЕРАЎЛЯ́НЫ** *прым.* Драўляны. *Усё даўней было дзераўлянае: і ложкі, і міскі, і вёдра – усякае начынне.* Кушняры Падст.

**ДЗЕ́ЎКА** *ж.* Каханая дзяўчына. *У сына натто дзеўка*

*хароша, каб дай Бог хучэй жаніўся.* Сенькавічы Падст. *Дзеўкі ўсе харошыя, адкуль жонкі кепскія бяруцца.* Плехава Любішч.

**ДЗЁ́РНУЦЬ** *зак. экспр.* Драпануць, уцячы. *Напалохоў вартаўнік у садзе, ну мы і дзёрнулі.* Воля Жытл.

**ДЗІВАСІ́ДЛО** *н. тое ж, што і д з е в я с і д л о.* Дзівасіл. *Высокая расліна, лапушыстая, цвіце жоўтым цветом. Дзівасідло садзяць у агародах. Ім лечаць бранхіты, гастрыты.* Заполле Кос.

**ДЗІ́КАЯ МО́РКОЎ** *ж. бат.* Маркоўнік. *Дзікая моркоў падобная на свойскую, цвіце белым цветом, але, кажуць, ядавітая.* Заполле Кос.

**ДЗІ́КІ КАРА́СЬ** *м. заал.* Карась звычайны. *Карасі бываюць розных відоў, мясцовы карась называяцца дзікім карасём.* Размеркі Стайк.

**ДЗІ́КІ ЛА́НДЫШ** *м. бат.* Купена. *Корань дзікаго ландыша настойваюць на гарэлцы і націраюць паясніцу пры радзікуліці.* Альшаніца Квас.

**ДЗІ́Ч** *м.* Зарослы расліннасцю балоцісты лес. *У дзічы дзікі жыруюць.* Заполле Кос.

**ДЗЫ́ГАЦЬ** *незак.* Скакаць у даўжыню і вышыню. *Андрэй у нас спартсмен: ажно на пяць метроў дзыґнуў.* Сакоўцы Міл.

**ДЗЫГНА́ТЫ** *прым.* Высокі, танклявы. *Некі ты дзыґнаты натто, хопіць ужэ расці.* Размеркі Стайк. *У мае дачкі сын такі дзыґнаты, аж брыдко.* Панкі Люб.

**ДЗЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Саскочыць. *Дзыґнуў з вішні і зламаў ногу.* Заполле Кос.

**ДЗЫ́НДЗАЛЬ** *м. экспр.* Высокі чалавек. *Пятнаццаць гадоў усяго, а такі дзындзаль.* Квасевічы Квас.

**ДЗЮ́БА** *м. і ж. груб.* Чалавек з вялікім гарбатым носам. *Гэты дзюба заўсёды ўсё бачыць, што трэба, а што не.* Альшаніца Квас.

**ДЗЮЎЧА́ТА** *мн.* Дзяўчаты. *Дзюўчата, хадземця ў лес па ягады.* Альшаніца Квас.

**ДЗЯВУЛЯ´, ДЗЯЎЛЯ´** *ж. асудж.* Дарослая дзяўчына, якая паводзіць сябе не па ўзросту. *Дзявуля, за халодную воду не бярэцца.* Альшаніца Квас. *Дзяўля ўжэ, а ніц ні ўмея рабіць.* Ятвезь Квас. *Дзяўля, замуж збіраяшся, а жывеш у хаці за малое дзіця.* Альшаніца Квас.

**ДЗЯВЯ´ТУХА** *ж. рэліг.* Дзявяты тыдзень пасля Вялікадня. *На Дзявятуху ўжэ кожная дзявятая ягада паспявае, а на Ян нясі збан.* Альшаніца Квас.

**ДЗЯДКІ´** *мн. бат.* Рапейнічак. *Дзядкі да ўсяго чапляюцца.* Бялавічы Кос.

**ДЗЯДЫ´** *мн. бат.* Падарожнік вялікі. *Дзяды – від падарожніка, круглыя лісты, зверху калачык, шышка.* Заполле Кос.

**ДЗЯ´ЖЫЦЬ** *незак. экспр.* Біць папругай. *Дзяжыць цябе трэба за тое, што мацяру ні слухаяш.* Серадава Жытл.

**ДЗЯ´ЛКА**. *ж.* Участак сенажаці. *Сено на дзялкі падзялілі.* Заполле Кос.

**ДЗЯРЖА´ЦЬ** *незак.* Гадаваць, трымаць. *У мяне гаспадарка велькая: дзяржу дзве каровы, троя свіней.* Руда Падст.

**ДЗЯРНО´** *н.* 1. Дзёран. *У такім дзярне не вырасця бульба.* Заполле Кос. 2. *бат.* Пырнік. *Папавыцягвалі гэтае дзярно: ледзьві рады далі.* Быч Стайк.

**ДЗЯСЯ´ТКА** *ж.* Часовая ўкладка снапоў у полі; мэндаль. *Вяжаш снапы, а тады ставіш у дзясяткі.* Альшаніца Квас. *За дзень увішная жняя нажне капу снапоў – 6 дзясяткоў.* Заполле Кос.

**ДЗЯСЯ´ТУХА** *ж. рэліг.* Дзясяты тыдзень пасля Вялікадня. *На Дзясятуху, як і на Яна, усе людзі ў лес ідуць: паспелі суніцы, чарніцы, навет можно сарваць маліну спелую.* Заполле Кос.

**ДЗЯЎБСЦІ´** *незак. экспр.* Павучаць, вучыць. *Кожны дзень яму дзяўбу, каб кідоў курыць, але дзе там.* Рацкевічы Міл.

**ДЗЯ´ЎКАЦЬ** *незак. груб.* Гаварыць. *Памаўчы, ні дзяўкай, лепш за работу вазьміся.* Сакоўцы Міл.

**ДЗЯЎЧУ́К** *ж.* Дзяўчына-падлетак. *Надзіна дачка ўжэ добры дзяўчук, зара на вяселлі гуляць будзям.* Хрышчонавічы Квас.

**ДЗЯ́ЦЕЛІНА** *ж. бат.* Канюшына белая. *Па дзецеліні добра каравы ходзяць, і свіням яе рвуць.* Заполле Кос.

**ДО́ЛЯ** *ж. бат.* Купалка едкая. *Доля расце на папарах, кветачкі дробныя, бледна-ліловыя.* Бялавічы Кос.

**ДО́ННІК** *м. бат.* Баркун, доннік высокі. *Е доннік, шчо жоўтыя кветкі. Ведаю, што белы доннік даюць каровам, каб бегала.* Заполле Кос.

**ДО́НЯ** *ж.* Дачка. *Мяне маці любіла, усё ласкаво – доня ды доня.* Квасевічы Квас.

**ДО́ЎБЕНЬКА** *ж.этнагр.* 1. Кій з патаўшчэннем на адным канцы. *Доўбенькай заганялі завостраныя калы на агароджу.* Заполле Кос. 2. Дзіцячая гульня. *У гэтай гульні трэба было за найменшую колькасць удароў увагнаць у зямлю завостраны кіёчак. Білі па кіёчку доўбенькай.* Заполле Кос.

**ДРАБЕ́СТ** *м. этнагр.* Скручаныя бярозавыя ці лазовыя дубцы, якімі мацавалі латы да крокваў. *Добра трымаў драбест латы, ні горш за цвікі.* Заполле Кос.

**ДРАБЕ́СЦІНА** *ж. этнагр.* Жэрдка, якой прыціскаюць салому на страсе. *Пакладуць салому, па ёй драбесціну, а ужэ драбесціну да латаў прывязваюць драбестом – бярозавым скручаным дубцом.* Заполле Кос.

**ДРАВЯН́ОЕ** *н. устар.* Плата за дровы. *Даўней нарэжаш воз сухастою, пад'едзяш да лясніцтва і заплоціш, як казалі, дравяное.* Заполле Кос.

**ДРА́БЫ** *толькі мн.* Рэбры, касцяк. *Карова з зімы выйшла худая, адны драбы тырчаць.* Заполле Кос.

**ДРАМАНУ́ЦЬ** *незак.* Прыдрамаць. *Давай драманем, пакуль сонцо пячэ, а тады па халадку кончым дзялку касіць.* Юкавічы Стайк.

**ДРАНДА́КІ** *мн.* Недапечаныя, цеставатыя булкі хлеба. *Напякла драндакоў: не ўдаўся хлеб.* Альшаніца Квас.

**ДРАПА́Ч** *м.* Культыватар. *Пабарануюць, а зельячко возьмяцца, то драпачом паходзяць, на сонцы зелле пасохня.* Заполле Кос.

**ДРА́Ч** *м. 1. цясл.* Драчка. *Драчом правядзе па дзеравіні лініі, а тады выбіраюць драч, паз.* Заполле Кос. 2. *цясл.* Выемка ў верхнім бервяне, паз, які паўтарае абрысы ніжняга бервяна. *Сакерай трэба выбраць драч, бо інакш як прыпусціш верхнюю дзеравіну да ніжняй.* Заполле Кос.

**ДРАЧАВА́ЦЬ** *незак. цясл.* Выбіраць паз у бервяне. *Каб дзерава да дзерава добра прылягло ў зрубі, верхнюю дзеравіну драчуюць.* Заполле Кос.

**ДРО́МНЫ** *прым.* Дробны. *Гэты год бульба дромная, бо суш стаяла.* Альшаніца Квас.

**ДРУЖБА́НТ** *м. абрад.* Шафер у жаніха. *Я помню яе маладою, навет дружбантом на яе вяселлі быў.* Бялавічы Кос.

**ДРУЖЫ́НА** *ж. абрад.* Маладыя ўдзельнікі вяселля; дружкі. *Як мы жаніліся, то ў нас вялікая дружына была: у мяне пяць пар дружбантоў, у яе столькі ж.* Гошчава Стайк.

**ДРУЗА́ЛКІ** *мн.* Тое ж, што і г р у з а л к і. *Кепско стаўкла камяк, много друзалок.* Альшаніца Квас.

**ДРУ́К** *м.* Жэрдачка, невялікі кол, якім перагароджваюць дзверы. *Летом канюшню трымаюць пры адчыненых дзвярах, на друку.* Заполле Кос.

**ДРУ́ПАЦЬ** *незак.* 1. Есці, адшчыпваючы маленькія кусочкі ад нечага вялікага. *Еш добра хлеб, не друпай пальцамі.* Размеркі Стайк. 2. Выполваць поле да апошняй зялiначкі. *І хапая ў цябе цярпення так друпаць, гэто ж выпалала грады да апошняй зяліначкі.* Альшаніца Квас.

**ДРУСЛЯ́К** *м.* Друшляк. *Пакладзі клінок з сыром у друсляк, няхай сцякае сыроватка.* Альшаніца Квас.

**ДРУЧО́К** *м. памянш.* да д р у к. *Дручком з сярэдзіны хату закрываям.* Хадакі Жытл.

**ДРЫГЛЕ́** *толькі мн.* Дрыжыкі, ліхаманка. *Напіўся халоднай вады, то ажно дрыгле ўзялі.* Заполле Кос.

**ДРЫ́ГНУЦЬ** *незак. экспр.* Згінуць, прапасці. *Курыца дрыгнула, нечага наелася.* Азярцо Падст.

**ДРЫ́Н** *м.* Тоўстая палка. *Без дрына быка ў стойло ні зажанеш.* Боркі Падст.

**ДРЫ́ПАЦЬ** *незак. экспр.* Ступаць дробнымі крокамі. *Як вучыцца хадзіць дзіця, то кажуць, дрыпая.* Быч Стайк.

**ДРЫГВА́** *ж. кулін.* Студзень. *К Калядам дрыгвы навару, пірага спяку – вось і свята нам будзя.* Квасевічы Квас.

**ДРЭ́БАЛЫ** *толькі мн.* Ашмоцце. *Скідай гэту сукенку, адны дрэбалы засталіся.* Заполле Кос.

**ДРЭ́БЫ** *толькі мн.* Рэбры. *Карова захварэла, адны дрэбы тырчаць.* Заполле Кос.

**ДУБАЛЬТО́ЎКА** *ж.* Суконная хустка. *Дубальтоўка – вялікая суконная хустка.* Альшаніца Квас.

**ДУБАРЫ́НА** *ж.* Халоднае надвор'е з пранізлівым ветрам. *Дубарына, холад на дварэ.* Галік Міл.

**ДУБНЯЧО́К** *ж.* Невялікі малады дубовы лес. *У дубнячку баравікі натто растуць.* Заполле Кос.

**ДУБІНА́** *ж.* Дубовы лес. *Усю дубіну дзікі перарылі: жалуды шукалі.* Харошча Міл.

**ДУБЦЭ́** *мн.* Тонкія гібкія лазовыя пруты, якімі плятуць кошыкі. *Дубцэ распарыш, каб не ламаліся, а тады кошыкі пляцеш.* Заполле Кос.

**ДУБЭ́ЛЬТЫ** *толькі мн.* Двайныя аконныя рамы. *Як уставіш дубэльты, то ў хаці адразу пацяплея.* Ёдчыкі Квас.

**ДУ́ЛЯ** *ж.* 1. Ігруша. *Дуля гэтая старая, яе яшчэ дзед садзіў.* Скураты Квас. 2. Плады ігрушы. *Надто гэтыя дуле смачныя.* Хадоркі Кос. 3. *перан.* Закручаныя вузлом валасы на галаве жанчыны. *З-пад хусткі дуля тырчыць.* Була Міл.

**ДУ́ЦЦА** *незак.* Хадзіць, калыхацца (пра балота). *Крок ступіш па балоці, а кругом усё хадуном ходзіць, дуяцца.* Заполле Кос.

**ДУНДЗЕ́ЦЬ** *незак. 1. абразл.* Гаварыць пад нос, бубнець. *Гавары ясно, ні дундзі сабе пад нос.* Хрышчонавічы Квас.

2. Піць. *Цэлы дзень адно малако дундзіць, больш ні хоча нічого есці.* Хадоркі Кос.

**ДУНДУ́К** *м. груб.* Пусты, неразумны чалавек. *І як я жыву з такім дундуком, сама не ведаю.* г. Косава.

**ДУ́НУЦЬ** *зак. экспр.* Уцячы, схавацца. *Хацеў спытаць у злодзея, нашчо той бярэ мае дрова, убачыў мяне, то як дунуў, толькі кусты трашчалі.* Бялавічы Кос.

**ДУЎНЕ́Й** *прысл.* Даўней. *Як мне Мікалай Клемасоў казаў:" Дуўней много рабілі і кепско елі, а некія вясёлыя былі, у небо глядзелі, а зара мало робяць, добра ядуць, а ўсё панурыя, у землю глядзяць".* Заполле Кос.

**ДУ́Х** *м.* Цяпло. *Прыкрый комін, а то ўвесь дух выйдзя.* Корачын Жытл.

**ДЫМА́РЫК** *м. перан.* Дзіцячая шапачка. *Дымарык шылі дзецям, з адным рогам пасярэдзіне.* Альшаніца Квас.

**ДЫ́МКА** *ж.* Прадымленая цыбуля. *Цыбулю садзяць толькі дымкай, а то ў стралкі пайдзя.* Яблонка Жытл.

**ДЫМІ́ЦЬ** *незак.* Выграваць (пра цыбулю, бульбу). *Павесіла цыбулю на печ, хай дыміцца.* Быч Стайк.

**ДЫ́ХЛА** *мн.* 1. Сонечнае спляценне. *Як даўся дыхламі, ажно духі забіло.* Гічыцы Ягл. 2. *вет.* Падуздышша, упадзіны ў каровы каля клубоў. *Галодныя каровы з пашы прышлі: дыхла апалыя.* Хадакі Жытл.

**ДЫ́ХТ** *м.* Гонар. *У яго дыхту много, ні падступіцца.* Альшаніца Квас. *Дыхт, гонар маладому: пасе качкі каля дому.* Скураты Квас.

**ДЫХЦЕ́ЦЬ** *незак. экспр.* Дыхаць. *Дыхцець німа чым: такая парнасць.* Альшаніца Квас.

**ДЫ́ШАЛЬ** *м.* Падоўжаны брусок, прымацаваны да сярэдзіны падоска ў перадку пры парнай запрэжцы. Заполле Кос.

# Е

**Е** *форма цяпер. часу ўсіх асоб адз. і мн. ліку дзеяслова быць.* Ёсць. *Е сёні пенсія?* Заполле Кос.

**Е́ГДЗІЦЬ** *незак.* Ездзіць. *Егдзіў мой бацько ў Косаво, ровара купіў.* Лазаўцы Міл.

**ЕДЛАВЕ́Ц** *м. бат.* Ядловец. *Едлавец расце па зялёным мху.* Заполле Кос.

**Е́ЛДЫ** *мн. экспр.* Валасы. *Распусціла елды, як ведзьма. Прычашыся.* Альшаніца Квас.

**ЕЛІНА́** *ж.* Стары яловы лес. *Зайдзеш у еліну, цёмно, і трава ні расце там.* Заполле Кос.

**Е́ЛКІ** *прым.* Ёлкі. *Сало стало елкае, а пракапцілі едлаўцом, за малінку з'елі.* Альшаніца Квас.

**Е́СЦІСЯ** *незак. экспр.* Сварыцца. *Праз усё жыццё ядуцца – і не разыходзяцца.* Бялавічы Кос.

**ЕСЯНЁ́ВЫ** *прым.* Я'сеневы. *Есянёвыя лыжы моцныя.* Альшаніца Квас.

# Ё

**Ё́СЦЯКА** *форма цяпер. часу ўсіх асоб адз. і мн. ліку дзеяслова быць.* Ёсць. *Ёсцяка на свеці ўсякія цуды.* Бялавічы Кос.

**Ё́ЎЕ** *н. экспр.* Беспарадак. *Як у хаці ёўе, то і людзі прыйшлі.* Размеркі Стайк.

# Ж

**ЖА́БА** *ж. вет.* Хвароба кароў. *Возьме ды нешчо шкура прыстаня на хрыбце ў каровы, кажуць, жаба прыстала. То гэту жабу трэба выломваць, адцягваць скуру ад спіны рукамі. Раз так, другі, трэці – і хвароба адстае.* Альшаніца Квас.

**ЖА́БКА** *ж. перан.* Абцас. *Каб пяткі ў чаравіках ні сціраліся, прыбіваюць жалезныя жабкі.* Заполле Кос.

**ЖА́ДНЫ** 1. *у знач. выказ.* Мець патрэбу ў тым, чаго няма. *Людзі ў вайну былі жадны скарынцы хлеба.* Харошча Міл. 2. *у знач. займ.* Ніводзін, ніякі. *Ён без дроў сядзіць, жаднаго паленца німа.* Альба Квас.

**ЖАБУРЭ́ННЕ** *н. бат.* Раска. *Дзе слабо вада цячэ, там жабурэння много.* Азярцо Падст.

**ЖАЛАБІ́ЦЦА** *незак.* Карабаніцца, выгінацца (пра кару, дошкі). *Даўней і карой яловай хаты, прыбудовы крылі. Адна бяда: на сонцы пачынае кара жалабіцца.* Заполле Кос.

**ЖАЛАПА́ЦЬ** *незак.* Прагна піць. *Не жалапай халоднае вады, прастудзішся.* Халап'я Падст. *Не жалапай гэдулькі вады, бо лопняш.* Аляксейкі Стайк.

**ЖАЛЕ́ЗКО** *н.* Лязо нажа, гэбля, фуганка і пад. *Зрабі мне са старой пілы жалезко на нож.* Хадоркі Кос. *Жалезко ў гэбліку файнае, гострае, стружку бярэ – ні чутно пад рукамі.* Аўсто Стайк.

**ЖАЛЕ́ЗІНА** *ж. дзіц.* Асаблівым вобразам выгнутая тонкая труба ці арматура, якія служаць дзецям для коўзання па снезе, лёдзе. *Нацягаяшся, бывало, гэтай жалезіны, ажно рукі баляць.* Заполле Кос.

**ЖАЛЕ́ЗНЫ МАГАЗІ́Н** *м.* Гаспадарчы магазін. *У жалезном магазіне трэба купіць цвікоў: гарадзіцца думаю.* Старажоўшчына Кос.

**ЖАЛЯ́ЗКО** *н.* Тое ж, што і ж а л е з к о. *Не паляніся падтачваць жалязко ў гэбліку: лягчэй на рукі будзя.*

Квасевічы Квас.

**ЖАНО́ЧЫНА** *ж. экспр.* Жанчына. *Мой сын прывёз з Украіны жонку: харошая жаночына.* Боркі Падст.

**ЖА́РКІ** *прым.* Гарачы (пра дровы). *Бярозавыя дровы жаркія, маленько пален паложыш, а печ цэлыя суткі гарача.* Стайкі Стайк.

**ЖА́РНУЦЦА** *зак. экспр.* Ударыцца. *Як жарнуўся патыліцай аб лёд, аж у вачах цёмно стало.* Заполле Кос.

**ЖА́РЫЦЬ** *незак. экспр.* Біць, стукаць. *Ні з таго, ні з сяго падышоў да мяне ды як жарня пад вухо, я і скруціўся.* Заполле Кос.

**ЖАСМІ́Н** *м. бат.* Язмін. *Жасмін – мая любімая расліна. Надто люблю, як пахня.* Заполле Кос.

**ЖАЎНА́ТЫ** *прым.* Так скажуць пра таго, у каго валляк пад барадой. *Жаўната яна – пад барадой расце.* Заполле Кос.

**ЖАЎЦЮХА́** *ж. мед.* Жаўтуха. *Ад жаўцюхі даўней вошы ў хлеб пхалі і елі.* Була Міл.

**ЖАХАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Ярка гарэць, палаць, шугаць. *Усю ноч маланка жахацела.* Заполле Кос.

**ЖАХА́ЦЬ** *незак. экспр.* Бліскаць (пра маланку). *Маланка жахала ўсю ноч.* Скураты Квас.

**ЖА́ХНУЦЦА** *зак. экспр.* Стукнуцца, ляснуцца. *Жахнуўся галавою ў прушняк, аж у вачах сцямнело.* Сакоўцы Міл.

**ЖВІРО́ЎНЯ** *ж.* Кар'ер, з якога бралі жвір. *Жвіроўня ў нас ля Косаўскага лясніцтва.* Заполле Кос.

**ЖВЫР** *м.* Жвір. *Жвыру прывёз на тынкоўку.* Бусяж Міл.

**ЖМІ́НДА** *м. і ж.* 1. *пагард.* Скнара. *Мой пакойны свёкар быў добры жмінда, але працаваў, стараўся, каб усё ў дом, а не з дому.* Сенькавічы Падст. 2. Які любіць бурчаць, выказваць незадаволенасць. *Дзеткі, німа як жыць з вашым бацьком: такі жмінда стаў. Есць, як ржа жалезо. Шукайце яму рады.* Бялавічы Кос.

**ЖМІ́НДЗІЦЬ** *незак.* Выказваць незадавальненне, бурчаць. *Стары жміндзіць і жміндзіць. Сыну сорок гадоў*

*ужэ, а і той плача ад яго.* Руда Падст.

**ЖМУТ** *м.* I. Жменя, пук. *Сено не раскідай, бачыш, ляжыць жмут, падымі: вясна яшчэ далёко.* Заполле Кос.

**ЖМУТ** *м.* II. Скнара. *Такі жмут, нічого ў яго ні дапросішся.* Альшаніца Квас.

**ЖМЫХ** *м.* 1. Макуха. *Білі масло з сем'я льняного, з рыжыка, канапель, рапаку, і тыя выжымкі, лупавінне жмыхом называлі.* Заполле Кос. 2. Жамерыны. *Жмых – адыходы ад цукровых буракоў. Усё каравам калхозным давалі.* Рацкевічы Міл.

**ЖО́ЛУБ** *м.* 1. Жолаб. *Па жолубе сцякая вада.* Верашкі Квас. 2. Карыта. *Стаяў жолуб з вадою, там каней паілі.* Размеркі Стайк.

**ЖО́МРЫЦЬ** *незак. экспр.* Бурчаць, ныць. *Чаго ты жомрыш цэлы дзень? Ужэ слухаць сіл маіх німа.* Лазаўцы Міл.

**ЖУ́ЖАЛЬ** *м.* Сок з мякаццю. *Сок яблычыны паставіш на паліцу, як добра адстоіцца, то знізу жужаль збярэцца.* Заполле Кос.

**ЖУ́ЙКА** *толькі адз.* Жвачка. *Нешчо карова жуйкі ні жуе, каб ні захварэла.* Галік Міл.

**ЖУ́ЛІК** *м. перан.* Бутэлька гарэлкі ў 250 гр. *Даўней куплялі жуліка на двох. Вып'юць хлопцы і ўжэ п'яныя, а зараз паўлітры на аднаго мало.* Альшаніца Квас.

**ЖУ́ЛЬМАН** *м. экспр.* Жулік. *Гэты малы жульман так і стараецца падмануць бабу.* Падстарынь Падст.

**ЖУРАЎЛІ́НЫ** *мн.бат.* Журавіны. *Жураўліны – самая чыстая і здаровая ягада.* Галынка Міл.

**ЖЫБУ́РЫЦЬ** *незак. экспр.* Паціху есці. *Засталася дома, то цэлы дзень яно жыбурыць ды жыбурыць.* Размеркі Стайк.

**ЖЫВЫ́** *прым.* 1. Сапраўдны. *Пажыў на Палессі, прыехаў, то жывы паляшук, па-паляшуцкі гаворыць.* Гладышы Міл. 2. Халодны. *Жывы вецер па хаці ходзіць.* Гошчава Стайк.

**ЖЫ́ДКО** *прысл.* Рэзка. *Так жыдко жарыць гэтаго мяча:*

*з яго футбаліст добры будзя.* Заполле Кос.

**ЖЫДО́ВАЧНІК** *м. бат.* Лекавая расліна. *Жыдовачнік сушаць, хто на печані хварэе.* Заполле Кос.

**ЖЫЖА́ЛІ** *толькі мн.* Сухажылле пад каленам. *Дай яму па жыжалях, каб тры дні ў кутку плакаў, шкоднік гэты.* Заполле Кос.

**ЖЫ́ЖКА** *ж. 1. бат.* Жыгучка. *Жыжка пякучая, усё дзяцей малых палохаюць ёю.* Міхнавічы Стайк. 2. Вузенькая чырвоная стужачка, якую завязваюць на шыю жывёле. *Кажуць, каб урокаў жарабя ні баяласё, на шыю вешаюць жыжку.* Быч. Стайк. 3. *перан.* Рэзкая ў размове жанчына, вострая на язык. *Во, жыжка, ні дасць і аказацца.* Гошчава Стайк.

**ЖЫ́МРА, ЖЭ́МРА** *ж. і м. асудж.* Буркля. *Мая жонка такая жымра, што жыць німа як, запекая.* Заполле Кос.

**ЖЫ́МРЫЦЬ, ЖЭМРЫЦЬ** *незак.* Тое ж, што і ж о м р ы ц ь. *Сціхні, ні жымры, куплю табе новыя боты.* Заполле Кос. *Звяглівы чалавек усім нідавольны, усё жэмрыць і жэмрыць.* Размеркі Стайк.

**ЖЫРАВА́ЦЬ** *незак. асудж.* Несумленна нажыць багацце, дастатак. *Кладаўшчыком быў у калхозі, ужэ пяты год на пенсіі, але і зараз жыруя.* Заполле Кос.

**ЖЫРКІ́** *прым.* Непераборлівы ў ядзе. *Жыркая карова, што ні дай, з'есць.* Ёдчыкі Квас.

**ЖЫ́ПЕРНІК** *м. пагардл.* Скупы, сквапны чалавек. *Гэты жыпернік так ніц і не нажыў, а ўсё шкадаваў сабе: і паесці, і папіць, і адзець.* Заполле Кос.

**ЖЭРО́МСКІ** *м. насм.* Абжора. *Не ведаю, можа, дзе і жыў даўней Жэромскі, які много еў, але ў нас на абжору кажуць жэромскі.* Альшаніца Квас.

# З

**ЗАБАРО́ЦЬ** *зак.* Забадаць. *Цялушка мая маладзенькая, то каравы зусім забаролі.* Плехава Люб.

**ЗАБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Закалаціцца (пра сэрца). *Спалохалася сабакі, аж сэрцо забіласё.* Хрышчонавічы Квас. 2. *экспр.* Натаміцца. *Перад святамі забілася ў дошку, прыбіраючы ў хаці.* Панкі Люб.

**ЗАБІ́ЦЬ** *зак.* Застраміць. *Рвала зелля і ў паляц бадзяка забіла.* Юкавічы Стайк.

**ЗАБО́ЙНЯ** *ж. этнагр.* Бочка ў паўтара метра, куды ссыпалі збожжа. *Ссыпалі збожжа ў гэту забойню, а ў піліпаўскі пост некаторыя малако злівалі. Ужэ пасля посту елі тое малако.* Альшаніца Квас.

**ЗАБО́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Пашкоджаны хваробай (пра агародніну). *Пасля дажджу гэтаго ўсе памідоры заболены.* Заполле Кос.

**ЗАБО́РСАЦЬ, ЗАБЭ́РСАЦЬ** *зак.* Зашнураваць абутак. *Заборсай мне бацінкі, бо ні нагнуся.* Ятвезь Квас. *Забэрсай боты, а то шнуркі вылакуцца па зямле.* Азярцо Падст.

**ЗАБРАКАВА́ЦЬ** *зак.* 1. Зашкодзіць. *Буракі карові, мусіць, забракавалі.* Заполле Кос. 2. Мець пэўную колькасць; не хапаць. *Каб ні забракавало дошок на падлогу, трэба яшчэ купіць.* Воля Жытл.

**ЗАВАЛІ́НА** *м. і ж. груб.* Лодыр, гультай. *Добрая заваліна, яе замест шулы ў плот трэба паставіць.* Заполле Кос.

**ЗАВА́ЛЬНЫ** *прым.* Снежны (пра зіму). *Такія завальныя зімы былі, што рукамі правады ад тэлеграфных слупоў даставалі.* Заполле Кос.

**ЗАВЕ́ЛЬКІ** *прым.* Велікаваты. *Купіла спраўныя боцікі, ды завелькія мне.* Заполле Кос.

**ЗАВІНУ́ЦЦА, ЗАВІНУ́ЦЬ** *зак.* Захацець. *Прывязлі ўнука, ноч пераначаваў да як завінуўся дахаты, мусіла вязці.* Альба Квас. *Завінуў хлопяц вудачку дарагую: трэба*

*купіць.* Харошча Міл.

**ЗАВІ́ЎКА** *ж. абрад.* Залом у жыце. *Мая баба ўмела завіўкі развіваць, замову ведала.* Альшаніца Квас.

**ЗАВО́Д** *м.* Парода, радавод, якія праз многія пакаленні прадвызначаюць праяўленне пэўных здольнасцей, таленту. *Мізюкі ўсе музыканты, бо такі іх завод.* Заполле Кос.

**ЗАВУ́ШЫНА** *ж. буд.* Выемка, прарэз у верхняй частцы кроквы. *У адной крокві завушына, а ў другой паляц. Паляц устаўляяцца ў завушыну.* Заполле Кос.

**ЗАВЫСО́КІ** *прым.* Высакаваты. *Яна малая, а жаніх завысокі для яе.* Халап'я Падст.

**ЗАГАГУ́ЛІНА** *ж.* Няўмелае пісанне. *Яшчэ ў школу ні ходзіць, а ўсё некія загагуліны малюя.* Хадоркі Кос.

**ЗАГАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Намерыцца, захацець. *Загануў паехаць у горад, кажа, вучыцца хачу.* Аляксейкі Стайк. 2. Загадаць загадку. *Баба заганула загадку, а адгадку ні хоча сказаць, нешчо ўсё смяецца.* Старажоўшчына Кос.

**ЗА́ГАРЭВО** *н. мед.* Радзімая пляма на целе чалавека. *Кажуць, калі цяжарная жанчына спалохаяцца пажару і дачэпіцца рукамі да твару, то на тым месці ў дзіцяці загарэво будзя.* Стайкі Стайк. 2. Зарава. *Недзі пажар, яго ні відаць, толькі на небі загарэво.* Заполле Кос.

**ЗАГАРЭ́ЦЦА** *зак.* Стаць гарачым ад сырасці (пра сена, салому). *Усё сырое: і сено, і салома, і трава ў пакосах – загарыцца, калі паляжыць яшчэ.* Скураты Квас. *Сено ні дасохло, склалі ў стажок, а яно загарэласё.* Заполле Кос.

**ЗАГНУ́ЦЦА** *зак.* Сагнуцца. *Загнуўся, а адагнуцца ні магу: бяда з маёй спіною.* Гошчава Стайк.

**ЗАГНЭ́МБІЦЬ** *зак.* Замучыць, звесці са свету. *Загнэмбіў Васіль сваю жонку, без пары на той свет пайшла.* Альшаніца Квас.

**ЗАГРУ́БЫ** *прым.* Таўставаты. *Загрубы чаранок у лапаці, рукі ні трымаюць, не да рук.* Аўсто Стайк.

**ЗАДЗЁ́РЫ** *мн.* Завусеніцы на пальцах. *Кажуць, задзёры*

*на пальцах у таго, хто на траскі сцыць.* Сакоўцы Міл. *Задзёроў назадзірала, картоплі насыпаючы.* Бараны Ягл.

**ЗАДО́К** *м.* Задняя частка калёс, саней і пад. *Гэту калодку давай на задок закоцім, так будзя лягчэй і лепш.* Заполле Кос.

**ЗАДЫ́** *мн.* Месца адразу за прысядзібнымі ўчасткамі. *Даўней на задах цялят прыбівалі.* Заполле Кос.

**ЗАЕКАТА́ЦЬ** *зак.* Заенчыць, забрахаць (пра сабаку). *Нехто чужы ідзе ў хату: сабака заекатаў.* Руда Падст.

**ЗАЖЫ́ТАЧНІКІ** *мн.* Нашчадкі тых людзей, якія заснавалі пасяленне. *Гэтую частку сяла і людзей, якія там жывуць, і да гэтаго часу называюць зажытачнікамі.* Заполле Кос.

**ЗАЖЫ́ЦЬ** *незак.* Заснаваць, засяліць. *Кожную восянь, як капаям бульбу, знаходзім на агародзі старыя капейкі. Нездарма яшчэ бацько мой казаў, што гэтта тут зажылі сяло.* Заполле Кос.

**ЗАЗРО́НЫ** *прым.* Зайздросны. *Але і зазроны ты! Нездарма кажуць: вочы яма – дна німа.* Рацкевічы Міл.

**ЗАЗУ́ЛІНЫ РУЧНІКІ** *мн. бат.* Ятрышнік. *Раней казалі, што ад зазуліных ручнікоў карова малака не дае.* Бялавічы Кос.

**ЗАЗУ́ЛЯ** *ж. заал.* Зязюля. *Калі зазуля закукуя першы раз, глядзяць, ці грошы ў кішэні е: калі е, будзяш круглы год з грашыма.* Бусяж Міл.

**ЗАЙГРА́НЫ** *прым.* Апладнены. *Як паглядзіш на яйцо проці сонца, то ўбачыш зайграно ці не.* Альшаніца Квас. *Пятнаццаць яец пад курыцу паклала, пятнаццаць куранят вышло, значыць, усе зайграныя былі.* Сенькавічы Падст.

**ЗА́ЙМІСКО** *н.* Мясціна, адкуль пайшоў род. *Ля, у Ігната шасцёро дзяцей было, а зараз займіско пустуя.* Скураты Квас.

**ЗАЙНЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Запоўніць чым-н. *Зайняла вядро грыбамі, а цяпер прыдзецца апаражніць.* Альшаніца Квас.

2. Сперці дыханне. *Такі мароз, ажно духі зайняло.* Заполле Кос.

**ЗАКАВЫ́РКА** *ж.* Закавыка. *Закавырка вышла: табе пераплацілі пенсію за гэты месяц.* Размеркі Стайк.

**ЗАКА́ЛЕЦ** *м.* Сыры, непрапечаны слой у хлебе над ніжняй скарынкай. *Хлеб ні вырас, а асеў на скарынку. Кажуць, закалец на палец.* Альшаніца Квас.

**ЗАКАТУ́ЛОК** *м.* 1. Месца паміж печкай і сцяной. *У закатулку цыбуля вісіць, дыміцца.* Быч Стайк. 2. Часовае збудаванне. *Закатулкоў панабудоўвоў, і ўсе нечым заваляныя.* Заполле Кос.

**ЗАКАЎГА́НІЦЬ** *зак.* Вымазаць, запэцкаць. *Закаўганіла ўсю сукенку мая дзеўка.* Плехава Люб.

**ЗАКВЕ́ЧВАЦЬ** *незак.* Упрыгожваць кветкамі. *Як зажынаюць, то першаго снапа ставяць асобно, заквечваюць кветкамі. А на дажынках, на апошні сноп вешалі вяночка, няслі ў хату і ставілі на покуць.* Альшаніца Квас.

**ЗАКА́ХАЦЦА** *зак.* Закашляцца, задыхацца. *Прабегся да аўтобуса, ажно закахаўся.* Падстарынь Падст.

**ЗАКЕ́ЛЗАЦЬ** *зак.* Зацугліць, закілзаць. *Закелзай каня, а то панясе.* Няхачава Стайк.

**ЗАКЕ́ЎЗАЦЬ** *зак.* Тое ж, што і з а к а ў г а н і ц ь. *Дзеці закеўзалі ўсяго стала.* Верашкі Квас.

**ЗАКІДА́ЦЬ** *незак.* Ужываць у гаворцы словы з іншай мовы. *Бач, пабыла тыдзень у горадзі ды ўжэ па-рускі закідая.* Заполле Кос.

**ЗАКІДУ́ШКА** *ж. рыб.* Від вуды для лоўлі з дна. *Донка – закідушка.* Размеркі Стайк.

**ЗАКЛЁ́КНУЦЬ, ЗАКЛЯ́КНУЦЬ** *зак.* Анямець, здранцвець (пра ногі). *На возі ехала, злезла, а ног ні чую: заклёклі, ні ступлю, як ні мае, як чужыя.* Міхнавічы Стайк. *Ехалі ўпрысядкі на прычэпі, ажно ногі закляклі.* Галік Міл.

**ЗА́КЛО** *н.* Закутак пры балоце, лузе, сенажаці. *Е вялікае балото, а пры ім малое – гэто закло.* Заполле Кос.

**ЗАКЛЫМБАВА́ЦЬ** *зак.* Прывязаць, замацаваць паклажу на возе, санках пры дапамозе рычага-вагі. *Наклаў дроў, заклымбаваў і паехоў.* Заполле Кос.

**ЗАКУ́ТНІК** *м.* Дамасед. *Мой мужык закутнік, увесь час пры мне, на вачах.* Мілейкі Міл.

**ЗАЛАВІ́ЦА, ЗАЛУВІ́ЦА** *ж.* Залоўка. *Папаплакала я ад свекрыві і залавіцы, пакуль ні аддзяліліся і ні пайшлі ў сваю хату жыць.* Грыўда Міл. *З залувіцай мы добра жылі, яна ні вышла замуж, то з намі жыла.* Лазаўцы Міл.

**ЗАЛАТА́РНІК** *м. бат.* Сумнік звычайны, залатая розга. *Залатарнік высокі, як цвіце, то ўвесь залацісты, жоўты, яркі. Заполле Кос.*

**ЗАЛІМО́НІЦЬ** *зак. экспр.* Стукнуць, пляснуць. *Ад'еў усю душу, во зараз як залімоню па мухаедах, то хутко адстаняш.* Даргужы Міл.

**ЗАЛО́ЖНЫ** *прым.* Цягавіты, вынослівы (пра каня). *Хоць малы конік у Хведара, але заложны.* Заполле Кос.

**ЗАЛЯГА́ЦЦА** *незак.* Смяяцца, заходзіцца ад смеху. *Бач, аж залягаяцца ад смеху.* Дубітава Міл.

**ЗАМАЛЫ́** *прым. памянш.* Зусім малы. *Замалыя мне боты, а шкада, надто ж зграбныя.* Альшаніца Квас.

**ЗАМАНУ́ЦЦА** *зак.* Зайсці да некага на пачастунак, выдумаўшы зусім нявартасную прычыну прыходу. *Захацеў папасці да суседа на свежыну, то замануўся сакеру пазычыць.* Заполле Кос.

**ЗАМАНУ́ЦЬ** *зак.* Завабіць. *Замануў дзіця ў лес і пакінуў, добра што леснікі знайшлі.* Жамайдзякі Міл.

**ЗАМЕ́ЖОК** *м.* Узмежак. *На замежку траву свіням рвем.* Заполле Кос.

**ЗАМО́РОК** *м.* Яйцо, з якога не выйшла куранё. *Адны заморкі аказаліся, курыца перапаліла яйца, бо сядзела, не злазіла.* Альшаніца Квас.

**ЗАМУДО́ХАЦЦА** *зак. экспр.* Стаміцца, замучыцца. *Летом за дзень як замудохаяшся, то німа сіл да ложка дайсці.* Плехава Люб.

**ЗАМУ́ЛЯНЫ** *дзеепрым.* Намулены. *Конь у цябе замуляны, яго ў пастронкі ні запражэш.* Заполле Кос.

**ЗАМУ́ЛІНЫ** *мн.* Раны, пашкоджанні на шыі ў каня ад хамута. *Калі хамут ні па шыі каню, большы альбо меншы, во тады замуліны і паяўляюцца.* Заполле Кос.

**ЗАМЭ́НЧЫЦЦА** *зак.* Тое ж, што і з а м у д о х а ц ц а. *Пакуль вярнулася з ягад, замэнчылася.* Бялавічы Кос.

**ЗАНА́ДЗІЦЦА** *зак.* Унадзіцца, панадзіцца. *Занадзіўся шуляк курэй хватаць, то чартапалохі паразвешвала кругом.* Хрышчонавічы Квас.

**ЗАНЯГО́ДЗІЦЦА** *безас. зак.* Задажджыцца. *Пара сено грабсці, а тут занягодзіласё.* Заполле Кос.

**ЗАПАДА́ЦЬ** *незак.* Хварэць. *Ездзіў у млын мой чалавек, прастудзіўся моцно, нешчо пасля гэтаго стаў часто западаць.* Ятвезь Квас.

**ЗАПА́ЛОК** *м.* Запалка. *Бало, мой свёкар з аднаго запалка печку падпальвоў.* Яблонка Жытл.

**ЗАПАНЧЛІ́ВЫ** *прым.* Запальчывы, упарты. *Мая жонка такая запанчлівая, за мной па тры месяцы ні гаворыць.* Заполле Кос.

**ЗАПА́МЯТАВАЦЬ** *зак.* Забыць. *Паклала недзі грошы і запамятавала.* Зыбайлы Жытл.

**ЗАПАСНО́Е** *н. этнагр.* Ежа, якую давалі пастуху ў першы выган кароў на пашу; пачастунак. *У першы дзень, як выжануць каравы, даюць пастуху запасное – яйца, сала, пірог.* Юкавічы Стайк.

**ЗАПАТЫ́ЛОК** *м.* 1. Клінок, якім мацуюць касу да косся. *Трэба, каб запатылок быў моцны, дубовы.* Сярадава Жытл. 2. Патыліца. *Пасклізнуўся, упаў запатылком, то доўго галава балела.* Альшаніца Квас.

**ЗАПЛА́ВІЦЬ** *зак.* Заліць кроўю. *З носа кроў зарвало, то ўсю хату кроўю заплавіла.* Заполле Кос.

**ЗА́ПЛІСКА** *ж.* Дубец. *Як пацягну заплііскай па плечах, то выпруцішся, неслух такі.* Гошчава Стайк.

**ЗАПЛЫ́ТКО** *прысл.* Мелка. *Заплытко картоплі*

*пасадзілі, пабаранавалі, то ўсе навярху.* Галік Міл.

**ЗАПРА́ВА** *ж.* Звычай, абрад. *У Квасевічах на вяселлях у "цыганы" перадзяюцца, а ў нас, у Заполлі, ужэ німа таго, у нас заправа другая.* Заполле Кос.

**ЗА́РА** *прысл.* Зараз. *Мамо, схаджу да цёткі, доўго ні буду, зара прыду.* Альшаніца Квас.

**ЗАРА́ННЯ** *прысл.* Рана. *У сяле зарання ўстаюць.* Верашкі Квас.

**ЗАРЭ́КАЦЦА** *незак.* Даваць клятву, зарок ні рабіць што-н. *Пасварылася была з зяцём, зарэкалася – не пераступлю парог яго хаты, ды дзе там, пайшла, унукоў хочу паглядзець.* Хрышчонавічы Квас.

**ЗАСЕ́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Апладнены (пра яйцо). *Гэтыя яйца ні бяры, яны заседжаныя.* Гладышы Міл.

**ЗАСЛА́БКО** *прысл.* Слабкавата. *Заслабко воза ўвязалі, каб хоць сено прывязлі дахаты.* Грыўда Міл.

**ЗА́СМАРГА** *ж.* Пятля, зашмарга. *Зрабі засмаргу, лягчэй развязваць шнурок будзя.* Ёлкі Ягл.

**ЗА́СТАЦЬ** *незак.* Засланяць, загараджваць святло. *Не застуй, адыдзіся ад акна.* Гошчава Стайк.

**ЗАСУКА́ЦЬ** *зак.* Закасаць. *Засучы рукава, а то намочыш.* Була Міл.

**ЗАТАНУ́ЦЬ** *зак.* Прапасці, згінуць. *Затані ты са сваім бердом, я ў другіх пазычу.* Куляшы Міл.

**ЗАТАРЭ́НЧЫЦЬ** *зак. экспр.* Занесці. *Захварэла была, то лячыць ні схацелі, пакуль торбу прысмакоў ні затарэнчыла.* Грыўда Міл.

**ЗАТНУ́ЦЦА** *зак.* Упарта стаяць на сваім, хоць і няправільным рашэнні. *Як затнецца, то хоць кол на галаве чашы, на сваём стаяць будзя.* Дубітава Міл.

**ЗАТУ́КАЦЬ** *зак. дзіц.* Знайсці і паведаміць аб гэтым стуканнем. *Я цябе затукала, можаш ні хавацца.* Заполле Кос.

**ЗАТО́ЎСТЫ** *прым.* Тоўсты звыш меры. *Рука затоўстая, у слоік ні лезя.* Харошча Міл.

**ЗАТРУСІ´ЦЬ** *зак.* Зацерусіць (пра снег). *Зіма блізко, снег ужэ поле затрусіў.* Старажоўшчына Кос.

**ЗА´ТУЎКА** *ж.* Затаўка. *Варыла капусту з затуўкаю, натто мой гаспадар любіць.* Альшаніца Квас.

**ЗАЎЗЕ´НТЫ** *прым.* Заядлы, заўзяты. *Харошы хлопяц і да работы заўзенты.* Сакоўцы Міл.

**ЗА´ЎША** *прысл.* Заўсёды. *Мой Іван заўша сам упраўляяцца па гаспадарцы.* Бялавічы Кос.

**ЗАХАДЗІ´ЦЬ** *незак.* Нервавацца, злаваць. *Чаго ты гэдак захадзіла, хто на цябе што кажа.* Галынка Міл.

**ЗАХАЛАДНО´** *прысл.* Вельмі холадна. *Мне з маім здароўем захаладно ў гэтом пальце.* Гошчава Стайк.

**ЗАХАЛО´ДАЦЬ** *зак.* Стаць халодным, застыць. *Дрыгва захалодала, ужэ можно есці.* Грыўда Міл.

**ЗАЦЕ´НЛІВЫ** *прым.* Упарты, наравісты. *Такі конь быў заценлівы, што курача пад хвост саджалі.* Быч Стайк.

**ЗАЦЕ´РКА** *ж.* Зацірка. *На вячэру зацерку вару з малаком.* Заполле Кос.

**ЗАЦІ´НГЛІВЫ** *прым.* Тое ж, што і з а ц е н л і в ы. *Каня купіў, ды такі зацінглівы, ні ведаю, што і рабіць.* Квасевічы Квас.

**ЗАЦІ´РАЧ** *м. стал.* Бондарская прылада, якой робяць выразы ў клёпках для ўстаўкі дна. *Зацірач у бондара гостры, уторы павінны быць акуратныя.* Заполле Кос.

**ЗАЦЯГНУ´ЦЬ** *зак.* 1. Завезці. *Зацягнуў дочку зяць на край свету ў чужыя людзі.* Размеркі Стайк. 2. Скрывіць, пакласці сена, салому ў стозе пры адным баку. *Стажка зацягнуў, каб бурай ні паваліло.* Ёдчыкі Квас.

**ЗАЦЯЛЕ´МКАЦЬ** *зак. экспр.* Дайсці, дацягнуцца. *Я яшчэ паціху зацялемкаю ў цэркоў, бо хочацца.* Хрышчонавічы Квас.

**ЗАШО´РХНУЦЬ** *зак.* Зашэрхнуць. *Слава Богу, зямля зашорхла, цвярдзей пад нагамі будзя.* Скураты Квас.

**ЗАШЫКАТА´ЦЬ** *зак.* Разнесці рэха. *Гром як ляснуў, то лес зашумеў увесь, зашыкатаў.* Заполле Кос.

**ЗАШЫРО́КІ** *прым.* Занадта шырокі. *Зашырокія дзверы зрабіў у хату. Як у хлеў.* Бараны Ягл.

**ЗАЯГЛІ́ЦЦА** *зак.* Патаміцца. *Пайшлі па брусніцы, ды натто далёко. Назбіралі многа. Дахаты прыйшлі, як сцямнело, сіл ні было ўжэ, заягліліся.* Альшаніца Квас.

**ЗАЯДА́ЦЬ** *незак. экспр.* Папракаць, не даваць жыцця. *Бало, маці ажно заядала, чаму замуж ні іду.* Заполле Кос.

**ЗА́ЯДЗЬ** *ж. мед.* Хвароба губ. *У кутках, дзе сходзяцца губы, з'яўляюцца чырвоныя балячкі. На іх кажуць заядзі.* Заполле Кос.

**ЗА́ЯЧА КАПУ́СТА** *ж. бат.* Кісліца. *Прыемна ў лесе паласавацца заячай капустай.* Альшаніца Квас.

**ЗА́ЯЧЫ ГРЫБ** *м. бат.* Заячы баравік, махавік зялёны. *Заячы грыб смачны ў квасі.* Заполле Кос.

**ЗА́ЯЧЫ ШЧАВЕ́Й** *м. бат.* Тое ж, што і з а я ч а к а п у с т а. *Вясной пастушкі рвуць заячы шчавей, смачны, кісляанькі.* Заполле Кос.

**ЗБАБЭ́НЧЫЦЬ** *зак. экспр.* Уздуць. *Пасолі гэдык наелася, што ажно жывата збабэнчыло.* Альшаніца Квас.

**ЗБА́ЙКІ** *мн. ткац.* Кліны, якімі мацуюць кросны. *Збайкі добрыя грабовыя, моцныя, доўго служаць.* Сярадава Жытл.

**ЗБАЛВАНЕ́ЦЬ** *зак.* Сплакацца, змучыцца з плачу. *Збалванело з плачу дзіця: ні ўзялі з сабой па ягады.* Яглевічы Ягл.

**ЗБАХАНЕ́РЫЦЬ** *зак. экспр.* Адлупцаваць, аддубасіць. *На музыках гэтык чужых хлопцоў збаханерылі, што міліцыя прыязджала.* Заполле Кос.

**ЗБЕ́ГЧЫСЯ** *зак. груб.* Пажаніцца. *Ніхто ні думаў, што яны збягуцца і будуць жыць.* Гладышы Міл.

**ЗБІ́ЦЦА** *зак.* Узбіцца, прыдбаць. *Збіўся і я на добрага коніка: хоць стары я ўжо, а буду трымаць.* Квасевічы Квас.

**ЗБО́ВІЧЫ** *мн.* Тое ж, што і з б а й к і. *Збовічы мацуюць варштат.* Сакоўцы Міл.

**ЗБО́РНЯ** *н. зб.* Зборышча. *У Андрэя век была зборня.* Бусяж Міл.

**ЗБО'РНЫ** *прым.* Ашчадны, беражлівы. *Максім – чалавек зборны, лішнюю капейку не патраціць.* Заполле Кос.

**ЗБО'РЫСКО** *н.* Тое ж, што і з б о р н я. *На майдане каля клуба вечне было зборыско.* Заполле Кос.

**ЗБРО'ІЦЬ** *зак.* Вымачыць, выпацкаць. *Грыбоў ні знайшоў, а зброіў абуток у такую дажджэвіцу.* Заполле Кос.

**ЗБРУСЯНЕ'ЦЬ** *зак.* Зацвярдзець, стаць тугім. *Збрусянело ў каровы вымя, можа, цяля адтаўчэ, ці трэба рады якое шукаць.* Сакоўцы Міл.

**ЗБРЫ'ДЗІЦЬ** *зак.* Ашальмаваць, зганьбіць. *Ні за што мяне збрыдзіла, зганіла, а ўчоры прыйшла сіто пазычыць.* Верашкі Квас.

**ЗБУХТО'ВАНЫ** *дзеепрым.* Круглая піла, у якой парушана цэнтрычнасць. *На збухтованой піле рызыкоўно рэзаць дрова.* Заполле Кос.

**ЗБУ'ТЛЕЦЬ** *зак.* 1. Збуцвець. *Нікому зараз тканне ні трэба. Маладыя ўсім купленым засцілаюць. Але ж шкада работы свае, збутляя, у сундуку лежачы.* Стайк Стайк. 2. Струхлець, спарахнець. *Спарахнело, збутляло дзерава лежачы.* Заполле Кос. 3. *перан.* Не пайсці замуж. *Такіх злых, як Анюта, замуж ні бяруць, пабачыця, у дзеўках збутляя.* Альшаніца Квас.

**ЗБЫТКАВА'ЦЬ** *незак.* Здзекавацца, мучыць. *Ні збыткуй са старого, сам такім будзяш.* Галенчыцы Ягл. *Ні збыткуй з ката, ні можно.* Ятвезь Квас.

**ЗБЫ'ТКІ** *толькі мн.* Здзекі, насмешкі, кпіны. *Ты з мяне жывыя збыткі творыш.* Заполле Кос. *Гэто каб жанчына збыткі тварыла над мужчынай, хто такоя помніць.* Хрышчонавічы Квас.

**ЗБЯРЛІ'ВЫ** *прым.* Ашчадны, эканомны. *Старэйшы сын у мяне шахрай, а меншы – збярлівы, капейку на абы-што ні патраціць.* Альшаніца Квас.

**ЗВАЛКАВА'ЦЬ** *зак. экспр.* Набіць. *Заступілі ў цёмном месці чужынцы, звалкавалі майго таварыша на горкі яблык.* Заполле Кос.

**ЗВАНЧА́К** *м.* Частка кола. *Са званчакоў складаюць кола.* Заполле Кос.

**ЗВАНЯ́РНЯ** *ж. рэліг.* Званіца. *У нас даўней на званярні сасонка расла, але малая, марная.* Бялавічы Кос.

**ЗВІ́ННЫ** *прым.* Рухавы, хуткі. *Звінны чалавек, у яго руках усё гарыць, за шчо ні возьмяцца.* Заполле Кос.

**ЗВО́ДЫ** *толькі мн.* Перамовы, на якіх, мяркуюць, будзе знойдзена ісціна. *Не рабі зводоў, сама плётак нарабіла, а зараз вінаватых шукаяш.* Хадакі Жытл.

**ЗГА́ДЗІЦЬ** *зак.* Зганьбіць, ашальмаваць. *Згадзіла, змяшала з граззю мяне нявестка.* Старажоўшчына Кос.

**ЗГА́МТАЦЬ** *зак.* Пакамячыць. *Згамтала сукенку, трэба ісці прасаваць.* Азярцо Падст.

**ЗГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Змятаць. *Веяш збожжа, а згоніны, амеціны ляцяць, то іх мятлой зганяяш.* Альшаніца Квас.

**ЗГА́РАЛІК** *м.* Прыгарэлая бульбіна. *Згаралікі паскрабу і ем, я люблю іх.* Харошча Міл.

**ЗГАРА́НЫ** *дзеепрым.* Узараны. *Палеток згараны, цяжко будзя да лесу дайці.* Альшаніцы Квас.

**ЗГАРНУ́ЦЦА** *зак. экспр.* Памерці. *Нешчо хвароба прыпала да мяне, каб ні згарнуцца падхалеру.* Альба Квас.

**ЗГІ́БЕЛЬНІК** *м. асудж.* Марнатраўца. *Усё панішчыў, памарнаваў, шчо нажылі, згібельнік гэты.* Альшаніца Квас. *Згібельнік ты, не ў хату, а з хаты нясеш.* Халап'я Падст.

**ЗГНЯСЦІ́** *зак.* Сціснуць, здушыць. *У аўтобус столькі людзей наперласё, згнялі так, што ажно духі забіло.* Аляксейкі Стайк.

**ЗГНЭ́МБІЦЬ** *зак.* 1. Змарнаваць (пра жыццё). *Згнэмбіў гарэлкаю жыццё.* Хадоркі Кос. 2. Здушыць, сціснуць. *Як згнэмблю зараз, то сокі з цябе пацякуць.* Боркі Падст.

**ЗГО́ДНЫ** *прым.* Памяркоўны. *Тамаш памяркоўны чалавек, з ім добра ўсякую работу рабіць.* Заполле Кос.

**ЗГО́ЙСАЦЬ** *зак. экспр.* Збегаць, злётаць. *Давай згойсаям у Косава, кажуць, ва ўнівермаг боты прывязлі.* Скураты Квас.

**ЗГО´НІНЫ** *толькі мн. зб.* Амецце. *Згоніны – гэто каласкі, дробная салома пасля абмалоту збожжа.* Заполле Кос.

**ЗДАРАВІНЯ´** *м. павел.* Чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы. *Мужчына – здаравіня, любо паглядзець.* Була Міл.

**ЗДАРАВО´** *прысл у знач. вык.* Марозна, ядрана, халаднавата. *На дварэ здарава.* Скураты Квас. *Сёні ў хаці здарава, будзя добра спаць.* Бусяж Міл.

**ЗДАРЫ´ЦЬ** *зак. абрад.* Падарыць, адзяліць падарункамі. *Здарылі на нашом вяселлі сяго-таго: з гэтаго і жыць пачалі.* Сенькавічы Падст.

**ЗДЗЕЦЯНЕ´ЦЬ** *зак.* Здзяцінець. *Здзецянеў Кандраш: на старасці пачаў на гармоні вучыцца граць.* Быч Стайк.

**ЗДО´ХЛІК** *м. груб.* Худы чалавек. *Такі здохлік, адно скура да рэбра.* Бялавічы Кос.

**ЗДРА´ЦЬ** *зак.* Паразграбаць кіпцюрамі (пра курэй). *Куры дзірку ў плоці знайшлі, усе грады здралі.* Сакоўцы Міл.

**ЗДУ´МАЦЬ** *зак.* Успомніць, прыпомніць, згадаць. *Жыццё наша было цяжкае, страшно і здумаць.* Заполле Кос.

**ЗДУ´ХАВІНА** *ж.* Дрыгва, гіблае месца. *Німа зараз тых балот. Бало, ідзеш, баішся, дзе ржавая пляма, значыць, здухавіна, на той свет пойдзяш.* Заполле Кос. *За кароўнікам было место, карова ўлезя, то ледзьві выцягнуць людзі. Здухавінай тое место называлі.* Альшаніца Квас. 2. *перан.* Пустая, неўрадлівая зямля. *У мяне адна здухавіна, шчо ні пасадзіш, ніц не расце.* Заполле Кос.

**ЗДУ´ЦЬ** *зак.* Успушыць бакі. *Карову здуло, як гара стаіць.* Верашкі Квас.

**ЗДЫ´МАК** *м.* Невялікі камень. *Камень як падняць – здымак.* Руда Падст.

**ЗДЫ´МШЧЫК** *м.* Фатограф. *Андрэй – здымшчык вопытны, ён картачок кепскіх ні робіць.* Кушняры Падст.

**ЗДЭ´ЦЦА** *безасаб. незак.* Здаецца. *Дваццаць гадоў прайшло, як школу скончыла, а здэцца ано ўчоры.*

Рацкевічы Міл.

**ЗЕ´БРЫ** *толькі мн. груб.* Вочы. *Што ты зебры вылупіў, праўды ні любіш, зноў скажу пры ўсіх у вочы – злодзей!* Размеркі Стайк.

**ЗЕЛЯНКО´ВЫ** *прым.* Зеленаваты, зялёны. *Памідоры яшчэ зелянковыя, але саліць можно.* Галік Міл.

**ЗЕЛЯНУ´ХА** *ж. бат.* Зялёнка. *Зелянухі – восеньскія грыбы.* Харошча Міл.

**З'Е´СЦІ** *зак. экспр.* Страпаць (пра нервы). *Ты ўсе нервы мае з'еў.* Падстарынь Падст.

**ЗЛІ´ГНУЦЬ** *зак.* Спасці, аслабець (пра мароз). *Мароз хутко злігня – вароны крычаць.* Хрышчонавічы Квас.

**ЗМАЦАВА´ЦЦА** *зак.* Натаміцца. *Нацягаўся тых картоплёў, змацаваўся моцно.* Заполле Кос.

**ЗМЫ´КАЦЦА** *зак.*Стаміцца, сноўдаючыся туды-сюды. *Сторажом раблю, то за ноч змыкаюся, ходзячы туды-сюды.* Размеркі Стайк.

**ЗРЭ´БІ** *н.* Льновалакно пасля першага часання. *Пасля трапання лён чэшуць. З першае чоскі, што застаецца на рэдкіх шчотках, – зрэбі. Пасля ужэ чэшуць на густых шчатках – пачасы. А лён, які застаецца пасля ўсяго гэтаго, – кужаль.* Альшаніца Квас.

**ЗУБА´ЦЬ** *незак.* Правяраць на моц яйка, стукаючы аб зубы. *Мацака выбраць цяжко, зубаяш не адно яйцо, пакуль выбяраш.* Заполле Кос.

**ЗУМЕ´ЦЦА** *зак.* Зніякавець, разгубіцца. *Убачыла нядаўно сваю першую любоў, то ажно зумелася, зачырванелася, як дзяўчо.* Альшаніца Квас.

**ЗЫСКА´ЦЬ** *зак.* Атрымаць доўг. *Пазычаяш рукамі, а каб зыскаць, то ногі пазбіваяш ходзячы.* Альшаніца Квас.

**ЗЫСЦІ´СЯ** *зак.* Жыць сумесным жыццём, не ўступаючы ў шлюб. *Ён удавец, яна ўдава, зышліся і жывуць.* Сярадава Жытл.

**ЗЫ´СПАДУ** *прысл.* Знізу. *Зверху мокра салома, зыспаду бяры.* Яглевічы Ягл. *Бывая, знойдзяш грыба, зверху харошы,*

*а зыспаду чарвівы.* Воля Жытл.

**ЗЫХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Узыходзіць (пра месяц, сонца). *Зышоў месяц, відно будзя ехаць.* Жытлін Жытл.

**ЗЯВА́** *ж. ткац.* Той прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, кудою ходзіць чаўнок. *Аснова павінны быць тугою, нацягнутаю, каб была добрая зява.* Заполле Кос.

**ЗЯЗЮ́ЛЬКІНЫ СЛЁ́ЗКІ** *мн. бат.* Дрыжнік. *Зараз рэдко сустракаюцца, а даўней много паплавоў было, то і зязюлькіных слёзок было много, бо растуць яны ў траве.* Заполле Кос.

**ЗЯКРА́ТЫ** *прым.* Тое ж, што і з і р к а т ы. *Харошы зяць у Алены, ано зякраты.* Заполле Кос.

**ЗЯЛЕ́ПУХА** *ж.* 1. Бледны, худы чалавек. *Ой, зялепуха, калі ты ўжэ паправішся.* Ятвезь Квас. 2. Недаспелая садавіна. *Не еш зялепухі, жывот будзя балець.* Бараны Ягл.

**ЗЯРНЯ́** *н.* Ядро арэха. *У гэтым годзі зярня ў арэсі велькае.* Заполле Кос.

# І

**ІГЫ́** *выкл.* Так, але. – *Пайдзеш на работу? – Ігы.* Быч Стайк.

**І́КАЛО** *м.* 1. Чалавек, на якога напала ікаўка. *Ікало, вады папі – перастаняш ікаць.* Зыбайлы Жытл. 2. *зневаж.* Чалавек, які заікаецца, заіка. *Пакуль ікало скажа слово, то цярпенне лопая.* Юкавічы Стайк.

**І́КАТКА** *ж.* Ікаўка. *Ад ікаткі мая маці замову знала:*
*Ішла ікатка з канца,*
*Даганяла мудраца.*
*Мудранец, вярніся,*
*Ікатка схіліся.* Альшаніца Квас.

**І́КРЫ** *мн.* Лыткі. *Сама худая, а ікры тоўстыя.* Гошчава Стайк.

**І́МПЭТ** *м.* Непрыемны пах, смурод. *У яе дзеці малыя, зайдзеш у хату, то такі імпэт у нос дасць.* Заполле Кос.

**ІНДЗЮЧА́ЦІНА** *ж.* Індычае мяса. *Я найлепш індзючаціну люблю. Люблю, то і много індзюкоў маю.* Ёлкі Ягл.

**ІРЫ́С** *м. бат.* Касач. *Ірыс е, што жоўтым цвіце, а е і сінім.* Бялавічы Кос.

**І́СЦІНЫ** *прым.* Сапраўдны, праўдзівы. *Ісціная праўда.* Заполле Кос.

# К

**КАБЛУ´К** *м.* 1. Вобад у кошыку. *Аснова кошыка – два каблукі і рэбра.* Галенчыцы Яглев. 2. Прыстасаванне да касы ў выглядзе палатна, нацягнутага на паўкруг і прымацаванага да косся. *Авёс, ячмень косяць з каблуком.* Ятвезь Квас. *Як каблук выгнуты з драціны, то ні пакідаяш травы на пакошы, і пакос роўны, акуратны. Праўда, касіць трохі цяжэй.* Заполле Кос.

**КАБЛУКІ´** *мн.* Карнізы. *Купіла двайныя каблукі: павешу цюлі і начныя занавескі.* Альшаніца Квас.

**КАБЫ´ЛКА** *ж. ткац.* Вочка ў ніце. *Кожную нітку асновы саджаяш у кабылку, а пасля ў бердо.* Альшаніца Квас.

**КАБЫ´ЛКІ** *мн. бат.* Таўстухі. *Кабылкі на грудку растуць, такія яны, як падзялёнкі.* Квасевічы Квас.

**КАБЫ´ЛЬНІЦА** *ж. бат.* Тое ж што в а л о в і к. *Кабыльніцы бяруць, калі другіх мало грыбоў.* Размеркі Стайк.

**КАВАРО´ТКА, КО´ВАРАТКА** *ж. ткац. Зрабіў Іван каваротку маёй мацяры, тая адразу мяне за яго замуж выпярла.* Альшаніца Квас. *Ковартка ў мяне яшчэ бабуліна.* Гошчава Стайк.

**КАГА´ЛОМ** *прысл.* Супольна, сумесна, разам. *Кагалом добра рабіць: весяло.* Заполле Кос.

**КА´ДАЎБЕНЬ** м. *этнагр.* Драўляная бочка, куды ссыпалі збожжа, муку, часам злівалі малако ў пост. *Кадаўбень у нас дубовы, моцны.* Гічыцы Ягл.

**КАДЛУШЫ´ЦЬ** *незак.* Рваць, скубсці. *Не кадлушы ты мяне, я ні гумавая.* Альшаніца Квас.

**КАДУ´К** *м.* Чорт, нячысцік. *У нас так кажуць: кадук яго бяры, кадук яго ведая.* Заполле Кос.

**КА´ЖАН** *займ.* Кожны. *Кажан дзень у руху, няма калі пра старасць думаць.* Галенчыцы Ягл.

**КАЖУ´РЫНА** *ж.* Кусок аўчыны. *Кажух шылі, кусок кажурыны застаўся, то на спіну прывязваю, каб цяплей*

*было.* Альшаніца Квас.

**КАЗА´** *ж.* 1. Плошча, якую займае жняя. *Гэтую казу тры дні трэба жаць.* Хрышчонавічы Квас. 2. Агрэх пры касьбе. *Які з цябе касец? Адны козы пасля цябе.* Заполле Кос.

**КАЗА´К** *м.*Печка. *Казаком у нас называлі печку, шчо стаяла пасярод хаты.* Куляшы Міл.

**КАЗАКІ´** *мн. бат.* Каласок з семем трыпутніка. *Як бабка выспяя,то казакі сушаць: памагаюць ад паносу.* Заполле Кос.

**КАЗЁ´ДРЫШЧА** *н. бат.* Ветраніца дуброўная, кураслеп. *Казёдрышча як зацвіце белым, то здэцца лапіко снегу ў лесі ляжыць.* Заполле Кос.

**КАЗЁ´ННІКІ** *мн. гіст.* Дзяржаўныя сяляне ў час прыгону. *Казённікам, казалі, лягчэй жылося.* Гошчава Стайк.

**КАЗІ´НЕЦ** *м.* Стан чалавека, калі ад працяглай працы знерухомее, адзеравянее цела; слупняк. *Казінец у спіну ўбіўся.* Корачын Жытл.

**КАЗЛЯ´К** *м.* Любы, акрамя баравіка і падасінавіка, ядомы грыб. *Як німа баравікоў, то тады казляка падымяш.* Скураты Квас.

**КАЗЫРО´К** *м.* Фігурнае драўлянае ўпрыгожанне на краю прычола. *Казыркі робяць, хто як умея. Бацька мой рабіў так. На дошцы выразаў зубчыкі, а над імі тэблём круціў дзіркі, але ні навылёт. А пасля фарбавалі фарбай. Выходзіла харашэ.* Альшаніца Квас.

**КАКАРУ´ЗА** *ж.* Кукуруза. *Какарузу пачалі садзіць пры Хрышчове.* Уласаўцы Жытл.

**КАКАРУ´ЗНІСКО** *н.* Поле, дзе расла кукуруза. *Па какарузніску кароў пасем.* Юкавічы Стайк.

**КА´Л** *м.* Гразь. *Бало, пройдзя дождж, то па костачкі калу на гуліцы.* Хрышчонавічы Квас.

**КАЛАТУ´Н** *м. 1. экспр.* Дрыжыкі. *Змерзла гэдык, што ажно калатун паймаў.* Зыбайлы Жытл. 2. *экспр.* Холад. *Такі калатун на дварэ, толькі ў хаці сядзець ды грэцца.* Любішчыцы Люб.

**КАЛАТУ́ШКА** *ж. стал.* Драўляны малаток. *Каля дзерава і малаток дзеравяны, трэба калатушка.* Альшаніца Квас.

**КАЛАЦЕ́ЧА** *ж.* Бойка, сварка, калатня. *Як палучка, то ў іх вечная калацеча, бо п'яныя абоя.* Хадакі Жытл.

**КАЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* 1. Малаціць, выбіваць зерне ў неразвязаным снапе. *Надто хлеба хацелі, то калацілі, не развязваючы снапа.* Альшаніца Квас. 2. Малаціць, выбіваць семя льну. *Лён калоцяць праніком.* Альшаніца Квас.

**КАЛА́ЧЫК** *м. бат.* Шматкветкавы колас трыпутніка вялікага. *Кветкі ў трыпутніка вялікаго дробныя, светла-бурыя, сабраныя ў калачык на высокай сцяблінцы.* Заполле Кос.

**КАЛГА́Н** *м. бат.* Дуброўка прамая. *У калгане лячэбны корань. Яго настойваюць на гарэлцы і даюць, як жывот баліць.* Бялавічы Кос.

**КАЛГАТНЯ́** *ж.* Клопат, турботы. *На гаспадарцы жывучы калгатні хапая. Як пачнеш зранку бегаць, то да вечара, як тая вавёрка ў колі, круцішся.* Заполле Кос.

**КАЛГАЦІ́ЦЦА** *незак.* Турбавацца, перажываць. *Перад вяселлем усе калгацяцца, ні ведаяш, за шчо ўхапіцца.* Панкі Люб.

**КАЛДО́БІНА** *ж.* Яма, выбоіна на дарозе. *Зімою, калі саньмі едуць, то на яму кажуць выбоіна, а як летом калясьмі, то калдобіна.* Заполле Кос.

**КАЛДУНЫ́** *мн. кулін.* Тое ж, што і б о ц м а н ы. *Мой бацько, здаецца, нічого ні еў бы, адны калдуны: гэдык любіў.* Квасевічы Квас.

**КАЛДУШЫ́ЦЬ** *незак.* Турзаць, торгаць. *Пакінь мяне калдушыць, я ні з цеста.* Заполле Кос.

**КАЛЕ́ЙКА** *ж.* 1. Чыгунка. *Праз наша сяло калейка праходзіць. Добра, куды хочаш паедзяш.* Любішчыцы Люб. 2. Чарга пасвіць каровы. *У пятніцу нам калейка, пажанем удвох, бо ў стадзі много кароў.* Квасевічы Квас.

**КАЛЕ'Я** *ж.* Вузкакалейка. *Ад немцоў, яшчэ з той вайны, калея засталася.* Заполле Кос.

**КАЛЕ´НЦЫ** *мн.* Вузлы, патаўшчэнні ў сцяблах злакавых раслін. *Салома высахня, а каленцы сырыя.* Заполле Кос.

**КА´ЛІВО** *н.* Асобная расліна. *Мне кальвоў дзесяць дай капусты пасадзіць.* Скураты Квас.

**КА´ЛНО** *прысл.* Гразка. *Пасля дажджу кално на дварэ.* Азярцо Падст.

**КА´ЛНЫ** *прым.* Гразкі. *Поле калнае, грузня конь, німа як гараць.* Харошча Міл.

**КАЛО´ДКА** *ж.* Кругляк, які прывязваюць свінням і каровам да шыі, каб не беглі далёка. *Каб ні калодка, то цэліла б мая карова на той свет.* Альба Квас.

**КАЛО´ДЗЕЗЬ** *м.* 1. Калодзеж. *Наш калодзезь глыбокі.* Альшаніца Квас. 2. Дымавы ход у печы. *Па калодзезях дым ходзіць у печцы.* Хадоркі Кос.

**КАЛО´К** *м.* Штыкеты ў выглядзе круглых калоў. *Калкоў нарыхтаваў, буду гарадзіцца.* Аляксейкі Стайк. 2. Тое ж, што і к а л о д к а. *Каб карова ні ўцякла з пашы дамоў, прывязвалі да шыі на вяровачцы калка. Калок біў па пярэдніх нагах карові, мяшаў бегчы.* Заполле Кос.

**КАЛУБЕ´ЛЬ** *ж.* Калыска. *Недзі і яшчэ на пакоці калубель ляжыць.* Старажоўшчына Кос. *У калубелі гушкаюць маленькіх дзяцей, вочапкамі яе падвешваюць да столі.* Аўсто Стайк.

**КАЛУПА´ЙЛО** *м. ж. экспр.* Маруда. *Гэты калупайло за цэлы дзень адну баразну картоплёў ледзь выкапоў.* Стайкі Стайк.

**КАЛЫ´** *мн.* Тое ж, што і а п і р а ч к і. *Лыжы купіў, а калы сам зрабіў, з тычкі лясковае, што на пасолю ставілі.* Хадакі Жытл.

**КА´ЛЬВО** *прысл.* Трошкі. *Ідзі, дам табе кальво цукерок.* Бараны Ягл.

**КАЛЬЦО´** *н.* Гадавая нарасць на рагах жывёлы. *Колькі калец на рагах, столькі гадоў карові.* Сенькавічы Падст.

**КАЛЮКІ´** *мн. бат.* Кветкавыя кошыкі бадзяка балотнага, лопуха вялікага. *Калюкі, шчо на лопусе*

*растуць, рвуць, сушаць і абкурваюць імі ад пярэпалахоў. Вельмі гэто памагая, але трэба рваць у такім месці, дзе ні пачуяш спевы петуха.* Альшаніца Квас. *Дзеці любяць грацца калюкамі, бо да ўсяго чапляюцца.* Була Міл.

**КАЛЮ´ЧКА** *ж. заал.* Калюшка. *Калючка – рыба, маленькая, калючая.* Заполле Кос.

**КАЛЯ´НКА** *ж.* Кружок, скрылік. *Адрэж мне калянку каўбасы, нешчо есці захацеласё.* Сакоўцы Міл.

**КАЛЯСНІ´К** *м.* Гружаны воз. *Добры каляснік сена прывёз з Бервоў.* Альшаніца Квас.

**КАЛЯСО´** *н.* Кола. *Калёса некалі рабіў мой бацько.* Альшаніца Квас.

**КАЛЯСЦО´** *н.* Круг у бойцы, якім збіваюць масла. *Бойка ліпава, а калясцо ў ёй сасновае.* Альшаніца Квас.

**КАМАРЭ´ЧА** *н. зб.* Камары. *Німа ратунку ад камарэчы, вочы выядаюць.* Квасевічы Квас.

**КАМБА´ЙН** *н. перан.* Прыстасаванне для збірання ягад. *Усё гэтым людзям мало. Ужэ ні рукамі, а камбайнамі ягады збіраюць. Каб прымелі, то з карэннем паняслі* . Альшаніца Квас.

**КАМЁ´ЛОК** *м. экспр.* Тоўсты, здаровы хлопчык. *Дзіця паправіласё, патаўсцело, добры камёлок стаў.* Руда Падст.

**КАМІНО´К** *м.* Лямпавае шкло. *Падлі газы, а то камінок ажно закапцеў.* Альшаніца Квас.

**КАМЛА´ТЫ** *прым.* Калматы. *Сам камлаты, хвост задраты (воўк).* Альшаніца Квас.

**КАМЛУЧО´К** *м.* Тое ж, што і к а м ё л о к. *Маці худая, а ён бач які камлучок.* Заполле Кос.

**КАМЯ´К** *м. кул.* Бульбяная каша. *Прыедуць унукі з горада, то кожны дзень давай ім камяк. Гэдык любяць есці яго.* Була Міл.

**КАМЯНІ´ЦА** *ж.* Неўрадлівая камяністая глеба. *Папала камяніца, ніц картоплі ні вырастуць.* Сярадава Жытл.

**КАМЯЧКІ´** *мн.* Цвёрдыя кавалачкі бульбы ў кашы. *Добра ні стаўчэш, то камячкі ў камяку.* Була Міл.

**КАНАВЕ´РТ** *м.* Канверт. *Канавертоў купіла. Во, дзеці ні пішуць, то я ім буду пісаць.* Рацкевічы Міл.

**КАНА´ЦЦА** *незак. дзіц.* Цягнуць жэрабя перад пачаткам гульні. *Як пачаць гульню, то трэба канацца, каб ведаць, каму быць у полі, а каму ва´дзіць.* Заполле Кос.

**КАНДАЛЫ´** *мн. перан.* Нязграбны, цяжкі абутак. *Купіла туфлі, а ў іх хадзіць німа як: кандалы.* Быч Стайк.

**КАНЁ´К** *м.* Дзве дошкі, збітыя пад прамым вуглом адна да аднае, якія закрываюць вільчык даху. *Трэба канёк на дах зацягнуць.* Бялавічы Кос.

**КАНІ´СКО** *м. перан. груб.* Фізічна здаровы юнак, але гультай. *Гэты каніско вырас да неба, а дурны больш, чым трэба.* Галік Міл.

**КАНО´ЗІЦЦА** *незак.* Цацкацца, траціць марна час на выхаванне. *Німа мне тут калі з табой канозіцца, трэба ісці буракі палоць.* Заполле Кос.

**КА´НТАР** *м.* Спецыяльная аброць, якой утрымліваюць каня. *Без кантара каня не абучыш.* Заполле Кос.

**КАНЧА´НЕЦ** *м.* Чалавек, які жыве ў канцы вёскі. *Ён канчанец, але дзеўку сабе ўзяў з нашаго грудка.* Заполле Кос.

**КАНЧЛЯ´** *н. памянш.* Невялікі худы конь. *Трахім ужэ сваё канчля ў воз запрагая.* Альшаніца Квас.

**КАНЮКІ´** *мн.* Канькі. *Як даўней канюкі рабілі. Расколяш сухоя бярозавае ці грабовае палено на дзве палавіны – плашкі. Плашку яшчэ раз расколяш папалам – во табе і канюкі. Але яшчэ трэба загастрыць, абпаліць насок, пад ніз дрот прыбіць, прыладзіць шнуркі. Вось тады прывязвай да ног і на лёд.* Альшаніца Квас.

**КА´НЯ** *ж. буд.* Глухая сцяна ў сярэдзіне хаты. *Каню кладуць, каб звязаць, умацаваць сцены хаты пасярэдзіні.* Заполле Кос. *Каня як перагародка ў хаці.* Аўсто Стайк.

**КА´ПА** *ж.* Скуранное пакрыццё хамута. *Капай абшывалі зверху хамут.* г. Косава.

**КАПА´ЛЬНІК** *м.* Чалавек, які выбірае бульбу. *Як збяру*

*капальнікоў з восім, то дакапаям картоплі.* Квасевічы Квас.

**КАПА́ННЕ** *н.* Той прамежак часу, калі капаюць бульбу. *Капанне начыналасё даўней пасля Часного, пад канец верасня, гэто зараз да Усплення некаторыя павыкопваюць.* Быч Стайк.

**КАПА́ННІК** *м.* Той, хто капае бульбу. *З майго хлопца яшчэ слабы капаннік.* Бялавічы Кос.

**КАПА́ННІЦА** *ж.* Тая, якая капае бульбу. *Мая маці добрая капанніца: тры баразны на сто метроў выходзіць.* Альшаніца Квас.

**КАПАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Ліць, сцякаць. *Дождж, відаць, вялікі ідзе, глянь, як са стрэхі капаціць.* Заполле Кос.

**КАПІ́ЦА** *ж. перан.* Тоўстая, прысадзістая жанчына. *У яго жонка добрая капіца, дужая, робіць за дваіх.* Галік Міл.

**КАПА́ЧКА** *ж. груб.* Маруда, неахайніца. *Нездарма кажуць: чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў. Ён такі акуратны мужчына, а жонка ў яго капачка.* Быч Стайк.

**КА́ПЛЮ** *прысл.* Трошкі. *Прынясі мне каплю малака, горло баліць, трэба гарачаго папіць.* Альшаніца Квас.

**КАПТУ́Р** *м.* Верх гарызантальнай часткі коміна, карніз, выступ у ім. *На каптур кладзем запалкі, мыло, іншую дробязь.* Заполле Кос.

**КАПУ́СНІСКО** *н.* Лісце капусты. *Капусту сшаткавала, а капусніско карові аддам.* Аўсто Падст.

**КАПУ́ХА** *ж.* Марудная жанчына. *Нявестка такая капуха: цэлы дзень маленькую градку цыбулі палола.* Альшаніца Квас.

**КАПЫЛЬНЯ́К** *м.* Штабель дроў. *Даўней дрова пры загатоўцы ў капыльнякі складвалі.* Альшаніца Квас. *Дрова як таўшчэй за 10 см, то калолі напапалам, а тады ў капыльнякі ставілі.* Скураты Квас.

**КАРАБІ́НЧЫК** *м. рыб.* Тое ж, што і в е р ц ю ж о к. *Карабінчык круціцца, і леска ні путаяцца.* Размеркі Стайк.

**КАРАБУ́НІЦЦА** *незак. экспр.* Лезці, караскацца. *Старасць ні радасць: трэба карабуніцца на печ, грэць косці.* Заполле Кос.

**КАРАВА́ЦЬ** *незак.* Здзіраць кару, скабліць. *Даўней, калі ні паспявалі ў маразы вывязці дзерава з дзялянкі, то каравалі.* Заполле Кос.

**КАРАЧУ́Н** *м.* Малы ростам чалавек. *Маленькі, карачун, яго ў армію ні ўзялі.* Альшаніца Квас.

**КАРБАВА́ЦЬ** *незак.* Абмяраць (сена, салому). *Паставілі скірды саломы, сёні будуць карбаваць.* Заполле Кос.

**КАРАТО́** *прысл.* Коратка. *Дзе карато, там і рвецца.* Альшаніца Квас.

**КАРБУ́НЕЦ** *м.* Скула, гнойны нарыў. *У нас клянуць так: "Каб цябе карбунцы ўзялі".* Заполле Кос.

**КАРК** *м.* Карак. *Як начальнікам стаў, то тут жа карка адгадаваў.* Бусяж Міл.

**КАРКА́ВІК** *м.* Чалавек, які дрэнна вымаўляе літару "р". *І вучыла хлопца, і біла, нічого ні памагло, так і вырас каркавіком.* Заполле Кос.

**КА́РКАЦЬ** *незак. перан.* Гаварыць. *Ні каркай, як варона, лепяй паслухай другіх людзей.* Гладышы Міл.

**КАРМАЗЫ́НАВЫ** *прым.* Ярка-чырвоны. *У вышыўцы много кармазынаваго коляру.* Заполле Кос.

**КАРО́СТА** *ж.* Кастрыца. *Каростаю пакот уцяплілі.* Верашкі Квас.

**КАРО́ТЫ** *прым.* Кароткі. *Расце мая дзяўчына, усе сукенкі сталі каротыя.* Альшаніца Квас.

**КАРПА́Н** *м.* Паркан. *Яловы карпан сто гадоў праcтаіць,толькі жэрдкі знай мяняй.* Заполле Кос.

**КАРПАНІ́НА** *ж.* Адзін калочак з паркана. *Найдаўжэй праcтаяць у плоці карпаніна з яловаго тоўстаго галля.* Заполле Кос.

**КА́РТА** *ж.* Тарфянік. *Спачатку асушылі балота, а пасля падзялілі на карты – прамавугольнікі.* Альшаніца Квас.

**КАРТАПЛЕ́ННЕ** *н.* Бульбоўнік. *Картапленне даўней*

*жалі, сушылі, а зімой карові давалі.* Альшаніца Квас.

**КАРТАПЛЯ´НІСКО** *н.* Бульбянішча. *Картапляніско гаруць і сеюць па ім жыто.* Альшаніца Квас.

**КАРТО´ПЕЛЬ** *м.* Бульбіна. *Картопель вырас на паўкіля.* Бялавічы Кос.

**КАРТО´ПЛІСКО** *н.* Тое ж, што і к а р т а п л е н н е. *Картопліско на зіму паляць.* Заполле Кос.

**КАРЧЭ´** *мн. зб.* Драбналессе. *У карчах водзіцца много вужоў.* Мілейкі Міл. *Цэлы дзень па карчах кароў пасвіў.* Хрышчонавічы Квас.

**КАСА´Р** *м.* Касец. *Добры касар харошае травы скосіць трыццаць соток за дзень.* Заполле Кос.

**КАСІ´НА** *ж.* Адзін волас. *Пражыла баба на свеці, ні знала гора: касіна з галавы ні ўпала.* Заполле Кос.

**КАСМАЧЭ´** *мн. груб.* Валасы. *Распусціла касмачэ, ажно вачэй ні відаць.* Боркі Падст.

**КАСНІКІ´** *мн.* Махры. *Каснікі е ў хустцы, настольніцы.* Була Міл.

**КАСТАЧКІ´** *мн.* Шчыкалаткі. *Як хто стукня па кастачках, то натто баліць.* Бялавічы Кос.

**КАСТРАГА´** *ж.* Сасновыя шпількі, іголкі. *Кастрагою падрубы аблажвалі, каб падлога была цяплейшай.* Заполле Кос.

**КАСЦЯ´НКА** *ж. 1. бат.* Касцяніца камяністая. *Касцянка расце ў нашом лесі, але яе мало хто рве.* Быч Стайк. 2. *бат.* Від дзікай грушы. *Касцянка як прыгніе, то смачная.* Быч Стайк.

**КАСЦЯРО´ЎКА** *ж. бат.* Брыца, курынае проса. *Касцяроўку рвалі і свіням давалі.* Бялавічы Кос.

**КАТА´НКА** *ж.* Тое ж, што і ж а л е з і н а. *Катанку робяць з тонкіх труб.* Заполле Кос.

**КАТАРЭ´ЗНІК** *м. груб.* Жорсткі, нялюдскі чалавек. *І як можно жыць з гэтым катарэзнікам.* Руда Падст.

**КАТА´ЦЬ** *незак.* Выціскаць (пра мёд). *Катаць мёд пайду, павінна быць трошкі.* Сакоўцы Міл.

**КАЎЗЕ´ЛІЦА** *ж.* Слізгота. *Каўзеліца, на нагах цяжко ўстаяць.* Заполле Кос.

**КАХЛІ´ВЫ** *прым.* Той, хто кашляе. *Хто курыць, той і кахлівы.* Заполле Кос.

**КА´ХНУЦЬ** *незак.* Кашлянуць. *Так горло заклало, кахнуць ні дае.* Бялавічы Кос.

**КАЦА´** *ж.* Тупы канец яйца. *У яйца е насок і каца.* Альба Квас.

**КАЦАЎБА´** *ж.* 1. Таўкач. *Кацаўбаю таўкуць бульбу свіням.* Альшаніца Квас. 2. *перан.* Нехайная жанчына, няўмека. *І ў каго ўрадзілася гэтая маладзіца. Здэцца, маці была акуратная жанчына, а дочка кацаўба кацаўбою.* Альшаніца Квас.

**КАЦЁ´ТЫ** *мн.* Рукі без пальцаў. *Адмарозіў пальцы, засталіся кацёты.* Заполле Кос.

**КАЦУЎБА´** *ж.* 1. Кій з тоўстым канцом. *Стары Максім такі злосны, дагнаць ні дажане, то кацуўбу кідая.* Альшаніца Квас. 2. *груб.* Галава. *Кацуўба твая дурная.* Альшаніца Квас.

**КАЦУЎБЕ´ШКА** *ж.* Тое ж, што і к а ц у ў б а 1. *Свінням у цэбры бульбу таўклі кацуўбешкай.* Быч Стайк. Тое ж, што і к а ц у ў б а 2. *Ніц ні варыць твая кацуўбешка.* Була Міл.

**КАЦЯКІ´** *мн.* Кавалачкі гною, якія прысталі да авечай поўсці. *Хлеў мокры, саломы мало, то ўсе авечкі ў кацяках.* Стайкі Стайк.

**КАЦЯХІ´** *мн.* Тое ж, што і к а ц я к і. *Ні шкадуюць скаціны, ляняцца падсцілаць, усе авечкі ў кацяхах.* Квасевічы Квас.

**КАЧА´Н** *м.* Храпка. *Як скрышыш галоўку капусты, то застаецца качан – дзецям ласунок.* Альшаніца Квас.

**КАЧА´НІКІ** *мн. бат.* Тое ж, што і к а з а к і. *Качанікі ў бабцы сядзяць на высокай ножцы.* Бялавічы Кос.

**КАЧАРГЕ´ШНІК** *м.* Вугал пры печы, качарэжнік. *У качаргешніку стаяць вілы, качэргі, чапляя.* Альба Квас. *Вазьмі ў качаргешніку вілы ды дастань з печы чыгун.* Халап'я Падст.

**КАЧА́ЦЦА** *незак.* 1. Дужацца. *Такі пень быў вялікі, што на ём два пастушкі качаліся.* Бялавічы Кос. 2. Слацца (пра дым). *Дым, калі на дождж, то па зямле качаяцца.* Альшаніца Квас.

**КАЧО́БРЫК** *м.* Малы тоўсты чалавек. *Мой качобрык ужэ, мусі, у магазін пакаціўся.* Заполле Кос. *Здаровенькі хлопчык расце ў Ніны, качобрык дый годзе.* Альшаніца Квас.

**КАЧО́ЛКА** *ж.* Драўлянае вузкае кола, качулка. *Малымі былі, бацько навырэзвая качолок з кругляка: каляскі ўсё рабілі.* Заполле Кос.

**КА́ША** *ж.* 1. *абрад.* Назва радзіннага абраду. *Паклікалі на радзіны, то трэба купіць нейкі падарунок, каб пакласці на кашу.* Альшаніца Квас. 2. Назва абрадавай стравы. *Кашу варылі з ячменных, прасяных круп, і на малацэ.* Альшаніца Квас. 3. *ж.* Тое ж, што і к а м я к. *Каша з кіслым малаком смачная.* Падстарынь Падст.

**КАША́НКА** *ж. кулін.* Крывяная каўбаса. *Кашанка смачная гарачая, высмажаная ў салі.* Альшаніца Квас.

**КАША́ЧАЯ ЛА́ПКА** *ж. бат.* Агаткі двухдомныя. *Кашачая лапка расце ў сухом, пясчаном месці на ўскрайку лесу. Яе прыкладваюць, каб кроў спыніць.* Бялавічы Кос.

**КАШЛА́ЦІЦЦА** *незак. безас.* Касмаціцца, кудлаціцца. *Як стружа бердо, то ніткі кашлацяцца. Тады вараць семя і гэтым адварам мажуць ніці.* Заполле Кос.

**КАШЛІ́ВЫ** *прым.* Тое ж, што і к а х л і в ы. *Німа ўжэ дыхання. Кашлівы, як стары конь.* Хадоркі Кос.

**КАШУТ́А** *ж.* Варсінкі на адзенні. *Ні ведаю, дзе гэто я набралася кашуты.* Аляксейкі Стайк.

**КАШЫ́СКО** *м. павел.* Вялікі кош. *Пайшоў у лес, кашыско адных праўдзівікоў прынёс.* Старажоўшчына Кос.

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Вялікі кош з накрыўкай: *У нас у кашалях сухія каўбасы, сыры хавалі.* Альшаніца Квас.

**КВА́С** *м. 1. кулін.* Суп, галоўным кампанентам якога з'яўляюцца сушаныя грыбы. *Як вараць квас з грыбоў? Вада, добрую костку туды, картопліка ўкрышыш, жменьку*

*круп укіняш, а тады грыбы сушаныя, добра перамытыя. Цыбулінку дабавіш, лаўроваго ліста, укропу. Смачно, за вушы ні адцягняш.* Альшаніца Квас. 2. *кулін.* Халаднік. *Квас даўней казалі, а зараз халаднік.* Альшаніца Квас.

**КВАСО´ВІК** *м.* Стары баравік. *Назбірала адных квасовікоў, трэба печ паліць, буду сушыць.* Альшаніца Квас.

**КВАСУ´ХА** *ж. бат.* Тое ж, што і в а л о в і к. *У нас хто кажа валовік, а хто квасуха.* Альшаніца Квас.

**КВАШНЯ´** *ж.* Малая дзежка. *У квашне квасяць чырвоныя буракі. Той сок п'юць альбо дабаўляюць у грыбны квас.* Альшаніца Квас.

**КВЕ´ТКА** *ж. 1. буд.* Адзін з этапаў у будаўніцтве дома. *Як паставяць кроквы, то да аднае з іх прыбіваюць букет кветак ці зялёныя галінкі.* Заполле Кос. 2. этнагр. Частаванне пасля таго, як паставяць кроквы ў доме. *Паставяць кроквы, п'юць кветку.* Заполле Кос.

**КВІЧА´ЦЬ** *незак.* Вішчаць. *Нашы суседзі, мусі, ні кормяць свіней, усё квічаць ды квічаць тыя свіня.* Стайкі Стайк.

**КВЯЛІ´ЦЬ** *незак.* Цвяліць, даводзіць да плачу. *Аддай дзіцяці цацку, ні квялі.* Боркі Падст.

**КЕ´ЛБ** *м. заал.* Тое ж, што і г е л б. *Як зубы мяняя шчупак, а гэто бывая летом, ён стаіць у непрытомнасці. То келб, мяккі, тоўсценькі, якраз яму "па зубах".* Заполле Кос.

**КЕ´ЛБІК, КЕ´ЛЬБІК** *м. памянш. да* келб. *Гэто невялікая рыба, то хутчэй скажуць келбік, чым келб. Заполле Кос. Кельбік – рыба маленькая, тоўсценькая.* Размеркі Стайк.

**КЕ´ЛЗЫ** *мн.* Цуглі. *Без келзоў жарабца ні ўтрымаяш.* Скураты Квас.

**КЕ´ЛЗАЦЬ** *незак.* Кілзаць. *Келзай каня, а то панясе.* Була Міл.

**КЕ´ПЕЛЬ** *м. груб.* Галава. *У цябе ў кепелі, мусі, німа адной клёпкі: кажаш абы-што.* Сенькавічы Падст.

**КЕ´РЗАВЫ** *прым.* Пашыты з кірзы. *Керзавыя боты.* Бусяж Міл.

**КЕ´РЗАВІКІ** *мн.* Кірзавыя боты. *Зімою абуваю керзавікі.* Быч Стайк.

**КЕ´СЯ** *ж.* Гразь, макрэча. *Кеся на гуліцы.* Альшаніца Квас.

**КЕ´ЎЗАЦЬ** *незак.* Мыць абы як, квэцаць. *Ці так мыць трэба? Кеўзала, а не мыла.* Сакоўцы Міл.

**КЕ´ШКАЛО** *м. і ж. экспр.* Маруда. *Я пяць работ перарабіла, а гэтае кешкало ўсё з хамутом возіцца.* Бялавічы Кос.

**КІ´ДКІ** *прым.* Хваткі, хуткі ў рабоце. *У мяне сусед такі кідкі: я ано падумаю касіць, а ён ужэ кошанае вязе.* Заполле Кос.

**КІЛА´ВЫ** *прым. 1. мед.* Хворы на грыжу. *Парася кілавае, але жыве.* Няхачава Стайк. 2. *перан.* Нарасць на корані ў капусце. *Уся капуста кілавая, сохня, ні будзя што квасіць.* Заполле Кос.

**КІЛДАВА´ЦЬ** *незак.* Чараваць. *У дзяцей лічылка е такая: "Кілду бабу, кілду дзед, закілдованы білет".* Заполле Кос.

**КІЛУ´Н** *м.* Нутрэц. *Як мы лягчалі? Толькі нядаўно агледзеліся, што паршучок кілун.* Альшаніца Квас.

**КІ´ЛЬКА** *займ.* Некалькі. *Кілька дзён у бальніцы пабыў: так дахаты захацеласё.* Верашкі Квас.

**КІ´ЛЁ** *н.* Кілаграм. *Кілё цукру купіла.* Міхнавічы Стайк.

**КІМА´РЫЦЬ** *незак.* Драмаць. *Поязд пакалыхвая, а ён сабе кімарыць: так і праехоў сваю станцыю.* Галік Міл.

**КІРАЎНІ´ЦА** *ж.* Руль у веласіпедзе. *Трамайся моцно за кіраўніцу, паедзям пакатаю.* Мілейкі Міл.

**КІСЛЮКІ´** *мн.* Плады дзікай яблыні, грушы. *Гнілыя кіслюкі сушаць альбо свежыя мочаць у бочцы. Адны і другія за зіму з'ядуцца.* Альшаніца Квас.

**КІ´ХА** *ж.* Камера (ад кола веласіпеда). *Нешчо кіха пустая ў ровары, мусі, недзі прабіў.* Галынка Міл.

**КІ´ШКА** *ж.* 1. Саламяная падкладка ў хамуце, хамуціна. *Кішка ў хамуце, каб ні намульвоў конь замуліны, каб мягко было.* Лазаўцы Міл. 2. *кулін.* Крываная каўбаса. *Кішкі смачныя гарачыя, з печы.* Альшаніца Квас.

**КІЮ́К** *м. бат.* Шышка рагозу. *У кіюкоў е вата, як апячэш руку, то прыкладаюць. А яшчэ мама расказвала, што падушкі з гэтай ваты рабілі, хто не меў гусей.* Альшаніца Квас.

**КІЯН́КА** *ж. 1. стал.* Драўляны сталярскі малаток. *Кіянкай цвікі ні б'юць, а вось вокны падганяць – само раз: матэрыял ні пашкодзіш.* Альшаніца Квас. *2. бат.* Тое ж, што і к і ю к. *Дзеці рвуць кіянкі і "зіму" робяць.* Альшаніца Квас.

**КЛА́ДЗЬ** *ж. буд.* Перакладзіна ў страсе. *Сохі ў гумнах, на іх кладзь кладуць, каб стрэху трымала.* Заполле Кос.

**КЛАПАТА́ЦЬ** *незак.* Рупіцца, дабівацца нечага. *Будзя клапатаць, то даб'ецца харошай пенсіі.* Кушняры Падст.

**КЛЕ́ВАЦЬ** *незак. экспр.* Хварэць, ледзьве жыць. *Трахім ледзві клевае, стары ўжэ.* Гладышы Міл.

**КЛЕ́ТКІ** *мн.* У выразе: у клеткі. Клятчасты ўзор на тканіне. *Даўней ткалі ў клеткі спаніцы.* Альшаніца Квас.

**КЛЕ́ШНЯ** *ж. 1.* Клюшня. *Клешні ў рака.* Грыўда Міл. *Клешні ў рака ўчэпістыя, як здушыць пальца, то баліць.* Панкі Люб. 2. Калашына. *Клешню ўбяры ў боты.* Быч Стайк. *У нашу пору модно было хадзіць з шырокімі клешнямі.* Гошчава Стайк.

**КЛЕ́МБІК, КЛЁ́МБІК** *м.* Палка, пры дапамозе якой скручваюць вяроўку, ланцуг, шнуркі і г.д. *Прывяжаш канькі да нагі шнуркамі, а тады клембіком сцісняш, стужыш.* Заполле Кос. *Пакладзеш воз дроў, увяжаш ланцугом, зажмеш клёмбіком, хоць да Косава вязі, ні разваліцца.* Верашкі Квас.

**КЛЁ́К** *м. 1. дзіц.* Драўляны кіёчак у дзіцячай гульні. *Клёк – выструганая палачка, круглая, невысокая, 15 – 20 см.* Заполле Кос. 2. Дзіцячая гульня, у якой гульцы збіваюць кіёчак з пэўнай адлегласці. *Бывало, да ночы гулялі ў клёк.* Заполле Кос.

**КЛІША́ВЫ** *прым.* Касалапы, крываногі. *Бачыла зяця Антосіхі, з твару ніц сабе чалавек, але такі клішавы.*

Квасевічы Квас.

**КЛІШАНО́ГІ** *прым.* Тое ж, што і к л і ш а в ы. *Вучыся добра хадзіць, а то вырасцяш клішаногі.* Заполле Кос. *Клішаногі – гэто калі калено аб калено трэцца.* Альшаніца Квас.

**КЛО́МЛЯ** *ж. рыб.* Сеткавая прылада для лоўлі рыбы. *Кломля – дзве сеткі, злучаныя паміж сабой, і распоркі – сеткі па баках.* Заполле Кос.

**КЛУ́СТАСЦЬ** *ж.* Растоплены на агні тлушч. *Як клустасці много, то і аладкі смачныя.* Плехава Люб.

**КЛЫБА́ЦЬ** *незак.* Кульгаць. *Нешчо карова клыбая, можа, у ногу шчо забіла.* Хрышчонавічы Квас.

**КЛЫ́БАЧ** *м. зневаж.* Чалавек, які кульгае. *Гэты клыбач абрыд сваёю п'янкаю, ніздарма ногу скруціў.* Бараны Ягл.

**КЛЫ́МБ** *м.* Кіёчак, палачка для звязвання снапоў, кулёў. *Перавясло скруціш, а тады клымбам снапа звяжаш.* Заполле Кос.

**КЛЭ́ПС** *м. груб.* Тое ж, што і г а м о н. *Сколькі людзей ён у вайну перавёў! Прыйдзе і яму клэпс.* Даргужы Міл.

**КЛЮ́БА** *ж. буд.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога выпраўляюць брусы ў зрубе. *Часом так выгне дзеравіну ў зрубе (натто ж яловую круціць), што толькі клюбай і можно выправіць.* Заполле Кос.

**КЛЮ́ЦКІ** *мн кулін.* Клёцкі. *Натто смачныя клюцкі адвараныя, а потым падсмажаныя на салі.* Зялёны Бор Стайк. *Я люблю клюцкі вараныя, у малацэ.* Жамайдзякі Міл.

**КЛЮ́ЧКА** *ж.* Жэрдка, пры дапамозе якой дастаюць ваду з калодзежа. *Былі грамадскія каладзязе, то ключка аж бліщчала: столькі людзей за яе бралась.* Дубітава Міл. *Ключка зверху прывязвалася да коварата, а да яе чаплялась вядро.* Заполле Кос.

**КЛЯ́КНУЦЬ** *зак.* 1. Замерзнуць. *Вытраслі трахтаром картоплі нанач, а рано замаразкі, дый клякнулі.* Заполле Кос. 2. Прапасці. *Дажджы пайшлі, жыто палягло і клякнуло.* Заполле Кос.

**КЛЯ́МБУР** *м. буд.* Драўляны ці жалезны шпень. *Клямбуром забіваюць клін у зрубі для мацавання дзеравіны.* Заполле Кос.

**КЛЯШЧЭ́** *мн.* Драўляная частка хамута. *Кляшчэ робяць з чачотавай бярозы.* Ёдчыкі Квас.

**КНІ́ГА** *ж. заал.* Кнігаўка. *Кнігі над лужком крычаць.* Юкавічы Стайк.

**КНІ́ГІ** *мн. вет.* Страўнік каровы. *Прапала карова, паглядзелі, а ў яе кнігі цвілою саломай забітыя.* Заполле Кос.

**КНУ́Р** *м. заал.* Кныр. *Трэба свіню гнаць да кнура, гукая.* Сярадава Жытл.

**КНУРАВА́ЦЬ** *незак. біял.* Перыяд палавой актыўнасці свінні. *Свіня кнуруя.* Жытлін Жытл.

**КНЫ́Ш** *м.* 1. Нізкарослы чалавек. *Малы, кныш, хто за яго замуж пайдзе.* Заполле Кос. *2. устар.* Ватрушка. *Пякуць піражкі з творагом. Старыя людзі казалі – кнышы.* Заполле Кос.

**КО́ВАЛ** *м.* Кусок, кавалак. *Дзеці калядавалі, то Алена, суседка, добры ковал сала паклала.* Жытлін Жытл.

**КО́ВАРАТ** *м.* Бервяно-вага ў студні. *Коварат мацаваўся да бабы.* Ятвезь Квас.

**КО́ДЛО** *н. груб.* Група людзей. *Іх цэлае кодло было. Гэто ж праз столькі часу лазілі па людскіх гаражах.* Панкі Люб.

**КО́ЗКА** *ж. заал.* Страказа. *Козка з крыламі, на балоце лётае.* Любішчыцы Люб.

**КО́ЗЛІКІ** *мн. бат.* Рагулькі. *Дробнае лісце, кветкі бэзавыя, растуць козлікі ў жыці.* Бялавічы Кос. *2. бат.* Ворлік звычайны. *Козлікі высокія, сцябло голае, але кляткі прыгожыя, найчасцей сінія і фіялетавыя.* Бялавічы Кос.

**КО́ЗЛЫ** *толькі мн.* Збітыя накрыж калы, якія трымаюць жэрдку на самым вільчыку страхі, каб вецер не рваў саломы. *Даўней козлы тырчалі на страсе, а зараз – антэны.* Уласаўцы Жытл.

**КО́ЗЫТКІ** *толькі мн.* Козыт. *Хто не баіцца козыткоў,*

*той ні раўнівы, так кажуць людзі.* Заполле Кос.

**КО́КАШ** *м. заал.* Дрозд. *Дрозд е пеўчы, рабіннік, а самы большы, нізко летае, гэто кокаш.* Скураты Квас.

**КО́ЛЕШКІ** *мн. памянш.* да калені. *Стань на колешкі, лягчэй будзе ягады збіраць, спіна ні будзя балець.* Гошчава Стайк.

**КО́ЛІСТО** *прысл.* Даўней, калісьці. *Колісто мы яшчэ хадзілі ў гэту рэчачку, в'юны лавілі, зара яе ўжэ німа.* Заполле Кос.

**КО́ЛКА** *ж. мед.* Колікі. *Прастудзілася, баюся, каб не было запалення, у плечах колка пачалася.* Альшаніца Квас.

**КО́ЛЬБА** *ж.* Ручка на валу, круцячы якую дастаюць ваду са студні. *Кольба ў нашом калодзязі жалезна, навек хваціць.* Заполле Кос.

**КО́МЛАЧ** *м. груб.* Чалавек з густымі раскудлачанымі валасамі. *Комлач, прычашыся, распусціў косы.* Жамайдзякі Міл.

**КО́МЧЫЦЬ** *незак.* Камячыць. *Чаго ты комчыш сукенку? Ты ж у ёй у людзі пойдзяш.* Альшаніца Квас.

**КО́НІК** *м. заал.* Казюлька, якая бегае па вадзе. *Конікі гэтыя як на крылах снуюць па вадзе.* Квасевічы Квас.

**КО́НЧНЕ** *часц.* Іменна, абавязкова. *Кончне так, як ты хочаш!* Стайкі Стайк.

**КО́ПАНЬ** *ж.* Сажалка, копанка. *Добра, як копань блізко ля хаты: гусей можно гадаваць.* Хадакі Жытл.

**КО́ПНУЦЦА** *незак.* Спалохацца, уздрыгнуць. *Як крыкнуў пад вухо, то я аж копнуўся.* Ёдчыкі Квас.

**КО́РМІК** *м.* Кормнік. *Гадую добраго корміка, хопіць сабе і дзецям.* Куляшы Міл.

**КО́РЧ** *м.* Куст. *Каравы пахаваліся ў карчах.* Заполле Кос.

**КО́СТАЧКІ** *мн.* Суставы пальцаў рук, ног. *Баліць натто, калі па костачках стукняш.* Дубітава Міл.

**КО́СЫ** *толькі мн.* Валасы. *Косы доўгія, пара стрыгчыся.* г.Косава.

**КО́ТЛІНЫ** *мн.* Тонкія жэрдачкі, якімі пашыраюць

воз, сані. *Калі хочаш накласці добраго воза, раскладвай котліны.* Альшаніца Квас.

**КО´ТЛІШЧА І** *н.* Парэшткі былой сядзібы; сядзіба. *Тут котлішча было маё, зараз адны растуць дзічкі.* Даргужы Міл.

**КО´ТЛІШЧА ІІ** *н.* Конскія могліцы. *Мой конь даўно ўжэ на котлішчы ляжыць.* Стайкі Стайк.

**КО´ТЛЫ** *толькі мн.* Тое ж, што і к о т л і н ы. *Палажыў котлы, каб шырэйшы воз быў.* Альшаніца Квас.

**КО´ТУХ** *м. 1.* Невялікае, часта часовае збудаванне ў хляве, пры хляве. *Збі які котух для курэй.* Корачын Жытл. *2. перан.* Пакойчык у хаце. *Пабіў усю хату на котухі, няма дзе і гасцей прыняць.* Кушняры Падст.

**КО´ЎЗАНКА** *ж.* Каток. *Радасць дзецям: марозік. Цэлы дзень на коўзанцы.* Гладышы Міл.

**КО´ЎЗАЦЬ** *незак.* Тое ж, што і к е ў з а ц ь. *Рукі паадбіваць трэба за такое мыццё: коўзала, а не мыла.* Квасевічы Квас.

**КО´ЎЗКІ** *прым.* Слізкі. *Коўзкая сцежка, німа як ісці.* Заполле Кос.

**КО´ХЛЯ** *ж. мед.* Ліхаманка. *Каб цябе кохля трасла!* Альшаніца Квас.

**КО´ШКА** *ж.* 1. Вязаная хустка. *У дарогу далёкую бралі з сабою кошку – вязаную хустку, цёплую, ахутваліся ёю.* Заполле Кос. 2. *бат.* Лось (вожык стракаты). *Кошкі смачныя ў квасі, цвёрдыя, хрумсткія, як свіноя вухо.* Заполле Кос.

**КРА´Й** *прысл.* Вельмі, надта. *Мне сёні край трэба ў Косаво папасці.* Сенькавічы Падст.

**КРАКО´С, КРАКО´СТ** *м. бат.* Календула лекавая. *Як пчала ўкусіць, то ўсё кракос да таго места прыкладваюць.* Гладышы Міл. *П'юць кракост ад печаней.* Заполле Кос.

**КРАМУ´ШКА** *ж.* Крэмень. *Крамушкі ў калодзезь кідаюць, кажуць, вада здаравейшая станя.* Руда Падст.

**КРАПІ´ЎНІК** *м. бат.* Від грыба. *Па нізкіх месцах расце, па каляінах ад трактароў.* Заполле Кос.

**КРА´СКІ** *толькі мн.* Менструальны перыяд у жанчын.

*Жанчына выходзіць з лет, то краскі прападаюць.* Галынка Міл.

**КРАСНАГАЛО´ВІК** *м. бат.* Падасінавік. *Пайшоў і нарэзоў адных красногаловікоў.* Галік Міл.

**КРАСЬКО´** *м.* Здаровы, чырванашчокі, прыгожы чалавек. *Любо паглядзець на твайго сына, Маруся, красько, ей-богу.* Заполле Кос.

**КРО´КАЦЬ, КРЭ´КАЦЬ** *ж.* Прорва, багна. *Туды ні лезь, там такая крокаць, з галавою правалішся.* Заполле Кос. *Бойся ступіць у гэту крэкаць, зацягня.* Альшаніца Квас.

**КРЫШКІ´** *мн.* Крошкі. *І крышкі бацькавы пабраў: надто пахожы.* Заполле Кос.

**КРУ´Г** *м.* Драўляная накрыўка. *Соляць грыбы, на грыбы кладуць круг, на круг – гнёт.* Рацкевічы Міл.

**КРУГА´** *прысл.* Навокал, кругом. *Ходзіць хлопяц круга хаты, а зайсці да дзеўкі баіцца.* Верашкі Міл.

**КРУГАЛЯ´** *прысл.* Ісці, аб'ехаць наўкруг. *Трэба даваць кругаля, бо кладку праз рэчку знясло паводкай.* Заполле Кос.

**КРУГІТА´ЦЬ** *незак.* Вішчаць (пра свіней). *Трэба нясці свіням есці: кругічуць ужэ.* Бялавічы Кос.

**КРУ´ГЛЫ** *прым.* Увесь, цэлы. *Круглы год жыў у маёй цёткі, як вучыўся ў Брэсці.* Размеркі Стайк.

**КРУГЛЯ´К** *м. бат. Дзікая трава, асака. Кругляком карову ні накорміш.* Сярадава Жытл.

**КРУЖЛЯ´ЦЬ** *незак.* Хадзіць кругамі, заблудзіцца. *Кружлялі на адным месцы цэлы дзень, ніяк ні маглі выйсці з лесу.* Быч Стайк.

**КРУЖО´К** *м.* Века ў бойцы. *Кружок чысты, бо часто мыяцца.* Бусяж Міл.

**КРУЖЭ´ЧОК** *м.* Тое ж, што і к р у г. *Кружэчок кладуць у выварку з салёнымі агуркамі, а на кружэчок – гнёт.* Падстарынь Падст.

**КРУ´К** *м.* 1. Прылада, якой скубуць сена. *Жалезным круком скубуць сено са стажка.* Кушняры Падст. 2. *заал.*

Крумкач. *Крукі вялікія, чорныя.* Альшаніца Квас.

**КРУПА´** *ж.* I. Крупы. *Крупа робіцца на круперні.* г. Косава. 2. Сухі, у дробныя гарошыны снег. *Крупа сыпляцца на мерзлую зямлю, відаць, зіма будзя.* Заполле Кос.

**КРУПЕ´РНЯ** *ж.* Крупадзёрка. *У мліне была яшчэ і круперня.* Бялавічы Кос.

**КРУТНУ´ЦЦА** *зак. перан.* Завярнуцца, мала патраціць часу на нешта. *Ано крутнешся ў лесі і кош грыбоў нясеш.* Заполле Кос.

**КРУЦЕ´ЛЬ** *м.* 1. Усё, што скручана. *Круцель палатна, круцель саломы, круцель льну.* Гошчава Стайк. 2. *перан.* Ілгун, падманшчык. *Гэты круцель то круціць, то муціць.* Стайкі Стайк.

**КРЫВУЛІ´** *мн.* 1. Частка воза, якая служыць для перавозкі доўгіх бярвенняў. *Крывулямі трэба кіраваць жэрдачкамі, якія мацуюцца да задка воза.* Альшаніца Квас. 2. *перан.* Літары. *Пішаш ты абы-як, адны крывулі на лісце.* Альшаніца Квас.

**КРЫ´ГА** *ж.* Пласт цвёрдай зямлі пры гаранні. *Такая зямля цвёрдая, гарэш, адны крыгі.* Заполле Кос.

**КРЫЖАВІ´НА** *ж.* Накрыж збітыя дошкі, якія служаць падстаўкай пад нешта. *Крыжавіну для навагодняй ёлкі робяць з тонкіх акуратных брускоў.* Заполле Кос.

**КРЫЖАЎНІ´ЦА** *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а в і н а. *Пад цэбер ставілі крыжаўніцу, каб падлога ні гніла.* Альшаніца Квас.

**КРЫ´ЖНА** *ж. заал.* Крыжанка, парода дзікіх качак. *Крыжна – самая вялікая дзікая качка.* Заполле Кос.

**КРЫЖЫ´, КРЫЖЭ** *мн.* 1. Паясніца. *Крыжы баляць.* Гладышы Міл. *Крыжэ навярэдзіў, падняў цяжкае.* Харошча Міл. 2. Задняя частка тулава жывёлы. *Конь цягавіты, пaглядзі, які шырокі ў крыжах.* Заполле Кос.

**КРЫ´КЛЯ** *ж. экспр.* Крыклівы, плаксівы чалавек. *Не была б то крыкля – крычыць ды крычыць.* Панкі Люб.

**КРЫЛО´** *н. перан.* Крысо. *Крыло ў пальце.* Хадакі Жытл.

**КРЫШАНЫ´** *толькі мн.* Бульбяны суп. *Я люблю*

*крышаны, калі цыбулькі насмажыць ды ўкінуць.* Квасевічы Квас.

**КРЭ́Ж** *м.* Дрэва з густымі гадавымі кругамі. *Можа быць і так: адна палавіна дзерава будзя густая, кажуць, крэж, а другая палавіна – ліпава, абалоніста.* Заполле Кос. *Як крэж зрэжаш, то гэто дзераво пускаюць на вокна, дзверы.* Альшаніца Квас.

**КРЭ́СКА** *ж.* Метка, рыска (на градусніку). *Марозу сёні – на дваццаць крэсок.* Заполле Кос. *Глядзела тэмпературу. Трыццаць восім з крэскамі. Трэба да дохтара вязці.* Альшаніца Квас.

**КРЭ́СЛО** *н.* Прарэх. *Зашпілі гузікі ў крэслі.* Яблонка Жытл.

**КРЭ́Ч** *м.* Крык, лямант. *Чаго ты крэчу нарабіла? Ніхто цябе ні баіцца.* Хрышчонавічы Квас.

**КУБЛО́** *н.* Гняздо. *Шчурынае кубло раскідоў.* Заполле Кос.

**КУ́ДАСА** *ж.* Мяцеліца, завея. *Такая кудаса на дварэ – божаго свету ні відно.* Юкавічы Стайк.

**КУДЗЯЛЬНІ́ЦЫ** *толькі мн.* Папрадухі. *Удзень збіраюцца на кудзяльніцы, а вечаром на вечарніцы.* Альшаніцы Квас.

**КУ́ДЛЫ** *мн. груб.* Доўгія, непрычэсаныя валасы. *Адгадаваў кудлы і ходзіць нерасчэсаны.* Ятвезь Квас.

**КУДО́МІ** *прысл.* Куды. *Кудомі ты ідзеш, тут жа кветкі пасеяны.* Яглевічы Ягл.

**КУЗА́КА** *ж. заал.* Казяўка. *На ўсё, што поўзая, у нас кажуць кузака.* Заполле Кос.

**КУЗЬМА́** м. Пасудзіна для ягад, зробленая з кары дрэў. *Бало, кароў пасеш у лесі, а дзецям хочацца ягад прынясці, а пасудзіны німа, то надзярэш з альхі ці крушыны кары і зробіш кузьму.* Альшаніца Квас.

**КУКА́Н** *м. рыб.* Шнурок, на які нанізваецца рыба. *Бывая, забудзяшся вядзерцо ўзяць, то на кукан нанізваяш рыбу.* Заполле Кос.

**КУ́КСА** *ж.* Від жаночай прычоскі. *Жанчыны куксу рабілі*

*на галаве з валасоў.* г. Косава.

**КУ́ЛІ** *мн.* Мыліцы. *Бяда заставіла, то на кулях навучыўся хадзіць.* Галенчыцы Ягл.

**КУЛІКІ́** *мн.* Звязаныя пучкі саломы, якімі ўмацоўвалі край страхі, франтона. *Кулікі вязалі з саломы, з іх шчыты рабілі.* Заполле Кос.

**КУЛЬДЗЮ́М** *м. груб.* Беспарадак. *Дасць маці ўсім нам, як убачыць, які мы кульдзюм устроілі.* Бялавічы Кос.

**КУ́ЛЬКА** *ж.* 1. Ручка на коссі. *Кульку гнуць з вяза.* Заполле Кос. 2. Папярочная планачка, прымацаваная зверху да дзяржання рыдлёўкі ці іншай прылады. *Капачкай з кулькай лягчэй капаць.* Заполле Кос.

**КУ́ЛЬШЫ** *мн.* Вяроўкі, якімі ўвязваюць сена, салому на возе, санях. *Наладуюць на сані сена, рублём уціснуць, кульшамі абвяжуць – хоць да Слоніма вязі, ні раскідаяцца.* Заполле Кос.

**КУЛЯ́БА** *ж.* Вялікі кусок мяса з косцю. *У бацькоў свежына была, і мне добрая куляба перапала.* Скураты Квас.

**КУЛЯСА́, КУЛЯ́СА** *ж.* Кій для апоры з закругленым канцом – ручкай. *Старыя з кулясамі ходзяць.* Альшаніца Квас. *Бывая, што і куляса страляя.* Верашкі Квас.

**КУ́МПАЛ** *м. абразл.* Галава. *У цябе кумпал зусім не варыць.* Заполле Кос.

**КУМЯ́К** *м.* Тое ж, што і к а м я к. *Груду кумяка з кіслым малаком з'ясі, смело да абеду можно цярпець.* Заполле Кос.

**КУ́МЯЛЁМ** *прысл.* Хутка, мігам. *Кумялём ляці да дакторкі: у бацька гарачка.* Альшаніца Квас.

**КУ́НДАЛЬ, КУ́НДЗЕЛЬ** *м. абразл.* Сабака. *Не прывязваюць людзі сабак, і бегаюць гэтыя кундалі з надворка на надворак.* Альшаніца Квас. *Прывяжы гэтаго кундзяля, бо яшчэ ўкусіць каго.* Альшаніца Квас.

**КУ́ПА** *ж. зб.* Куп'ё. *Тут цяжко касіць, купы много.* Заполле Кос.

**КУПА́ЙЛО** *н. бат.* Арніка горная. *Купайло – лясная*

*расліна, цвіце жоўтым цветом, кветка, як у сланечніка.* Заполле Кос.

**КУПІ´ДЛО** *н. экспр.* Грошы. *Купіў бы машыну, але купідла німа.* Заполле Кос.

**КУ´ПЛЕНЫЯ** *мн. зб.* Прышлыя людзі. На *людзей, якія прыехалі ў калгас дзеля высокіх заробкаў і кватэр, кажуць купленыя, бо іх купілі шчодрымі абяцаннямі.* Квасевічы Квас. *На гэтай вуліцы адны купленыя жывуць.* Мілейкі Міл.

**КУ´РАЧ** *м.* Шматок анучы, льну, саломы, якія служылі для асвятлення ў цёмную пару дня. *Падпалі курача і пасвяці мне.* Ёдчыкі Квас.

**КУ´РАЧКА** *ж. бат.* Парасонік стракаты, капялюш. *Прыгатаваныя курачкі маюць смак свежай рыбы.* Заполле Кос.

**КУ´РАЧА МАЛІ´НА** *ж. бат.* Ажына. *Назбірала вядро курачае маліны, варэння звару.* Заполле Кос.

**КУРДА´** *ж. экспр.* Спіна. *Ні хочаш вучыцца, то ўвесь век будзяш курду гнуць.* Заполле Кос.

**КУРДУ´ПЕЛЬ** *м. абразл.* Чалавек малога росту. *Ці ж гэто кавалер? Курдупель некі.* Сенькавічы Падст.

**КУ´РКАШКІ** *мн.* У выразе: сядзець на куркашках – сядзець на пальчыках. *Ні сядзі на куркашках, бо ногі забаляць.* Хрышчонавічы Квас.

**КУ´РКІШКІ**. У выразе: На куркішкі, на куркішках (прысесці, сядзець, садзіцца) – прысесці на кукішкі, на наскі. *Вазьмеця мяне ў машыну, я хоць на куркішках пасяджу.* Квасевічы Квас.

**КУРЫ´НАЕ ЦЕ´ЛО** *н.* Стан, калі ад холаду цела пакрываецца крупкамі. *Змерзла так, шчо курынае цело стало, дрыжу ўся.* Даргужы Міл.

**КУРЫ´НАЯ СЛЕПАТА´** *ж. бат.* Казялец. *Курыная слепата цвіце вясной. У яе жоўтыя дробныя бліскучыя кветкі, яна ядавітая.* Заполле Кос.

**КУРЭ´ЦЬ** *незак.* 1. Дыміць. *Печка курыць, забіліся, відаць, люфты.* Размеркі Стайк. 2. Пылець. *Яно пыл курыць, так*

*хутко едзя.* Гошчава Стайк. 3. Выдзяляць пыл. *Сено пабыло пад дажджом, пачарнело, стало курэць.* Заполле Кос. 4. Пра моцны дождж. *Дождж такі навальны, ажно курыць.* Альшаніца Квас.

**КУСА́ЧЫК** *м. заал.* Шчыпоўка. *Кусачык – невялікая рыба. Назвалі так, бо ў яе вусікі ля рота, падобныя на маленькія абцэнгі – кусачыкі.* Размеркі Стайк.

**КУТ** *м.* Вугал. *У куце картоплі ўрадзілі, бо там ніжэй.* Дубітава Міл.

**КУ́ТНІЦА** *ж. вет.* Прамая кішка. *Надто смачная крывянка ў кутніцы.* Альшаніца Квас. *Каб табе кутніцу выпярло, куды ты гэтых курэй прэш!* Заполле Кос.

**КУ́ТЫ** *прым.* Падкаваны. *Шанавалі даўней коні: усе кутыя былі. Гэто цяпер з патрэсканымі капытамі ходзяць.* Харошча Міл.

**КУХЛІ́ВЫ** *прым.* Тое ж, што і к а х л і в ы. *Ты малады яшчэ, а кухлівы, як стары дзед.* Квасевічы Квас.

**КУ́ХЛІК** *м.* Чалавек, які ўвесь час кашляе. *Табе, кухлік, даўно трэба доктару паказацца.* Заполле Кос.

**КУ́ЦЬКА** *ж.* Дробныя ячменныя крупы. *Як добра ўварыцца куцька, то смачная.* Альшаніца Квас.

**КУЦЯ́** *ж.* 1. Ячныя крупы. *Назбіралі на калгасном полі два мяшкі каласкоў ячменных, куці зрабілі, так ад голаду ўратаваліся.* Заполле Кос. 2. *абрад.* Назва абрадавай стравы, якая гатуецца з круп на Каляды, Дзяды, на памінках. *Куцю на Каляды вараць.* Альшаніца Квас. 3. *асудж.* Неахайная жанчына. *Гэта куця мужыкову шапку ў камяку стуўкла і ні ўбачыла.* Альшаніца Квас.

**КУ́ЧКА** *ж.* 1. Загарада, катух, стойла. *Адгародзіш кучку ў хляве для цялушкі: трэба ўжэ адсадзіць.* Корачын Жытл. 2. Зямля, насыпаная кратом. *Німа спасення ад крата, увесь агарод у кучках.* Заполле Кос. 3. Укладка снапоў збожжа, льну на полі. *Учора мы ставілі лён у кучкі.* Альшаніца Квас.

**КУ́ЧМА** *м.* Збітыя, ускудлачаныя валасы. *Кучма, прычашыся, бо так і да людзей пойдзяш.* Заполле Кос.

# Л

**ЛАБАВЕ́ШКА** *ж. экспр.*. Вялікая галава. *За тваёй лабавешкай ніц ні відно.* Заполле Кос.

**ЛАБАЗНЯ́К** *м. бат.* Лабазнік. *Корань лабазняка настайваюць на гарэлцы і п'юць, калі жывот баліць.* Заполле Кос.

**ЛАБАКІ́** *мн.* Гумавыя пасталы. *Пасля вайны абуўкі ні было, то лабакі насілі, з калёс ад самалёта вырэзвалі.* Заполле Кос.

**ЛАБА́Н I** *м.* Карова без рог. *Засталася карова без рог, на такую карову кажуць лабан.* Заполле Кос.

**ЛАБА́Н II** *м.* Узгорак з пакатымі схіламі. *Міхась хату сабе паставіў на лабану.* Заполле Кос.

**ЛАБЭ́ШНІК** *м. павел.* Лоб. *Даўней трэба было, каб маладая на вяселлі плакала. А суседка мая, Барчыха, казалі, усё смяялася. То бацько драўлянай ложкаю па лабэшніку дачцэ пляснуў, каб слязу пусціла.* Альшаніца Квас.

**ЛА́ВАЧНІК** *м. устар.* Прадавец. *Даўней на магазін казалі лаўка, а на прадаўца – лавачнік.* Азярцо Падст.

**ЛАВУ́ШКА** *ж. пчал.* Прыстасаванне для прываблівання і лоўлі пчалінага рою. *Лавушкі вешалі ў лесі на дзерава.* Ятвезь Квас.

**ЛА́ЙБА** *ж.* Стары, развалены воз, машына. *Доўго на гэтай лайбе ты не наездзіш.* Альба Квас.

**ЛАКО́МЫ** *прым.* Прынадны, смачны. *Лакомы кусок знойдзя куток.* Заполле Кос.

**ЛАКО́МІЦА** *м і ж.* Ласун. *Мая малая такая лакоміца, толькі смачненькае ёй давай.* Юкавічы Стайк.

**ЛАКТА́ЦЬ** *незак.* Хлябтаць (пра ката, сабаку). *Падаю карову, налью ў баначку, кот бяжыць лактаць.* Квасевічы Квас.

**ЛАМАНУ́ЦЬ I** *зак. экспр.* Рвануць, уцячы. *Ну, ён і ламануў, ніхто ні дагнаў.* Квасевічы Квас.

**ЛАМАНУ́ЦЬ II** *зак. экспр.* З'есці, умалаціць. *Прагаладаўся, то цэлы чыгунчык капусты ламануў.* Хрышчонавічы Квас.

**ЛАМА́НЦЫ** *мн. кулін.* Печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе. *Ламанцы пякуць і ядуць на Каляду.* Альшаніца Квас.

**ЛАМІ́НА** *м. і ж. пагардл.* Гультай, лежабока. *Такі ламіна, хоць вагой падважвай.* Бялавічы Кос.

**ЛА́НДРЫНКІ** *мн.* Цукеркі - ледзянцы. *Ландрынкі – ласунок дзецям.* Альшаніца Квас.

**ЛА́НТУХ** *м. груб.* Жывот. *Адгадаваў лантух, нагнуцца цяжко.* Воля Жытл.

**ЛА́ПА** *ж.* Прылада для выцягвання цвікоў з дрэва. *Лапай добра цвікі даставаць, лёгко, бо рычаг вялікі.* Заполле Кос.

**ЛАПАТУ́ХА** *ж.* Зазубіна. *Лапатух нарабіў, клеплючы касу.* Заполле Кос.

**ЛА́ПАТНІК** *м.* Бядняк. *Не хвалю я, дзеткі, колішняе жыццё, адны лапатнікі былі.* г. Косава.

**ЛА́ПАЦЬ** *незак. экспр.* Абдымаць, прыставаць. *Ні лапай, ні твая.* Кушняры Падст.

**ЛА́ПІКО** *н.* 1. Латка на адзенні. *Свеціцца ўся твая рубашка, вынашаная, німа да чаго і лапіко прышыць.* Аўсто Стайк. 2. *перан.* Невялікі ўчастак зямлі. *На гэтым лапіку пасею ячмень.* Лазаўцы Міл.

**ЛА́ПКІ** *мн.* Галінкі хвоі, елкі. *Лапкамі ўкрываюць скапцы з бульбаю.* Заполле Кос.

**ЛАСЁ́ВАЯ ТАЎСЦЮ́ХА** *ж. бат.* Від таўстухі. *Ласёвая таўсцюха расце на ніжэйшых месцах, ножка ў яе высокая, а шляпка чырванаватая.* Альшаніца Квас.

**ЛАСІ́НА ВОШ** *ж. заал.* Клешч, які жыве на ласіных пераходах. *Ласіна вош ляціць, садзіцца і лезя табе ў валасы.* Альшаніца Квас.

**ЛА́СТАЎКА, ЛА́СТУЎКА I** *ж. шав.* Устаўны клін у апратцы. *Парвалася ластаўка ў штанах, зашый.* Бараны Ягл. *Ластуўку ў крэсло ўстаўлялі, кантовую.* Альшаніца

Квас.

**ЛАСТУ́ЎКА II** *ж.* Ластаўка. *Ластуўка прылятая на цяпло.* Альшаніца Квас.

**ЛАТА́ЦЬ** *ж. бат.* Лотоць. *Латаць расце па нізкіх месцах, на канавах. Прыкладываюць лісты пры вогніку.* Бялавічы Кос.

**ЛАТА́Ш** *м. бат.* Тое ж, што і л а т а ц ь. *На балоце латашы расцвілі, усё жоўтая ад іх.* Заполле Кос.

**ЛАХА́НКА** *ж.* Начны гаршчок. *Колісь дзецям вялікі гліняны гаршчок падавалі, лаханкай называлі.* Альшаніца Квас.

**ЛАХА́НЬКА** *ж.* Вялізная міска. *У капанне ні было калі аджымаць, то зара цэлую лаханьку замачыла.* Квасевічы Квас.

**ЛАХАЧЭ́** *мн. бат.* Буякі. *Лахачэ ў нас мало хто збірая, бо е чорныя ягады.* Мілейкі Міл.

**ЛАХВА́** *ж.* Удача, дарэмшчына. *Сёні мне лахва папала, зайшоў да суседа, а ў яго госці, і мне чарку налілі.* Боркі Падст.

**ЛАХУ́ДРА** *ж. груб.* Неакуратная жанчына, акалуха. *Гэта лахудра не саромеяцца і да людзей выйсці.* Заполле Кос.

**ЛА́ЦІЦЬ** *незак. буд.* Прыбіваць латы да кроквaў. *Паставілі кроквы, лаціць будзям.* Була Міл.

**ЛАШЧАВІ́НА** *ж.* Нізкае балоцістае месца, у якім стаіць вада. *Кругом гэтай лашчавіны лахачоў много.* Альшаніца Квас.

**ЛЕГКАБЫ́ТЫ** *прым.* Так скажуць пра чалавека, які хоча мець дастатак, не трацячы на гэта ні сіл, ні працы. *Бачыш, які легкабыты, хоча ўсё мець, але пальцом не паварушыць.* Заполле Кос. *Мікалай – легкабыты, ён ні перасіліцца.* Бусяж Міл.

**ЛЕ́ГМА, ЛЁ́ГМА, ЛО́ЖМА** *прысл.* Лежма. *Захварэла жонка, легма ляжыць.* Була Міл. *Лёгма ляжыць збажына: такі вецер моцны быў.* Няхачава Стайк. *З дзеўкай пасварыўся,*

*то цэлы дзень кавалер ложма ляжыць, гаварыць ні з кім ні хоча.* Квасевічы Квас.

**ЛЕ́ДВО** *прысл.* Ледзьве. *Назбірала цэлы кош грыбоў, ледво прынясла.* Жытлін Жытл.

**ЛЕКАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Дрыжаць ад холаду. *Трэба цяплей апранацца, а то ажно лекаціш.* Падстарынь Падст.

**ЛЕ́НІВО** *н.* Скура вужакі, гадзюкі, скінутая ў час ліняння. *У леніві галаву мыюць, каб косы харошыя былі.* Заполле Кос.

**ЛЕ́ТАЦЬ** *незак. перан.* Лятаць, бегаць. *Паступіла вучыцца, то ад радасці ні ходзіць, а летае.* Заполле Кос.

**ЛЕ́ТКІ** *прым.* Лёгкі на ногі, хуткі, шпаркі. *Мая цёшча яшчэ леткая, не ведая стомы.* Размеркі Стайк.

**ЛЕ́ШЧАТКА** *ж.* 1. Тонкая дошка. *Лешчаткай добра мяшаць запараную муку.* Заполле Кос. 2. *мед.* Медыцынская шына. *Паламаў ногу, то ўзялі ў лешчаткі.* Заполле Кос.

**ЛЕ́Я** *ж.* Латка на каленях. *Каб на каленях штаны не праціраліся, прышываюць лею.* Заполле Кос.

**ЛЁ́ХІ** *мн.* Норы, хады пад зямлёй. *Мышы лёхоў нарабілі.* Альшаніца Квас.

**ЛЖЭАПЕ́НЬКА** *ж. бат.* Апенька несапраўдная. *Як я, старая, зблудзіла, лжэапенёк прынясла?!* Альшаніца Квас.

**ЛІ́ЛІЯ** *ж. бат.* Тое ж, што і б л я ш н я к. *Лілію садзяць у агародах, надто кваткі прыгожыя, сінія, яркія.* Альшаніца Квас.

**ЛІ́ЗІКІ** *толькі мн.* Ласункі. *На адных лізіках жыве малая – распесціла баба.* Размеркі Стайк.

**ЛІНЁ́К** *м. заал. памянш.* Лінь. *У лінька цёмна-залацістая дробная луска.* Заполле Кос.

**ЛІ́ПАВЫ** *прым.* 1. Які мае дачыненне да ліпы. *Ліпавы чай.* Заполле Кос. 2. *перан.* Дрэва з рэдкімі кольцамі, кругамі. *Бывая так: адна палавіна дзерава густая, другая – ліпава.* Заполле Кос.

**ЛІСА'ВЫ** *прым.* Ліслівы, хітры. *Гэта жанчына лісавая, з ёю трэба вухо трымаць востро.* Азярцо Падст.

**ЛІ́СІК** *м. бат.* Дзіванна. *Лісік высокі, лісты доўгія. Як*

*цвіце, то ўся ў жоўтых кветачках. Расце на лугах, узлесках. Прымяняюць ад падучай хваробы.* Бялавічы Кос.

**ЛІ´СНІК** *м. бат.* Піжма. *Лснік высокі, кветкі жоўтыя, пляскатыя гарошынкі, сабраныя ў кошычкі. Расце на сметніках.* Бялавічы Кос.

**ЛІ´СЫ** *толькі мн.* Прыстасаванне з двух бярвенняў, якімі замацоўваюць сцяну, што пачынае крывіцца. *Лісы табе трэба ставіць, а то разваліцца хлеў.* Заполле Кос.

**ЛІХАЕ´ЖЫ** *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Карова мая ліхаежа: абы-чаго ні есць.* Альшаніца Квас.

**ЛІЧА´Й, ЛІЧАЯ´** *ж.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў. *Са скрынкі сыпляцца зерня ў лічай.* Заполле Кос. *Лічая – адтуліна, дзірка ў верхнім камені жорноў.* Альшаніца Квас.

**ЛІЦВІНЫ´** *мн.* Беларусы. *Палешукі з Целяхан і зараз нас ліцвінамі называюць.* г. Косава.

**ЛІШПА´НКА** *ж.* Рыдлёўка. *Канём з-за прысаддзя ні ўлезяш у агарод, то лішпанкаю капаю.* Скураты Квас.

**ЛО´ЖАЧКА I** *ж.* Прылада для абування. *Ложачкай лягчэй абуць чаравікі.* Галынка Міл.

**ЛО´ЖАЧКА II** *ж. анат.* Сонечнае спляценне. *Мусі, страўнік баліць, пад ложачкай ныя.* Альшаніца Квас.

**ЛО´ЖКА** *ж.* Лыжка. *Драўлянай ложкай добра варэнне мяшаць.* Скураты Квас.

**ЛО´НКА** *ж.* Луг, сенажаць. *На раніцу ўсю лонку выкасіў.* Заполле Кос.

**ЛО´ПАЦЕНЬ** *м.* 1. Тое ж, што і л а п а т у х а. *Як ні ўмеяш кляпаць касу, то лопатняў наробіш.* Заполле Кос. 2. *перан.* Чалавек, які многа і бесперастанку гаворыць. *Сціхні, лопацень, нудно цябе слухаць.* Заполле Кос.

**ЛО´ПАЦЬ** *незак.* 1. Хутка рабіць, спяшацца. *Лопаяш цэлы ранок па гаспадарцы, а пасля ляціш на работу, баішся, каб ні спазніцца.* Заполле Кос. 2. *перан.* Есці на поўны рот (пра свіней). *Гэты паршучок з маленькага лопая.* Заполле Кос.

**ЛУ´БКА** *ж.* Калыска. *Для малых дзяцей робяць лубкі, для большых калыскі.* Гошчава Стайк. *Лубкі рабілі з ліпы,*

*з тонкай шырокай адной дошчачкі, якую выгіналі ў прадаўгаваты круг.* Ёдчыкі Квас. *Каб зрабіць лубку, трэба гебліком настругаць з асовых пален тонкіх лучын, а тады гэтымі лучынамі сплясці лубку.* Альшаніца Квас.

**ЛУГ** *м.* Упадзіна, нізкае месца на паверхні зямлі. *З балота вада пойдзя, а з лугу не.* Заполле Кос.

**ЛУГО´ЎКА, ЛЫГО´ЎКА** *ж.* Попельны луг. *Бывало лугоўкі наварыш дый мыяш у ёй.* Альшаніца Квас. *У лыгоўцы вымочвалі льняное палатно.* Заполле Кос.

**ЛЮ´ЛЬКА** *ж.* Тое ж, што і л у б к а. *У люльках люлялі дзетак.* Квасевічы Квас.

**ЛУПАВІ´НЫ** *мн.* Лупіны з бульбы. *Лупавіны з бульбы аддаем карові.* Быч Стайк.

**ЛУПА´ТЫ** *прым.* 1 З вялікімі вочкамі (пра сіта). *Лупатае сіто – гэто сіто з вялікімі вочкамі.* Альшаніца Квас. 2. Стракаты. *Лупатая спаніца, у кветкі.* Альшаніца Квас.

**ЛУ´ПАЧ** *м. абразл.* Вірлавокі чалавек. *Мой лупач пасля ўчарашняй папойкі спіць яшчэ.* Бялавічы Кос.

**ЛУСКА´** *ж.* Высеўкі з грэчкі. *Як прасейваюць грачаную муку, то застаецца луска.* Альшаніца Квас.

**ЛУ´ШЧЫК** *м.* Лён - самасей. *Як ні беражэш галоўкі льну, каб ні абіваліся, ды цяжко ўберагчыся. Возьме восенню і ўзыдзя лён. Кажуць, узышоў лушчык.* Альшаніца Квас.

**ЛУШПАВІ´НЫ** *мн.* Шалупінне. *Картапляныя лушпавіны курам вару.* Скураты Квас.

**ЛЫ´БІЦЦА** *незак. экспр. іран.* Усміхацца. *І чаго ты лыбішся без прычыны?* Руда Падст.

**ЛЫ´ЖВЫ** *мн.* Лыжы. *Лыжвы заўсёды робяць з ясеню, і хуткія, і моцныя.* Яблонка Жытл.

**ЛЫСА´К** *м. зневаж.* Лысы чалавек. *Гэты лысак пагубіў косы па чужых падушках.* Грыўда Міл.

**ЛЫ´САЯ ГАРА´** *ж.* Узгорак, які пустуе. *Як раскапаюць, то на лысай гарэ пясок, жвыр бяруць.* Заполле Кос.

**ЛЫ´СІНА** *ж. перан.* Купка, невялікая колькасць адной расліны ў адным месцы. *Кругом ягад німа, толькі ў адным*

*месці лысіна ягад.* Альшаніца Квас.

**ЛЫСУ´ХА** *ж.* Карова з плямой на ілбе. *Лысуха ў мяне, такую самую і цялушачку прывяла.* Сакоўцы Міл.

**ЛЬНІ´СКО** *зб. н.* Льнішча. *Па льніску хоць касі, такі прэй парос.* Даргужы Міл.

**ЛЮБІСТО´К** *м. бат.* Любіста. *Яно возьмяш у рукі лісток любістоку, то пахнуць будуць рукі праз колькі дней, ні змыяш.* Заполле Кос.

**ЛЮБЛІ´ВЫ** *прым.* Нятлусты (пра мяса). *Люблівае мясо ўсе любяць.* Хадоркі Кос.

**ЛЮ´БЧЫКІ** *мн. заал.* Казяўкі, які плаваюць у вадзе. *Любчыкі ловяць, сушаць і даюць піць з гарэлкаю кавалеру, каб любіў.* Альшаніца Квас.

**ЛЮДСКІ´** *прым.* Уласны, а не дзяржаўны, калгасны. *Людскія гумны на другі бок гуліцы стаялі даўней.* Яблонка Жытл.

**ЛЮ´ХТЫ** *мн.* Дымавы ход у печцы. *Печка дыміць, відаць, люхты забіты.* Ёлкі Ягл.

**ЛЮ´ХЦІК** *м.* Фортка ў акне. *Закрый люхціка, бо дуя, прастудзішся.* Альшаніца Квас.

**ЛЮ´ЦКІ** *прым.* Добры, чалавечны, спагадлівы. *Файны, люцкі чалавек.* Альшаніца Квас.

**ЛЮ´ШНЯ** *ж.* Упор, які лучыць верх ручкі з воссю. *Люшня мацуя ручку ў возі.* Бялавічы Кос.

**ЛЯ** *выкл.* 1. Бач, глянь. *Ля, якую рыбіну паймаў: хвост па зямле валачэцца.* Грыўда Міл. 2. пабочн. *Ён, ля, вучыўся добра, то вучыцялём стаў.* Быч Стайк.

**ЛЯГА´РЫ** *мн.* Жэрдкі, па якіх коцяць бярвенні з зямлі ўгору. *Па лягарах і тоўстае дзерава ўручную закоціш на машыну.* Заполле Кос.

**ЛЯ´ДА** *ж.* Прылада, якая дапамагае чалавеку аднаму пакласці бярвенне на воз. *Меўшы ляду, любую дзеравіну на воз пакладзеш, самую цяжкую.* Любішчыцы Люб.

**ЛЯДА´ЧЫ** *прым.* Кепскі, нізкай якасці. *Лядачае сена.* Заполле Кос.

**ЛЯДЗЯ´НКІ** *мн.* Ледзяшы. *Як адліга, то лядзянкі са*

*стрэх звісаюць.* Заполле Кос.

**ЛЯДОЎНЯ** *ж.* 1. Пограб з лёдам для захоўвання прадуктаў. *Даўней лёд рэзалі на рэчцы і рабілі лядоўні.* Заполле Кос. 2. Холад у хаце. *Пакуль у бальніцы была, мужык выстудзіў хату на лядоўню.* Заполле Кос.

**ЛЯЖНЁЎКА** *ж.* Частка дарогі, вымашчаная бярвёнамі. *Газапровад вялі, то па балоці клалі ляжнёўку.* Яглевічы Ягл.

**ЛЯК І.** *м.* Нешта вельмі салёнае, лёк. *Следзі прадавалі, а я ляку ўзяла да салёнікоў.* Альшаніца Квас.

**ЛЯК ІІ.** *м. абрад.* Сполах. *Як ляк прыпадзе, то жывот пухня.* Альшаница Квас.

**ЛЯМЕЦ** *м.* Падхамутнік. *У хамут падшываюць лямец, каб каню ні муляло.* Юкавічы Стайк.

**ЛЯМЦЫ** *мн.* Каўтуны ў валасах. *Расчашы косы, бо аж у лямцы пазбіваліся.* Заполле Кос.

**ЛЯПАЎКА** *ж.* Мухабойка. *Летом ляпаўку з рук ні выпускай: мухі збрыдаюць.* Бялавічы Кос.

**ЛЯПАЦЬ** *незак. экспр.* Падаць (пра снег). *Снег мокры ляпая, пацяплело.* Бусяж Міл. *Снег вялікі ляпая, як пасталы.* Заполле Кос.

**ЛЯПЕЙ** *прысл.* Лепш. *Ляпей я хлеб з вадою буду есці, але ні пайду на паклон супастату.* Размеркі Стайк.

**ЛЯПЕЧА** *ж.* Палок каля печы. *Памаліcь Богу, што твайму бацьку ляпечу апрастаў, замуж цябе гэдыку ўзяў.* Заполле Кос.

**ЛЯРВА** *ж. груб.* Распусніца. *Чаго разляглася, лярва? Уставай, прыбяры ў хаці!* Сярадава Жытл.

**ЛЯСКА** *ж.* Лёстка ў лесвіцы, драбіне для воза. *Драбіна старая, глядзі, каб ляска ні зламалася.* Альшаніца Квас.

**ЛЯСКОВЫ** *прым.* Ляшчынавы. *Лясковае вудзільно добрае, моцнае, гнуткае.* Гічыцы Ягл.

**ЛЯХА** *ж.* Невялікі ўчастак поля, выкарыстаны пад лён. *Ляху льну пасеяў.* Заполле Кос.

**ЛЯШЧОТКА** *ж.* Тое ж, што і л е ш ч а т к а. *Руку хто зломіць, то бяруць у ляшчоткі.* Заполле Кос.

# М

**МАГЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Фарбаваць. *Дуня хату маглюя, мусі, дачку замуж будзя аддаваць.* Заполле Кос.

**МАГНЭ́СОМ** *прысл.* Сілай, міжволі. *Мяне да гэтай дзяўчыны магнэсам цягня.* Заполле Кос.

**МАДЫГАВА́ЦЬ** *незак.* Прыладжваць, падганяць. *Мадыгуй, не мадыгуй, але калі пальто ні да плячэй, ніякімі ўшыўкамі ні паможаш.* Заполле Кос.

**МА́ЗАНКА** *ж.* Часовая цагляная печка, пабудаваная для гаспадарчых патрэб на падворку. *Я свіням у мазанцы летом вару, хоць чысцей у хаці.* Галенчыцы Ягл.

**МАЗГАВЕ́ШКА** *ж. груб.* Галава. *Што ты сваёй мазгавешкай думаяш? Дакуль дурэць будзяш? Бярыся за розум.* Яблонка Жытл.

**МА́ЗІЦЦА** *незак.* Пачынаць плакаць, румзаць. *Ну, хопіць ужэ мазіцца, не маленькі.* Жамайдзякі Міл.

**МА́ЗЯ** *ж. дзіц.* Плакса. *Перастань плакаць, мазя.* Була Міл.

**МАЙДА́Н** *м.* 1. Невялікі ўчастак утравелага поля. *На майдане збіраліся іграць у валейбол.* Заполле Кос. 2. Прасторны двор. *На гэтом майдане можно авечкі пасвіць.* Альшаніца Квас.

**МАЙНАВА́ЦЬ** *незак.* Трызніць, блюзніць. *Свякроў майнаваць пачынае: усё путая, вядомо, ужэ девяносто гадоў.* г. Косава.

**МАКАВЕ́Й** *м. рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 1 жніўня. *На Макавей мак свенцяць.* Ёдчыкі Квас.

**МАКА́ТКА** *ж.* Вышыўка. *Макатку на сцяну вешалі, каб харашэ было.* Заполле Кос.

**МАКО́ТРА** *ж.* Вялікая гліняная міска, макацёр. *Бало, картоплі ў макотры церлі на аладкі і мылі ў ёй картоплі.* Квасевічы Квас.

**МАКРАЦЕ́ЧА** *ж.* Макрата. *Макрацеча ў хляве, трэба падаслаць.* Дубітава Міл.

**МАКРО́** *безас. у знач. вык.* Мокра. *Макро ў хляве.* Куляшы Міл.

**МАКРЫ́ЦА** *ж. бат.* Зоркаўка. *Макрыца сцеляцца па зямле, кветачкі ў яе дробныя, белыя, як зорачкі.* Гошчава Стайк.

**МАК-САМАСЕ́Й** *м. бат.* Мак-відук. *Даўней запарвалі галоўкі маку-самасею і адварам дзяцей паілі, каб спалі.* Заполле Кос.

**МАЛАВЕ́ЛЕ** *прысл.* Трошкі. *Малавеле паспаў, і ўжэ мне палепшало.* Даргужы Міл.

**МАЛАДЗІ́ЦЦА** *безас.* Хмурыцца, брацца на дождж. *Нешчо маладзіцца, каб хаця дождж не пайшоў, трэба сено ісці грабці.* Заполле Кос.

**МАЛАДЫ́** *прым.* Рана скошаны (пра траву). *Пастараўся мой гаспадар, ужэ скасіў траву ў агародзі, маладую, майскую.* Заполле Кос.

**МАЛАДЫ́ МЕ́СЯЦ** *м.* Маладзік. *Як малады месяц рожкамі ўверх, то дождж будзя.* Лазаўцы Міл.

**МАЛАЦЕ́ННЕ** *н.* Малацьба. *Малаценне – цяжкая работа, за дзень так намахаяшся, што рук ні чуяш.* Грыўда Міл.

**МАЛАЦЕ́ННІК** *м.* Малацьбіт. *Добры малаценнік за дзень капу снапоў змалоціць.* Падстарынь Падст.

**МАЛАЧА́Й I** *н. 1. бат.* Адуванчык. *Зусім німа травы, адзін малачай жаўцея.* Мілейкі Міл. 2. *мед.* Дзіцячая хвароба. *Бело ў роце, мусі, малачай у малого будзя.* Заполле Кос.

**МАЛАЧА́Й II** *м.* Тое ж, што і б а д з я к. *Малачай – пустазелле, ім параць ногі пры грыбковых хваробах.* Бялавічы Кос.

**МАЛІКАВА́ЦЬ** *незак.* Перабіраць, есці з неахвотаю (пра яду). *Нешчо карова малікуя.* Заполле Кос.

**МА́ЛІЦЦА** *незак.* Паводзіць сябе, як малое дзіця;

дзяцініцца. *Вялікі ўжэ, а малішся, як тое малое дзіця.* Заполле Кос.

**МАЛО´ЗІВО** *н.* Малодзіва. *На молозіві аладкі надто смачныя, растуць вельмі, пышныя.* Гошчава Стайк.

**МАЛО´ЧНІК 1**. *м.* Чалавек, які збірае малако. *Нашо сяло вялікае, малака здаюць много, то два малочнікі.* Заполле Кос. 2. *м.* Чалавек, які любіць усе малочнае. *Ён без малака жыць ні будзя, малочнік гэты.* Гладышы Міл. *Не быў бы малочнік, малако за воду п'е.* Міхнавічы Стайк.

**МАЛО´ЧНІЦА** *ж.* Жанчына, якая збірае малако. *У нашай малочніцы і конь ведае, ля якой хаты стаць.* Альшаніцы Квас.

**МАЛЬКО´** *прысл.* Мала. *У каго малько было зямлі, то той бедно жыў. Самое велькае багацце, як сам па сабе кожны жыў, была зямля.* Гладышы Міл.

**МАЛЯНКО´ВЫ** *прым.* Малінавы, цёмна-чырвонага колеру. *Сукенку малянкову купіла: надто гэты коляр люблю.* Няхачава Стайк.

**МАНЕ´ЖЫЦЬ** *незак. перан.* Мучыць, выпрабоўваць. *Не манеж ты мяне, бо ні скажу, дзе была ўчоры.* Альшаніца Квас.

**МАНТЫЛЯ´ЦЦА** *незак.* Целяпацца, калыхацца. *Бачыш, як бяжыць да магазіна, ажно косы мантыляюцца.* Галынка Міл.

**МАНТЫЛЯ´ЦЬ** *незак.* Махаць, матляць. *Не мантыляй рукамі пад носом, не баюся. Хочаш сказаць шчо, то скажы спакойно.* Альшаніца Квас.

**МАНЦЁ´ШКА** *ж.* Мянташка. *Манцёшку робяць з чорнага дубу, з дубу, які праляжаў у вадзе много год.* Галік Міл.

**МА´НЬКА** *м. і ж.* Ляўша. *Мой хлопяц манька: усё леваю рукою робіць.* Мілейкі Міл.

**МАРАЧО´К** *м. заал.* Тое ж, што і г а р б ы л ь. *Марачок на акунь кажуць так, бо ў яго бакі з цёмнымі папярочнымі палосамі.* Заполле Кос.

**МАРДА´СЫ** *толькі мн. груб.* Твар, шчокі. *Зараз як*

*заеду па мардасах, то будзяш ведаць, як красці ў старого чалавека.* Бялавічы Кос.

**МАРУСІ́ЦЬ** *незак.* Імжыць, цярусіць. *Цэлы дзень дождж марусіць, ні перастае.* Падстарынь Падст.

**МАРКІТАВА́ЦЬ** *незак.* Знаходзіцца ў стане палавой актыўнасці (пра авечак). *Авечка маркітуя.* Верашкі Квас.

**МА́РНЕ** *прысл.* Выглядаць змарнелым, быць худым, слабым. *Здаецца, і добра карміў паршука, а выглядае марне.* Альшаніца Квас.

**МАРНАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Нішчыць. *От марнавалі людзей у вайну.* Бялавічы Кос. 2. Псаваць. *Не марнуй абуўку.* Размеркі Стайк.

**МАРЦАВА́ЦЬ** *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Кошка марцуя.* Быч Стайк.

**МА́РЫЦЬ** *незак.* Хіліць на сон. *Не выспалася, на сон марыць.* Рацкевічы Міл.

**МАСЛЯ́НКА** *ж.* Маслёнка. *Зб'юць масло, маслянка застаецца ў бойцы.* Бусяж Міл.

**МАСЦІ́ЦЬ** *незак. экспр.* Лупцаваць, біць. *Кожны дзень мужыка мосціць, а ён залье бельма ды яму да лямпачкі.* Любішчыцы Любішч.

**МАСЦЬ** *ж.* 1. Мазь. *Дала доктарка масці, каб прыкладаў да раны.* Руда Падст. 2. *перан.* Вадкасць, якую выдзяляе з рота конік (насякомае). *Конік, конік, дай мне масці ад балясці.* Заполле Кос.

**МАТАВІ́ДЛО** *н. ткац.* Матавіла. *Учоры цэлы вечар матавідлом ніткі матала.* Була Міл.

**МАТАНУ́ЦЬ** *зак. 1. экспр.* Тузануць, рвануць. *Гэдык конь матануў, што на нагах ні ўтрымаўся.* Боркі Падст. 2. *перан.* Паехаць за край света. *Малады быў, дурны, ажно ў Сібір матануў, а пасля ні ведаў, як уцякаць адтуль.* Стайкі Стайк.

**МА́ТКА** *м і ж. дзіц.* Капітан каманды. *Як іграюць дзеці ў лапту, то дзеляцца на дзве каманды і выбіраюць сабе матку.* Заполле Кос.

**МАТНЯ´ I** *ж.* Аканіцы з саломы. *Даўней двайных вокен ні было, адзінарныя, то на вокна матні рабілі, з саломы. Як мароз, то закрывалі імі вокна.* Заполле Кос.

**МАТНЯ´ II** *ж.* Клінок у штанах, які ўстаўляецца паміж дзвюх калашын. *Камень цяжкі як падняў, матня і трэснула.* Сакоўцы Міл.

**МАЎМЫ´ГА** *м. і ж.* Хмуры, маўклівы чалавек. *Маўмыга, слова не аберня.* Аўсто Стайк.

**МАХРАЧЭ´** *мн.* Махры. *Вясной на бульбі махрачэ доўгія, белыя, іх трэба абціраць.* Сенькавічы Падст.

**МАЦА´К** *м.* Варанае яйцо з моцнай шкарлупінай. *Стары Харэля за мацак косаўскаму мешчаніну цэлы дзень гараў.* Заполле Кос. *Я на Вялікдзень мацаком цэлую шапку яец выбіў.* Скураты Квас.

**МАЦАТА´** *ж.* Моц, трываласць. *Льняное палатно мацата, зносу німа.* Аляксейкі Стайк.

**МАЦЕ´РА** *ж.* Тканіна. *Купіла мацеры на спаніцу.* Альшаніца Квас.

**МАЦЁ´РА** *ж.* Свіная матка. *Мацёра прывяла дзесяцёро парасят.* Стайкі Стайк.

**МАЦЮ´К** *м.* Мат. *Навешай мацюкоў, калі ён добрага слова ні панімая.* Заполле Кос.

**МАЧУ´ЛЫ** *мн.* 1. Мачулішча. *Мачулы – гэто месца, дзе ў вадзе мачылі каноплі.* Аўсто Стайк. 2. Невялікае балотца. *У мачулах і летом не высыхало.* Заполле Кос.

**МГЛА** *ж.* Імжа. *Мгла цэлы дзень сыпля.* Заполле Кос.

**МЕРГАВА´ЦЬ** *незак.* Разлічваць, думаць. *Мяргуй сам, я магу памагчы табе ў любы дзень.* Аляксейкі Стайк.

**МЕ´РНЫ** *прым.* Аднолькавы па велічыні і памеры. *Гэты год картоплі мерныя: і ні свіных, ні вялікіх, адны насеннікі.* Халап'я Падст.

**МЕ´СТО** *н. вет.* Паслед, плацэнта. *Каб карова ўрокаў не баялася, то место закопваюць у хляве ля парога.* Альшаніца Квас.

**МЕ´ТАР** *м.* Метр. *Ну і кавалер, метар з шапкаю.* Альба

Квас.

**МЕТЛЮГА́** *ж.* Буран, завея. *Свету, быту ні відно: гэдыка метлюга.* Заполле Кос.

**МЖА** *ж.* Дробны дождж, імжа. *Восеньская мжа на цэлы дзень.* Размеркі Стайк.

**МІДНІ́ЦА** *ж.* Вялікая міса. *У мідніцы варылі варэнне.* Альшаніца Квас.

**МІЗІ́НЕЦ** *м.* Мезенец, пяты, самы малы палец на назе, руцэ. *Ты майго мізінца не варт.* Азярцо Падст. *Мізінцом кабеты шчупаюць курэй.* Хадоркі Кос.

**МІКАЛА́ЕЎСКАЯ ДЗЕ́ЎКА** *ж. іран.* Старая незамужняя дзяўчына. *Выбірала кавалероў ды мікалаеўскай дзеўкай засталася.* Бялавічы Кос.

**МІКДА́ЛКА** *ж. экспр.* Каханка. *Ні адпірайся, усё раўно людзі кажуць, што ты мая мікдалка.* Хрышчонавічы Квас.

**МІКО́ЛЬНІК** *м. 1. бат.* Баравік. *Мікольнікі паявіліся, сусед цэлы кошык прынёс.* Юкавічы Стайк. 2. Колас збажыны. *Каласкі паказваюцца, завязваюцца якраз на Міколу, іх і завуць мікольнікі. Заполле Кос.*

**МІЛЮЗГА́** *ж.* Дробязь, малеча. *У гэтай затоцы добрае рыбы ні будзя: адна мілюзга.* Грыўда Міл.

**МІНЮ'ТА** *ж.* 1. Мінута. *Падажджэм мінют пяць аўтобуса, а тады пешшу пойдзям.* Гошчава Стайк. 2. *у знач. прысл.* Вельмі хутка. *У мінюту зрабіў.* Заполле Кос.

**МЛІН** *м.* Млын. *Мы век да Косава ў млін ездзім.* Заполле Кос.

**МЛІНА́Р** *м.* Млынар. *Раблю млінаром, бо люблю гэты пыл.* г. Косава.

**МЛЯЧА́РНЯ** *ж.* Памяшканне, дзе прымаюць малако, дзе яго перапрацоўваюць. *Млячарня была ў Косаві, зараз яе ўжэ німа.* Заполле Кос.

**МО́ГЛІЦЫ** *толькі мн.* Могілкі. *У нас у сяле двоі могліц: адны ўніяцкія, другія праваслаўныя.* Альшаніца Квас.

**МО́ЛІЦЫ** *толькі мн.* Тое ж, што м о г л і ц ы. *Былі ў нас старыя моліцы, зараз там ужэ ні хаваюць.* Хадакі Жытл.

**МО́НДРЫ** *прым. іран.* Разумны. *Надто ты мондры, усё ты ведаяш.* Стайкі Стайк.

**МО́РВА** *ж. бат.* Шаўкавіца. *На сяле ано ў нас морва расла. І дзе дзед яе ўзяў?* Альшаніца Квас.

**МО́РКВА** *ж. перан.* Драўніна з маладога лесу, у якой мала стрыжню, адна аболонь. *Я знаю лес. Стукну яно па дзераві сакераю, то скажу: ці морква, ці стрыжнёвае дзерава.* Заполле Кос.

**МО́ТЛАХІ** *мн.* Рэшткі чаго-н. *Дрова пабраў, асталіся адны мотлахі.* Альшаніца Квас. *Прыехалі дзеці на свежыну, то мне адны мотлахі пакінулі: тое, што ходзіць, і тое, што рыя.* Быч Стайк.

**МУДО́ХАЦЦА** *незак.* Марудзіць, корпацца. *Ні мудохайся, сцямнея зараз.* Хадакі Жытл.

**МУДРЭ́Й** *прысл.* Лепш, арыгінальней. *Ён мудрэй зробіць.* Яглевічы Ягл.

**МУЖЧЫ́НСКІ ЛА́НДЫШ** *м. бат.* Тое ж, што і дзікі ландыш. *Мужчынскі ландыш, кажуць, ядавіты.* Бялавічы Кос.

**МУЗО́ЛЬ** *м.* Мазоль. *Туфлі цесныя, музоль нацёр.* Альшаніца Квас.

**МУ́ЗЫКІ** *толькі мн.* Танцы. *Хадзем у клуб на музыкі.* Гічыцы Ягл.

**МУ́ЗЯ** *ж.* Усё, што рэдкае, вязкае. *Выбралі воду ў калодзязі, адна музя на дне.* Заполле Кос.

**МУЛЬ** *м.* Твань, іл. *У гэтым возяры мулі много.* Галенчыцы Ягл.

**МУР** *м.* Жылое памяшканне і гаспадарчыя пабудовы, зробленыя з цэментных блокаў. *Мур халодны, много дроў на апал трэба.* Альшаніца Квас.

**МУ́РАВА** *ж.* Зараслы густой травой неапрацаваны ўчастак поля; дзірван. *Па мураве часто порхаўкі растуць.* Заполле Кос.

**МУ́РЗАЧ** *м.* Неахайны мурзаты чалавек; мурза. *Мой мужык трактарыст, гэдыкі мурзач, адзежы ні дамыяшся.*

Альшаніца Квас.

**МУРЦО́ЎКА** *ж. кулін.* Цура. *Мурцоўка робіцца так: хлеб кусочкамі накрышаць, вада кіпячона, засквараць, калі е малако, то малака дабавяць.* Альшаніца Квас.

**МУС** *у знач. вык., часцей з інф., з дзеясл. "быць" або без апошняга.* Абавязаны, вымушаны што рабіць, або мець якую якасць. *Гэто такая работа, шчо мус рабіць.* Бялавічы Кос.

**МУ́СІ** *пабочн.* Мусіць, мабыць. *Мусі, дождж будзя: парыць моцно.* Жамайдзякі Міл.

**МУ́СІКА** *пабоч.* Тое ж, што і м у с і. *Мусіка, дождж будзя: ластаўкі нізко над зямлёй лётаюць.* Заполле Кос.

**МУСО́ВО** *прысл.* Неабходна. *Мне мусово грабці сено трэба, бо заўтра на работу.* Заполле Кос.

**МУ́ТАР** *м і ж.* Ілгун, манюка. *Кажуць так: "Мутар да Гародні дайдзе, але назад ні верняцца".* Заполле Кос.

**МУ́ТАЧ** *м і ж.* Тое, што і м у т а р. *Нявестка такі мутач, што свет абыдзі, ні знойдзяш.* Ёдчыкі Квас.

**МУЎЧА́РНІК** *м. бат.* Талакнянка. *Муўчарнік прымяняюць пры захворванні мочапалавых шляхоў.* Бялавічы Кос.

**МУЎЧА́ЦЬ** *незак.* Маўчаць. *Нарабіў шкоды, то муўчыць, як вады ў рот набраўшы.* Альшаніца Квас.

**МУХАЕ́ДЫ** *толькі мн. груб.* Твар. *Адчапіся, бо палучыш па мухаедах.* Кушняры Падст. *Як дам па мухаедах, пятаму закажаш.* Зялёны Бор Стайк.

**МУХАЯ́РКА** *ж. бат.* Мухамор чырвоны. *Мухаяркі зверху мажуць салодкім, каб мухі садзіліся.* Альшаніца Квас. *Дзе чырвоныя мухаяркі, там і баравікі растуць.* Заполле Кос.

**МУЦЕ́ЛЬ** *м.* Тое ж, што і м у т а р. *Гэты муцель як ні змуціць, то ні пражыве.* Старажоўшчына Кос.

**МУЦІ́ЦЬ** *незак.* Маніць, хлусіць, ілгаць. *І шчо ты муціш? Альбо гэтаму праўда? Выдумаў усё!* Дубітава Міл.

**МУЦЯЛІ́СКО** *м. экспр.* Тое ж, што і м у т а р. *Муцяліско,*

*нігоднаму твайму слову ні веру.* Квасевічы Квас.

**МУЧАНІ´ЧНІК** *м. бат.* Тое ж, што і м у ў ч а р н і к. *Мучанічнік п'юць, як ыркі хворыя.* Заполле Кос.

**МУЧАНЫ´** *прым.* Мучны. *Мучаныя аладкі смачныя.* Даргужы Міл.

**МУЧА´РНІК** *м. бат.* Тое, што і м у ў ч а р н і к. *Мучарнік нізенькі, сцеляцца па траве, лісце дробнае, цвёрдае, кветкі разаватыя.* Альшаніца Квас.

**МУЧНІ´ЦА** *ж.* Тое ж, што і м у ў ч а р н і к. *Мучніца расце па нізкіх лясных балотах.* Бялавічы Кос.

**МУШТЫ´К** *м.* Муштук. *Муштык касцяны, яшчэ дзедоў.* Куляшы Міл.

**МШЫЦЬ** *незак. буд.* Класці мох паміж бярвеннямі пры будаўніцтве. *Давайце я буду мшыць, спраўлюся.* Азярцо Падст.

**МЫ´ГЛІ** *мн.* Тое ж, што і д з я с я т к а. *Мыглі ставяць на полі, дзевяць снапоў на зямлю саломай, а дзясятым прыкрываюць.* Альшаніца Квас.

**МЫ´ДЛІНЫ** *толькі мн.* Вада, якая застаецца пасля мыцця бялізны. *Мыдліны вылі пад плот.* Квасевічы Квас.

**МЫ´ЛІНЫ** *толькі мн.* Тое, што і м ы д л і н ы. *Вылі мыліны ў разору, далей ад вішань.* Альшаніца Квас.

**МЫ´МРА** *ж. абразл.* Маўклівая, нелюдзімая жанчына. *І трэба з такой мымрай век пражыць.* Харошча Міл.

**МЫЦЕ´ННЕ** *н.* Мыццё. *Гэтаго мыцення канца краю не відно, бо ўсё на мае рукі.* Альба Квас.

**МЫШАРЫ´НА** *ж.* Нізкае куп'істае месца ў лесе. *У мышарыні і жураўліны збіралі, і мох белы дралі.* Альшаніца Квас.

**МЫШЫ´НЫ ГАРО´ШОК** *м. бат.* Гарошак. *Мышыны гарошок надто засмечвая жыто.* Заполле Кос.

**МЭ´ЙСАР** *м.* Від нажа. *Я не бачыў, але чуў, шчо гэто шавецкі нож.* Халап'я Падст.

**МЭ´НДЛІ** *мн.* Тое ж, што і д з я с я т к а. *Снапы ставілі ў мэндлі.* Хадоркі Кос.

**МЭ´НКА** *ж.* Мука. *Адна мэнка з гэтымі дзецьмі, ніц ні слухаюць.* Галік Міл.

**МЯДНІ´ЦА** *ж.* Тое ж, што і м і д н і ц а. *У мядніцы мыюць бялізну.* Заполле Кос.

**МЯКУ´ХА, МЯКУХА´** *ж. бат.* Мякатніца адналістая. *Мякуху цяжко касіць: пад касою гнецца.* Альшаніца Квас. *Мякуху сушаць, зімою сякуць і свіням запарваюць.* Заполле Кос.

**М'Я´ЛІЦА, МЯ´ЛІЦА** *ж.* Вялікая глыбокая гліняная міска. *М'яліцай даўней называлі гліняную глыбокую місу. Усё, памятаю, квас у ёй рабілі.* Альшаніца Квас. *Бало, мак церлі ў мяліцы.* Скураты Квас.

**МЯ´ЛО** *м. і ж. экспр.* Непаваротлівы, марудны чалавек. *Зяць мой такі мяло, каб пажар дзе застаў яго, то ні ўцёк бы.* Старажоўшчына Кос.

**МЯНЁ´К** *м. заал.* Мянтуз. *У мяньку касцей мало.* Грыўда Міл.

**МЯНЦІ´ЦЬ** *незак. перан.* Прагна, хутка есці. *Бачыш, як мянціць? Ано сківаіцы ходзяць.* Аўсто Стайк.

**МЯНЦЮ´ШКА** *ж.* Тое ж, што і м а н ц ё ш к а. *Каса, а пры касе мянцюшка.* Скураты Квас.

**МЯНЮ´ШКА** *ж.* Мянушка. *У сяле кожны мянюшку мая.* Альшаніца Квас.

**МЯРНІ´ЧЫ** *м.* Каморнік, землямер. *Кожны год гэтыя мярнічыя агароды ў людзей мераюць, як ўсё раўно гэтыя агароды гумавыя.* Альшаніца Квас.

**МЯСНІ´К** *м. насмеш.* Чалавек, які любіць есці мяса. *Мой сын мяснік, кожны дзень мяса пытая.* Заполле Кос.

**МЯСНІКІ´** *мн. заал.* Вялікія сінія мухі. *Разбіраяш свіню, то ні адагнацца ад сініх мух-мяснікоў.* Заполле Кос.

**МЯ´СО** *н. перан.* Мясістая частка гарбуза. *З гарбузоваго мяса вараць смачную кашу.* Верашкі Квас.

**МЯТЛЯ´К** *м. бат.* Мятліца. *Калі мятляк маладзенькі, то яго і карова есць.* Бялавічы Кос.

# Н

**НАБЕ́ЛО** *прысл.* Да белага колеру. *Льняное палатно слалі на росы на луг, мачылі ў вадзе, пяклі на сонцы, варылі ў лугоўцы, перылі праніком і яно адбельваласё набело.* Альшаніца Квас.

**НАБІ́ЛЬНІЦЫ** *мн. ткац.* Набіліцы. *Закіняш нітку, а набільніцамі прыбіваяш.* Заполле Кос.

**НАБІЧКАВА́ЦЬ** *зак.* 1. Запоўніць. *Набічкавала сундук прыданым.* Любішчыцы Люб. 2. *пepaн. груб.* Наесціся. *Набічкаваў пузо, ледзь з-за стала ўстаў.* Плехава Люб.

**НАБЛЫ́НТАЦЬ** *зак.* Наблытаць. *Наблынтала, а зара цяжко ніткі распутаць.* Панкі Люб.

**НАБО́ВІЧ** *м. і ж.* Той, хто набіваецца, прапаноўвае сябе ў дапамогу, але дапамога яго непажаданая, бо мае амаральны пачатак. *Яна, набовіч, сама да хлопца на шыю вешаецца, хоча, каб замуж узяў.* Альшаніца Квас.

**НАБО́ЙКА** *ж.* Бондарская прылада для набівання абручоў. *Каб абруч сеў на место, трэба то з аднаго, то з другога боку біць набойкай.* Альшаніца Квас.

**НАБО́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Змучаны. *Мая душа наболена.* Хрышчонавічы Квас.

**НАБО́РХАЦЬ** *зак.* Наліць звыш меры. *Наборхала вады на падлогу, а зараз збірай ганучай.* Аляксейкі Стайк.

**НАБО́ХАЦЬ** *зак.* Тое ж, што і н а б о р х а ц ь. *Куды ты набохоў цэлае вядро? Разліваецца будзя.* Заполле Кос.

**НАБЫ́ТОК** *м.* Прыдбаная, купленая рэч. *Набыток вязу: парася купіла.* Квасевічы Квас.

**НАБУХТО́РЫЦЬ** *зак.* Тое ж, што і н а б о р х а ц ь. *Набухторыў цэлу бочку вады, ажні праз края льецца.* Аўсто Стайк.

**НА́ВАЛАКА** *ж.* Навалачка. *Навалакі на падушкі я сама шыю.* Куляшы Міл.

**НА́ВАЛАЧ** *м. і ж. экспр.* Прышлыя людзі, чужынцы. *Сёні*

*па сёлах навалачы хапая.* Альшаніца Квас.

**НАВА́ЛЬНЫ** *прым.* Аблажны, зацяжны, праліўны (пра дождж). *Пачаўся дождж навальны, ажно свету не відно.* Заполле Кос.

**НАВЕРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Натрудзіць, пашкодзіць. *Наверадзіла руку лён рвучы, карову ні магу падаіць во.* Альшаніца Квас.

**НА́ВЕТ** *прысл.* Нават. *Праехаў сват на машыні, навет у мой бок ні глянуў.* Скураты Квас.

**НАВІ́ЛЬНІК** *м.* Колькасць сена, саломы і інш., узятае за адзін раз на вілы. *Прынясі навільнікоў пяць сена, то і на ранок будзя карові палажыць.* Гошчава Стайк.

**НАВІНА́** *ж.* Поле, якое ўпершыню ўзарана. *Бульба на навіне ўрадзіла.* Заполле Кос.

**НА́ВІСЬ** *ж.* Снег, іней на дрэвах. *Навісь на дрэвах – ураджай багаты будзя.* Жамайдзякі Міл.

**НАВУ́СЬКІ** *прым.* Новы. *Навуська сукенка, але паправілася ды ні налазіць.* Ёдчыкі Квас.

**НАВУ́ТКІ** *прым.* Тое ж, што і н а в у с ь к і. *Навуткі каптан, але моль дзірок нарабіла.* Заполле Кос.

**НАВЫТЫКА́ЦЬ** *зак.* Многа наткаць. *Навытыкала ўсякіх модоў, вочы разбягаюцца.* Квасевічы Квас.

**НАВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. *экспр.* Стукнуць. *Як трымала суседка вядро ў руцэ, так і навярнула свайго Антося па галаве.* Дубітава Міл. 2. *экспр.* Многа з'есці. *Дзве міскі капусты навярнуў, як выбегаўся за каравамі цэлы дзень.* Быч Стайк.

**НАГА́БАЦЬ** *зак.* 1. Натрапіць, наскочыць. *От нагабаў грыбоў, ды адных праўдзівікоў.* Заполле Кос. 2. Высачыць, падпільнаваць. *Урэшце рэшт нагабалі злодзея: ліса крадзе курэй.* Заполле Кос.

**НАГЛА́ДКО** *прысл.* Зусім. *Нагладко забыўся, што сёні нядзеля.* Кушняры Падст.

**НАГНО́М** *прысл.* Нагбом. *Пі з кубка малако, а не нагном, са збанка.* Даргужы Міл.

**НАГУ́ЛЬГАЦЦА** *зак. экспр.* Напіцца да бяспамяцтва. *Нагульгаўся так, што лыка ні вяжа.* Даргужы Міл.

**НАДАЛА́ПКІ** *мн.* Намарзні. *Надалапкі – гэто планкі, якія надзявалі на капылы.* Лазаўцы Міл.

**НАДАЛУ́ЖЫЦЬ** *зак.* Нагнаць, навярстаць. *Хварэў мой хлопчык, дзве нядзелі ў бальніцы праляжаў. І як ён урокі надалужыць?* Заполле Кос.

**НА́ДАЎБЕНЬ, НА́ДУЎБЕНЬ** *ж. груб.* Дзяўчына, маладзіца, якая ні на што ні здатная. *Надаўбень, хоць прыбяры ў хаці, кавалеры ж твае прыдуць.* Бусяж Міл. *Надуўбень, вучыся пры мацяры хоць салёніка зварыць.* Заполле Кос.

**НА́ДАЎБНІ** *мн.* Тое ж, што і н а д а л а п к і. *Надаўбні мацаваліся паверх капылоў.* Заполле Кос. *Надаўбні звязвалі капылы.* Гошчава Стайк.

**НАДЗЁЖА** *ж.* Надзея. *Уся надзёжа ў мяне на дачку.* Мілейкі Міл.

**НАДНЯ́ЦЬ** *зак.* Адняць. *Надымі бульбу, а то мех ні завяжу.* Гладышы Міл.

**НАДО́РВАНЫ** *дзеепрым.* 1. Надарваны. *Мяшок надорваны, мука сыпляцца з дзіркі.* Міхнавічы Стайк. 2. Знясілены. *Надорваны ад цяжкай працы, якое там, браток, здароўе.* Галынка Міл.

**НАДРУ́ПАЦЬ** *зак.* Назбіраць ягад, затраціўшы на гэта шмат часу. *Нешчо німа гэты год ягад, за цэлы дзень літраў пяць яно надрупаў.* Заполле Кос.

**НАДРЭ́З** *м.* Прылада для рыхлення глебы. *Надрэзом добра карэнне падразаць у зелы.* Заполле Кос.

**НАДСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Адсыпаць. *Надсып мне ягад.* Галік Міл.

**НАДУНДО́ЛІЦЬ** *зак.* Насцаць. *Малы надундоліў у штаны.* Няхачава Стайк.

**НАДУ́ЦЦА** *зак.* Пакрыўдзіцца, зазлаваць. *Надулася, як мыш на крупы, і гаварыць ні хочаш.* Верашкі Квас.

**НАДУ́ЦЬ** *зак.* Надзьмуць, намясці. *Надуло снегу роўно*

*з платамі.* Падстарынь Падст.

**НА́ДТО, НА́ТТО** *прысл.* Вельмі. *Надто ты ўсё на свеці ведаяш.* Размеркі Стайк. *Натто гэтым годом вішні ядроныя.* Бялавічы Кос.

**НАДУНДЗЕ́ЦЬ** *зак.* 1. *экспр.* Тое ж, што і н а д у н д о л і ц ь. *Надундзеў цэлу лужу.* Быч Стайк. 2. *перан.* Настроіць супраць каго-небудзь. *Свякроў як надундзіць мужыку, то жыцця ў хаці німа.* Альшаніца Квас.

**НАДЫ́БАЦЬ** *зак.* Набрысці, напароцца, наткнуцца. *Ужэ дахаты ідучы надыбала на апенькі, у момант кош нарэзала.* Заполле Кос.

**НАЕ́ТЫ** *дзеепрым.* Негалодны, сыты. *Дзякуй, Вера, за запрашэнне: і наета, і напіта.* Альшаніца Квас.

**НАЖАЛАПА́ЦЦА** *зак.* 1. Многа выпіць. *Нажалапаўся малака, глядзі, каб ні пашкодзіло.* Заполле Кос. 2. *экспр.* Напіцца, быць п'яным. *Нажалапаўся дармовай гарэлкі брыгадзір, на нагах ні ўстоіць.* Жамайдзякі Міл.

**НАЖА́РЫЦЬ** *зак.* Напаліць печ. *Ты сёні нажарыў печ, не падступіцца.* Квасевічы Квас.

**НАЖМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Натрудзіць, наверадзіць руку ў працы. *Жыто жнучы, руку нажмяніла, аж апухла.* Заполле Кос.

**НА ЖМЯНЯ́Х** *прысл.* Зжатая, ляжыць горбачкамі (пра збажыну). *Ячмень ляжыць на жмянях, пайду, трэба вязаць у снапы, падсох ужэ.* Альшаніца Квас.

**НА́ЗБІРКА** *ж.* Невялікая пасудзіна (слоік, вядзерца, карзіначка), у якую збіраюць ягады. *Назбіраяш назбірку, а тады ў велькае вядро ці карзінку сыпляш.* Ёдчыкі Квас.

**НАЙДЗЁ́НІК** *м. і ж.* Пазашлюбнае дзіця. *Смяяліся з такіх дзяцей, казалі: найдзёнік – Божы дар.* Заполле Кос.

**НА́ЙМЫ** *толькі мн.* Найміцтва. *Німа за шчо жыць, трэба ісці ў наймы.* Квасевічы Квас.

**НАКАЛЭ́ШКАЦЬ** *зак.* Размяшаць. *Накалэшкала свіням зелья з мукою: хай ядуць.* Харошча Міл.

**НАКЕ́ЎЗАЦЬ** *зак.* Наквэцаць, намазаць. *Пірог пры-*

*гарэў, то накеўзала зверху варэннем, каб смачней было.* Руда Падст.

**НАКІ́ДАЦЬ** *незак. буд.* Нанесці на сцену слой тынковачнай рошчыны. *Накідаў да абеду сценку, пасля абеду буду заціраць.* Заполле Кос.

**НАКЛЮ́КАЦЦА** *зак. экспр.* Напіцца да бяспамяцтва. *Віно сухое, казалі, было, а наклюкаліся, то стало мокрым.* Зялёны Бор Стайк.

**НАЛАПУШЫ́ЦЬ** *незак.* Рваць спехам, усё па парадку. *Налапушыла бурачвення свіням.* Дубітава Міл.

**НАЛЕ́ДВО** *прысл.* Ледзьве, з вялікай цяжкасцю. *Стамілася за каровамі, то наледво дахаты прыйшла.* Квасевічы Квас.

**НАЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Наляцець. *Мух налезло ў хату, зачыняйця за сабой дзверы.* Дубітава Міл.

**НАЛЕ́ТАЦЬ** *зак.* Пабегаць, дурэючы, сваволячы. *Я табе налетаю, зноў захварэць хочаш.* г. Косава.

**НАЛІВА́ЦЬ** *незак.* Начыняць, напаўняць чым-н. *Пара наліваць кішкі крывянкаю: печ гатова.* Квасевічы Квас.

**НАЛЫГА́ЦЦА** *зак. асудж.* Напіцца. *Налыгаўся гэтае гарэлкі, не чалавек ужэ, а жывы балван.* Куляшы Міл. *Каб ты чарку выпіў, павесяліў душу, а то налыгаўся гарэлкі, як свіня.* Даргужы Міл.

**НАЛЯ́ПАЦЬ** *зак.* Набіць, наляскаць. *Наляпала па сцёгнах, хай ні лезя ў лужы.* Грыўда Міл.

**НАЛЯ́СКАЦЬ** *зак.* Надаваць плескачаў, напляскаць. *Наляскала па шчаках, заслужыў.* Кушняры Падст.

**НАМА́ЛО** *прысл.* На нядоўгі час. *Сын прыехоў у водпуск, але намало.* Гошчава Стайк.

**НАМУЦІ́ЦЬ** *зак.* Сказаць няпраўду, абмануць. *Праседзяў, халернік, у лесі, а намуціў, што ў школі быў.* Гладышы Міл.

**НА́МЯТУСЬ** *прысл.* Спосаб кладкі льну. *Намятусь вязалі лён у кулі. То туды галаўкамі, то сюды, то карэннямі, то галаўкамі. Каб галаўкі адна з аднаею ні счэпліваліся:*

*даражылі кожнай галоўкай, кожным зярняткам.* Заполле Кос.

**НАНЕ́Т** *прысл.* Зусім, дарэшты. *Твая нявестка як шчэпка стала, нанет высахла.* Лазаўцы Міл.

**НАНЫ́ГАЦЬ** *зак.* Збіраць па адной ягадцы. *Маліны мало гэты год, пайшла, то за цэлы дзень яно літроў пяць наныгала.* Галынка Міл.

**НАПАПА́** *прысл.* Вертыкальна, стойма. *Шулку спачатку напапа пастаў, а тады на плячо падымяш.* Заполле Кос.

**НАПАРО́ЦЬ** *зак.* Накапаць (пра бульбу). *За цэлы дзень я адна яно тры мяшэчкі напарола: ніц німа картоплёў.* Міхнавічы Стайк.

**НА́ПАТЫЧ** *прысл.* Спатыкаючыся. *Бачыш: ідзе напатыч дахаты, да жонкі, да дзяцей, гэто прыклад дзецям, п'яніца пракляты.* Галік Міл.

**НАПЕ́РСТОК** *м.* 1. Жалезны невялікі абручык, якім мацуецца каса да косся. *От, галава, паехоў касіць, а наперстка пакінуў.* Няхачава Стайк. 2. Напарстак. *Пучкі пасколваяш, наперсток адзень на палец.* Падстарынь Падст. *Адзяваюць наперсток на паляц, як трэба шыць, і папіхаюць голку ім.* Верашкі Квас.

**НАПЕ́ШО** *прысл.* Пяшком, пехатой. *Даўней напешо хадзілі да Жырава ў манастыр.* Була Міл.

**НАПЛЁ́ХАЦЬ** *зак.* Разліць, наплюхаць. *Ты больш наплёхала, чым намыла, падлога аж плыве.* Размеркі Стайк.

**НАПЛЫ́Ў** *м.* Густа сплеценыя водарасці, расліны. *Трава, водарасці так у купу, у наплыў зб'юцца, што ажно восянью па вялікай вадзе адрываюцца ад берага і плывуць.* Заполле Кос.

**НАПРА́ЎДУ** *прысл.* На самай справе, сапраўды. *Ні верыш, напраўду кажу: знайшла ягады, як вішне.* Рацкевічы Міл.

**НАПРО́ВЕСНІ** *прысл.* На пачатку вясны. *Напровесні*

*хату пабялю, хай харашэ будзя.* Бялавічы Кос. *Напровесні забралі майго мужыка на вайну: больш я яго не ўбачыла.* Руда Падст.

**НАПРО´ЦІ** *прыназ. з род.* Насупраць. *Напроці нас магазін.* Быч Стайк.

**НАПРУ´ЖКІ** *мн. ткац.* Палачкі з малымі цвікамі. *Напружкамі распінаюць палатно, каб бердо прамо сядзело, каб яго ні сцягало.* Альшаніца Квас. *Напружкі растапырваюць палатно, растапырваюць бердо, каб шырыня палатна была аднолькавая праз увесь час ткання.* Заполле Кос. *У напружкі ўбітыя цвікі, напружкі прыколваюць да палатна.* Бялавічы Кос.

**НАПРЫ´ЖЫЦЬ** *зак.* Напражыць. *Напрыжыла гароху, хаджу і ем.* Бусяж Міл.

**НАПЯРО´Д** *прысл.* Раней тэрміну. *Дзіця зрабілі напярод.* Сакоўцы Міл.

**НАПЯРЭ´СЦІГ** *прысл.* Наперарэз (ісці, бегчы). *Карова ўцякла з пашы, бяжы праз лес, напярэсціг.* Заполле Кос.

**НАПЯРЭ´ХРЫСТ** *прысл.* Накрыж. *Клалі сено ў стажок пярэчынкамі, напярэхрыст.* Боркі Падст.

**НАРАБІ´ЦЬ** *зак.* Назапасіць, нарыхтаваць. *Сам, адзін нарабіў сена на карову.* Сенькавічы Падст.

**НАРАВІ´ЦЬ** *незак.* Дагаджаць. *Мужыку трэба ўвесь час наравіць, калі хочаш, каб мір быў у хаці.* Заполле Кос.

**НАРА´НІЦУ** *прысл.* 1. Раніцай. *Касіць сено ідуць нараніцу.* Заполле Кос. 2. Ранішні выган кароў на пашу. *Зараз на цэлы дзень гоняць кароў, а даўней нараніцу, выганялі ў 3-4 гадзіны і да абеда.* Заполле Кос.

**НАРА´Х** *прыназ.* У, каля. *Нарах сяла стаіць помнік загінуўшым у мінулай вайне аднавяскоўцам.* Була Міл.

**НАРО´ЧНЯ** *прысл.* 1. Знарок, спецыяльна. *Нарочня прыехаў у Мінск з унуком, каб трапіць у цырк.* Заполле Кос. 2. Назло. *Ты нарочне не прыйшоў да мяне.* Быч Стайк.

**НАРУБА´ЦЬ** *зак.* Насячы. *Гаспадар, дроў нарубай, німа чым у пячэ паліць.* Скураты Квас.

**НАРЫ́ЦА** *ж.* 1. *вет.* Нарыў (у каня). *Зб'е хамутом конь карок, ажно нарыца прыкіняцца.* Заполле Кос. 2. *перан.* Злая жанчына. *Гэта нарыца ўсіх з гразёю змяшала.* Аўсто Стайк.

**НАСАМРЭ́Ч** *прысл.* Спачатку. *Насамрэч бацько хай слово скажа, а тады і цябе паслухаям.* Заполле Кос.

**НАСЕ́ННІКІ** *мн.* Бульба, адабраная для пасадкі, для насення. *У мяне картоплі гэты год благія: адны насеннікі.* Любішчыцы Люб.

**НАСІ́ЛКА** *ж.* Падвешаная жэрдачка перад печчу, на якой прасушваюць адзенне, вісяць ручнікі. *Даўней глядзелі, каб ва ўсім сухім дзеці бегалі, усю ноч сушылі, на насілку вешалі.* Заполле Кос.

**НАСІ́ЛУ** *прысл.* Ледзьве, выпадкова. *Насілу мы выжылі: такі голад быў у вайну.* Стайкі Стайк.

**НАСКАБЛІ́ЦЬ** *зак.* Абчысціць ад лупін. *Сама наскабліла цэлая вядро картоплёў.* Аляксейкі Стайк.

**НАСМЫ́КАЦЬ** *зак.* Нанасіць, назапасіць. *За лето много ягад насмыкала: і на цукар здавала, і на грошы, і насушыла мяшэчок.* Старажоўшчына Кос.

**НАСО́К** *м.* Востры канец яйца. *У яйцу е насок і каца.* Хадоркі Кос.

**НАСТАБО́ЎЧЫЦЦА** *зак.* Натапырыцца, надзьмуцца. *Унука дачка прывязла, то настабоўчыўся і глядзіць з-пад ілба. Вядома, усё яму тут чужое.* Заполле Кос.

**НАСТАЎЛЯ́ЦЦА** *незак.* 1. То ж, што і настабоўчыцца. *Чаго ты наставіўся? Ходзіш па хаці, як чорная хмара, бойся зачапіць.* Альшаніца Квас. 2. Паказваць намер, імкненне да бойкі. *Вырас, то настаў-ляяцца біцца са мною.* Быч Стайк.

**НАСТО́ЛЬНІЦА** *ж.* Абрус. *Купіла ў Косаві настольніцу на круглы стол.* Бялавічы Кос.

**НАСТРАМІ́ЦЬ** *зак.* Моцна стукнуць (пра палец). *Калі ў тарэц пальца стукнуць моцно, то, кажуць, настраміла.* Заполле Кос.

**НАСТРАПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Падгаварыць, падвучыць. *Як з'ездзіць мой мужык да сваіх бацькоў, то жыцця ў хаці німа, так настрапаляць на мяне, што поедом есць.* Альба Квас.

**НАСТРУГА́ЦЬ** *зак. перан. жарг.* Нарадзіць дзяцей. *Ты, Рыгор, добры майстар: шэсць гадоў жывеш з жонкай, шасцёра дзяцей настругаў.* Харошча Міл.

**НАТРУБІ́ЦЦА** *зак. груб.* Моцна наесціся. *Ну, і натрубіўся, ледзь дыхаю.* Азярцо Падст.

**НАСТУ́ЛЬКІ** *мн. бат.* Настурцыя. *Настулькі ля плота на надворку пасадзіла, зацвілі: любата паглядзець.* Заполле Кос.

**НА́ТАПЫЧ** *прысл.* Тварам уніз, з усіх ног (упасці). *Зачапіўся за корань, то натапыч паляцеў.* Заполле Кос.

**НАТРУСІ́ЦЬ** *зак.* Натрэсці. *Натрусі з вядро слівок: трэбо варэнне зварыць.* Альшаніца Квас.

**НА́ТХЛІ** *толькі мн.* Тухласць. *Натхлі з рота чутны, значыць, печане баляць.* Альшаніца Квас.

**НАЎБО́Й** *прысл.* Моцна, не шкадуючы, да смерці (біць). *Мужык б'е яе наўбой, і рады яму не знойдуць.* Заполле Кос.

**НАЎВЫ́ЧВАЛЫ** *прысл.* Галопам. *Конь бег наўвычвалы.* Заполле Кос.

**НАЎМЕ́ЦЦА** *зак.* Мець, прызапасіць. *Я адна, не наўмеюся на ўсіх вас.* Заполле Кос.

**НАЎМЫ́СЛЕ** *прысл.* Наўмысна. *Наўмысле маю карову адвязаў, не аспрэчыш, бачылі людзі.* Бялавічы Кос.

**НАЎСПРО́ЦЬ** *прыназ. з род.* Насупраць. *Наўспроць нашай хаты даўней стаяў крыж.* Хрышчонавічы Квас.

**НАЎСКАСЫ́** *прысл.* Наўскасяк. *Наўскасы праз лес да Косава бліжэй.* Заполле Кос.

**НАЎЦЕ́КІ** *прысл.* Наўцёкі. *Стукнуў майго хлопца, а сам наўцекі.* Плехава Люб.

**НАХВАТА́ЦЬ** *зак.* Навярэдзіць (пра руку). *За цэлы дзень, як атрэпляш копу льну, то так нахватаяш руку, што ажно спухня.* Воля Жытл.

**НАЦЯ́ГАЧ** *м.* Прылада, пры дапамозе якой нацягваюць

абручы на калёсы, на драўляны посуд. *Нацягач – прыстасаванне, каб жалезныя абручы адзець на бочку, цэбар.* Заполле Кос.

**НАЦЫБУНІ´ЦЬ** *зак. экспр.* Тое ж, што і надундоліць. *Нацыбуніў у свіное вядро, паляніўся выйсці на двор.* Квасевічы Квас.

**НАЦЫБУ´РЫЦЬ** *зак. экспр.* Тое ж, што і нацыбуніць. *Нацыбурыў малы ў пасцель, трэба на сонца пасцель выносіць.* Панкі Люб.

**НАЧАПУ´РЫЦЦА** *зак. экспр.* Увабрацца. *І куды ты начапурылася? Спаць трэба класціся.* Яблонка Жытл.

**НАЯ´ДНЫ** *прым.* Спажыўны, сытны (пра страву). *Аладкі бульбяныя наядныя. Як паснедаяш, то цэлы дзень есці ні хочацца.* Заполле Кос.

**НЕА** *часц.* Не. *"Ты ўжэ, можа, павячэроў?" – "Неа."* Юкавічы Стайк.

**НЕАДВА´ЖНЫ** *прым.* Сарамлівы, нясмелы. *Ён хлопяц неадважны, а дзеўкі такіх не любяць.* Жытлін Жытл.

**НЕБЛАГІ´** *прым.* Нядрэнны, памяркоўны. *Неблагі муж у маёй дачкі.* Альшаніца Квас.

**НЕДАЛЭ´НГА** *м. і ж.* Нязграбны, няўклюдны чалавек. *Ой, недалэнга ты, нават касу не ўмееш трымаць.* Юкавічы Стайк.

**НЕДАНАСІ´ЦЬ** *зак.* Ацяліцца раней тэрміну (пра карову). *Карова неданасіла цэлы тыдзень. Прыйшла ў хлеў – цяля ля каровы.* Хадакі Жытл.

**НЕДАЧЭ´ПА** *м. і ж.* Незачэпа, недатыка. *Недачэпа, баішся зачапіць яго.* Заполле Кос.

**НЕЖЫЛЕ´Ц** *м. і ж.* Невылечна хворы чалавек. *Добры чалавек, надто шкада, але нежылец ён на зямле.* Заполле Кос.

**НЕЗАХО´ДНЫ** *прым.* Глухі, непрыкметны. *Незаходнае гэто место, тут я заўсёды грыбы збіраю.* Заполле Кос.

**НЕЗГРАБО´ЦЦЕ** *н.* Нязграбны чалавек, няўклюда. *У незграбоцця ўсё валіцца з рук.* Галенчыцы Ягл.

**НЕЗЛЮБІ´ЦЬ** *зак.* Адчуць непрыхільнасць, непрыязнасць да каго-, чаго-н. *Незлюбіла цешча зяця з першага дня, гатоў дачку развясці.* Гічыцы Ягл.

**НЕ´КАШ** *ж.* Перастоеная, няскошаная трава. *Бало, калхозы вясною некаш касілі, бо ні было чым карміць кароў.* Заполле Кос.

**НЕ´МАЧ** *ж.* Слабасць, бяссілле, хвароба. *Каб цябе немач узяла, як я тваю курыцу забіла.* Заполле Кос.

**НЕ´МЕРА** *ж.* 1. Балоцістая ўпадзіна ў непраходным лесе. *У немеру было страшно зайсці: там дзікі купаліся ў твані.* Заполле Кос. 2. *перан.* Брудная, неахайная жанчына. *Немера сама і кругом яе беспарадок.* Заполле Кос. 3. *м. і ж. абразл.* Вырадак, вылюдак. *Нап'ецца гэта немера гарэлкі ды мучая бацькоў.* Заполле Кос.

**НЕ´МЧЫК** *м.* Маленькі складны ножык-самаробка. *З немчыком па грыбы хадзілі, бралі з сабой у дарогу: ён маленькі, лёгенькі.* Заполле Кос.

**НЕ´РАДЗЬ** *м. і ж.* Пра ўсё, што не вырасла. *Кармлю гэтае парася, а яно малое, благое, нерадзь.* Заполле Кос.

**НЕ´СЛУХ** *м.* Непаслухмянае дзіця. *Такі неслух, што не давядзі Госпадзі: што хоча, тое робіць.* Альшаніца Квас.

**НЕ´СМАЧ** *ж.* Усё, што не мае смаку. *Капуста – несмач, хоць вылівай свіням.* Бялавічы Кос. *Зялёныя яблыка, несмач, а ты іх цярэбіш.* Хадоркі Кос.

**НЕСПАДЗЁ´ВАНО** *прысл.* Нечакана, неспадзявана. *Неспадзёвано да мяне госці прыехалі, але было чым пачаставаць.* Альшаніца Квас.

**НЕ´ТРА** *ж.* 1. Непраходныя, глухія мясціны; гушчар. *Нетра тут такая, што ні прайсці, ні праехаць.* Заполле Кос. 2. *перан. груб.* Ненаедуха. *О, гэта нетра за трох з'есць і будзя галодная.* Заполле Кос.

**НЕХЛЮЯ´** *ж. абразл.* Неакуратная, неахайная жанчына. *У гэтай нехлюі век ногі да калень заляпаны.* Заполле Кос.

**НЕ´ХРЫСЦЬ** *м.* Нехрышчоны чалавек. *Даўней надто дзеток маленькіх много памірало, што навет ні паспявалі*

*ахрысціці. То такіх нехрысцёў ужо поп ні даваў хаваць на могліцах. Во як было.* Ёдчыкі Квас.

**НЕЦЯРПЯ́ЧКА** *м. і ж. экспр.* Нецярплівы чалавек. *От, нецярпячка, прыйдзя аўтобус, ні хадзі тут узад ды ўперад.* Альшаніца Квас.

**НЕ́ШЧО I** *займ.* Нешта, нейкі. *Сабака нешчо есць, паглядзі, мабыць, курыцу задушыў.* Заполле Кос.

**НЕ́ШЧО II** *прысл.* Чамусьці, чагосьці. *Нешчо ў грудзях баліць.* Быч Стайк.

**НІБЛА́ГО** *прысл.* Нядрэнна, някепска. *Ніблаго зарабілі гэтым летом на жніве.* Квасевічы Квас.

**НІВЕ́ЛЬКІ** *прым.* 1. Нязначны па велічыні і памерах. *Агарод у нас нівелькі.* Заполле Кос. 2. Малы гадамі. *Хлопчык у яе яшчэ нівелькі.* Альшаніца Квас. 3. Непрацяглы (пра дождж, вецер і інш.). *Дождж нівелькі прайшоў, навет пыл ні прыбіў.* Скураты Квас.

**НІ́ГДЫ** *прысл.* Ніколі. *Ніґды дабраты тваёй не забуду.* Ёдчыкі Квас.

**НІГО́ДНЫ I** *займ.* Ніводзін. *Нігодны год ні было столькі жукоў на бульбі, як летась.* Верашкі Квас.

**НІГО́ДНЫ II** *прым.* Дрэнны, нялюдскі. *Нігодны чалавек, усё на зло людзям робіць.* Заполле Кос.

**НІГО́ДЗІН** *займ.* Ніводзін. *Нігодзін начальнік у хату ні зайшоў, як мужык памёр.* Харошча Міл.

**НІЖЫ́ПЕРСНІК** *м. бат.* Дуброўка белая. *Ніжыперснік варылі ў малацэ і лячылі раны.* Заполле Кос. *Як вадыр дзе, то ніжыперснік парылі ў малацэ і прыкладалі да раны.* Альшаніца Квас.

**НІЖЫЛЕ́Ц** *м.і ж.* Слабы, моцна хворы чалавек. *Праведала хвораго свата, шкада, ніжылец ужэ.* Альшаніца Квас.

**НІ́ЗКІ** *прым.* Блізарукі (пра вочы). *Мая нявестка нізка на вочы, акуляры носіць.* Мілейкі Міл.

**НІЗМІ́РНЫ** *прым.* Нязмерны. *Гэты год нізмірныя ягады, пайдзеш у лес, за тры гадзіны вядро назбіраяш.* Альшаніца

Квас.

**НІКУДЫ´ШНІ** *прым.* 1. Благі, пры смерці. *Сусед зусім нікудышні, хутко памрэ.* Руда Падст. 2. Абы-які, нікчэмны. *Марылін хлопяц зусім нікудышні, як кажуць, ні богу свечка, ні чорту качарга.* Заполле Кос.

**НІЛЮ´ЦКІ** *прым.* Нядобры, кепскі. *Нілюцкі ты чалавек, старую цётку аблаяў.* Скураты Квас.

**НІМА´** *безас. у знач. вык.* Няма. *Як німа шчасця зранку, той ні будзя ўвечары.* Альшаніца Квас.

**НІМА´ШАКА** *безас. у знач. вык.* Тое ж, што і н і м а. *Німашака лепшаго адпачынку, як рыбалка.* Бялавічы Кос.

**НІНАЯ´ДУХА** *м. і ж. перан.* Зайздроснік, зайздросніца. *Гэтай нінаядусі ўсяго мало, каб прымела, то рукамі грабла да сябе.* Гічыцы Ягл.

**НІПО´РНЫ** *прым.* Народжаны раней тэрміну. *Гэта дзіця ніпорнае, нарадзіласё ў сем месяцоў.* Альшаніца Квас.

**НІ´ЎКА** *ж.* Невялікае поле сярод лесу. *Выкарчуяш кусты, во табе і ніўка.* Хадакі Жытл.

**НІЎРЫ´МСНЫ** *прым.* Непаседлівы, старанны. *Ніўрымсны чалавек: мінуты без работы ні пасядзіць.* Альшаніца Квас.

**НІХО´ЧУЧЫ** *прысл.* Без жадання. *Ясі ніхочучы, як ні сваім ротом.* Бялавічы Кос.

**НІЦ** *займ.* Нічога. *От, гультай, ніц ні робіць.* Размеркі Стайк.

**НІ´ЦІЦЬ** *незак. ткац.* Вязаць кабылкі ніта. *Ніціць марудная работа, днёў тры забавіш.* Альшаніца Квас.

**НІ´ШПАРЫЦЬ** *незак.* Пільна шукаць нешта, вышукваць. *Чаго ты ўсё ніштарыш? Ты паклаў тут шчо, ці згубіў?* Заполле Кос. *Міхась нішпарыць па ўсём лесі: ніхто ні назбірая грыбоў, а ён з поўным кошыком ідзе дахаты.* Альшаніца Квас.

**НІШЧАСЛІ´ВЫ** *прым.* Няшчасны. *Лёс яго нішчаслівы: з вайны без нагі вярнуўся.* Верашкі Квас.

**НІШЧЫ´МНІЦА** *ж.* Перыяд, калі адсутнічае скаромнае;

посніца. *У пост нішчымніца была, адно нішчымнае варылі.* Заполле Кос.

**НІЯ́КІ** *у знач. прым.* Чужы, не родны. *Ты мне ніякі, чаго я буду перад табой перападаць.* Заполле Кос.

**НО́РНІК** *м.* Запаслівы чалавек. *Ні быў бы норнік: цэлы надворок заваліў дровамі.* Заполле Кос.

**НО́САЛЬ** *м. экспр.* Чалавек з вялікім носам. *Гэты носаль надакучыў, кожны дзень ідзе ды ідзе.* Альшаніца Квас.

**НО́ША** *ж.* Частка цела, у якой носяць яйкі куры, гусі, качкі. *Гусь будзя нясціся, бо ноша вялікая.* Альшаніца Квас.

**НУТРО́** *н. перан.* Душа, унутраны псіхічны свет. *Усё маё нутро выгарало, ждучы цябе.* Заполле Кос.

**НЫ́ГАЦЬ** *незак.* Збіраць па адной ягадцы. *Прайшлі ягады, ныгала цэлы дзень на вядро.* Заполле Кос.

**НЭ́НЗА** *ж.* 1. Нуда, туга. *Такая нэнза на душы, ажно ні ведаю чаго.* Сярадава Жытл. 2. *м. і ж. перан.* Той (тая), хто ўвесь час ные, скардзіцца. *Нэнза, і калі ў цябе на душы сонцо засвеціць.* Мілейкі Міл.

**НЯБО́ЛЕЦЬ** *незак.* Не спрыяць, не шкадаваць чалавека. *Людзі няболяць мне, а я і не ведаю, у чым вінен перад імі.* Заполле Кос.

**НЯВЕ́ХНА** *ж.* Нявестка. *А мая нявехна лепшая за ўсіх.* Бялавічы Кос.

**НЯВІ́ННІЦА** *ж.* Паклёп, нагавор. *Гэто ж трэба цярпець нявінніцу, сказалі, што гэто я ўкрала курыцу ў суседкі.* Альшаніца Квас.

**НЯДБА́ЙЛІСКО** *м.* Бестурботны чалавек, нядбайла. *У гэтаго нядбайліска ўсе платы паваляныя, адно сабакі ля вуглоў бегаюць.* Заполле Кос.

**НЯДО́ШЛЫ** *прым.* Благі, худы, хваравіты. *Мой конь зусім нядошлы, ледзь капыты цягая.* Заполле Кос. *Цяля гадую, а яно зусім нядошлае, ано клопат на мае рукі.* Быч Стайк.

**НЯРО́ДКА** *ж. рыб.* Сеткавая прылада для лоўлі рыбы.

*Нягодка падобная на чарнільніцу, толькі замест шкла – сетка.* Заполле Кос.

**НЯЎДА́** *прысл.* Кепска, дрэнна. *Няўда хвойку спускаць, зачэпіцца.* Куляшы Міл. *Няўда ехаць па гразкай дарозі.* Рацкевічы Міл.

**НЯЎДО́БІЦА** *ж.* Участак зямлі, непрыгодны для апрацоўкі. *Лепш ні сей на гэтай няўдобіцы, бо нічого ні вырасця.* Заполле Кос.

# О

**О́Б́ЕДЗІ** *толькі мн.* Аб'едкі ад сена. *Об'едзі ад каровы авячкам аддавалі, авячкі з'ядалі.* Заполле Кос.

**О́ДСТУП** *м.* Адступленне, вяртанне. *Калі ўзяўся печ рабіць, то рабі, одступу німа.* Заполле Кос.

**О́ЙКАЦЬ** *незак.* Бедаваць плакаць. *Яна ўсё жыцце ойкая, а машыну сыну першая ў сяле купіла.* Размеркі Стайк.

**ОЛЯ́** *форма заг. ладу ад дзеясл. бачыць.* Глянь, бач. *Оля, які швыдкі: першы дабег у грыбы.* Быч Стайк.

**О́РЧЫК** *м.* Ворчык. *Адзін конь запрагаяцца ў аглабле, а другі пры ім у орчык.* Заполле Кос.

**О́СЦІ** *толькі мн. рыб.* Восці. *Осцямі рыбу ловяць.* Сенькавічы Падст.

**ОТО́** *прысл.* Зараз, хутка. *Пачакай на дварэ мяне, ото апрануся.* Заполле Кос. *Сказаў ото прыду – і як скрозь зямлю праваліўся.* Грыўда Міл.

# П

**ПААБКІДА́ЦЬ** *зак. безас.* Паасыпаць, пакрыцца плямамі, прышчамі. *Усе губы паабкідало балячкамі, есці німа як.* Заполле Кос.

**ПААБЦІРА́ЦЬ** *зак.* Абламаць, абцерці. *Картоплі параслі ў ямі, трэба паабціраць хросці.* Альшаніца Квас.

**ПААПЕ́КАЦЬ** *зак.* Апячы. *Рвала крапіву свіням, усе рукі паапекала.* Азярцо Падст.

**ПААСО́БНЕ** *прысл.* Паасобку, самі па сабе. *Ажаніўся сын, і сталі жыць паасобне з бацькамі.* Заполле Кос.

**ПАБАЁ́ДАЦЬ** *зак.* Панішчыць, змарнаваць. *Што баба за век нажыла, то ўнук за год пабаёдаў.* Харошча Міл.

**ПАБА́БЕЦЬ** *зак.* Ад вады зрабіцца маршчыністым (пра скуру рук, ног). *Набрала вады ў боты, то за цэлы дзень ногі пабабелі.* Альба Квас.

**ПАБРО́ІЦЬ** *зак.* Вытаптаць, знішчыць. *І як тыя парасята з загарады вылязлі? Усе мае грады паброілі.* Хадоркі Кос.

**ПАБУ́ТЛЯЦЬ** *зак.* Згніць, сапсавацца ад працяглага захоўвання. *Дрова пад карой хутко пабутляюць.* Альшаніца Квас. *Купіла мяшок круп, то за два годы пабутлялі.* Халап'я Падст.

**ПАБЭ́РСАЦЬ** *зак.* Зблытаць. *Пабэрсаў ніці, а мне распутвай.* Аляксейкі Стайк.

**ПАВАРО́ТНАЕ** *н. абрад.* Віншаванне маладых перад домам маладое пасля вянца. *Маладыя пасля вянца едуць да маладое. У гэты час моладзь, якая не ўдзельнічая ў вяселлі, ладзіць сустрэчу. Расчыняюць варота, ладзяць браму з бярозок ці елок, ставяць свой святочны стол з гарэлкай і закускай, вывешваюць плакат з віншаваннем маладых. Нарэшце, маладыя прыязджаюць. Ад імя моладзі сяла выступая сталы дасціпны юнак з прывітальнай прамовай. Ён заклікая да стала спачатку маладых, а*

*пасля і ўсю дружыну. Маладых і дружбантоў частуюць і падкідаюць на ўра. За ўсё гэто бацькі маладое даюць паваротнае моладзі за наладжаную сустрэчу: гарэлку і закуску.* Заполле Кос.

**ПАВЕ́СМО** *н.* Мера апрацаванага льну. *Возьмяш з добрую жменю льну, атрэпляш, пакладзеш, пасля яшчэ адну. З двух жмень выходзіць павесмо.* Альшаніца Квас.

**ПАВО́Д** *м.* Звычай. *Што вёска, то свой павод.* Бялавічы Кос.

**ПАВІ́ВАЧ** *м.* Спавівач. *Каб пялюшкі ні растрэсаліся на дзіцяці, то паверху спавівалі павівачом-паяском.* Альшаніца Квас.

**ПАВІ́СНУЦЬ** *зак.* Абаперціся, прыхінуцца. *Старому чалавеку адзіноко. Павісня на вешніцах ды жджэ, хто ідзе па гуліцы, каб пагаварыць.* Заполле Кос.

**ПАВО́ДЧЫК** *м.* Той, хто паводзіць каня. *Меншыя хлопцы за паводчыкоў, а старэйшыя з сошкай упраўляліся, калі абгорвалі ў калхозі картоплі.* Харошча Міл.

**ПАВУТА́** *зб. ж.* Павуціння. *У добрай гаспадыні павуты ні знойдзяш.* Заполле Кос.

**ПАВЫЗБІ́РВАЦЬ** *зак.* Пазбіраць. *Нехто ў лужку гэдык павызбірваў ягады, шчо ніц німа. Да апошняй ягадзінкі.* Жамайдзякі Міл.

**ПАВЫПО́РВАЦЬ** *зак. перан.* Пазнаходзіць, падаставаць. *Унукоў пакіну адных, то павыпорваюць усё на свеці.* Халап'я Падст.

**ПАВЫРО́СТАЦЬ** *зак.* Павырастаць. *Павыросталі дзеці ды паразляталіся па ўсім свеці.* Ёдчыкі Квас.

**ПАВЭ́ДЛУГ** *прыназ. з родн.* У параўнанні з кім-н., чым-н. *Павэдлуг даўнейшаго, зараз лепяй людзі жывуць.* Хадоркі Кос.

**ПАГА́МТАЦЬ** *зак.* Пакамячыць. *Праехала ў аўтобусі, усю сукенку пагамтала, ажні брыдко.* Дубітава Міл.

**ПАГО́ЙШЫЦЬ** *зак.* Растраціць, змарнаваць. *Старалася, цягнула, як тая мыш у нору, прышла нявестка, усё*

*пагойшыла.* Старажоўшчына Кос.

**ПАГУКАВА́ЦЬ** *зак.* Стаць пароснай (пра свінню). *Свіня пагукавала, стала лепяй есці.* Грыўда Міл.

**ПАГУ́КВАЦЬ** *незак.* Пагрымваць. *Чуяш, пагукваая, можа, на дождж збярэцца.* Заполле Кос.

**ПА́ДАЛЬНІЦА** *ж.* Адходы пры апрацоўцы льну. *Падальніца адны кажуць, але кажуць і радняніца на адходы ад льну, як трэпляш.* Альшаніца Квас.

**ПА́ДАНКА** *ж.* Апад. *Паданкіназбірай карові, ніхай ні гніюць.* Стайкі Стайк.

**ПАДАРО́ЖНІК** *м. бат.* Драсён птушыны. *Падарожнік расце паабапал сцежок, дзе топчуцца.* Заполле Кос.

**ПАДАТКНУ́ЦЦА** *зак.* Знайсці падтрымку, апору. *Табой не падаткнешся, дзе сеў, там злезяш, усё самой трэба рабіць.* Гошчава Стайк.

**ПА́ДАЦЬ** *незак.* Выгараць да дзірак (пра фіранкі). *Гэтыя шаўковыя занавескі павісяць гадоў два і падаюць, адны дзіры.* Альшаніца Квас.

**ПАДБАРО́ДДЗЕ** *н.* Мясістая нарасць пад дзюбай у курэй. *У некаторых курэй і надто вялікае падбароддзе, ажно, бывая, па зямле цягняцца.* Альшаніца Квас.

**ПАДБІВА́НКА** *ж.* Самаробная цёплая коўдра. *Сшыюць па краях дзве радзюшкі, напхаюць у сярэдзіну кудзелі, прашыюць тоўстымі ніцямі, зімою падбіванкай акрываюцца.* Альшаніца Квас.

**ПАДБЯРЭ́ЗНІК** *м. бат.* Падбярозавік, бабка. *Падбярэзнік мalады смачны, а стары распаўзаяцца ў квасі.* Заполле Кос.

**ПАДВА́ЛКІ** *толькі мн.* Тое ж, што і а п л а в і н ы. *Едзя чалавек па сено ў балото, то бярэ падвалкі, каб можно было шырэй раскласці воза ці санкі.* Квасевічы Квас.

**ПАДВІЛІ́ЦЬ** *зак.* Падставіць нагу, каб пакаціць, паваліць на зямлю. *Спрытны Тамашоў хлопяц. Вазьмецца качацца – тут жа падвіліць і ўжэ сядзіць зверху на тым.* Скураты Квас.

**ПАДВО́ДЗІЦЦА** *незак.* Дражніцца, цвяліць. *Сама ні падводзься, то і чапляцца да цябе ні будуць.* Гладышы Міл.

**ПАДВО́РАК** *м. устар.* Фальварак, маёнтак. *Ад даўнейшага падворка адны камення і засталіся, ды яшчэ роў заметны, кудою сцякалі адходы з бровара ў рэчку.* Альшаніца Квас.

**ПАДВО́СНІК** *м.* Частка калёс, на якую кладзецца вось; падосак. *Два падвоснікі ў возі. У перадку і задку. На падвосніку робіцца канаўка, у якую кладуць вось.* Заполле Кос.

**ПАДВЯСЦІ́** *зак. буд.* Закончыць будаўніцтва зруба. *Зруб пад крышу падвялі.* Сенькавічы Падст.

**ПАДГАПТАВА́ЦЬ** *зак.* Падмяць, паваліць. *Бачу, падгаптаваў пад сябе майго хлапца і таўчэ, ледзьве ўратаваў ад гэтаго бандзіта.* Заполле Кос.

**ПАДДА́ЦЬ** *зак. экспр.* Выпіць (пра гарэлку). *Добра ты ў гасцях паддаў, елачкаю дахаты ідзеш.* Галынка Міл.

**ПАДДУВА́ЙЛО** *н.* Паддувала. *Попелом забіто паддувайло, з-за гэтаго і цягі німа.* Сакоўцы Міл.

**ПАДДЗЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Падскочыць. *Паддзыгні, яблыко зарві, бо я ні дастану.* Бялавічы Кос.

**ПАДЖА́РА** *ж.* Чырвоная радзімая пляма. *Кажуць у нас на чырвоную родзімку і загарэво, але кажуць і паджара.* Альшаніца Квас.

**ПАДЖГА́ЦЬ** *зак. экспр.* Паперціся, паляцець. *Ну, паджгалі, да ночы павінны даехаць да Косава.* Хадакі Жытл.

**ПАДЗВІ́ЦЦА** *зак.* Паглядзець. *Падзвіся, якая вясёлка. Так і ведай: трэйцяго дня дождж будзя.* Заполле Кос.

**ПАДЗЕРАВЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Здранцвець. *Рукі мае ўжэ баляць. Бывая, як падзеравянеюць, вады ні магу дастаць.* Панкі Люб.

**ПАДКАЛО́ТКА** *ж.* Мука, якую дадаюць у страву. *Даўней вермішэлі ні ведалі, а падкалотку ў шчалакі дабаўлялі.* Заполле Кос.

**ПАДКАЧА́ЦЬ І** *зак.* Падгадаваць. *Падкачаю парася да*

*халадоў ды закалю, бо німа чым карміць.* Руда Падст.

**ПАДКАЧА́ЦЬ II** *зак.* Закасаць. *Падкачай штаны, бо клешні намочыш, расяно.* Галік Міл.

**ПА́ДКІ** *прым.* Тое ж, што і к і д к і. *Малады, але падкі да работы хлопяц. Каб яму ды яшчэ дзеўку такую.* Квасевічы Квас.

**ПАДКІ́НУЦЬ** *зак. перан.* Стукнуць, сцебануць. *Падкінуў пад хвост, то як мілянькі пабег памагаць мацяры палоць буракі.* Верашкі Квас.

**ПАДКЛА́ДЫ** *мн.* 1. Два палены, якія служаць асновай для клеткі дроў у печы. *Падклады на ніз можно і сырыя пакласці, а на іх ужэ сухенькія дрова клалі.* Альшаніца Квас. 2. Насціл з жэрдак як аснова кастра для дроў. *Каб колатыя дрова ні класці на сырую зямлю, мосцяць падклады.* Рацкевічы Міл.

**ПАДКУ́СЫ** *мн.* Кпіны, насмешкі. *Зараз людзі гняўлівыя, на адных падкусах жывуць.* Заполле Кос.

**ПАДЛЕ́ЗЦІ** *зак. перан.* Падлізацца, паддобрыцца. *Бач, як падлез да трактарыста: да самай падпаветкі яму торф падвёз.* Верашкі Квас.

**ПА́ДЛІНА** *ж.* Труп жывёліны, мярцвячына. *Даўней у кожном сяле конскія могліцы былі, а зараз людзі пасатанелі, вывозяць падліну і кідаюць, дзе папало, каб сабакі расцягвалі.* Альшаніца Квас.

**ПАДНАВЕ́СОК** *м.* Павець. *У нас дождж ні мочыць сено: усё ў паднавесок прачам.* Альшаніца Квас.

**ПАДНО́СКА** *ж.* 1.Дадатковыя сакавітыя кармы для каровы. *Мая карова без падноскі малака не аддасць. Ты ёй буракоў, яна табе малачко.* Альшаніца Квас.

2. *перан.* Хабар. *Без падноскі цяпер і кроку ні ступіш.* Альшаніца Квас.

**ПАДНЯБЕ́ННЕ** *н.* Скляпенне ў печы. *Паднябенне ў печы абвалілась, трэба пячніка клікаць.* Размеркі Стайк. *Як паднябенне белае ў пячэ, то час пірагі садзіць: печ гатова.* Воля Жытл.

**ПАДО́К** *м.* Стажар'е. *На мокрае балото сено ні пакладзеш, то рабілі падкі.* Заполле Кос.

**ПАДО́ЛОК** *м.* Прыпол. *Бало, маці так асцерагала мяне: "Глядзі, каб у падолку дзіця ні прынясла, выжану з хаты, на парог ні пушчу".* Гічыцы Ягл.

**ПАДО́СОК** *м.* Жалезная шайба, якая ўтрымлівае атосу на восі. *Згубіў па дарозі падосок, атоса спадая.* Зыбайлы Жытл.

**ПАДПО́ЛЫМНІК** *м.* Тоўсты блін з кіслага цеста, спечаны перад полымем. *Дзеці схочуць хлеба, а німа, то перад полымям падполымнікі пяклі.* Альшаніца Квас.

**ПАДПЯ́ТНІК** *м.* Дошчачка з выемкай для здымання абутку. *З падпятнікам лёгко зняць боты.* Альшаніца Квас.

**ПАДРУ́БНІЦА** *ж. заал.* Рапуха. *Жабы-падрубніцы жылі пад падлогай, пад падрубай, даўней фундаментоў ні было, хата стаяла на чатырох вуглавых камянях.* Альшаніца Квас.

**ПАДРЫЗАВА́ЦЬ** *зак.* Параўняць паверхню зямлі, зрэзваючы няроўнасці рыдлёўкай, шуфлем. *Трэба надворак падрызаваць, бо вясною трактарам калдобоў нарабіў.* Заполле Кос.

**ПАДСЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Высачыць, падпільнаваць. *Я ўсё-такі падседзяў, хто хапая курэй. Ліса!* Заполле Кос.

**ПАДСЕ́ЯЦЬ** *зак.* Ачысціць зерне ад смецця пры дапамозе сіта. *Падсей пуды з тры ячменю, то пасеям на агародзі.* Быч Стайк.

**ПАДСКРЭ́БУХА** *м і ж. перан.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Падскрэбуха – так кажуць на таго, хто апошні ў вялікай сям'і.* Скураты Квас. *Мне даглядаць бацькоў да смерці, бо жыву з імі, бо я – падскрэбуха.* Падстарынь Падст.

**ПАДСКРЭ́БУШОК** *м.* Паскрэбак. *Хлеб з апошняго ў дзяжы цеста – паскрэбушок.* Альшаніца Квас.

**ПАДСМІ́ХВАЦЦА** *незак.* Насміхацца, кпіць, жартаваць з каго-н., чаго-н. *Ні падсміхвайся са старого, старасць і цябе ні міне.* Няхачава Стайк.

**ПАДСЦЁ́Л** *м.* Подсціл. *Саломы на падсцёл прывёз.* Міхнавічы Стайк.

**ПАДСЯБРЫ́ЦЦА** *зак.* Паддобрыцца, падлізацца. *Падсябруся да мужыка, то, можа, дасць грошай на новыя боты.* Бусяж Міл.

**ПАДСЯВА́ЦЬ** *незак.* Падбіваць рэшата з зернем, каб сабраць амеці. *Даўней усе жыто падсявалі, чыстым сеялі.* Бялавічы Кос.

**ПАДТЫЦА́ЦЬ** *незак.* Папракаць, дакараць. *Шчо ты маім прыданым усё падтыцаяш?! Я – тваё прыданае.* Мілейкі Міл.

**ПАДДУ́БНІК** *м. бат.* Тое ж, што і в а л о в і к. *Паддубнік – жаўтаваты грыб, ён рэдко калі бывая чарвівы.* Заполле Кос.

**ПАДУЗО́РНІК** *м.* Карункі, якія прышываюць да прасціны. *Даўней да кожнае прасціны, якую засцілалі на ложок, прышывалі падузорнік.* Альшаніца Квас.

**ПАДУСТА́ЦЬ** *зак.* Прыўстаць, прыўзняцца. *Падустань, падушку пад галавой папраўлю.* Була Міл.

**ПАДУ́ШКА** *ж. перан.* Частка вузгалоўя ў возе. *Падушку рабілі з густой бярэзіны, з чараватай.* Заполле Кос.

**ПАДХА́ДЖВАЦЬ** *незак.* Заляцацца. *Да яе дачкі брыгадзір падхаджвая, то ўжэ яна будзя і з сеном, і з саломай.* Боркі Падст.

**ПАДХВА́Т** *м. рыб.* Від сачка. *Падцяня вудачкай рыбу да берага, а тады падхтватом яе падхопіць.* Грыўда Міл.

**ПАДЦЁ́НГЛЫ** *прым.* Высокі, сухарлявы, танклявы. *Высокі хлопяц, падцёнглы.* Лазаўцы Міл.

**ПАДЦКАВА́ЦЬ** *зак.* Намовіць, падкусіць. *Не падцкоўвай, ні пасварымся.* Бараны Ягл.

**ПАДЦЯ́ГВАЦЬ** *незак.* Выконваць спеўную партыю высокім голасам. *Ты пачні песню, а я буду падцягваць.* Аўсто Стайк.

**ПАДЦЯ́ЦЬ** *зак.* Абярнуць, паваліць. *Трэба было падцяць воза і вываліць скрыню з бульбай у бурт.* Аляксейкі

Стайк.

**ПАДЧАРО´ВІНА** *ж.* Падчарэўе. *З падчаровіны робяць рулеты.* Кушняры Падст.

**ПАДШЧЫ´ТНІК** *м.* Прычолак. *Каб вада па сцяне ні сцякала, робяць падшчытнік.* Альшаніца Квас.

**ПАДЫЙСЦІ´** *зак.* Падняцца, заняць больш высокае месца (пра ваду). *Да картоплёў вада ў ямі падыйшла.* Заполле Кос.

**ПАДЭ´СЦЬ** *ж.* Падвох, падман. *Гэдыку падэсць праражыў, ажно сэрцо забалело.* Заполле Кос.

**ПАД'Ю´ДЖВАЦЬ** *незак.* Падкусваць, падсміхацца. *Ні пад'юджвай, бо ўсе твае хітрыкі відны.* Заполле Кос.

**ПАД'Я´ЗІК** *м. заал.* Невялікі язь, пад'язак. *Пад'язік клюе, як у якую пагоду.* Размеркі Стайк.

**ПАД'ЯЛДЫ´КВАЦЬ** *незак.* Тое ж, што і пад'юджваць. *Сам любіць пад'ялдыкваць, а яго ні чапай.* Заполле Кос.

**ПАЖАРЫ´СКО** *н.* 1. Месца, дзе гарэў лес. *Ні быў два годы на пажарыску, а зайшоў і ні пазнаў: маладняк пайшоў расці.* Заполле Кос. 2. Пажарышча. *Прыйшлі з вайны на пажарыско – адны галавешкі ад хат убачылі.* Боркі Падст.

**ПАЖО´РА** *ж.* Месца на рэчцы, якое зімой не замярзае. *Пажора – гэто место на рэчцы, дзе вада выходзіць з-пад лёду. Нават у самы велькі мароз тое место ні замярзая.* Заполле Кос.

**ПАЗ** *м.* Шрам, пісяг. *У каровы паз на ўвесь бок, аж кроў паказалася.* Альба Квас.

**ПАЗАГАНЯ´ЦЬ** *зак.* Загнаць, заглушыць пустазеллем. *Пазаганяло ўсе грады зельем, спасу німа.* Куляшы Міл.

**ПАЗАГО´РВАЦЬ** *зак.* Заараць, засыпаць. *Пазагорвоў усе картоплі асыпаючы.* Азярцо Падст.

**ПАЗАРНЫ´** *прым.* Яркі, з прыгожымі ўзорамі (пра вытканае). *Ідзем глядзець да цябе радзюшку. Кажуць, надто харошая, пазарная.* Галік Міл.

**ПАЗА´ЎТРЫ** *прысл.* Паслязаўтра. *Пазаўтры свято вельке будзя – Благавешча. Кажуць, што ў гэты дзень*

*бусял першае яйцо знясе.* Заполле Кос.

**ПАЗАЎЧО´РЫ** *прысл.* Пазаўчора. *Пазаўчоры надто бура была, аж крышы пазносіло.* Зялёны Бор Стайк.

**ПАЗАХО´ДЗІЦЬ** *зак.* Анямець, страціць адчуванне ад марозу (пра рукі, ногі). *Пазаходзілі рукі з пары.* Заполле Кос.

**ПАЗАЦЯКА´ЦЬ** *зак.* Здранцвець, анямець. *Ад доўгага сядзення ногі пазацякалі.* Квасевічы Квас.

**ПАЗЕЛЯНЕ´ЦЬ** *зак. перан.* Быць у стане млосці. *Як убачыла ў першы раз нявестку, ажно пазелянела.* Хрышчонавічы Квас.

**ПАЗНА´ЦЦА** *зак.* Пазнаёміцца. *Мы з жонкай на вячорках пазналіся.* Куляшы Міл.

**ПАЗУБА´ЦЬ** *зак.* Праверыць варанае яйка на моц, удараючы ім аб зубы. *Трэба пазубаць яйца, каб добраго мець мацака на Вялікдзянь.* Заполле Кос.

**ПАЗУБІ´ЦЦА** *зак.* Прарасці, даць парасткі. *Цыбуля пазубілася, хутко шчыпаць будзям.* Юкавічы Стайк.

**ПАЗЯХУ´ШКІ** *толькі мн. дзіц.* Пазяханне. *Пазяхушкі, пазяхушкі, спаць дзіцятку пара.* г. Косава.

**ПА´ЙКА** *ж.* Частка чаго-н., выдзеленая ў адпаведнасці з устаноўленай нормай. *Падзялілі балото на пайкі, пайдзям касіць.* Ятвезь Квас.

**ПАК** *м.* Скрыня для збожжа. *Намалаціў вялізны пак збож'я.* Кушняры Падст.

**ПАКАВЕ´РКАЦЬ** *зак. экспр.* Дрэнна згараць. *Не згараў, а пакаверкоў агарод.* Воля Жытл.

**ПАКА´МІСЬ** *прысл.* Пакуль. *Пакаміс адзеўся, аўтобус пайшоў.* Лазаўцы Міл.

**ПАКАНА´ЦЦА** *зак. дзіц.* Перабіраючы рукамі кій, вызначыць, хто будзе першым весці гульню. *Паканацца трэба, чыя рука будзя зверху, той будзя плюшчыць.* Заполле Кос. *Усякую спрэчку ў дзіцячай гульні вырашалі так. Паканаюцца. Хто зверху возьмяцца за кій, той прайграя.* Бялавічы Кос.

**ПАКАРЫСТА́ЦЦА** *зак.* Уступіць у сямейныя адносіны з мэтай задавальнення любоўных уцех. *Нашчо было Ганне прынімаць гэдыкаго валацугу? А то пакарыстаўся ёю і кінуў.* Альшаніца Квас.

**ПАКАСАВА́ЦЬ** *зак.* Знішчыць, звесці. *Пакасавала ўсе сліўкі: надто пасынкамі ідуць.* Жытлін Жытл.

**ПАКВЭ́ЦАЦЬ** *зак.* Патыцкаць, з неахвотай есці. *Нешчо свіня захварэла. Вышла з хлява, паквэцала ў карыці і зноў у хлеў.* Мілейкі Міл. 2. Дрэнна пабяліць. *Вясна, то трохі паквэцоў вапнай прысаддзя.* Зыбайлы Жытл.

**ПАКЕ́ЎГАЦЬ** *зак.* Тое ж, што і п а к в э ц а ц ь. *Еш, а то пакеўгоў, пакеўгоў, хто будзя пасля цябе есці.* Корачын Жытл.

**ПАКЕ́ЎЗАЦЬ** *зак. экспр.* Дрэнна памыць. *Пакеўзала ганучаю па падлозі, яно гразь развязла.* Плехава Люб.

**ПАКІДА́НЕЦ** *м.* Мужчына, якога пакінула жонка. *За пакіданца замуж не ідзі. Каб быў добры, то жонка ні пакінула б.* Яглевічы Ягл.

**ПАКЛА́Д** *м. этнагр.* Размяшчэнне снапоў перад малацьбой. *Адзін паклад складаецца з васьмі снапоў.* г. Косава.

**ПАКЛА́СЦІ** *зак. перан.* Забіць. *Сына майго на вайне паклалі, адзін быў у мяне.* Гічыцы Ягл.

**ПАКЛЁ́КНУЦЬ** *зак.* Палегчы (пра збажыну). *Перастояло жыто, паклёкло, з яго ніц ужэ ні будзя.* Заполле Кос.

**ПАКНУРАВА́ЦЬ** *зак.* Тое ж, што і п а г у к а в а ц ь. *Свіня пакнуравала, трэба ўжэ трымаць асобне.* Любішчыцы Люб.

**ПАКО́МЧЫЦЬ** *зак.* Пакамячыць. *Пакомчыла паперку і кінула.* Сярадава Жытл.

**ПАКО́Т** *м.* Гарышча. *На пакоці валяліся старыя кінутыя рэчы.* Заполле Кос. *Дзед палез на пакот вешаць тытунь.* Бялавічы Кос.

**ПАКРО́ВА** *ж. рэліг.* Пакровы. Царкоўнае свята, якое адзначаецца праваслаўнай царквой першага кастрычніка

па старому стылю. *Прышла Пакрова – зарыкала карова.* Альшаніца Квас. *Сцы х-к апошні дзянёк, заўтра Пакрова, пасякуць на дрова.* Альшаніца Квас.

**ПАКРЫВІ́ЦЬ** *зак. безас.* Пакурчыць, пакруціць. *Пакрывіла ўсе рукі хвароба.* Панкі Люб.

**ПАКРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* Здранцвець ад холаду. *Рукі пакрэплі.* Хадакі Жытл.

**ПАКУ́ЛІНКА** *ж.* Адна сцяблінка льну. *Пакулінка да пакулінкі – куль будзя.* Дубітава Міл.

**ПАКУ́РЧЫЦЦА** *зак.* Пераспець (пра збажыну). *Пакурчыўся ячмень, даўно пара жаць.* Заполле Кос.

**ПАКУ́ТНІЦА** *ж.* Хто пакутуе, мучыцца. *Пакутніца, ужэ цэлы год прыкута да ложка.* Хадакі Жытл.

**ПАЛАВІ́НКА** *ж. устар.* Палавіна зямельнага надзела. *Ён ні глядзеў, шчо брыдкая, за ёй бацько даў палавінку зямлі.* Заполле Кос.

**ПАЛАВЫ́** *прым.* 1. Чорная, са светлымі знізу плямамі (пра хмару). *Палавая хмара выплыла: будзя велькі дождж.* Заполле Кос. 2. Светла-жоўтай масці (пра каня). *У яго конь рэдкай масці – палавы.* Быч Стайк.

**ПАЛАКА́ЦЬ** *незак.* Паласкаць памытае ў чыстай вадзе. *Буду палакаць занавескі, да вечара высахнуць.* Панкі Люб. *Мы летом усё мыям у лужку, палакаям там.* Заполле Кос.

**ПАЛАСА́** *ж.* Участак поля, які займае жняя. *Як паласа ад разоры да разоры, то добра жаць, ні трэба пілнавацца мяжы.* Альшаніца Квас.

**ПАЛЕ́НО** *н.* 1. Палена. *Парубай смольнае палено на смальнякі.* Боркі Падст. 2. Кусок нятоўстай лясіны. *Дроў, кажаш, німа? А ты парэж тоя палено, шчо ўжэ год ляжыць у цябе пад плотом, гніе, то на тыдзянь будзя ў печы тапіць.* Скураты Квас.

**ПАЛЕ́ПА** *ж.* Сумесь гліны з апілкамі. *Палепаю залівалі пакот, каб гладко было.* Заполле Кос.

**ПАЛЕ́ТАЦЬ** *незак. экспр.* Часта мяняць месца жыхарства. *Палеталі па свеці, нідзе ні ўжыліся ды назад*

*вярнуліся.* Альшаніца Квас.

**ПА́ЛЕЦ** *м. цясл.* Праём у крокве, шпень. *У адной крокві правушына, у другой палец. Палец устаўляюць у правушыну.* Заполле Кос.

**ПАЛЕ́ШКА** *ж. жарт.* Жыхарка Палесся, паляшучка. *Андрэй палешку замуж узяў.* Зялёны Бор Стайк.

**ПА́ЛІЦЦА** *зак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кабылы. *Кабылу трэба да жарабца вясці, паліцца.* Заполле Кос.

**ПА́ЛКІ** *прым.* Які добра гарыць (пра дровы). *Бярозавыя дрова палкія, ад іх жару много.* Заполле Кос.

**ПАЛО́ВАЛОК** *м. устар.* Паўвалокі. *У майго дзеда паловалок зямлі было.* Рацкевічы Міл.

**ПАЛО́ЗАЦЬ** *незак. экспр.* Хадзіць, бадзяцца, поўзаць. *Цэлы дзень палозоў па лесі, ледзь кошык грыбоў назбіраў.* Яглевічы Ягл.

**ПАЛО́ННЕ** *н.* Праполка. *Ідзе вясна, то страх бярэ: палонне замучвая, у градах ад цямна да цямна.* Бялавічы Кос.

**ПАЛО́НЯ** *ж.* Вольная, адкрытая для вока прастора. *Ідзеш па лесі, выйдзяш на паляну – гэто палоня. Ідзеш лесом, выйдзяш на чыстае балото – і гэто палоня.* Хадакі Жытл.

**ПАЛО́СА** *ж. устар.* Участак зямлі пэўнага памеру. *Палосы па велічыне у кожном сяле былі розныя. Наша, запалянская палоса раўнялася 16 гектарам.* Заполле Кос. *Даўней з палосы зямлі можно было жыць, можно было пракарміцца. Быў хлеб, было і да хлеба.* Альшаніца Квас.

**ПАЛО́СКА** *ж.* Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *Зямлі ў людзей было мало, палоскі вузкія, доўгія.* Заполле Кос.

**ПАЛО́ССЕ** *н.* Лыка. *З ліпы дзерлі палоссе. З ліпы харошае, белае палоссе.* Заполле Кос.

**ПАЛО́ЎНІК** *м.* Прыбудова да гумна. *Палову, амецце, згоніны, льняную мякіну зносілі ў палоўнік.* Заполле Кос.

**ПАЛО́ЦЦЕ** *н.* Кара з лазы. *Хадзілі на балото, лазу*

*дзерлі. З таго палоцця пасталы плялі.* Альшаніца Квас.

**ПАЛУ́ДЗЕНЬ** *м.* Полудзень, абед. *Кідайця работу, палудзень нясуць.* Кушняры Міл.

**ПАЛУ́ДНАЦЬ** *незак.* Абедаць. *Назбіралі сёстры па карзінцы ягад ды селі палуднаць.* Заполле Кос.

**ПА́ЛЬНУЦЬ** *зак. экспр.* Моцна стукнуць. *Як пальнуў пад вухо кулаком, то зоры з вачэй пасыпаліся.* Ятвезь Квас.

**ПАЛЬЦЯЧКО́** *н. памянш.* Дзіцячае паліто. *Мне першае пальцячко з салдацкаго шыняля пашылі.* Лазаўцы Міл.

**ПАЛЯВІ́К** *м.* Палявы вартаўнік. *Даўней ні гэдык кралі, бо палявікоў у калхозах трымалі.* Размеркі Стайк.

**ПАЛЯВЫ́ ГРЫБ** *м. бат.* Тое ж, што і з а я ч ы г р ы б. *Палявы грыб добры малады.* Яблонка Жытл.

**ПАЛЯВЫ́ ШЧАВЕ́Й** *м. бат.* Шчаўе вераб'інае. *Палявы шчавей толькі поле засмечвая.* Бялавічы Кос.

**ПАЛЯГЛЯ́К** *м.* Палеглыя лён, збажына. *Далі пайку льну рваць, а там адзін палягляк.* Верашкі Квас. *Палягляк абаб'ецца лечажы, мышы паносяць зярнята.* Альшаніца Квас. *Як паляжа лён, то палягляк гэты хутчэй рвуць. Рвуць і кідаюць, рвуць і кідаюць, а то калі нічого ні рабіць, папрэя.* Грыўда Міл.

**ПАЛЯ́РУШ** *м.* Хвароба, ліха. *Каб цябе паляруш узяў!* Бялавічы Кос.

**ПАЛЯНЯ́КО** *н.* Палена. *Ні дам рады гэтае паляняко раскалоць.* Бусяж Міл. *Рэзалі дрова, адляцело паляняко ды па назе.* Галік Міл.

**ПАМАРА́ЦЬ** *зак.* Выпацкаць. *Яно кранешся да гэтаго трактара, а ўжэ рукі памараў.* Быч Стайк.

**ПАМАРНАВА́ЦЬ** *зак.* Знішчыць, загубіць. *Ой, колькі людзей памарнавалі ў гэту вайну!* Була Міл.

**ПАМАЧНІ́К** *м.* Памочнік. *Гэто мне ўнучок картоплі абгараў, мой памачнік.* Заполле Кос.

**ПАМАЧНІ́ЦА** *ж.* Памочніца. *Я не адна гэтыя радзюшкі ткала, з маёй памачніцай, з дочачкай.* Боркі Падст.

**ПАМО́ЦНЫ** *прым.* Лекавы, гаючы. *Святаяннік надто*

*памоцны, ніздарма кажуць, што ён ад усіх хвароб.* Заполле Кос.

**ПАМПУ´ХА** *ж. экспр.* Тоўстае пульхнае дзіця. *Унучцы мае тры годзікі зімой будзя, пампуха, ручкі як перавязаныя.* Альшаніца Квас.

**ПАМЯРГО´ЎНЫ** *прым.* Памяркоўны, добразычлівы. *Мужык яе памяргоўны: і з ёю, і з людзьмі ладзіць.* Альшаніца Квас.

**ПАМЯТКІ´** *прым.* Памятлівы, з добрай памяццю. *Хоць дзед мой стары, але памяткі.* Гладышы Міл.

**ПАНАЖО´ЎШЧЫНА** *ж.* Бойка, у якой і нажы ідуць у ход. *У Заполлі без панажоўшчыны ні адны музыкі ні абходіліся.* Гошчава Стайк.

**ПАНАЗБІ´РВАЦЬ** *зак.* Шмат назбіраць. *Паназбірвалі людзі гэтай восянню грыбоў.* Бараны Ягл.

**ПАНАЛО´ЎЛІВАЦЬ** *зак.* Многа налавіць. *Party Паналоўлівалі рыбы цэлыя тарбы.* Грыўда Міл.

**ПАНАПРЫВО´ЗІЦЬ** *зак.* Панавозіць. *Панапрывозілі на базар парасят моро.* Лазаўцы Міл.

**ПАНАРА´ВІЦЬ** *зак.* Упадабаць. *Настаўнік маю Ганначку панаравіў, кажа, лепш за ўсіх вершыкі чытая.* Даргужы Міл.

**ПАНАРА´Д** *м.* Агульная назва дэталей ткацкага станка. *Панарад ні ўвесь: німа берда, і набільніцу трэба парамантаваць.* Размеркі Стайк.

**ПАНАСНЫ´** *прым.* Лёгкі, зручны. *Панасная драбіна, лёгкая, куды хочаш занясеш.* Гошчава Стайк.

**ПАНКА´ЦЬ** *незак., экспр.* Заходзіцца ад смеху. *Так рассмяшыў нас Раман ля магазіна, аж панкалі ад смеху, аж за жываты браліся.* Ятвезь Квас.

**ПАНЦА´К** *м.* 1. Вялікія ячменныя крупы. *Вялікія ячменныя крупы называюцца панцакі, дробныя – ку´цька.* Альшаніца Квас. 2. *абрад.* Салодкая калядная каша. *Варылі салодкую кашу на Коляды, яе называлі панцак.* Альшаніца Квас.

**ПАПАВАЛАЧЫ́ЦЬ** *незак. экспр.* Доўгі час насіць. *Папавалачыла дрова цэлы дзень, ажно рукі гудзяць.* Падстарынь Падст.

**ПАПАВАЛІ́ЦЬ** *незак. экспр.* Моцна і доўга біць. *Улезла ў агарод свіня, усе грады спаласавала, то папаваліў яе мужык, замест таго каб плот паправіць.* Рацкевічы Міл.

**ПАПАДРАСТА́ЦЬ** *зак.* Вырасці. *Маладыя дзяўчаткі за лето пападрасталі, ажно ні пазнаць.* Дубітава Міл.

**ПАПАЕ́ХАЦЬ** *зак.* Доўгі час ехаць. *Папаехалі да Косава, усё мужык па дарозі радню праведвоў.* Хадакі Жытл.

**ПАПАЙСЦІ́** *зак.* Доўгі час ісці. *Каб назбіраць суніц, то трэба папайсці, бо блізко вызбіралі.* Няхачава Стайк.

**ПАПАЛАКА́ЦЬ** *зак.* Папаласкаць. *Папалакала настольніцу, хай сохня.* Рудня Падст.

**ПАПАПАЛО́ЦЬ** *зак.* Працяглы час палоць. *Папапалола я гэты год буракі, усе рукі павырывала, а зелья зноў расце.* Ёдчыкі Квас.

**ПА́ПАРАТНІК** *м. бат.* Папараць. *Папаратнікі бываюць розныя. Е папаратнік іглісты, арляк, мужчынскі і жаночы, а е мнаганожка.* Заполле Кос.

**ПА́ПАРАЦЬ-КВЕТКА** *ж. бат.* Арляк звычайны. *Папарaць-кветкай лечаць бранхіты. Для гэтаго трэба штодзень парыць ногі: кашаль згіня.* Бялавічы Кос.

**ПАПАРНІ́ЦА** *ж.* Пустазелле, якое расце на папары. *Папарніцу на папары хоць касой касі, такая густая.* Мілейкі Міл.

**ПАПАТЫ́РКАЦЬ** *зак.* Доўгі час блукаць. *Папатыркалі ў горадзі, пакуль знайшлі бальніцу.* Заполле Кос.

**ПАПАЦЕ́РЦІ** *зак.* Працяглы час церці. *Рука стала сохнуць, папацерла я яе, нічого ні памагая.* Альшаніца Квас.

**ПАПАЦЁ́ГАЦЬ** *зак. экспр.* Доўгі час цягаць, валачыць. *Помню, папацёгалі мяне даўней у міліцыю за прыпеўку пра калхоз.* Заполле Кос.

**ПАПЕ́РАД** *прыназ. з род.* Перад. *Калі першы раз выходзілі жаць, то тройчы кідалі паперад сябе, як сярпом*

*зайняць, жменькі жыта. Пасля збіралі і рабілі перавяслячко. І гэтым перавяслячком перавязваліся, каб ні балела сярэдзіна.* Заполле Кос.

**ПАПЕРШЫНЕ´** *прысл.* Спачатку. *Папершыне людзям дзіво было гэтыя калхозы. Як гэто – кагалом рабіць? Прывыклі – весяло. Галодныя былі, але вясёлыя.* Заполле Кос.

**ПАПІРА´ЦЬ** *незак.* Прымушаць да работы, папіхаць. *Яго трэба папіраць, бо сам лянуяцца шчо рабіць.* Заполле Кос.

**ПА´ПІЧ** *м. абрад.* Фігурка чалавека ва ўбранні вясельнага караваю. *Булачка доўгая на караваі зверху, а на ёй папіч – злепляны з цеста чалавечок.* Альшаніца Квас.

**ПАПЛАВІ´НА** *ж.* Поплаў, сенажаць. *На гэтой паплавіні трава мяккая, ядкая.* Боркі Падст.

**ПАПЛЁ´ХАЦЦА** *зак.* Паплюхацца, пырскацца. *Унучка малая, надто любіць паплёхацца ў вадзе.* Жамайдзякі Міл.

**ПА´ПЛІСКА** *ж. экспр.* Кій, дубец. *Супакойся, а то гэтай паплінскай пацягну па плечах, ажно выпруцішся.* Азярцо Падст.

**ПАПО´НА** *ж.* Гунька. *Угрэяцца конь, то папонай накрывалі.* Міхнавічы Стайк.

**ПАПО´НЯ** *ж.* 1. Доўгая накідка на кажух. *Накінь папоню на кажух: слота на дварэ.* Руда Падст. 2. *перан. асудж.* Неахайна, без густу апранутая ва ўсё доўгае жанчына. *Папоня, ты паглядзі на сябе ў люстэрко! На каго ты падобна?* Сенькавічы Падст.

**ПАПРА´ВІЦЦА** *зак.* Прыналегчы, пастарацца. *У калхозі наробішся, а дахаты прыйдзяш, яшчэ паправішся. Спіш уночы, як пшаніцу прадаўшы.* Альшаніца Квас.

**ПАПРАВУ´НОК** *м.* Выздараўленне. *Доўго хварэў мой сынок, але дзякаваць Богу, пайшоў на паправунок.* Мілейкі Міл.

**ПАПРО´ДАЦЬ** *зак.* Папрадаваць. *Нашы суседзі – бакцісты, папродалі свой набыток і паехалі ў Амерыку.* Стайкі Стайк.

**ПАПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Апусціцца, перастаць клапаціцца пра свой знешні выгляд. *Папусцілася, як ліхія ганавіцы.* Заполле Кос. 2. Паддацца, падпарадкавацца чужой волі. *Гэдык мой сусед папусціўся, што жонка вяроўкі з яго ўе.* Быч Стайк.

**ПАПУ́ШКА** *ж.* Пучок сушаных лісцяў тытуню, іншых раслін. *Як скрышу папушку табаку, на тыдзянь будзя.* Заполле Кос.

**ПАПРЭ́ЦЬ** *зак.* Сапрэць. *Сено склалі сыраватае, то папрэло. Як агледзяліся, то прасушвалі.* Сакоўцы Міл.

**ПАПЯРО́ЧКА** *ж.* 1. Частка загона на развароце. *Трэба папярочку згараць.* Заполле Кос. 2. Барозны з бульбай, пасаджаныя ў канцы загона на развароце. *Папярочку гачкай асыплям, бо канём яно патопчам.* Заполле Кос. 3. *стал.* Піла для разразання драўніны ўпоперак. *У сталярскай справі без папярочкі не абыйсціся.* г. Косава.

**ПАРАЖЭ́ЛЯ** *ж.* 1. Парадзіха. *Трэба да паражэлі ісці ў адведкі.* Альшаніца Квас. 2. Груб. *Неахайная жанчына. Гэта паражэля навет за сабою ні прыбярэ.* Заполле Кос.

**ПАРАСТЫ́ЦВАЦЬ** *зак.* Параздаваць. *Парастыцвала цыбулю, агледзялася: самой ні хваціць.* Скураты Квас.

**ПАРАСЦІ́** *зак.* Пусціць парасткі. *У цяпле цыбуля парасла.* Яблонка Жытл.

**ПА́РАХ** *м.* Уніяцкі святар. *Даўней, як уніятамі былі, то святара парахом называлі.* Квасевічы Квас.

**ПАРАХНО́** *н.* Парахня, гніллё. *Пачалі разбіраць хату: адно парахно, жывое дзеравіны німа.* Любішчыцы Люб.

**ПАРКА́НТ** *м.* Тое ж, што і к а р п а н. *Яловы паркант доўго стаіць. Во гэтаму 50 гадоў, перад калхозом бацько паставіў. Яно жэрдкі памяняў, а шулы і парканціны тыя самыя.* Альшаніца Квас.

**ПАРО́НІКІ** *мн.* Паранка. *Паронікі смачныя з алеем і смажанай капустай.* Плехава Люб.

**ПАРСУ́НА** *ж.* Фігура. *Зграбная парсуна ў гэтой маладухі.* г. Косава.

**ПАРТЫЗА́НІЦЬ** *незак. перан.* Употай касіць на чужой сенажаці. *Калхозной пайкі сена на карову ні хапая, то партызаняць людзі.* Заполле Кос.

**ПАРТЫЗА́НКА** *ж.* Дзяўчына, якая нарадзілася ў партызанскім сямейным лагеры. *І трэба мне нарадзіцца ў вайну: так партызанкай і памру.* Заполле Кос.

**ПАРХА́ТЫ** *прым. абразл.* Паршывы, каросліві. *Якая з яе маці, шчо дзяцей ні абмыя: усе дзеці пархатыя.* Заполле Кос.

**ПАРШУ́К** *м.* Вяпрук, парсюк. *Трэба паршука рабого купіць, кажуць, рабыя свіня вядucца.* Галенчыцы Ягл.

**ПАРЫ́ЛО** *н. бат.* Вятроўнік вязалісты. *Парыло расце па нізкіх мястах. Цвіце белым з жаўтаватым адценнем цветом. Парыло сушаць і п'юць як мачагоннае.* Балавічы Кос.

**ПАРЫ́ЦЬ** *незак. безас.* Вылучаць пар пад уздзеяннем цяпла. *Кацёл парыць, значыць, картоплі свіням зварыліся.* Панкі Люб.

**ПАРЭ́НЧЫНА** *ж.* Парэнча. *Парэнчына згніла, замяні.* Була Міл.

**ПАРЭ́ПАЦЬ** *зак.* Патрэскаць. *Парэпалі пяты, баляць, бо боса хаджу.* Квасевічы Квас.

**ПАРЭ́СЯТКО** *н. памянш.* Парася. *Парэсятко на базары купіла, хай качаяцца.* Альшаніца Квас.

**ПА́СВІСКО** *н.* Паша, выпас. *У нас адразу за сялом пасвіско.* Бялавічы Кос.

**ПАСВІСЦЁ́Л** *м.* 1. Свісток. *Дзед мне ўсё пасвісцёлы рабіў.* Заполле Кос. 2. *перан.* Тонкі высокі юнак. *Твой сын пасвісцёл, тонкі, высокі.* Заполле Кос.

**ПАСЕ́КЧЫ** *зак.* 1. Патрэскацца на ветры (пра рукі). *Рукі ветром пасекло, баляць, трэба якой рады шукаць.* Хрышчонавічы Квас. 2. Папсаваць, стачыць на сечку. *Мышы пасеклі салому нанет.* Заполле Кос.

**ПАСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Адужаць, перамагчы. *У нас кажуць: "Дзе чорт не пасіліў, туды бабу паслаў".* Кушняры Падст.

**ПА́СКА** *ж. рэліг.* 1. Вялікдзень. *Даўней Паску чакалі як невядома чаго: пасля вялікага паста разгаўляліся людзі.* Альшаніца Квас. 2. Пірог, які пякуць к Вялікадню. *Паску свенцяць, кожны па кусочку павінян з'есці.* Альшаніца Квас.

**ПАСКРЭ́БУХА** *ж.* 1. Паскрэбак. *Выскрабяш цесто з дзяжы, спячэш гэту паскрэбуху: надто дзеці любілі яе.* Альшаніца Квас. 2. *перан.* Дзяўчына, якая нарадзілася апошняй у бацькоў. *Дзяцей много, а жыву з самай меншай, паскрэбухай нашай.* Альшаніца Квас.

**ПАСЛАБАДНЕ́ЦЬ** *зак. безас.* 1. Мець больш вольнага часу. *Зіма, то вальней стало, паслабаднело, узялася во шкарпэткі ўнукам вязаць.* Бялавічы Кос. 2. Стаць вальней, прастарней. *Вышлі людзі ў Бялавічах, то паслабаднело ў аўтобусі.* г. Косава.

**ПАСМЕ́Х** *м і ж.* Той, з якога смяюцца, кпяць. *Пасмех ты, з цябе людзі смяюцца.* Бусяж Міл.

**ПАСО́ЛІСКО** *н.* Лісце і сцяблы фасолі. *Пасоліско палім, як абярэм струкі.* Гошчава Стайк.

**ПАСО́ЛЯ** *ж.* Фасоля. *Пасолю-сядунку выбірайця: пайшлі дажджы, будзя гніць.* Грыўда Міл.

**ПАСПЕ́Х** *м.* Хутка, але няякасна выкананая работа. *У нас кажуць: паспех – людзям на смех.* Яглевічы Ягл.

**ПАСТАЎНЫ́** *прым.* Стройны, зграбны. *Пастаўная дзеўка, нічого ні скажаш, усё пры ёй.* Заполле Кос.

**ПАСТА́ЦА** *ж. мед.* Ліхаманка. *Гэто слово – кляцьба. У нас клянуць так: каб цябе пастаца ўзяла.* Даргужы Міл.

**ПАСТУХО́ВА СУ́МКА** *ж. бат.* Стрэлкі звычайныя. *Пастухова сумка прымяняяцца ад жаночых хвароб.* Бялавічы Кос.

**ПАСУ́ПЫ** *прым.* Насуплены, пануры. *Ён век пасупы, хмуры, як восеньскі дзень.* Заполле Кос.

**ПАСУР'Ё́ЗНІЧАЦЬ** *зак.* Пасварыцца. *Мы некалі моцно пасур'ёзнічалі з суседом з-за мяжы, але забыласё зараз усё гэто.* Заполле Кос.

**ПАСЦЕ́ЛЬ** *ж. анат.* Тое ж, што і м е с т о. *Пасцель трэба*

*мус дапілнаваць, каб карова ні з'ела. Як з'есць, то, кажуць, малако будзя шумець.* Размеркі Стайк.

**ПА'СЫНОК** *м. 1.* Адростак, атожылак. *Ля вішні много пасынкоў нарасло.* Сакоўцы Міл. 2. Няродны сын. *Пасынок, а даглядзеў бацькоў да смерці.* Быч Стайк. 3. Дробны водны канал, які ўпадае ў шырэйшы, галоўны. *Бывая, і ў пасынках рыбы наловім.* Хадакі Жытл. 4. Бетонная апора пад тэлеграфны слуп. *Пасынок у зямлю закопваюць, а да яго прывязваюць драўляны тэлеграфны слуп.* г. Косава. 5. Адросткі на рагах аленя, лася. *Знайшоў і я адну палавіну рагоў лося з двума пасынкамі.* Бялавічы Кос.

**ПАСЯРДЗІ'ЦЦА** *зак.* Засярдзіцца, паспрачацца. *Пасярдзіліся браты адзін на аднаго і сталі як чужыя.* Заполле Кос.

**ПАТА'Й** *м. стал.* Выемка, паз. *Дзвярны замок устаўляяцца ў патай.* Заполле Кос.

**ПАТАПЛЕ'ННЕ** *ж.* 1. Твань, багна. *Паехалі па жураўліны, а там жывое патапленне.* Хрышчонавічы Квас. 2. Макрэча, бруд, гразь. *У хляве патапленне, і саломы німа падаслаць.* Панкі Люб.

**ПА'ТЛЫ** *мн. пагардл.* Доўгія нерасчэсаныя валасы; кудлы. *Нашчо ты гэтыя патлы адгадаваў?* Заполле Кос.

**ПАТО'П** *м.* Тое ж, што і п а т а п л е н н е. 1, 2. *Не лезь туды, бо там патоп.* Заполле Кос. 2. *Тыдзянь дажджы ідуць: жывы патоп на гуліцы.* Заполле Кос.

**ПАТРО'СІ** *прысл.* Патроху. *Патросі важу сено з балота.* Хадоркі Кос.

**ПАТЫ'КАЦЬ** *зак.* Зрэдку, там-сям пасадзіць. *Буракі патыкала па цыбулі. Цыбулю вырвям пад восень: буракам ход будзя.* Падстарынь Падст.

**ПАТЫ'РКАЦЬ** *зак.* Паспрабаваць, пачаць і не закончыць пачатае. *Патыркоў, патыркоў, а карыто так і не зрабіў.* Падстарынь Падст.

**ПАТЫ'ЦАЦЬ** *зак.* Паспрабаць, пасмакаваць, але не пачаць есці. *Патыцало, патыцало парася ды адышлосё. І*

*чым яго карміць, ні ведаю.* Размеркі Стайк.

**ПАЎЛА́ЗІЦЬ** *зак.* Павылазіць. *Каб табе вочы паўлазілі!* Рацкевічы Міл.

**ПАЎПЛЫВА́ЦЬ** *зак.* Пусціць колас, выкаласаваць. *Авёс паўплываў.* Мілейкі Міл.

**ПАЎПРЫ́НДЖВАЦЦА** *зак.* Папрападаць, згінуць. *Парасят у свіні было дзесяцёро, а за тыдзень усе паўпрынджваліся.* Няхачава Стайк.

**ПАЎСКРЫ́НОК** *м.* Невялікая скрынка ў куфры. *У куфры е паўскрынок. Там даўней трымалі ўсякія важныя паперы, дакументы.* Заполле Кос.

**ПАЎСЕ́КАЦЬ, ПУЎСЕ́КАЦЬ** *зак.* Павысякаць. *Палола грады, а ні дабачваю, дый паўсекала буракі.* Руда Падст. *Пуўсекай крапіву ля плоту.* Альшаніца Квас.

**ПАЎЧВЭ́РТКА, ПУЎЧВЭ́РТКА** *ж. устар.* Драўляная пасудзіна, якой мералі збожжа. *Чацвярык – на адзін пуд дзежка, а паўчвэртка – палавіна чацвярыка.* Міхнавічы Стайк. *Пуўчвэртка – пасудзіна з адной ручкай на 8 кілаграм.* Альшаніца Квас.

**ПАХАДНЫ́** *прым.* Зручны. *Гэты чамадан само пахадны.* Мілейкі Міл.

**ПАХАПІ́ЦЬ** *зак.* Хутка зразумець. *Здатная да ўсяго мая нявестка: як зварыць, як пашыць, як мужыку дагадзіць. Яно пакажаш, а яна ўжэ пахопіць.* Заполле Кос.

**ПАХАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Моцна пахнуць. *Гуркі свежыя пахацяць на ўсю хату.* Лазаўцы Міл.

**ПАХЛЁ́БАЦЬ** *зак.* Паесці, пахлябтаць. *Бало, у абед пахлёбаю якого квасу і зноў бягу да трактара.* Кушняры Падст.

**ПАХРАСЦІ́ЦЦА** *зак.* Пусціць парасткі, прарасці. *Картоплі пахрасціліся, хоць зараз садзі.* Альшаніца Квас.

**ПАХЦЕ́ЦЬ** *незак.* Тое ж, што і п а х а ц е ц ь. *Так пахціць свежы хлеб, здэцца, цэлу булку з'еў бы.* Альшаніца Квас.

**ПАЦА́ПАЦЦА** *зак. экспр.* Уступіць у спрэчку, пасварыцца. *З суседкай за курэй пацапаліся. Выпусціць з*

*хлява і наганяя да мяне ў агарод.* Любішчыцы Люб.

**ПАЦЕ́РПНУЦЬ** *зак.* Зрабіцца маршчыністымі ад вады (пра ногі, рукі). *Паўдня сёні бялізну мыла, ажно ўсе рукі пацерплі.* Заполле Кос.

**ПА́ЦЕРКІ** *мн.* Кара́лі. *Дзяўкі, бало, паначапляюць пацерок, хварсяць перад хлопцамі.* Сенькавічы Падст.

**ПАЦЁ́С** *м.* Столь. *Пацёс даўней бялілі, харашэ было, бело ўверсі.* Альшаніца Квас.

**ПА́ЦНУЦЬ** *зак. экспр.* Стукнуць. *Зараз як пацну па мордзі, то дзясятаму закажаш прыставаць.* Квасевічы Квас.

**ПАЦЫ́РКАЦЬ** *зак.* Падаіць. *Пайду карову пацыркаю, можа, які літар надаю, бо запускаю ўжэ.* Харошча Міл.

**ПАЦЮ́КАЦЬ** *зак.* Пастукаць. *Дай дзіцяці малатка, хай пацюкая па калодцы.* Скураты Квас.

**ПАЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Сцебануць, ляснуць. *Бало, як пацягнеш пугаю па зелы, як касою скосіш.* Заполле Кос. 2. *перан.* Завезці. *Пацягнуў з сабою на край свету дачку маю.* Заполле Кос. 3. Зацягнуцца (пры курэнні). *Дай, браток, пацягнуць: цэлы дзень дыму ні нюхоў.* Заполле Кос. 4. *перан.* Выпіць (пра гарэлку). *Мікола, швагер мой, зайшоў у нядзелю праведаць, то добра пацягнулі.* Верашкі Квас.

**ПАЦЯГУ́ШКІ** *мн. дзіц.* Пацягванне. *Скажаш дзіцяці пацягушкі, а яно і цягняцца ручкамі ўверх.* Куляшы Міл.

**ПАЧА́ДЗЕЦЬ** *зак.* Учадзець. *Рано коміна ў печцы закрылі, глядзеця, пачадзяям.* Стайкі Стайк.

**ПА́ЧАСЫ** *мн.* Пачассе. *З першых шчаток, на якіх лён чэшуць, будуць зрэбі, з другіх, густых – пачасы.* Альшаніца Квас.

**ПАЧУЖА́ЦЦА** *зак.* Перарваць сваяцкія адносіны. *Мы хоць свае, а пачужаліся, бо далёко жывем адна ад аднае.* Заполле Кос.

**ПАЧЫ́НОК** *м.* Пачынак. *Дзве ручайкі прадзіва, перамотаныя на адно верацяно – гэто пачынок.* Ёдчыкі Квас.

**ПАШКУ́ДА** *м і ж. груб.* Брыдкі, агідны чалавек. *А я і ні ведоў, які ты пашкуда. Як баба, плёткі разнёс па сяле.* Харошча Міл.

**ПАШКУДЗЯ́Р** *м. груб.* Тое ж, што і п а ш к у д а. *Гэто ж трэба дадумацца: гэты пашкудзяр перацягнуў драціну праз гуліцу, каб людзі чапляліся і падалі.* Халап'я Падст.

**ПАШКУ́ДНЫ** *прым.* Ліхі, шкодлівы. *Пашкудны чалавек, не саромяяцца, памыі на гуліцу вылівая.* Альшаніца Квас.

**ПАШО́РХНУЦЬ** *зак.* Пакрыцца ледзяной коркай, зацвярдзець. *Марозік ні вялікі, а зямля пашорхла.* Альшаніца Квас.

**ПАШУ́РХНУЦЬ** *зак.* Тое ж, што і п а ш о р х н у ц ь. *Стало цвердо пад нагамі: зямля пашурхла.* Заполле Кос. 2. Анямець, амярцвець (ад страху). *Пашурхло ўсё цело ад страху, як убачыла, што гэты бандзіт з цюрмы вярнуўся.* Гошчава Стайк.

**ПА́ШЧАКІ** *толькі мн.* Сківіцы. *Гэдыко яблыко кіслая, аж пашчакі зводзіць.* Бусяж Міл.

**ПАШЫХАВА́ЦЬ** *зак.* Пашанцаваць. *Гэты раз мне пашыхавало: вядро суніц назбіраў.* Заполле Кос.

**ПЕ́КАР** *м.* Тое ж, што і к л ё к, п і к а р. *Ано снег зыдзя, а ўжэ ў пекара граям.* Аляксейкі Стайк.

**ПЕ́ЛЕНА** *ж.* Прыпол. *Цэлу пелену гуркоў навыбірала.* Стайкі Стайк.

**ПЕ́ЛЮСЦЬ** *ж.* Жарало, чалеснікі (у печы). *Добра засланкай пелюсць прыкрый, каб пірагі папякліся.* Азярцо Падст.

**ПЕРАГАВО́РШЧЫК** *м.* Перакладчык. *Мой сын на перагаворшчыка вучыцца ў Мінску.* Хрышчонавічы Квас.

**ПЕРАГРАШЫ́ЦЦА** *зак.* Перакусіць, перахапіць. *Крыху пераграшылася, бо трэба сено бегчы варочаць.* Заполле Кос. *Рано як пераграшыўся, то яшчэ і расінкі ў році ні было.* Альба Квас.

**ПЕРАДО́К** *м.* Пярэдняя палавіна калёс, саней і пад. *Бало, на передку тралявалі дзерава.* Заполле Кос.

**ПЕРАДПО´ЛЫМНІК** *м.* Тое ж, што і п а д п о л ы м н і к. *Перадполымнік – блін, спечаны з хлебнаго цеста перад полымям, як бабка.* Скураты Квас.

**ПЕРАЖЫВІ´ЦЦА** *зак.* Тое ж, што і п е р а г р а ш ы ц ц а. *Пережывіўся зранку, гэтым увесь дзень жыву.* Альшаніца Квас.

**ПЕРАМО´ТА** *ж. ткац.* Памылка пры снаванні кроснаў. *Снавала кросна, то зрабіла перамоту.* Хадоркі Кос.

**ПЕРАПАДА´ЦЬ** *незак. экспр.* Дагаджаць, патрапляць. *Мой сын аж занадто перад жонкай перападая.* Заполле Кос. *Перападаў перад начальнікамі, то ўсю жызнь лёгко прарабіў.* Бялавічы Кос.

**ПЕРАПА´СЦІ** *зак.* Схуднець (пра карову). *Нешчо мая карова зусім перапала, адны рэбра тырчаць.* Альшаніца Квас.

**ПЕРАПО´НКА** *ж. стал.* Планка, якая злучае, мацуе ножкі стала, крэсла і інш. *Дзеці балаваліся і перапонку ў стале зламалі.* Старажоўшчына Кос.

**ПЕРАРАСЦІ´** *зак.* Выздаравець, адолець немач з узростам. *Хваравіты хлопчык у дачкі мае, але дактары кажуць, што перарасце.* Аляксейкі Стайк.

**ПЕРАСВЯНЦІ´ЦЦА** *зак.* Тое ж, што і п е р а г р а ш ы ц ц а. *Есці захацеў, бо зранку ано перасвянціўся.* Заполле Кос.

**ПЕРАСІ´ЛІЦЦА** *зак.* Стаміцца, знясілець. *Перасіліўся, цягаючы камення.* Стайкі Стайк.

**ПЕРАСКО´ЧЫЦЬ** *зак. перан.* Падскочыць, хутка з'ездзіць куды-небудзь. *Давай пераскочым у Косаво на матацыклі, купім лекі.* Заполле Кос.

**ПЕРАСЛО´ІСТАЕ** *прым.* Перaслоенае (пра сала). *На сало з праслойкамі мяса кажуць пераслоістае сало.* Заполле Кос.

**ПЕРАСЛО´Й** *м.* Праслойка (пра сала). *Я люблю сало з перaслоем.* Аўсто Стайк.

**ПЕРАСЦІГНУ´ЦЬ** *зак.* 1. Перапыніць, павярнуць у іншы бок. *Ледзьві перасцігнула карову: гэдык бегла да цяляці.*

Скураты Квас. 2. *перан.* Перапыніць, застаць (пра дождж). *Пайшлі па ягады, але дождж перасігнуў.* Заполле Кос.

**ПЕРАТО́Ч'Е** *н. устар.* Перагародка, якая аддзяляе ў гумне ток ад закутка, у які ссыпаюць адыходы ад малацення. *Мякіну сыпалі ў закутак, за ператоч'я.* Заполле Кос.

**ПЕ́РАЧНІК** *м. бат.* Назва грыба. *Перачнік можно знайсці, дзе ніжэй, у глыбокіх каляінах.* Заполле Кос.

**ПЕРАЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Парадкаваць, пластаваць (сена, салому). *Гэто зараз сено на стажок кладуць навільнікамі, а даўней перачынялі і пярэчынкамі падавалі.* Заполле Кос. *Перачынялі сено граблямі, як падаваць на капіцу. І вілы былі спецыяльныя – двузубыя.* Куляшы Міл.

**ПЕРШАЦЁ́ЛКА** *ж.* Карова, якая ацялілася першым целем. *Першацёлка много малака ні дасць, бо яшчэ маладая.* Бялавічы Кос.

**ПЕ́ТРЫЦЬ** *незак. экспр.* Разумець, кеміць. *Маргаю табе, а ніц ні петрыш.* Заполле Кос.

**ПЕТУШО́К** *м. бат.* Павуціннік чырвоны. *Петушкі добрыя грыбы, але іх ні бяруць, бо мало хто зная.* Заполле Кос.

**ПЕ́ЎНЕ** *у знач. пабочн. слова.* Мабыць, мусіць, відаць. *Пеўне, і мне трэба паехаць у Косаво.* Альшаніца Квас.

**ПЕ́ЎНЫ** *прым.* Супакоены, задаволены. *Парэзоў, парубаў горбу дроў, цяпер і я пеўны.* Заполле Кос.

**ПЕЧУРЫ́ЦА I** *ж.* Жанчына, якая любіць паляжаць на печы. *На старасці і я печурыцай стала.* Альшаніца Квас.

**ПЕЧУРЫ́ЦА II** *ж. бат.* Ядомы грыб. *Печурыца надто пахожая на таўсцюху.* Альшаніца Квас.

**ПЕШЧУГА́** *ж.* Пясчаная глеба. *У нас зямля яшчэ Бог мілаваў, а ў Хрышчонавіч адна пешчуга.* Альшаніца Квас. *Соткі падавалі – адна пешчуга.* Сакоўцы Міл.

**ПІВА́КА** *м.* Выпівака. *Які з цябе півака, чарку вып'яш і п'яны.* Верашкі Квас.

**ПІ́ЗІ** *мн. экспр.* Слёзы. *Ну чаго ўжэ пізі папусціла?!*

Галынка Міл.

**ПІ´КАР** *м. дзіц.* Тое ж, што і к л ё к. *Дзецьмі ў пікара надто любілі гуляць.* Альшаніца Квас.

**ПІ´КІ** *мн.* Лыжныя палкі, тое ж што і а п і р а ч к і. *Гэто зараз пікі фабрычныя, а даўней самі рабілі, з арэшніка.* Альшаніца Квас.

**ПІЛЁ´КАЦЬ** *незак. 1. экспр.* Пілаваць доўгі час нечым тупым. *Ні наточыць пілы і цэлы дзень пілёкая дрова тупой пілой.* Мілейкі Міл. 2. *экспр.* Ісці. *Пятнаццаць вёрст пілёкоў з Косава: так ніхто і не падвёз.* Була Міл.

**ПІЛНАВА´ЦЬ** *незак.* Пільнаваць. *Паехалі маладыя на сенакос, а я ўнукоў пілную.* Гладышы Міл.

**ПІЛЬДО´КАЦЬ** *незак. экспр.* Тое ж, што і п і л ё к а ц ь 1. *Пілу патачы, а то німа як глядзець, як ты пільдокаяш тупой пілой.* Заполле Кос.

**ПІЛЬСЦЬ** *ж.* Адходы з воўны; кароткая воўна. *Пільсць таўшчэй пралі і вязалі шкарпэткі гэтымі ніцьмі.* Заполле Кос.

**ПІРАГІ´** *мн. абрад.* Частаванне ў доме маладой праз тыдзень пасля вяселля. *Маладая да пірагоў ні йдзе да сваіх бацькоў, бо, кажуць, цяжко будзя адвыкаць ад свае хаты.* Альшаніца Квас.

**ПІ´СКЛЯ** *ж.* Піскуха, скнэра. *Сціхні, піскля, у галаве ўжэ звініць ад твайго піску.* Галік Міл.

**ПІСЯ´Г** *м.* Пісага. *Прыйшла карова з пашы ў адных пісягах.* Гошчава Стайк.

**ПЛАЎ** *м.* Невялікі вадаём на балоце. *Даўней ў плавах кароў паілі.* Хадакі Жытл.

**ПЛА´ХА** *ж.* Вялікі кавалак сала. *У кубеляц на самы ніз клалі плаху сала.* Альшаніца Квас.

**ПЛАЦЕ´НКО** *н.* Пафарбаванае палатно, з якога шылі адзенне. *З плаценка ўсё шылі: і касцюмы, і каптаны, і ганавіцы.* Альшаніца Квас.

**ПЛАЦЯНКО´ВЫ** *прым.* Палатняны. *Плацянкову рубашку сыну пашыла.* Бялавічы Кос.

**ПЛЕ́ВА** *ж. мед.* Дыяфрагма. *Кішкі вывальваюцца: плева парвалася.* Воля Жытл.

**ПЛЕ́ЎКА** *ж.* Пенка. *Малыя надто любяць плеўку з малака.* Ёлкі Ягл.

**ПЛЕШ** *м.* 1. Верх страхі. *На плеш салому пярэчынкамі перачынялі і клалі альбо льніско, бо не гніе доўго.* Альшаніца Квас. 2. Невялікае пустое месца на засеяным полі, агрэх. *Не хапіло насення трохі, забыўся дасеяць, то плеш застаўся.* Ятвезь Квас. 3. Пусты лапік зямлі. *Пакінулі ўдабрэння на полі, растало ад дажджоў, то такі плеш. Кажуць, гадоў дзесяць там нічога расці ні будзя.* Заполле Кос.

**ПЛЕ́ШКА** *ж.* Вонкавы каляплоднік ляснога арэха. *Пакіням кароў на пашы, а самы хучэй у арэшнік, з плешкамі рвалі арэхі.* Харошча Міл.

**ПЛЁС** *м.* 1. Нізкае месца ў лесе. *Там можа расці чарот, асака, але калі плёс у спёку высыхая, то там нічога ні расце, навет трава.* Заполле Кос. 2. Балота, зарослае альшыннікам. *Мокро ў плёсі, яно карчэ тырчаць з вады.* Альшаніца Квас. 3. Сенажаць, якая ў веснавое разводдзе заліта вадой. *Сено з плёса на грудок выносілі сохнуць.* Заполле Кос.

**ПЛІ́ТКА** *ж. перан.* Пляскаты камень. *Плітку кладуць на гнёт, якім прыціскаюць у бочцы капусту квашаную ці салёныя агуркі.* Азярцо Падст.

**ПЛІ́ШЧЫЦЦА** *незак.* Шукаць падтрымкі, сяброўства. *Бедны да беднаго плішчыцца, у багатаго спагады ні знодзяш.* Квасевічы Квас.

**ПЛО́ХІ** *прым.* 1. Спакойны, рахманы (пра свойскую жывёлу). *Цялушачка гэдыка плоха, за рукамі куды хочаш пайдзе.* Альба Квас. 2. *рыб.* Павольны, вялы. *У час нерасту рыба плохая, вялая, павольная.* Заполле Кос.

**ПЛЫВА́К** *м.* Плывун. *Німа горш, як, капаючы калодзязя, на плывак нарвешся.* Хадоркі Кос.

**ПЛЫ́ВАЦЬ** *незак.* Плаваць. *У воду ні лезь, калі плываць ні ўмеяш.* Грыўда Міл.

**ПЛЫВУ́ЧКА** *ж. бат.* Раска. *Плывучка дробная, плавая па вадзе.* Бялавічы Кос.

**ПЛЫ́ТКО** *прысл.* Неглыбока, мелка. *Ідзі ў воду, ні бойся, тут плытко.* Старажоўшчына Кос.

**ПЛЮ́СКАЦЬ** *незак. экспр.* Маргаць. *Ты, Васіль, мусі, улюбіўся ў мяне: цэлы вечар мне вачыма плюскаяш.* Аляксейкі Стайк.

**ПЛЮ́ТА** *ж.* Слота, плюхота. *Не разбярэшся, шчо за пагода: ні то снег, ні то дождж. І цэлы дзень гэдыка плюта.* Заполле Кос. *На дварэ плюта: снег мокры пляжыць.* Быч Стайк.

**ПЛЮХАТА́** *ж.* Плюхота. *Хай бы сабе ўжэ марозік быў, чым гэдыка плюхата.* Стайкі Стайк. *Плюхата на дварэ, хоць з хаты ні выходзь.* Заполле Кос.

**ПЛЮХАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Плюхаць. *Вады ў бот набраў, ажно плюхаціць.* Аўсто Стайк.

**ПЛЮ́ШАВІК** *м.* Плюшавае паліто. *Быў час, фарсілі ў плюшавіках, а зараз за куфайку носяць.* Заполле Кос.

**ПЛЮ́ШАЎКА** *ж.* Тое ж, што і п л ю ш а в і к. *Бало, дзяўкі ў цэркоў плюшаўкі апраналі, а на галовы вялікія шаляноўкі завязвалі. Кожны стараўся найлепшае апрануць…* Альшаніца Квас.

**ПЛЮ́ШЧЫЦЬ** *незак. дзіц.* Туліцца, закрываць вочы. *Усе хаваюцца, а адзін плюшчыць. Так гуляюць у бэрка.* Заполле Кос.

**ПЛЮШЧЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Пішчаць. *Дуб як гарыць, то плюшчыць, як мокрае палено.* Заполле Кос. 2. Хлюпаць. *Мокро, ажно плюшчыць пад нагамі.* Була Міл.

**ПЛЯ́ЖЫЦЬ** *незак.* Ісці, валіць (пра снег). *Снег пляжыць – свету ні відно.* Сенькавічы Падст.

**ПЛЯ́МКАЦЬ** *незак.* Цмокаць. *Пабач, як твой Іванко плямкая ў сне. Хутко прачнецца, бо, відаць, есці захацеў.* Бусяж Міл.

**ПЛЯНІ́ЦА** *ж.* Тонкая пласцінка жалеза. *У кузні ад удароў молатом па зубілу зубіло расплескваяцца і ўтвараюцца*

*зверху тонкія пласцінкі жалеза – пляніцы. Іх трэба зломваць, а то адляцяць і параняць цело.* Заполле Кос.

**ПЛЯЦЁ́НКА** *ж.* Аплеценая вялікая бутэлька. *Пляцёнка нешчо лопнула і ўся мая вішнёўка выцякла.* Сакоўцы Міл.

**ПО́ВЕН** *прым.* Поўны. *Повен кош грыбоў у Яліне назбіраў.* Гошчава Стайк.

**ПОД** *м.* 1. Стажар'е. *Под зробім на балоці, а тады на яго сено кладзем.* Любішчыцы Люб. 2. Драўляны насціл у жорнах. *Под – гэто аснова жорноў, на подзе ляжаць камяні.* Заполле Кос.

**ПО́ДГУР** *м.* Дэталь пярэдняй палавіны калёс. *Знізу шворан мацуяцца з рашворай жалезным подгуром.* Заполле Кос.

**ПО́ДЗЕЛЕНУХА** *ж. бат.* Радоўка шэрая, падзялёнка. *Марынуюць подзеленухі, яны салодкія.* Заполле Кос.

**ПО́ДЛЯТОК** *м.* 1. Птушаня, якое вучыцца лятаць. *Цікаво глядзець, як ластоўкі сваіх подляткоў вучаць летаць.* Верашкі Квас. 2. *перан.* Дзіця гадоў васьмі – дванаццаці. *Гадоў восім дзіцяці, ужэ добры подляток.* Сярадава Жытл.

**ПО́ДРАСТОК** *ж.* Падлетак, тое ж, што і п о д л я т о к. *Подрасткамі былі, а і гаралі, і касілі, бо бацькі на вайне былі.* Руда Падст.

**ПО́ДУШКА I.** *ж.* Падушка. *Спалі на малых подушках, а вялікія рабілі для красы.* Альшаніца Квас.

**ПО́ДУШКА II.** *ж.* Частка, адна з дэталей калёс. *Подушку ў воз рабілі з густой бярэзіны.* Заполле Кос.

**ПО́КАЗКА** *ж.* Дасціпнае, трапнае выслоўе. *Гэту показку пачуяш толькі ў нашом сяле.* Заполле Кос.

**ПО́КАРМ** *м.* Ежа. *Парасята малыя: у свіні покарму німа.* Альшаніца Квас.

**ПО́ЛІВОМ** *прысл.* Струменем. *Полівом лье дождж.* Заполле Кос.

**ПО́ЛІК** *м.* 1. *устар.* Палаці. *Даўней каля печы полік быў, і спалі на ём, і грэліся, і граліся.* Яглевічы Ягл. 2. Ляжанка ў лазні. *На поліку ў лазні парацца.* Яглевічы Ягл.

**ПО́ЛКА** *ж.* 1. Вытканае палотнішча. *Дзве полкі сшываюць, выходзіць радзюшка.* Альшаніца Квас. 2. Посцілка, якой звычайна носяць корм жывёле. *Вазьмі полку і прынясі зелья свіням.* Грыўда Міл.

**ПО́ЛУДЗЕНЬ** *м.* 1. Поўдзень. *Само жара, полудзень.* Заполле Кос. 2. Абед. *Людзі кажуць: "Паляцелі жураўлі – полудзень паняслі".* Заполле Кос.

**ПО́ЛЬСКІ КАВАЛЕ́Р** *м.* Стары халасцяк. *Не жэняцца хлопцы, польскімі кавалерамі ходзяць.* Альшаніца Квас.

**ПО́НАЧЫ** *прысл.* У цемры, цёмначы. *Дахаты з лесу ўжэ поначы прышоў.* Заполле Кос.

**ПО́ПЕРАДНЯ** *ж.* Мацаванне галовак саней. *Попераднюю робяць з ланцуга, вяроўкі.* Заполле Кос.

**ПО́ПЛАЎ** *ж.* Сенажаць каля вёскі, аселіца. *Сено з поплава дробнянькае, мяккае, бацько мой казаў, конскае.* Альшаніца Квас.

**ПО́РАЦІК** *м і ж. экспр.* Капун, маруда. *Хоць порацік, але паглядзі, які ў яго ўсюды парадок, акуратнасць.* Заполле Кос.

**ПО́РКАЛО** *м і ж.* Тое ж, што і п о р а ц і к. *Поркало, поркаяшся, як Дзям'ян пад спаніцай.* Альшаніца Квас.

**ПО́РНЫ** *прым.* Народжаны ў пару. *Дзіця радзіласё порнае, дзевяцімесячнае.* Верашкі Квас.

**ПО́РХАЦЦА** *незак.* Паціху, марудна рабіць, калупацца. *Стары ўжэ мой бацько, але порхаяцца паціху.* Жамайдзякі Міл.

**ПО́СІК** *м. анат.* Мачавы пузыр. *Свіного посіка надувалі, гралі ім у мяч.* Падстарынь Падст.

**ПО́СТАСЦЬ** *ж.* Постаць, паласа збожжа, загон. *Во якую постасць зжала.* Заполле Кос.

**ПО́ТЛАХІ, ПЭ́ТЛАХІ** *мн. груб.* Валасы. *Прычашыся, а то потлахі тырчаць ва ўсе бакі.* Заполле Кос. *Убачу яшчэ раз з ёю, я табе гэтыя пэтлахі павырываю.* Альшаніца Квас.

**ПО́ТРАХІ** *толькі мн.* Вантробы. *Як дам, то з цябе і*

*потрахі пасыплюцца.* Альшаніца Квас.

**ПОЎЗАЦЬ** *незак. перан.* Валачыцца, бадзяцца. *Хопіць поўзаць па гуліцы, марш урокі вучыць.* Зялёны Бор Стайк.

**ПОЦЕРАБ** *м.* Ачышчаная ад хмызнякоў сенажаць. *Гэты год добраго сена на поцерабі нарабіў, пагоднаго.* Ёдчыкі Квас.

**ПОЦЯСЬ** *ж.* Прасніца. *Да поцясі прывязваюць кудзелю ці воўну і прадуць.* Гошчава Стайк.

**ПОШВА** *ж.* Усыпка для пер'я. *Пасля вайны пошвы шылі з ваенных палаток, то пер'я ні лезло.* Квасевічы Квас.

**ПОШПУРКОМ** *прысл.* Услед, наўздагон. *Сварыліся з мужыком, то ён па мне пошпурком пакідоў і міскі, і ложкі.* Дубітава Міл.

**ПОЯС** *м.* 1. Гарызантальная жэрдка ў агароджы. *Паясы наймацнейшыя яловыя, асінавыя.* Куляшы Міл. 2. *ткац.* Брускі, якія па кругу звязваюць варштат. *Паясы па кругу мацуюць клінкамі.* Даргужы Міл.

**ПРАВАДНАЯ НЯДЗЕЛЯ** *ж.* Першая нядзеля пасля Вялікадня. *У правадную нядзелю ў нас памінаюць памерлых, поп могілкі свенціць.* г. Косава.

**ПРАВІЛО** *н. буд.* Рэйка, якой правяраюць роўнасць паверхні тынкоўкі. *Правіло ў руках тынкоўшчыка, як у руках муляра кельня.* Заполле Кос.

**ПРАВУШЫНА** *ж. буд.* Праём у крокве, вушаку. *Кроквы ставяць парамі. То ў адной крокві правушына, а ў другой паляц, а ніжні канец у крокві называяцца пятой.* Заполле Кос.

**ПРАГАЛЯЦЬ** *зак. экспр.* Прагойсаць, правалачыцца. *Не засталі вецерынара ў лячэбніцы, яно прагалялі дарма ў Косаво.* Размеркі Стайк.

**ПРАДЫХАЦЦА** *незак.* Прапахнуць чым-н. *Настойка ўся прадыхнулася часныком, а там і мята, і мёд , і гарэлка.* Заполле Кос.

**ПРАЗ** *прыназ. з він.* 1. На працягу пэўнага часу. *Праз пяць дзён бежанцы ўсё ехалі і ехалі па гасцінцу, уцякалі ад*

*немцоў.* Заполле Кос. 2.Цераз. *Мая баба праз тры хаты ад мяне жыве.* Скураты Квас. 3. Па якой-н. прычыне. *Гэто праз цябе я ўсё жыццё сабе скалечыла.* Няхачава Стайк.

**ПРАКЦІКО́ЎНЫ** *прым.* Умелы, кемлівы. *Ты, Сцяпан, чалавек, пракцікоўны. Усё вымяргуяш, абдумаяш, разважыш, у цябе ўсё ў парадку.* Заполле Кос.

**ПРАЛЫ́СІЦЬ** *зак.* Палосамі зняць кару з дрэва. *Трэба пралысіць дзерава, бо пасінея пад карой.* Заполле Кос.

**ПРАЛЯ́ПАЦЬ** *зак. экспр.* Прагаварыць. *Праляпала з бабамі на гуліцы, ажно дрова ў пячэ прагарэлі.* Кушняры Падст.

**ПРАМАРМЫТА́ЦЬ** *зак.* Невыразна, незразумела сказаць што-небудзь ці праспяваць. *Чаго ты прамарматаў сабе пад нос? Усім праспявай, не саромся.* Сенькавічы Падст.

**ПРАМА́Я** *прым.* Салома, абмалочаная не механічным спосабам, а ўручную, цэпам. *Прамою саломаю крылі хаты.* Заполле Кос.

**ПРА́НІК** *м.* 1. Мера льну, роўная дваццаці-трыццаці павесмам. *Атрэпляш павесмо і пакладзеш каля сябе, а ля яго другое, а ля другого трэйцяе. Назбіраяцца павесмоў дваццаць-трыццаць, тады збярэш, звяжаш у адзін пранік.* Альшаніца Квас. 2. *заал.* Апалонік. *З пранікоў пасля выводзяцца жабкі.* Быч Стайк. 3. Скручанае пер'е цыбулі. *Наробіш пранікоў, смачно з хлебом.* Заполле Кос.

**ПРАПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Прайсціся са статкам з аднаго краю выпасу да другога. *Прапусцішся з каравамі туды ды назад – і каравы наетыя.* Альшаніца Квас.

**ПРАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Працадзіць. *Прасадзі малако праз садзілко.* Альшаніца Квас.

**ПРАСВЕ́ТНЫ** *прым.* Вольны ад працы. *Цяжко даўней жылі: прасве́тнае мінуты ні было.* Хадоркі Кос.

**ПРАСВЯТЛЕ́ННЕ** *м. перан.* 1. Вырубка. *У хваёвой пасадцы вырубаюць лісцёвыя дрэўцы, якія замаруджваюць рост сасонак і ёлок, бо растуць за іх хутчэй. Такая*

*вырубка называяцца прасвятленнем.* Заполле Кос. 2. *мед.* Рэнтген. *Зараз кожны год машына прыязджая ў сяло, на прасвятленне ходзім.* Заполле Кос.

**ПРАСТРЭ́Л** *м.* Прамежак паміж зубоў. *У каго прастрэл паміж зубамі, то той, кажуць, улюбчывы.* Альшаніца Квас.

**ПРАСЦЕ́ЦКІ** *прым.* Неганарысты, просты. *Хоць настаўнік, але прасцецкі чалавек.* Була Міл.

**ПРАСЦЯ́К** *м.* Непародзісты, звычайны. *Я трымаю трусы прасцякі, а е яшчэ пуховыя.* Азярцо Падст.

**ПРАТАНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Прапасці, згінуць. *Хай пратане такая жызня: кожнай капейцы жадны.* Заполле Кос.

**ПРА́ТАЦЬ** *незак.* Прыбіраць, наводзіць парадак у хаце. *Трэба хату пратаць: маяцца дачка з зяцём прыехаць.* Альба Квас.

**ПРАТУ́РЫЦЬ** *зак. экспр.* Прагнаць. *Пратурыла гэтаго лодыра і п'яніцу: сама буду жыць.* Заполле Кос.

**ПРАТЫ́РКАЦЬ** *зак.* Правалэндацца, правалачыцца. *Нешчо пратыркала цэлы дзень і хаты не апратала.* Заполле Кос.

**ПРАЎДЗІ́ВІК** *м. бат.* Баравік. *Гэты год быў багаты на праўдзівікі.* Зялёны Бор Стайк.

**ПРАЎЗА́К, ПРУЎЗА́К** *м.* Завязка, тонкая палоска матэрыі. *Праўзак у халаці адарваўся, трэба прышыць.* Аляксейкі Стайк. *Бало, знімя маці фартуха і ўсё гэтымі пруўзукамі палохае.* Альшаніца Квас.

**ПРАХУ́КАЦЬ** *зак. экспр.* Змарнаваць, страціць. *Палучыў палучку і за тры дні прахукоў.* Аўсто Стайк.

**ПРАЦУ́ДКІ** *толькі мн.* Дзівосы. *Працудкі, людзі добрыя, з надворка ровар прапаў.* Куляшы Міл.

**ПРАЦЯ́ЖНЫ** *прым.* Доўгі, зацяжны (пра дождж). *Хмары ўсё небо завалаклі: будзя, мусі, працяжны дождж.* Бараны Ягл.

**ПРО́ДУХА** *ж.* Прадушына, палонка. *В'юны робяць сабе продухі ў балоці, у ямах зімой, каб дыхаць, каб дыхці цёплаго духу.* Хадакі Жытл. *Без продухі ў моцныя маразы*

*рыба задыхнецца.* Размеркі Стайк.

**ПРО´СЕКА** *ж.* Тое ж, што і п р о д у х а. *Просекі рабілі зімой, каб рыба не змарнавалася, не задохлася.* г. Косава.

**ПРО´СТАЯ** *прым.* Тое ж, што п р а м а я. *Казалі, салома і простая, і прамая. Яе вязалі ў кулі і крылі стрэхі.* Заполле Кос.

**ПРО´СТАЯ МЯ´ТА** *ж. бат.* Мята звычайная. *Простую мяту пасля дажджу знюхаяш за вярсту: гэтык пахціць.* Заполле Кос.

**ПРОЦІВО´ЧНЫ** *прым.* Кутні (пра зуб). *Надто баліць, як процівочны зуб рвуць.* Боркі Падст.

**ПРУ´ТКІ** *прым.* Жылісты. *Унук Антося пруткі хлопяц, як бач залез на вішню.* Размеркі Стайк.

**ПРУТО´К** *м.* 1. ткац. Палачка, якой замацоўваюць аснову ў навоі. *Каб аснова не звужалася, то на аснову кладуць, прымацаваўшы, пруток.* Заполле Кос. 2. ткац. Тонкі доўгі гладкі кіёчак. *Як тчэш радзюшку ў дванаццаць цэпоў, то трэбо дванаццаць пруткоў. Прутком паднімяш колькі трэба ніток, туды дошку. Дошку паверняш, пусціш чаўнок з ніткай. Вымяш дошку, набільніцамі прыстукняш. Зноў, ужэ другім прутком падымяш ніці, і зноў дошкай зробіш зяву пусціць чаўныка. Гэто ўсе робяць, каб атрымаўся ўзор на радзюшцы.* Альшаніца Квас.

**ПРУШНЯ´К** *м.* Вушак. *Чаго ты стаіш, як чужы, да прушняка прытуліўшыся?* Зыбайлы Жытл.

**ПРЫ´БАЛАТУХА** *ж. бат.* Курачка, падбалацянка. *Прыбалатухі жоўценькія, чысценькія, як кубачкі малыя.* Заполле Кос.

**ПРЫБІВА´ЦЬ** *незак.* Узяць на прывязь, навязваць (пра жывёлу). *Я ўсё лето цяля прыбівала на аселіцы.* Лазаўцы Міл.

**ПРЫБЛЭ´НДА** *м.* 1. *зневаж.* Прымак. *Насця мужыка прыблэндай называя. Добра называць, калі гэты прыблэнда ўсё выстраіў, выштукавоў.* Боркі Падст.

2. *груб.* Чужы, не тутэйшы чалавек. *Гэты прыблэнда*

*яшчэ і начальнік над намі.* Мілейкі Міл.

**ПРЫБУ´ТЛЕЦЬ** *зак.* Прыбуцвець. *Доўго ляжало некарованае дзераво, то прыбутляло.* Бусяж Міл.

**ПРЫВЫ´ЧЫЦЬ** *зак.* Прынадзіць, прывучыць. *Прывычыла карову да падноскі, то з пашы ўцякая.* Міхнавічы Стайк.

**ПРЫ´ДАНАЕ** *н. абрад.* Пасаг. *Раней дзяўкі сваё прыданае ў куфрах трымалі.* Бусяж Міл.

**ПРЫДБА´Ч** *м. і ж.* Дзіця, якое нарадзілася раней, чым праз дзевяць месяцаў пасля шлюбу. *Смяяліся даўней: дзіця, якое нарадзілася хутко пасля вяселля, прыдбалі на прызбе – прыдбач, значыць.* Заполле Кос.

**ПРЫЁ´МНЫ** *прым.* Ветлівы, добразычлівы. *Беларусы – прыёмныя людзі.* Няхачава Стайк.

**ПРЫ´ЖЫЦЬ** *незак.* Пражыць. *Гарох трэба прыжыць і есці ад пякоткі.* Быч. Стайк.

**ПРЫЗНАВА´ЦЬ** *незак.* Лічыць блізкім, сваім. *Міхась сусед мне, а я яго прызнаю за свайго, роднаго.* Падстарынь Падст.

**ПРЫКЛІ´КАЦЬ** *зак.* Даклікацца, дазваніцца. *Ледзь прыклікала цябе, недзі, мусіць, далёко быў.* Размеркі Стайк.

**ПРЫКЛЫ´БАЦЬ** *зак.* Прыклыпаць. *От, яшчэ сяк-так прыклыбаю хлеба ўзяць у магазін.* Верашкі Квас.

**ПРЫЛАБУ´НІЦЬ** *зак. 1. экспр.* Зачараваць, прывабіць. *Ён цябе прылабуніць хоча, бо вельмі ласкаво паглядая.* Рацкевічы Міл. 2. Утаіць, украсці. *Прылабуніла гуся і маўчыць сабе.* Верашкі Квас.

**ПРЫЛЯ´ПАЦЬ** *зак. экспр.* Прыбіць абы-як, на скорую руку. *Прыляпаў дошку трохі, трымаяцца.* Руда Падст.

**ПРЫМА´НКА** *ж.* Прынада. *Паклала прыманку для шчуроў: ратунку німа.* Сакоўцы Міл.

**ПРЫМА´ЦЬ I** *незак.* Даць згоду на любоўнае спатканне. *Чаго ты вяжашся да мяне, ідзі вун да Алены, яна ўсіх прымая.* Галынка Міл.

**ПРЫМА´ЦЬ II** *незак.* 1. Закупляць. *Машына ездзіць,*

*прымаюць каравы.* Сенькавічы Падст. 2. Прыбіраць. *Прымі міскі са стала, нямытыя другі дзень стаяць.* Гладышы Міл.

**ПРЫМЕРГАВА́ЦЬ** *незак.* Дапасаваць задуманае да пэўнай даты. *Прымергавалі вяселья якраз на Сёмуху.* Заполле Кос.

**ПРЫ́МНІ** *толькі мн.* Сені. *У Альшаніцах кажуць сені, а ў Скуратах, у двух кіламетрах ад нас, ужэ прымні.* Альшаніца Квас.

**ПРЫПА́СЦІ** *незак.* Напаткаць (пра хваробу). *І калі тая хвароба прыпала, сам ні ведаю.* Гошчава Стайк.

**ПРЫПІРА́ЦЦА** *незак.* Знайсці ў другім чалавеку падтрымку і апору. *Дай Бог табе здароўя, Васілько. Каб ні твае добрае сэрцо, то да каго я прыперлася б.* Скураты Квас.

**ПРЫПЛА́КВАЦЬ** *незак.* Галасіць, прыгаворваць (пра хаўтуры). *Насця надто па сваём мужыку прыплаквала.* Заполле Кос.

**ПРЫПО́РЫСКО** *н.* Прытулак, прыстанішча. *Вечным прыпорыском для ўсіх нас будзе бацькоўская хата.* Грыўда Міл.

**ПРЫПРА́ДУХА** *ж. ткац.* Нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў. *Як добра прыпрадуху прыпрадзеш, то і ні відно.* Альшаніца Квас.

**ПРЫПУСЦІ́ЦЬ** I *зак. буд.* Палажыць, прыладзіўшы, падагнаўшы бервяно ў зруб. *Учоры ажно тры вянкі прыпусцілі: хата на вачах расце.* Заполле Кос.

**ПРЫПУСЦІ́ЦЬ** II *зак.* Аддаць малако (пра карову). *Трэба ўсе малако выдайваць ад цяляці: карова яму прыпусціць.* Даргужы Міл.

**ПРЫПЫ́ЛЕНЫ** *прым, груб.* Разумова адсталы. *На цябе ні скажаш, што ты нармальны, прыпылены ты некі.* Стайкі Стайк.

**ПРЫСА́ДДЗЕ** *зб. н.* Прысады. *Чалавек, лічаць, абжыўся тады, калі прысаддзе павырастало.* Заполле Кос.

**ПРЫ́СТАРАНОК** *м.* Месца ў гумне, куды складалі

неабмалочанае збожжа. *Пасярэдзіні ў гумне ток, а ў прыстаранок складалі збожжа.* Старажоўшчына Кос.

**ПРЫСТО́Й** *м.* Слуп у сцяне, шула, якая мацуе кароткія бярвенні. Дзякуючы гэтаму, можна ўзводзіць сцены любой даўжыні. *Прыстоі ставілі з смалістага дзерава.* Заполле Кос. *Калі хлява рабілі доўгаго, а дзераво было кароткае, то ставілі прыстоі.* Ёдчыкі Квас.

**ПРЫСТО́ЯЦЬ** *зак.* Трошкі пастаяць, забавіцца. *Трошкі прыстояла з суседкаю, малако і пабегло на пліце.* Дубітава Міл.

**ПРЫ́СЦЕНОК** *м.* Адгароджаны кут у гумне. *У прысценок ссыпалі згоніны, мякіну, пацяруху. Зімой запарвалі цэбра і давалі каню.* Заполле Кос.

**ПРЫСЯБРЫ́ЦЦА** *зак.* Паддобрыцца. *Прысябрыўся да бабы, і тая купляя ўсе смачнянькае яму.* Хадоркі Кос.

**ПРЫТКНУ́ЦЦА** *зак. перан.* Прысесці. *Столькі людзей, што і прыткнуцца німа дзе.* Заполле Кос.

**ПРЫТО́ЧОК** *м. буд.* Кароткае бервяно ў вянцу зруба. *Бывая, у зрубі ні хапая суцэльной дзеравіны ад вугла да вугла, то даточвалі прыточкамі.* Заполле Кос. *Як кладуць вянок у зруб, а дзеравіны доўгае німа, то шукаюць прыточку.* Харошча Міл.

**ПРЫ́ШВЫ** *мн. буд. этнагр.* Віткі, якімі прывязваюць жэрдкі да лат. *Прышвамі прывязваюць драбест да лат, калі крыюць саломаю стрэху.* Заполле Кос.

**ПРЫШЧЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Прышчаміць, заціснуць. *Прышчыкнуў пальца, аж кроў запяклася.* Жамайдзякі Міл.

**ПРЫЯДА́ЦЦА** *незак.* Надакучаць, страчваць смак (пра ежу). *Хлеб не прыядаецца.* Альшаніца Квас.

**ПРЭЙ** *м. бат.* Пырнік. *Як уваб'ецца прэй, то цяжко яго скасаваць.* Заполле Кос.

**ПСО́ТА** *ж.* Крывасосныя насякомыя. *Псота вочы выядая.* Заполле Кос.

**ПУГНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Прагнаць, турнуць. *Прыйшла сварыцца на мой надворок, то як пугнуў, яно пыл курэў, як*

*бегла*. Альшаніца Квас.

**ПУ´ЗАЧ** *м. зневаж.* Пузан. *Гэты пузач ужэ ў дзверы ні ўлазіць*. Халап'я Падст.

**ПУНТАВА´ЦЬ** *незак*. Упарціцца, зацінацца. *Не пунтуй, а ідзі і рабі з людкамі*. Бялавічы Кос.

**ПУНТО´ВІК** *м*. Упарты, зацяты чалавек. *Цяжко жыць з пунтовіком*. Воля Жытл.

**ПУНТО´ВЫ** *прым*. Упарты, зацяты. *Пунтовы чалавек як затнецца, то хоць вагой падважвай*. Рацкевічы Міл.

**ПУ´НТЫ** *мн*. Упартасць, зацятасць. *Пакінь пунтаваць, бо пунты твае не памогуць*. Заполле Кос.

**ПУПРЫ´ЦА** I *ж*. Жалезная пласціна, на якой ляжыць рухомы верхні камень у жорнах. *Пупрыцай рэгулююць падачу зерня ў жорнах*. г. Косава.

**ПУПРЫ´ЦА II** *ж. зневаж*. Тоўстая малая жанчына. *Гэто пра пупрыцу е прысказка такая: невяліка, немалая, як шапка ў Мікалая*. Альшаніца Квас.

**ПУ´ПЯХІ** *мн*. Пупышкі, бутоны. *Хутко прысаддзе распусціцца, усё ў пупяхах*. Плехава Люб.

**ПУ´РХАЦЬ** *незак*. Пырскаць. *Пурхаюць атрутаю картоплі ад жукоў*. Юкавічы Стайк.

**ПУСТЭ´ЛЬНІЦА** *ж*. 1. Пустая, неўрадлівая зямля. *Далі соткі людзям, але ці вырастуць картоплі на гэдыкой пустэльніцы*. Заполле Кос. 2. Непрыгодная для апрацоўкі зямля. *Пустэльніца, нават лес ні хоча расці ў гэтом пяску*. Альшаніца Квас.

**ПУ´ТАНІЦА** *ж*. Клубок зблытаных нітак. *Бяда, путаніца, канцоў ні знайду*. Альшаніца Квас.

**ПУ´ТАНКА** *ж. рыб*. Від рыбалоўнай снасці. *Путанку на ноч пакідаюць. У путанцы рыба запутваяцца*. Яглевічы Ягл.

**ПУ´ТАЦЦА** *незак. экспр*. Сноўдацца, швэндацца, замінаць. *Не путайся пад нагамі, сядзі. І сядзі спакойно*. Сярадава Жытл.

**ПУ´ТО** *н. зневаж. перан*. Бесталковы чалавек. *Путо, і як*

*я з табой столькі гадоў прамучылася.* Бараны Ягл.

**ПУЎДУ́РОК** *м. зневаж.* Прыдурак. *Агледзялася, а гэты пуўдурок, мужык мой, усе яблыкі на базар пераваланчыў і дзецям не пакінуў.* Альшаніца Квас.

**ПУЎМАКА́ЦІ** *зак.* Павымакаць. *Пуўмакалі ў людзей картоплі, дзе нізко, гэдыкія дажджэ ішлі.* Альшаніца Квас.

**ПУЎПАДА́ЦЬ** *зак.* Павыпадаць. *Е хвароба зубная. Зубы ні баляць, а пуўпадаюць.* Альшаніца Квас.

**ПУЎПА́ЛЬТОК** *м.* Паўпаліто. *Пуўпальток харошы, цёплы ў мяне, з зялёнаго тонкаго сукна.* Альшаніца Квас.

**ПУЎЦАГЕ́ЛОК** *м.* Палавіна цагліны. *Печку робіш, то много пуўцагелкоў трэба.* Заполле Кос.

**ПУЦАЛАВА́ТЫ** *прым.* Паўнашчокі, мардаты. *Дзеўка, як падушка, тоўстая, пуцалаватая.* Заполле Кос.

**ПУЦА́ТЫ** *прым.* Тое ж, што і п у ц а л а в а т ы. *Добрая ў мяне нявестка, яно пуцата.* Грыўда Міл.

**ПУ́ЧКА** *ж.* Канец пальца, падушачка. *Пучку парэзала, завяжы.* Гічыцы Ягл.

**ПХА́ЦЦА** *незак.* Павольна ехаць, цягнуцца. *Выбярашся на базар у Косаво канём, то паўночы пхаяшся, каб место лепшая зайняць.* Була Міл.

**ПХІ́МКАЦЬ** *незак.* 1. Сілай стрымліваць смех. *Чаго пхімкаяш? Нічого тут смешнаго німа.* Юкавічы Стайк. 2. Хныкаць, румзаць. *Перастань пхімкаць, бо яшчэ больш плескачоў атрымаяш.* Галік Міл.

**ПХІМТА́РЫЦЬ** *незак.* Тое ж, што і п х і м к а ц ь 1. 2. *Выскалка, усё для цябе смешно, пхімтарыш ды пхімтарыш.* Квасевічы Квас. *Узяўся пхімтарыць на самыя ранкі.* Квасевічы Квас.

**ПЫ́КА** *ж.* 1. Пыса. *Ні можно цельную карову па пыцы біць: скі́дацца можа.* Даргужы Міл. 2. *груб.* Твар. *Ты, відаць, хочаш па пыцы атрымаць, лезяш слатою.* Альшаніца Квас.

**ПЫЛЮ́КА** *ж. павел.* Празмернае запыленне прасторы. *Дажджу цэлы месяц нямашака, то гэдыка пылюка, німа*

*чым дыхаць.* Хадакі Жытл.

**ПЫ́РХАЦЦА** *незак.* Спрабаваць, імкнуцца. *Не пырхайся, вышэй галавы ні падскочыш.* Заполле Кос.

**ПЫ́РХІ** *мн.* Ноздры. *У каня пырхі ў слюзі, відаць, прастуджаны.* Гошчава Стайк.

**ПЫ́ЦЕЛЬ** *м.* Густое сіта ў млыне. *Мелюць і праз пыцель мліво пускаюць.* г. Косава.

**ПЭ́НКАЦЬ** *незак.* Заходзіцца ад смеху . *Чую, дзед ім смешнае нешчо расказвая, а дзеці аж пэнкаюць ад смеху.* Падстарынь Падст.

**ПЭ́НКНУЦЬ** *зак.* Трэснуць, лопнуць. *Гэта сукенка табе замалая, зара пэнкня.* Ёдчыкі Квас.

**ПЭ́ПІНКА** *ж. бат.* Гатунак яблык. *Пасадзіў дзве пэпінкі, хай дзеці ні лазяць па чужых садках.* Жамайдзякі Міл.

**ПЭ́ЎНЕ** *пабочн.* Мабыць. *Узаўтры, пэўне, паеду да дачкі ў Косаво.* Лазаўцы Міл.

**ПЭ́ЦКАЛО** *м.* Пэцкаль, няўмелы, неакуратны ў працы чалавек. *Няўмека, пэцкало, яго да важнай работы і дапускаць ні трэба.* Хадоркі Кос.

**ПЭ́ЦНУЦЬ** *зак.* Тое ж, што і п а ц н у ц ь. *Пэцнуць табе пад бок, каб малых ні кяляіў.* Квасевічы Квас.

**ПЯКО́ТКА** *м і ж. перан. зневаж.* Злы, уядлівы чалавек. *Але ж і пякотка, браток, у цябе жонка, і слова ні дасць аказацца.* Дубітава Міл.

**ПЯЛЮ́ШКА I** *ж.* Пялёнка. *У адведкі да суседкі пайду, во, пялюшок купіла.* Старажоўшчына Кос.

**ПЯЛЮ́ШКА II** *ж. бат.* Віка. *Пялюшка ўся як гарох.* Даргужы Міл.

**П'ЯНДЫ́КА** *м і ж. груб.* П'яніца, прапойца. *Гэты п'яндыка згубіў ужэ чалавечы воблік.* Заполле Кос.

**ПЯРВЕ́Й** *прысл.* Раней, спачатку. *Як снегу навaліло, то ты па дрова сабраўся. Дзе ты пярвей быў?* Стайкі Стайк.

**ПЯРСЦЁ́НОК** *м* 1. Пярсцёнак. *Як замужняя, то на правой руцэ пярсцёнок носіць, а як дзеўка, то на левой.* Грыўда Міл. 2. Металічны хамуцік для мацавання касы да

косся. *Дакасіў бы пайку: пярсцёнок парваўся.* Заполле Кос.

**ПЯРЭ́ВІЦЬ** *ж.* Скручаны лазовы ці бярозавы дубец, якім прывязваюць, прымацоўваюць што-н; вітка. *Як гарадзіліся даўней? Забіваюць два калкі ў зямлю, пярэвіццю звязваюць іх і на пярэвіць кладуць жэрдку.* Заполле Кос.

**ПЯРЭ́ВЯДЫ** *толькі мн. абрад.* Сустрэча бацькі жаніха з бацькамі нявесты. *Перад тым, як ісці ў сваты, бацько жаніха ідзе ў пярэвяды, ідзе перагаварыць з бацькамі нявесты, ці аддадуць дачку за яго сына, вядуць размову пра пасаг.* Заполле Кос.

**ПЯРЭ́ДНЯ I** *ж.* Чысты, самы большы пакой у хаце; пярэдняя. *Я пярэдню адчыняю толькі гасцям, нам, старым, много места ні трэба, тулімся ў кухні.* Руда Падст.

**ПЯРЭ́ДНЯ II** *ж.* Вяроўка, ланцуг, якімі мацуецца рубель спераду воза. *Па сено паехалі, а пярэдню пакінулі, гаспадары.* Гошчава Стайк.

**ПЯРЭ́КІДОМ** *прысл.* Галопам. *Пярэкідом бегла карова, як лось.* Азярцо Падст.

**ПЯРЭ́РВА** *ж.* Прамежак, вольная прастора. *Пасярод сяла пярэрва, там хат німа, бо нізко, гразко.* Заполле Кос.

**ПЯРЭ́ХМУРКІ** *мн.* Стан надвор'я, калі і сонечна, але часам і хмаркі сонца заслоняць. *Пярэхмуркі, хоць гарачыня спадзе.* Скураты Квас.

**ПЯРЭ́ЧЫНОК** *м.* 1. Пласт сена, саломы, які збіваецца граблямі. *Даўней сено перачынялі ў пярэчынкі і пярэчынкамі выкладалі капіцу.* Заполле Кос. 2. Ахапак. *Прынясі які пярэчынок сена, засцелям на стол, узаўтры Коляды.* Заполле Кос.

**ПЯРЭ́ЯДЗІ** *толькі мн.* Адыходы ад сена. *Перабярэ карова сено, пярэядзі ў сячкарню і цэбра даем.* Альшаніца Квас. *Сено даўней ні марнавалі, бо трэба і каню было даць, і авячкам, і карові, і пярэядзі ішлі ў дзело.* Бялавічы Кос.

**ПЯТЛЕ́ЙКА** *ж.* 1. Пастка. *Малыя былі, усё пятлейкі на зайцоў ставілі.* Падстарынь Падст. 2. Вешалка. *Прышый пятлейку ў пальце, а то кідаяш, дзе папало.* Быч Стайк.

**ПЯТЭ́ЛЬНЯ** *ж.* Патэльня. *Трэба на чыгуннай пятэльні смажыць: нічога ні прыгарая, усё адстае.* Бусяж Міл.

**ПЯЦЕ́ЛЬКА** *ж. анат.* Падхвосціца. *Пяцелька ў каровы вялікая: хутка цяліцца будзя.* Альшаніца Квас.

**ПЯЧА́ЙКА** *ж.* Пякотка. *Пячайка пячэ, аж дыхаць німа як.* Заполле Кос.

**ПЯЧКУ́Р** *м.* Мужчына, які любіць грэцца на печы. *Зноў твой пячкур на пячэ ляжыць, печ душыць.* Альшаніца Квас.

**ПЯЧО́РКА** *ж.* Невялікая ніша ў печы; пячурка. *У пячорцы сушылі рукавіцы, шкарпэткі.* Яглевічы Ягл.

**ПЯЧУ́Р** *м.* Тое ж, што і п я ч к у р. *Я з маленства пячур, выгадаваўся на пячэ і зара люблю на пячэ грэцца.* Квасевічы Квас.

# Р

**РАБІ́ННІК** *м. заал.* Дрозд. *Е чорны дрозд, а е пеўчы – рабіннік называяцца.* Скураты Квас.

**РАБАЦЕ́ННЕ** *зб. н.* Рабацінне. *У каго рабаценне на твары, то кажуць, гэто ён малым ластаўчыныя гнёзда спорвоў.* Бусяж Міл.

**РАБО́ЧЫ** *прым.* Працалюбівы. *Міхась акуратны, рабочы чалавек.* Падстарынь Падст.

**РАБЫ́** *прым.* Васпаваты. *Яго твар ад воспы рабы.* Размеркі Стайк.

**РА́ГАЛО** *н.* Прылада для качання бялізны. *Качалко круглае, а рагало з зубамі.* Гошчава Стайк.

**РАГА́Ч** *м.* 1. Драўляныя вілы ў два зубы. *Рагачом сено траслі на трасянку, а тады ўжэ клалі ў яслі трэсянае сено.* Альшаніца Квас. 2. Дрэва ў два ствалы. *Корань адзін, і камель адзін, а два ствалы пайшлі. На такое дзераво кажуць рагач.* Альшаніца Квас.

**РАДЗЮ́ШКА** *ж.* 1. Дзяруга. *Радзюшкай накрываліся, калі спаць клаліся, радзюшкай харошай пасцель засцілалі.* Заполле Кос. 2. Гунька. *Прыедзяш на базар у Косаво, не накрыяш радзюшкай каня, то паліцыянт штрапаваў такіх.* Заполле Кос.

**РАДНЯ́НІЦА** *ж.* Адыходы пры трапанні льну. *Радняніцу пралі і гэтымі ніткамі патыкалі мяхі, палавікі.* Альшаніца Квас. *Радняніцу прасці цяжко, каросты ў ёй много, трэба адкідаць.* Заполле Кос.

**РАДНЕ́Й** *прысл.* Раней. *Радней елі хлеб з вадою і вясёлыя былі, а зараз смакі выядаюць, а хмурыя.* Харошча Міл.

**РА́ЖА** *ж. Капец. У нас насыпаюць горбаю картоплі, укрыюць саломай, прысыплюць зямлёй – вось табе і ража на зіму.* Размеркі Стайк.

**РАЗА́К** *м. бат.* Від асакі. *Рэчка разаком зарасла.* Бялавічы Кос. *Аб разак надто лёгко руку парэзаць.*

Альшаніца Квас.

**РАЗБІВА́ЦЬ** *незак.* Развесці ў танцы. *Даўней дзеўчына з дзеўчынай ні патанцуя, тут жа хлопцы разаб'юць. Павінны танцаваць у пары: хлопец з дзеўчынай.* Заполле Кос.

**РАЗБО́РСАЦЬ** *зак.* Расшнураваць. *Памажы мне разборсаць шнуркі ў чаравіках.* Размеркі Стайк.

**РАЗВАДЗЯ́НЕЦ** *м.* Мужчына, які скасаваў шлюб. *Гэто нічого, што развадзянец, можа, мяне лепш глядзець будзя.* г. Косава.

**РАЗВАДЗЯ́НКА** *ж.* Жанчына, якая скасавала шлюб. *Жаніўся мой сын на развадзянцы і жывуць: не пабаяўся ісці на чужое дзіця.* Размеркі Стайк.

**РАЗВАЛІ́ЦЬ** *зак.* Моцна парэзаць, распаласаваць. *Пальца жонка разваліла, а я вінаваты, бо нажа нагастрыў.* Ёдчыкі Квас.

**РАЗГО́ЙШЫЦЬ** зак. Марна патраціць (пра грошы). *За два дні разгойшыў палучку.* Хадоркі Кос.

**РАЗГРУЗІ́ЦЬ** *зак.* Змясіць. *Пастух заснуў, а каравы так разгрузілі лужок, што касіць там німа як.* Дубітава Міл.

**РАЗДРА́Й** *м. экспр.* Разлад, нелады, сварка. *Німа дабра ў іх сям'е: поўны раздрай.* Заполле Кос.

**РАЗЗЁ́ВА** *м. і ж. экспр.* Разява. *Раззёва, з-пад носа ў цябе ўкралі ровара.* Даргужы Міл.

**РАЗЗЯЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Разяўляць. *Ні раззяўляй рота, бо ў цябе ніхто ні пытаяцца.*Старажоўшчына Кос.

**РАЗМУ́ЗЕЦЬ** *зак.* 1. Стаць гразкім. *Пасля марозікаў так сцепляло, што дарога размузяла.* Заполле Кос. 2. Раскіпець. *Так доўга варыліся ў цябе салёнікі, ажно размузялі.* Стайкі Стайк. 3. Набухнуць, набрыняць (пра крупы). *Грам грэчкі ўсыпала, а размузялі, то цэлы чыгунок вышло кашы.* Грыўда Міл.

**РАЗМЯСЦІ́** *зак.* Хутка з'есці. *Як што смачнае зварыш, то ўмомант размятуць.*Скураты Квас.

**РАЗНА́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Разахвочаны, прывучаны

да чаго-н. *Карова Міхасёва разнаджана: усё ў шкоду прэцца.* Гошчава Стайк.

**РАЗО́ЛЯ** *м.* Разора. *Разолю ў градах шырэйшую рабі, каб лепш з вёдрамі хадзіць было паліваць.* Квасевічы Квас.

**РАЗРУ́ХА** *ж.* Адпачынак. *Ніякае разрухі мне німа, рабі, як той вол, дзень пры дні.* Заполле Кос.

**РА́ЙСТАВАЦЬ** *незак.* Добра, у дастатку, як у раю, жыць. *Яна з Васілём не жыла, а райставала.* Альшаніца Квас.

**РА́КАВІНА** *ж.* Прамежак між капытаў у жывёл. *Карова кульгая, баюся, што ў ракавіне камянь сядзіць.* Сенькавічы Падст.

**РАМЕ́ННІК** *м.* Чалавек у брудным, заношаным адзенні. *У яго німа свята, раменнік е раменнік.* Бялавічы Кос.

**РА́МКА** *м.* Фотаздымкі ў абрамленні драўлянай рамы. *Даўней мода была ў рамкі ўсе картачкі саджаць да на сцяне вешаць.* Руда Падст.

**РАНТКАВА́ЦЬ** *незак.* Сустракацца, мець спатканне. *Маладымі і мы рантквалі, любіліся, а зараз яно сварымся.* Заполле Кос.

**РАПЕ́ЙНІК** *м. бат.* Урочнік. *Рапейнік расце ў сухіх хваёвых лясах.* Бялавічы Кос.

**РАПЕ́ЙНІЧОК** *м. бат.* Дзядкі звычайныя. *Рапейнічок расце ў хмызняках, сярод крапівы.* Заполле Кос.

**РАПТО́ВО** *прысл.* Раптам, нечакана. *Бяда заўсёды раптово прыходзіць.* Гладышы Міл.

**РАПЯШО́К** *м. бат.* Тое ж, што і р а п е й н і ч о к. *Рапяшок надто чапляяца за адзежу.* Бялавічы Кос.

**РАСКАЛЭ́ШКАЦЬ** *зак.* Памяшаць. *Ні ела вары, яно раскалэшкала.* Сакоўцы Міл.

**РАСКЕ́ЎГАЦЬ** *зак.* Разбіць коламі мокрую дарогу. *Так раскеўгалі дарогу трактары, ні прайсці, ні праехаць.* Заполле Кос.

**РАСКІПА́ЦЬ** *незак.* Разварвацца (пра бульбу). *Гэты год бульба смачная, раскіпая.* Рацкевічы Міл.

**РАСКЛЮ́ЗНУЦЬ** *зак.* Пакрыцца сліззю. *Назбіраў*

*мой чалавек старых падбярэзнікоў, пастаялі трохі, то расклюзлі, ды выкінула.* Альшаніца Квас.

**РАСКУМА́РЫЦЬ** *зак.* Змарнець,размарыць. *Залезла на печ, угрэлася, аж раскумарыло.* Заполле Кос.

**РАССЯЧЫ́** *зак. экспр.* Адлупцаваць. *Я цябе рассяку: тыдзень на жопу ні сядзяш.* Альшаніца Квас.

**РАСТРЭ́ПА** *м і ж.* Растропа. *Косы расчашы, растрэпа, а то ў каўтуны зб'юцца.* Галынка Міл.

**РАСТЫ́РКАЦЬ** *ж.* Раздаць, патраціць. *Не паспея пенсію палучыць, тут жа дзецям ды ўнукам растыркая.* Падстарынь Падст.

**РАСТЫ́ЦАЦЬ** *зак.* Тое ж, што і растыркаць. *Закалола парася ды растыцала ўсім, сама як-нібудзь абыдуся.* Верашкі Квас.

**РАСХЛЯПЕ́СЦІЦЬ** *зак.* 1. Расчыніць. *Нашчо ты дзверы расхляпесціў, холаду напусціш.* Заполле Кос. 2. Расхінуць. *Расхляпесціў каптана, гарлавіна гола, прастудзішся.* Заполле Кос.

**РАСХЛЯПЕ́СТАНЫ** *дзеепрым.* Расхрыстаны, расхлістаны. *Зашпіліся, ні стой расхляпестаны, прастудзішся.* Заполле Кос.

**РАСХО́ДАВАЦЬ** *зак. перан.* Забіць, знішчыць. *Яго пры партызанах расходавалі: ніхто ні ведая, дзе косці ляжаць.* Альшаніца Квас.

**РАСЧВА́ЛІЦЬ** *зак.* Тое ж, што і развaліць. *Аб крамушку ногу расчваліў да касці.* Заполле Кос.

**РАСШАХРАВА́ЦЬ** *зак.* Тое ж, што і разгойшаць. *Палучку палучылі мае суседзі. Слёзы, а не грошы.І тыя за тыдзень расшахравалі і зноў пабіраюцца па людзях.* Альшаніца Квас.

**РА́ТА** *ж. устар.* Пэўная частка падатку. *Раней падаток можно было заплаціць па частках, або ратах.* Заполле Кос.

**РАЧКАВА́ЦЬ** *незак.* Выконваць цяжкую работу. *Цэлы дзень ў агародзі рачкавала – макрыца заела.* Заполле Кос.

**РАШАТУ́ХА, РАШЭ́ТУХА** ж. Пераспелы, стары грыб.

*Счарвівяў грыб, разлез, адна абалонь у ім – гэто ўжэ рашатуха.* Заполле Кос.*Прайшлі грыбы, а калі ўбачыш якого, то рашэтуху.* Альшаніца Квас.

**РАШВО´РА** ж. Трайня(у возе). *Рашвора – гэто падоўжны брусок у возе, які злучае перадок з задком.* Заполле Кос. *Рашвора ўстаўляецца спераду ў вузаловак.* Бялавічы Кос.

**РА´ШКА** *ж. перан.* Галава. *Ну, ты і рашку наеў, кот за дзень не абліжа.* Альшаніца Квас.

**РЖА** ж. Рудая вада ў балоце. *Балотная вада з ржою, яе ні пап'еш.* Зялёны Бор Стайк.

**РО´ЖА** ж. бат. Мальва. *Рожа – высокая расліна, расце ў садках, кяткі на сцябле чырвоныя, яркія.* Бялавічы Кос.

**РО´НДАЛЬ, РЭ´НДАЛЬ** м. Малая каструля з ручкай. *Рондалём набяры ячменя з бочкі і курам сыпані.* Альшаніца Квас. *Добра дзіцяці маломy ў рэндалі кашу варыць.* Альшаніца Квас.

**РО´СКВАСЬ** ж. Бездарожжа. *Снег растаў: росквась на гуліцы.* Заполле Кос.

**РО´СКІСЬ** ж. Адліга, слата.*Вясна, роскісь на дварэ.* Альшаніца Квас.

**РО´ХЛЯ** ж. груб. Тоўстая, прысадзістая жанчына. *Нам, рохлям старым, яно і засталося, што на лавачцы ў цяньку сядзець, бо больш мы на нішто нігодныя.*Квасевічы Квас.

**РО´ШЧА** ж. Рост раслін. *Німа ніякай рошчы буракам – сонцо спякло,засушыло.* Заполле Кос.

**РУБЕ´Ц** м. Гадавыя нарасці, кольцы на рагах у каровы. *Па рубцах лічаць, колькі год карові.* Аляксейкі Стайк.

**РУ´ДЫ** *прым.* Смуглявы з твару. *Некі ты руды зрабіўся, аж пабрыдчэў.* Заполле Кос.

**РУЕ´ЦЬ** *незак.* Аднатонна вішчаць. *Свіня руяць, есці хочуць.* Куляшы Міл.

**РУ´ЖА** *ж. рыб.* Венцер. *У ружы кругі, абручы ўсё меншыя і меншыя.Ставілі ружу супроць цячэння: рыба пападзецца – назад ходу німа.* Заполле Кос.

**РУМЯ´НЕЦ**, *ж. бат.* Рамонак. *Румянец малым дзецям*

*давалі, каб жывот ні балеў.* Аўсто Стайкі.

**РУМЯ́НОК** *м. бат.* Тое ж што і румянец. *Румянок расце па нізкіх месцах, дробны белы цвет, вельмі пахучы.* Заполле Кос.

**РУ́ПІЦЬ** *незак.* Трывожыць, выклікаць неспакой. *Паеду сёні, дзеткі, нешчо рупіць мяне дахаты, як там адзін ваш бацько.* Бараны Ягл.

**РУ́ПЯСЦЬ** *ж.* Турбота, хваляванне. *Мяне рупясць бярэ: цеперся ў магазін хлопец пайшоў і дагэтуль німа.* Лазаўцы Міл.

**РУЎЧА́К** *м.* 1. Ручэй. *Вясною добра слухаць, як руўчакі бурляць.* Альшаніца Квас. 2. Невялікі роў. *Каб ні падышла вада да пограба, кажан год руўчука капаям.* Альшаніца Квас.

**РУ́ЧКІ** *м.* Калкі ў вузгалоўі і задку воза, да якіх прыстаўляюцца драбіны. *Глядзі, зараз ручкі вываляцца ў возі.* Лазаўцы Міл.

**РЫДВА́НЕЦ** *м.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Ідзе гэты рыдванец і пыхціць, як паравоз. Смех, але і шкада такого чалавека.* Заполле Кос.

**РЫЗАВА́ЦЬ** *незак.* Раўняць паверхню, зрэзваючы няроўнасці рыдлёўкай, шуфлем. *Усё дзеці рызавалі пляцоўкі, на якіх у мяч гулялі.* Заполле Кос.

**РЫПЕ́ЦЬ** *незак.* Крумкаць, квакаць (пра жаб). *У які дзень пачуяш, як рыпяць жабы, у гэты дзень гусі садзі: добра выводзіцца будуць і будуць так гагатаць дружно, як квакаюць жабы.* Альшаніца Квас.

**РЫ́СА** *ж.* Лінія. *У лапту будзям гуляць, адвядзі рысу.* Була Міл.

**РЫ́ХТАЧКІ** *прысл.* Якраз, іменна, дакладна. *Рыхтачкі, як яго бацька.* Стайкі Стайк.

**РЭ́БРЫ** *мн.* Частка драўлянай асновы кошыка. *Рэбры гнулі з ляшчыны ці былі яловыя.* Мілейкі Міл.

**РЭ́ДЗІКІ** *толькі мн..* Бульбяны суп. *Старым яно трэба рэдзікі есці, бо ні трэба жаваць.* Квасевічы Квас.

**РЭ́ДКІЯ** *толькі мн.* Тое ж, што і рэдзікі. *Сёні рэдкія варыла з гарохом.* Альшаніца Квас.

**РЭ́ДЧЫКІ** *толькі мн.* Тое ж,што і рэдзікі. *Картоплі ні ўрадзілі, салёнікоў ні зварыш, адны рэдчыкі і елі.* Бялавічы Кос.

**РЭ́ЗАНІКІ** *м.* Нялупленая бульба, парэзаная папалам. *Калі картопяль вялікі, то каб хучэй зварыўся і прасалеў, рэжуць папалам. Іх так і называюць – рэзанікі.* Размеркі Стайкі.

**РЭ́ЗГІНІ** *толькі мн.* Рэзгіны. *Рэзгінямі сено ад стажка насілі і давалі карові.* Бусяж Міл.

**РЭ́ЙДАЛО** *м.* Чалавек, які гаворыць бязглуздзіцу. *Рэйдало, заціхні, бо ўжэ куры з цябе смяюцца.* Падстарынь Падст.

**РЭ́ЙДАЦЬ** *незак.* Гаварыць бязглуздзіцу, недарэчнае. *Ні рэйдай, слухаць ні можно.* Заполле Кос.

**РЭ́КА** *ж.* Рака. *У Хрышчонавічах за рэкаю ўжэ яно два чалавекі жывуць.* Альшаніца Квас.

**РЭ́МЗІЦЬ** *незак.* Жаласна плакаць. *Рэмзіць мой хлопчык цэлы дзень, баюся, каб ні захварэў.* Бялавічы Кос.

**РЭ́ПКА** *ж. анат.* Мясістая частка хваста ў жывёлы. *Малочная тая карова, у якой рэпка дастае ніжэй калена.* Альшаніца Квас.

**РЭ́ХВА** *ж.* 1. Жалезны абруч на калодцы ў коле. *Рэхву набіваюць на калодку, каб ні рассохлася.* Гошчава Стайк. 2. Абручык, якім мацуюць заднюю частку воза да пярэдняй. *Як карова ўдавіцца, то рэхву ўстаўляюць у рот, каб можно было залезці рукою ў горло.* Альшаніца Квас.

**РЭ́ШТАЧКА** *ж.* Тое ж, што і рэхва 1. *І ні бачыш, што рэштачка вісіць на атосі.* Гічыцы Ягл.

**РЭ́ЦЕЗІ** *толькі мн.* Старое, вынашанае адзенне. *Што ты гэтыя рэцезі на сябе нацягаяш, іх ужэ трэба ганучніку аддаць.* Заполле Кос.

**РЭ́ЧАЧКА** *ж.* Невялікі ручай без назвы. *Рэчачка была ў канцы Ясянёвой , там даўней і млын быў, было грузко. Усё хадзілі лавіць в'юны туды.* Заполле Кос.

# С

**САБА́ЧАЯ МЯ́ТА** *ж. бат.* Блюшчык. *Сабачая мята расце купкамі, у яе блакітныя кветкі.* Заполле Кос.

**САБА́ЧКА** *ж.* Тое ж, што і п а д п я т н і к. *Сабачку рабілі, каб лягчэй было боты зняць.* Альшаніца Квас.

**САВЕ́ТЫ** *мн.* Савецкая ўлада. *Саветы да нас прыйшлі ў 39 годзі.* г. Косава.

**САГА́НЧЫК** *м.* Маленькі саган. *Саганчык чыгунны, вузкі, з двума вушкамі. Сабе есці варылі, надто хутко закіпало ў ім.* Альшаніца Квас.

**САДЗЕ́ННІК** *м. і ж.* Чалавек, які садзіць бульбу. *За трактаром пад два плужкі трэба много садзеннікоў.* Верашкі Квас.

**САДЗІ́ЛКО** *н.* Цадзілка. *Маці, як падоіць карову, памыя садзілко і даёнку і вешая на плот сушыцца.* Альшаніца Квас.

**СА́ДЗЯЦЬ** *незак.* Шчымець, тузаць (пра рану). *Пакаўзнулася на лёдзі, упала, усю руку абсунула, надто садзяя.* Заполле Кос.

**САДО́К** *м.* Агародчык перад вокнамі хаты, якія выходзяць на вуліцу. *У садку найчасцей гаспадыні кяткі садзяць.* Размеркі Стайк.

**СА́ЖАЎКА** *ж.* Сажалка. *Застаўся ад пана Палубінскаго парк, а ў ім сажаўка.* Грыўда Міл.

**САКАТА́ЦЬ** *незак. перан.* Смяяцца. *Чаго ты цэлы дзень сакочаш? Глядзі, каб ні плакала.* Сакоўцы Міл.

**САКЕ́РА** *ж.* Сякера. *На разжыток бацько мне сакеру сваю аддаў.* Галік Міл.

**САЛАПЯ́КА** *м. і ж.* Чалавек, у якого вывальваецца язык з рота. *Салапяка, языка схавай.* Заполле Кос.

**САЛЁ́НІКІ** *мн. кулін.* Вараная абіраная бульба. *Летом печы палілі па чарзе. У каго з печы дым ідзе, да тых і зносілі чыгункі варыць салёнікі на вячэру.* Квасевічы Квас.

**СА́ЛЬНІК** *м.* 1. *рыб.* Лічынка хрушча. *Сальнік – добрая прынада для рыб.* Заполле Кос. 2. Чарвяк, які завёўся ў сале. *Маці кумпяка як паставіць у печ апекацца, то ано трашчаць тыя сальнікі.* Заполле Кос.

**САЛЯВІ́К** *м.* Невялікі мех. *Бульбу насыпайця ў салявікі, лягчэй будзя грузіць на воз.* Рацкевічы Міл.

**САЛЯДЭ́РА** *ж. бат.* Сырадэля. *Салядэру надто елі каровы і коні. Касілі яе, у кучкі качалі, так і сохла.* Альшаніца Квас.

**САМАВО́ЛЬ** *прысл.* Свядома, па сваёй волі, ахвотна. *Калі сталі калхозы рабіць, то ніхто не хацеў самаволь ісці ў яго.* Галынка Міл.

**САМАКА́ТЫ** *мн.* Тое ж, што і к а т а н к а. *Зімою на самакатах усё каталіся.* Квасевічы Квас.

**САМАТУ́Ж** *прысл.* Без дапамогі цяглавай сілы, сам. *Канём заедзяш на надворак, а назад воза выганяяш саматуж.* Заполле Кос.

**САМАХО́ЦЬ** *прысл.* Без прынукі, па сваёй волі, па свайму хаценню. *Самахоць замуж пайшла, а цяпер во цэлы век мучаюся за гэтым гультаём.* Размеркі Стайк.

**САМАШЭ́ЧЫ** *прым.* Вар'яцкі, шалёны. *Самашэчы смех у цябе.* Руда Падст.

**СА́МО** *часц.* 1. Сама. *Само капанне, а яны вяселле задумалі.* Гладышы Міл. 2. Толькі. *Пажаніліся, само пажыць, а тут вайна.* Сакоўцы Міл.

**САМУ́ТКІ** *займ.* Самы. *Пад самуткую хату падыходзіць вясною вада з рэчкі.* Юкавічы Стайк.

**САНДАЛЫ́** *мн.* Сандалі. *Сандалы – самы танны абутак быў, усяго паўтара рубля.* Гошчава Стайк. *Некалі старыя бабы ўсе ў сандалах хадзілі.* Сенькавічы Падст.

**СА́НІ** *толькі мн. рыб.* Рыбалоўная снасць у выглядзе двух рухомых палазоў з сеткамі. *Саньмі добра лавіць, але яны цяжкаватыя.* Заполле Кос.

**СА́НКІ** *толькі мн.* Ніжняя сківіца. *Рот крывы, бо санкі ў бойцы збілі яму.* Грыўда Міл.

**СА́ПАВІЦА** *ж. мед. вет.* Дыхавіца. *Цяля малое трэба трымаць у хляве, бо як вырвяцца на волю, набегаяцца, то нападая сапавіца. Можа з гэтаго і прапасці.* Заполле Кос.

**СА́ПАТКА** *ж. груб.* Нос. *Змерз так, ажно з сапаткі цячэ.* Альшаніца Квас.

**САПАЦЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Моцна гарэць (пра дровы). *Дрова сухія, бярозавыя, аж сапацяць у пячэ.* Стайк Стайк. 2. Пыхацець, выдзяляць цяпло. *Печка аж сапаціць, такая гарачая.* Даргужы Міл.

**СА́ПАЦЬ** *незак.* Бліскаць, мігаць (пра маланку). *Кажуць так: маланка сапая. Гэто бывая ў вераб'іную ноч. Калі адна маланка тухня, другая загараяцца, і так усю ноч.* Заполле Кос.

**САПЕ́ЛЬ, САПЛЮ́К** *м. груб.* Падлетак, маладзён. *Сапель, табе яшчэ рано на дзяўчат паглядаць, за кніжку лепш бярыся.* Дубітава Міл. *Саплюк ты яшчэ бацька вучыць.* Скураты Квас.

**САПЛЯ́К** *м.* Лядзяш. *Учора адліга была, а сёні бачыш, якія сaплякі вісяць.* Стайкі Стайк.

**САРАКАВІ́НЫ** *толькі мн. абрад.* Памінальная вячэра на саракавы дзень пасля смерці. *На саракавіну ў цэрківі паніхіду адпраўляюць па памерлым, а пасля блізкія ідуць на памінальную вячэру.* Старожоўшчына Кос.

**САРО́ЧЫ ЛЯНО́К** *м. бат.* Расліна. *Сарочы лянок ядавіты, ён жоўценькім цвіце.* Грыўда Міл.

**САСНЯЧО́К** *м.* Купка маладога сасновага лесу. *У маладом саснячку праўдзівікі і растуць.* Заполле Кос.

**САХАРЫ́НА** *ж. бат.* Від таполі. *Збіралі лісты сахарыны і хлеб пяклі на іх.* Заполле Кос.

**САХАРЭ́** *толькі мн.* Вілы-трохзубцы. *Сахарамі сено на воз падаюць.* Ёдчыкі Квас. *У сахарах два зубы знізу, а трэці зверху, гэто каб лепш было узяць пярэчынка.* Альшаніца Квас.

**СА́ЧОК** *ж.* Жаночы каптан. *Адзень сачка, ён ваўняны, то цяплей будзя.* Альшаніца Квас.

**САША´** *ж.* Шаша. *На сашэ слізко, давай ехаць сцежкай.* Хадоркі Кос.

**СВАЕ´** *мн. займ. у знач. назоўніка.* 1. Радня. *Мы з імі свае.* Харошча Міл. 2. Вялікая бульба. *Гэты год сваіх мало, адны свіныя.* Заполле Кос.

**СВЕЖАНІ´НА** *ж.* 1. Свежына. *Занясі свату свежаніны.* Яблонка Жытл. 2. Частаванне свежыной. *Ідзі, суседзяў пакліч на свежаніну.* Заполле Кос.

**СВЕНТАЯ´ННІК** *м. бат.* Святаяннік. *Кажуць так: свентаяннік ад усіх хвароб.* Заполле Кос.

**СВЕТ** *прысл.* Шмат, процьма. *Летась свет грыбоў было, я мех насушыла.* Заполле Кос.

**СВІНА´РКА** *ж. бат.* Падгруздак. *Свінаркі – асеннія грыбы, але іх у нас ні бяруць.* Заполле Кос.

**СВІНІ´НЕЦ** *м.* Будыніна, у якой гадуюць свіней. *Трэба новаго свінінца зрабіць, гэты стары, халодны.* Заполле Кос.

**СВІНІ´НЧЫК** *м.* Тое ж, што с в і н і н е ц. *У свінінчыку малыя парасята трымала.* Яглевічы Ягл.

**СВІНУ´ШНІК** *м.* 1. Тое ж, што с в і н і н е ц. *Каля свінушніка рой мух. Не ведаю, як ад іх збавіцца.* Альшаніца Квас. 2. *перан.* Беспарадок, бруд у хаце. *У цябе ў хаці сапраўдны свінушнік.* Альшаніца Квас.

**СВІНЯ´** *ж.* Свіння. *Свіня прывяла дзесяцёро парасят.* Плехава Люб.

**СВІСТ** *м.* Знак забароны, тычка. *Ставілі свісты, а гэто значыло, што больш па балоці каравы нельга пасвіць.* Заполле Кос.

**СВЯРБЯ´ЧКА** *ж. мед.* Кароста. *Каб на цябе свярбячка напала!* Альшаніца Квас.

**СВЯРЭ´ПА** *ж. бат.* Свірэпа. *Даўней много было на палях свярэпы. Рвалі яе, сушылі на корм.* Альшаніца Квас.

**СВЯ´ТОМ** *прысл.* У святочны дзень. *Святом грэх рабіць.* Любішчыцы Люб.

**СЕДЗЯЛКО´** *н.* Падсядзёлак. *Цэлы вечар дзед раман-*

*таваў седзялко.* Заполле Кос.

**СЕ́ДМУХА** *ж.* Сёмуха. *Свято такое, Седмуха.* Гошчава Стайк.

**СЕ́ДНЯ** *ж.* Працяглае сядзенне на адным месцы. *Ад седні ногі ўжэ анямелі.* Заполле Кос.

**СЕ́КЧЫ** *незак. экспр.* Хутка, спяшаючыся гаварыць. *Ты ні гаворыш, а сячэш, як той сякач.* Альшаніца Квас.

**СЕЛЯДО́РША** *ж.* Сярэдняя з сясцёр (па ўзросту). *Я сярод сясцёр селядорша. Але наймалодшая нам усім нос падцерла: першая замуж пайшла.* Бялавічы Кос.

**СЕМЯННІКІ́** *мн.* Усё, што пакінута на насенне. *Трэба пазбіраць з грады агуркі-семяннікі.* Панкі Люб. *Выражуць дзялянку, ано сосны-семяннікі стаяць.* Заполле Кос.

**СЕ́МЯЧКІ** *мн.* Насенне сланечніка, гарбузоў. *Люблю сухія семячкі, хоць старая.* Галенчыцы Ягл.

**СЕНАКО́С** *м.* Сенажаць. *Сенакос наш быў за калейкаю, у Дуб'е.* Заполле Кос.

**СЕ́РАД** *прыназ. з род.* Пасярод чаго-н. *Серад хаты вісіць чорт лупаты (лямпа).* Заполле Кос.

**СЕРАДНІ́ЦА** *ж.* Сярэдняя частка пакрыжаванага хлыста. *Эх, якая важная серадніца: прамая, без сучкоў.* Заполле Кос.

**СЕРАДНЯЧО́К** *м.* Тое ж, што і с е р а д н і ц а. *З гэтага серадначка два брусы выйдзя.* Любішчыцы Люб.

**СЕ́РКО** *м. зняважл.* Сумятлівы чалавек. *Не быў бы серко, за ўсё бярэцца, але да канца справу не даводзіць.* Заполле Кос.

**СЕ́РПІК** *м.* Маладзік. *Серпік зышоў, можно падрэзаць косы, тады хутко адрастуць.* Ятвезь Квас.

**СЕСТРУХА́** *ж.* Сястра. *Мы з сеструхой на цаліну завербаваліся. Яна замуж там выйшла, засталася, а я назад вярнуўся.* Харошча Міл.

**СЕ́ЧАНКА** *ж.* Сечаная капуста. *Выбіралі слабейшыя галавачкі капусты, шугае, лісты і секачом у цэбры секлі, а пасля салілі, пераціралі, дабаўлялі ўкропу, журавін*

*і прыкладалі кружком з гнётом. Так рабілі сечанку.* Альшаніца Квас.

**СЕ́ЯНКА** *ж.* Сеяная трава. *Даўней дзікае сено было, і малака ў кароў было мало, а зараз сеянкай кормяць, то і каравы па 20 літроў у дзень малака даюць.* Альшаніца Квас.

**СЁ́НІ** *прысл.* Сёння. *Сёні вечаром калядоўшчыкі са звяздой будуць хадзіць.* Размеркі Стайк.

**СЁ́НІКА** *прысл.* Тое ж, што і с ё н і. *Сёніка Юр'я. Казалі так старыя людзі: трэба на Юр'я, каб было сено і ў дурня.* Бялавічы Кос.

**СІВУХА́** *ж. бат.* Радоўка наглебавая. *Сівухі не кожны грыбнік бярэ, кажуць, іх трэба адварваць у двух водах.* Заполле Кос.

**СІ́ВЫ** *прым.* Светлавалосы. *Усе кажуць на яго сівы, бо ў яго светлыя косы.* Верашкі Міл.

**СІКУ́Н** *м. экспр. жарт.* Падлетак, юнак. *Які з яго касец, сікун яшчэ.* Рацкевічы Міл.

**СІ́КША** *ж. экспр. жарт.* Дзяўчына-падлетак. *Якая з яе дзеўка, яна яшчэ сікша.* Рацкевічы Міл.

**СІЛО́С** *м. кулін.* Вінегрэт. *Даўней на вінегрэт казалі сілос.* Альшаніца Квас.

**СІНЮХА́** *ж. бат.* Радоўка фіялетавая. *Сінюхі смачныя грыбы, але людзі не ведаюць іх.* Альшаніца Квас.

**СІНЯ́К** *м. бат.* Махавік жоўта-буры. *Сінякі маладзенькія марынуюць, і квас з іх смачны.* Бялавічы Кос.

**СІПЕ́Ц** *м.* 1. Пясчаная, неўрадлівая зямля шэрага колеру. *Якія тут соткі, што тут вырасце ў гэтом сіпцу?!* Заполле Кос. 2. Месца на полі, якое доўга вясной не прасыхае. *Сіпец, мокро пад нагамі.* Альшаніца Квас.

**СІПЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Сіпаць. *Прастудзіўся, горло баліць, зусім сказаць ні можа, яно сіпіць.* Размеркі Стайк. 2. Гукі, якія ўтварае вада, калі вырываецца з-пад ног на мокрым балоце. *Ідзеш на балоці, а пад нагамі ажно сіпіць.* Заполле Кос.

**СІПЛІ'ВЫ** *прым.* Сіпаты, сіплы. *У сына такі сіплівы голас, як у бацька.* Заполле Кос.

**СІ'ТНІК** *м.* 1. *бат.* Сіт. *Малымі з сітніка шапкі сабе плялі.* Галік Міл. 2. Сітны хлеб. *Сітнік ні часто ў сяло прывозяць.* Заполле Кос.

**СІФО'НІЦЬ** *незак.* Дзьмуць. *Вецер сіфоніць, закрый шчыльно дзверы.* Заполле Кос.

**СКА'ЛІЦЦА** *незак. экспр.* Усміхацца. *Скалішся? Па чым зубы прадаеш?* Заполле Кос.

**СКАПЕ'Ц** *м.* Капец. *Поўны пограб бульбы, німа куды дзець, то закрываюць у скапец на зіму.* Руда Падст.

**СКАРА'ВЕЦЬ** *зак.* Абрасці брудам. *Столькі восяню работы, шчо дзеці скаравелі, ні было часу на іх глянуць.* Альшаніца Квас.

**СКАРАЛЮ'ПА** *ж.* Шалупайка. *Скаралюпу выкінь курам, яны падзяўбуць.* Хрышчонавічы Квас.

**СКАСАВА'ЦЦА** *зак.* Звесціся, прапасці. *Украў маю гачку? Каб ты скасаваўся!* Скураты Квас.

**СКІ'РЫЦЦА** *незак* Выскаляцца. *Чаго ты цэлы дзень скырышся?* Альшаніца Квас.

**СКЛАД** *м.* 1. У выразе: араць у склад. *Пачынаюць гараць з сярэдзіны загона і ходзяць па кругу. Вясной гаруць у склад, а восяню – у роскідзь.* Заполле Кос. 2. У выразе: касіць у склад. Касіць пракос да пракоса. *Калі слабая трава, то косяць па кругу, пакос да пакоса, у склад.* Заполле Кос.

**СКНЭ'РА** *м. і ж. экспр.* Плакса. *Скнэра малая, мусіць, хочаш, каб цукерачка дала.* Бусяж Міл.

**СКНЭ'РЫЦЬ** *незак.* Тое ж, што і р э м з і ц ь. *Чаго ты скнэрыш цэлы дзень? Можа, баліць шчо?* Мілейкі Міл.

**СКО'МЛІЦЬ** *незак.* Тое ж, што і р э м з і ц ь. *Ні скомлі, ні пушчу ў такую завею ў школу.* Альшаніца Квас.

**СКО'СОК** *м.* Старая каса, якая за доўгі час карыстання ёю стала вузейшай, "скасілася". *Гэтым скоском ано зелья зара свіням крышыць.* Заполле Кос.

**СКРУ'ЖВАЦЬ** *незак.* Падбіваць зерне ў рэшаце, у

выніку чаго лёгкія каласкі, саломка збіраюцца зверху. *Падбіваяш рэшато з рукі на руку, смецце скружваяш.* Альшаніца Квас.

**СКРУЖО´ЎВАЦЬ** *незак.* Тое ж, што і с к р у ж в а ц ь. *Бало, скружоўваям у рэшаці збожжа.* Альшаніца Квас.

**СКРУ´ЖЫЦЬ** *зак.* Ачысціць зерне пры дапамозе рэшата. *Скружым, скружым рэшатом жыто, павыкідаям смецця, а чысценькім жытом сеям.* Хадоркі Кос.

**СКРУЦІ´ЦЦА** *зак.* 1. *асудж.* Уступіць у інтымныя адносіны з кім-н. *Скруцілася дзеўка зусім, дзіця кінула бацькам, а сама ў блуд кінулася.* Альба Квас. 2. Упасці ў шаленства (пра жывёл). *Сабака скруціўся, трэба застрэліць.* Альшаніца Квас. 3. *экспр.* Страціць прытомнасць. *Біліся, то як даў гашчоўцу па галаве, той і скруціўся.* Размеркі Стайк. 4. Страціць арыенцір. *Скруцілася, шукаючы гачку.* Альшаніца Квас.

**СКРЫГІТА´ЦЬ** *незак.* Тое ж, што і р у я ц ь (пра свіней). *Толькі ж даў гэтым свіням, а яны зноў скрыгічуць.* Бялавічы Кос.

**СКРЫ´НЯ** *ж.* Ніжняя частка драўлянага зруба ў студні. *Дуўней у дзеравяных калодзежах рабілі скрыню на дно, каб калодзязь не забіваўся муллю.* Альшаніца Квас.

**СКРЫПУ´Н** *м. бат.* Скрыпень вузкалісты. *У каго гастрыт, то заварваюць лісты скрыпеню і п'юць, як чай.* Заполле Кос.

**СКУДЗЕ´ЛЬНІЦА** *ж.* Пралля, якая са сваёй кудзеляй прыходзіць да сяброўак. *А во і наша Настачка, наша скудзельніца ідзе.* Альшаніца Квас.

**СКУЛЬ** *прысл.* Адкуль. *Усе дзяўчата добрыя, скуль кепскія жонкі бяруцца.* Жытлін Жытл.

**СКУЛЯ´ЧКА** *ж.* Скула. *Каб табе скулячка на язык села, як ты мяне ў сплетні ўцягнула.* Гошчава Стайк.

**СКУПЯНДЗЯ´** *м. і ж.* Скупы чалавек; скупянда. *Максім гэдыкі скупяндзя, хоць разводзься: кожную капейку лічыць.* Грыўда Міл. *На старасці свякроў стала гэдака скупяндзя,*

*што есці сабе шкадуя.* г. Косава

**СКУПНУ́ЦЦА** *зак.* Трохі пакупацца. *Такая гарачыня, скупнуцца ні мяшало б.* Падстарынь Падст.

**СЛА́БКО** *прысл.* Свабодна, не туга. *Слабко вяроўкі нацягнуў: сено выядзя з-пад рубля.* Заполле Кос.

**СЛАБО́ДНО** *прысл.* Свабодна, прасторна, вольна. *Сёні будні дзень, то і ў аўтобусе было слабодно.* Любішчыцы Люб.

**СЛАБО́ДНЫ** *прым.* Вольны, не заняты працай. *Узаўтры я слабодны, то дрова парэжам табе.* Яглевічы Ягл.

**СЛАТА́** *ж. перан.* Надаедлівы чалавек. Яго надаедлівасць параўноўваецца з надаядлівасцю насякомых. *Не лезь слатою ў вочы.* Заполле Кос.

**СЛЕДЗЬ** *м.* Селядзец. *Смачныя следзі ў магазін прывязлі.* Сенькавічы Падст.

**СЛЕПЯНДЗЯ́, СЛЯ́ПЕНДЗЯ** *м. і ж. абразл.* Чалавек слабы на зрок. *Слепяндзя, пратры вочы, во твая карова, у хляве ўжэ стаіць.* Квасевічы Квас. *Сляпендзя, сляпендзя, а грошы добра бачыць.* Стайкі Стайк.

**СЛІЖ** *м. заал.* Галец. *Сліж падобны на в'юна, рыбка невялікая, без касцей, адзін пазваночнік.* Альшаніца Квас.

**СЛІ́ЖКА** *ж.* Свежына, якую даюць сваякам або суседзям. *Во сліжку, цётку, прынясла вам: трохі сала, рабрынку.* Яглевічы Ягл.

**СЛІЗЕ́ЦЬ** *незак.* Не гаіцца, ятрыцца (пра рану). *Не гоіцца рана, усё слізіць.* Заполле Кос.

**СЛІ́ЎКА** *ж. бат.* Сліва. *Ад сліўкі надто много пасынкоў: кожны год трэба вырубваць.* Заполле Кос.

**СЛОЙ** *м.* Слоік. *Цяпер агуркі ў слоі закрываюць, а даўней у бочачках салілі.* Бялавічы Кос.

**СЛОН** *м.* Услон. *Уздоўж сцен даўней у кожнай хаці слоны стаялі.* Верашкі Квас.

**СЛО́НЧЫК** *м.* Зэдлік. *Як ішлі даіць карову, то бралі з сабой слончык.* Скураты Квас.

**СЛУЖБІ́СТЫ** *прым.* Які любіць выслужыцца. *Служ-*

*бісты хлопяц, яшчэ здалёк у пояс кланяяцца начальніку.* Сярадава Жытл.

**СЛУ´ЖЫЦЦА** *незак. царк.* Правіцца (пра набажэнства). *У цэрківі абедня служыцца.* Була Міл.

**СЛУХА´ЎКІ** *толькі мн.* Медыцынскі інструмент з рэзанатарам для выслухоўвання сэрца і лёгкіх. *Па-нашаму слухаўкі, фанендаскоп па- навучнаму.* Заполле Кос.

**СЛЮЗЬ** *ж.* Слізь. *Камень у стаячай вадзе цвіце, пакрываяцца зеленаватай слюзью.* Заполле Кос.

**СМАГАДЗЕ´ЦЬ** *незак.* 1. Умела, хутка прасці кудзелю. *От хутка смагадзіць, як пацягне, як пацягне нітку, спрытная ты дзеўка.* Альшаніца Квас. 2. *асудж.* Курыць. *Смагадзіш і смагадзіш сваю табаку, поўна хата дыму.* Заполле Кос.

**СМАЖО´НІКІ** *мн. кулін.* Смажаная бульба. *Смажонікі тады смачныя, калі гатаваліся ў гарачай печы.* Бялавічы Кос.

**СМАКТУ´ЛІКІ** *мн.* Тое ж, што і л а н д р ы н к і. *Доўгія цукеркі на кіёчку – смактулікі.* Альшаніца Квас.

**СМАЛЬНЯ´К** *м.* Смаляк. *Смальнякоў нарубай, бо німа чым у печцы падпаліць.* Заполле Кос.

**СМАЛЯНЫ´** *прым.* Напоўнены смалою (пра яйцо, якім карысталіся ў час велікодных гульняў). *Смалянэе яйцо як згледзяць, то кухталёў добрых дадуць за падман.* Заполле Кос.

**СМАЛЯ´НКА** *ж.* Фальшывы велікодны мацак. *Смалянку рабілі так. Голкаю пратыкалі дзірачку ў яйцэ. Высмоктвалі ўсё адтуль і залівалі гарачай вадкай смалою. Смала застывала, шкаралюпа станавілася моцнаю, простым яйцом гэтаго мацака не паб'еш.* Заполле Кос.

**СМАРКУ´ХА** *ж. бат.* Чырвоная прыбалатуха. *Мало хто смаркухі бярэ, а яны такія салодкія, смачныя.* Заполле Кос. *Смаркуха зверху ўся ў слюзі.* Альшаніца Квас.

**СМЕРДЗЮХА´** *ж.* 1. *заал.* Лясны клоп. *Смердзюха ў ягады*

*папала, есці німожно.* Альшаніца Квас. *Смердзюха – кузака такая смярдзючая.* Харошча Міл.

**СМУ́ГА** *ж.* Нізкае месца ў полі; лугавіна. *У смузі ўсе картоплі вымаклі, німа шчо капаць.* Заполле Кос.

**СМУЖА́РНІК** *м.* Так называлі чалавека, які карыстаўся полем у нізіне. *Поле твае ў нізкім месці, у смузі, значыць, ты смужарнік.* Аляксейкі Стайк.

**СМЫ́КАЦЦА** *незак.* Валачыцца, бадзяцца. *Не смыкайся пад нагамі, садзіся за ўрокі.* Кушняры Падст. *Чаго ты смыкаяшся па хатах цэлы дзень? Сядзі дома!* Быч Стайк.

**СМЫ́КАЦЬ** *незак.* 1. Цягнуць нітку з кудзелі. *Пучкамі кудзелю з поцясі смыкаяш ды смыкаяш.* Альшаніца Квас. 2. Насіць, валачыць. *Смыкаю патрохі грыбы, і насалю на зіму, і насушу.* Заполле Кос.

**СМЫРО́Д** *м.* 1. Непрыемны пах, смурод. *Торфом печку палю, адзін смырод у хаці.* Азярцо Падст. 2. *пагардл.* Малады гадамі, недаростак. *Ты яшчэ смырод вучыць вялікіх.* Заполле Кос.

**СМЯЦЮ́Х** *м.* 1. *бат.* Чорнае вялікае зерне ў коласе жыта, пшаніцы, аўса; спарыння. *Прасей жыто, бо смяцюхоў много.* Заполле Кос. 2. *пагардл.* Малы ростам юнак. *Гэты смяцюх гэдыкаго кавалера з сябе строіць, не падыходзь.* Заполле Кос.

**СНО́ЎНІЦА** *ж. ткац.* Прыстасаванне для снавання кроснаў. *Ад парога да покуці займала сноўніца.* Альба Квас.

**СНІ́ТКА** *ж. бат.* Сныць. *Сніткa цвіце белым. Лісты сніткі запарваюць і п'юць ад рэўматызма, ад разжыжэння крыві.* Бялавічы Кос.

**СНЯГО́ЎЦЫ** *мн.* Жаночы зімовы абутак. *Снягоўцы некалі ў модзі былі. Хварсухі ўмудраліся ўстаўляць у сярэдзіну снягоўцоў старыя туфлі, каб вышэй ростам стаць.* Альшаніца Квас.

**СНЯКА́ЦЬ** *незак.* З шумам ачышчаць нос ад слізі. *Нос заклало, не магу дыхаць, і снякаць не дае.* Любішчыцы Люб.

**СО́ЙБА** *ж. груб.* Насатая жанчына. *І адкуль такую сой-*

*бу Васіль прывёз?* Заполле Кос.

**СО́ЛКА** *ж.* Расол. *Добра з пахмелля солкі агурэчнай папіць.* Альшаніца Квас.

**СОН** *м. бат.* Прастрэл. *Сон – вясенняя трава, хлопцы ўсё дзяўчатам рвуць.* Бялавічы Кос.

**СО́ПЕЛЬ** *м. перан.* Тое ж, што і с а п л я к. *Соплі са стрэх звісаюць: вясна блізко.* Падстарынь Падст.

**СО́ТКІ** *мн.* Палетак, які падзялілі між жыхарамі вёскі пад бульбу. *Гэты год соткі далі на Струшчоўшчыні.* Заполле Кос.

**СО́ЎБА** *ж.* Тое ж, што і с о й б а. *Хто з багром, хто з насосом, а соўба з доўгім носом.* Альшаніца Квас.

**СО́ШКА** *ж.* Акучнік. *Сошкаю абгорваюць картоплі.* Рацкевічы Міл.

**СПАДНЯ́К** *м.* Ніжні камень у жорнах. *Першы камень ад поду ў жорнах – спадняк.* Квасевічы Квас.

**СПАКАЙНЕ́Й** *прысл.* Больш спакойна. *Пайшла на пенсію, то спакайней стало.* Зялёны Бор Стайк.

**СПАНІ́ЦА** *ж.* Спадніца. *Дастала спаніцу дзявочую сваю, каб пахваліцца, а яе ўсю моль пабіў.* Квасевічы Квас.

**СПАРНЯ́К** *м. бат.* Тое ж, што і с м я ц ю х. *Спарняку много ў жыці, трэба прасіць у каго другого насення.* Заполле Кос.

**СПАРО́ЦЦА** *зак.* Рана прачнуцца, устаць з пасцелі. *Чаго вы спароліся рано, кладзецяся яшчэ спаць.* Заполле Кос.

**СПАРО́ЦЬ** *зак.* Рана разбудзіць, падняць. *Бало, спора маці, яшчэ цёмно, як жанем каровы.* Заполле Кос.

**СПАРЫЖАВА́ЦЬ** *зак.* Паралізаваць. *Суседку нашу спарыжавало, ужэ трэйці год ляжыць, ні папраўляяцца.* Аўсто Стайк.

**СПАРЫ́НКА** *ж. бат.* Тое ж, што і с м я ц ю х. *Як завядзецца спарынка, то бяда.* Куляшы Міл.

**СПАС** *м.* Ратунак. *Спасу ад гэтых п'яніц німа, яно дай грошы ды дай.* Бараны Ягл.

**СПАСКУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Абы-як выканаць работу. *Не згараў, а спаскудзіў агарода, увесь гной навярху.* Лазаўцы Міл.

**СПЕ́РЦІСЯ** *зак.* Сабрацца ў адным месцы (пра ваду). *Пасля дажджу вада так сперлася, ажно паверх асфальту пабегла.* Боркі Падст.

**СПІ́ЦА** *ж. заал.* Невялікі шчупак. *Спіца – малады шчупак.* Корачын Жытл.

**СПЛА́КАЦЦА** *зак.* Плакаць да знямогі. *Сплакалася мая ўнучка, аж хліпая: двойку палучыла ў школі.* Мілейкі Міл.

**СПЛАХЕ́ЦЬ** *зак. безас.* Дрэнна сябе адчуць. *Як убачыла нявестку: малая, пуцата – ажно сплахело.* Заполле Кос.

**СПЛЯНДРАВА́ЦЬ** *зак.* Тое ж, што і с п а л а с а в а ц ь. *Сплянравалі каравы ўсе картоплі, а пастух сабе лёг ды спіць.* Була Міл.

**СПЛЯНТАВА́ЦЬ** *зак.* Падрыхтаваць аблогу пад пасеў – ачысціць ад камення, карчы павырываць. *У лесі знайшоў палянку, сплянтаваў, на весну ячмень пасею.* Альшаніца Квас.

**СПО́ДНЯЕ** *н.* Бялізна. *Сподняе было кужольнае, мяккае.* Була Міл.

**СПО́КУЙ** *м.* Спакой. *Дай мне, чалавеча, спокуй, не дуры галавы.* Міхнавічы Стайк.

**СПО́ЛКА** *ж.* Суполка. *У гурце ўсё бывая, і крыкі, і смех. Нездарма ў нас кажуць: "Сполка – колка".* Заполле Кос.

**СПО́МНІЦЬ** *зак.* Згадаць, успомніць. *Спомніла, шчо газ ні выключыла, да бягом дахаты.* Бусяж Міл.

**СПОР** *м. бат.* Тое ж, што і с м я ц ю х. *Зара спору ў жыці німа, вывялі, а даўней много было.* Няхачава Стайк.

**СПО́РНЫ** *прым.* Удалы (пра хлеб). *Спякла хлеб. А гэдыкі спорны!* Альшаніца Квас.

**СПРАГЧЫ́СЯ** *зак.* 1. *перан.* Змовіцца, згаварыцца. *Бач, як спрагліся, цэлымі начамі яблыкі тралююць з калхознага саду. Як родныя сталі, забыліся і на сварку.* Быч Стайк. 2. Памерці. *Каб ты спрогся, каб па табе вячэру з'елі, як ты мне пад пазур залез!* Альшаніца Квас.

**СПРО́НЖКА** *ж.* Спражка. *У яго на папрузі спронжка ваенная, блішчастая.* Падстарынь Падст.

**СПРЫ́НДЗІЦЦА** *зак. груб.* Згінуць, прапасці. *Як паехаў на цаліну, то недзі там і спрындзіўся.* Бялавічы Кос.

**СПРЫНЖЫНО́ЎКА** *ж.* Культыватар. *Паглядзі, як Антось выпытляваў поле спрынжыноўкай.* Размеркі Стайк.

**СПРЫХО́ДУ** *прысл.* З краю, бліжэй да выхаду. *Спрыходу, бывае, ягады лепшыя, чым у сярэдзіне ягадніка.* Верашкі Квас.

**СПРЭЦЬ** *зак.* 1. Сапрэць, згніць. *Спрэло знізу сено без падка.* Рацкевічы Міл. *Спрэя гэто дабро, нікому яно ні трэба.* Галік Міл.

**СПУСКА́ЦЬ** *незак.* Выпадаць, мяняць (пра зубы). *Карова зубы спуская, бо маладая.* Руда Падст.

**СПУ́СКЛІВО** *прысл.* Адхоніста, паката, спадзіста. *Дзеці на лыжах з горкі любяць з'язджаць. Бало, усё мы шукалі, каб спускліво было.* Заполле Кос.

**СПУСТ** *м.* 1. *стал.* Фуганак. *Спуст доўгі, ім дошкі падганяюць адна да аднае.* Сакоўцы Міл. 2. Жолаб, па якім цячэ і падае вада на кола. *Па спусце бяжыць спертая вада і падая на кола.* г. Косава.

**СПУ́ШЫЦЬ** *зак. безас.* Уздуць. *Грушэй наеўся, ажно спушыло.* Гладышы Міл.

**СРА́КА** *ж.* 1. Ніжняя частка збанка. *Пабілі збанка, яно срака засталася.* 2. Частка снапа ніжэй ад перавясла. *Снапа ставіш на землю сракай.* Альшаніца Квас.

**ССА́ДЗЕЦЬ** *незак.* Шчымець. *Абдзёр руку, надто раны ссадзяюць.* Гошчава Стайк.

**ССЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Адсядзець. *Ссядзяў ногу, не ступлю.* Сакоўцы Міл.

**ССЕ́КЧЫ** *зак. экспр.* Набіць, адлупцаваць. *Палезла ў чужы агарод, то маці ссекла на горкае яблыко. Вось як нас вучылі!* Сенькавічы Падст.

**ССЯКНУ́ЦЦА** *зак.* Навярэдзіць (пра пазваночнік). *Падняў мех з картоплямі да ссякнуўся, баліць спіна.*

г.Косава.

**СТАЕ́ЛЬНЫ** *прым*. Выязны (пра каня). *Быў у нас конь, малады, гарачы. Мы яго не запрагалі ў плуг, трымалі за стаельнага.* Заполле Кос.

**СТА́ЛКА** *ж*. Столка. *Вяроўкі ўюць у чатэры сталкі.* Грыўда Міл.

**СТАЛЬНІ́ЦА** *ж*. Кухонная дошка. *Сало трэба на стальніцы рэзаць, а не на стале. Для чаго я яе купляла?!* Азярцо Падст.

**СТАНАЎКО́М** *прысл*. Старчма. *Лён рвуць і ставяць станаўком, у кучкі.* Харошча Міл.

**СТАНО́К** *м*. 1. Прыстасаванне, на якім пілуюць дровы. *Станок трэба зрабіць, а потым дрова рэзаць.* Плехава Люб. 2. Прыстасаванне для віцця вяровак. *У суседа майго быў станок, у яго на надворку ўсё вілі вяроўкі.* Хадоркі Кос. 3. *ткац*. Прыстасаванне, у якое ўстаўляецца вітушка для навівання асновы. *Вітушка знізу ўстаўляецца ў станок, а зверху мацуяцца да столі. Вітушку круціш і навіваяш аснову.* Альшаніца Квас.

**СТАРАНА́** *ж*. Частка памяшкання, куды складаюць снапы, сена. *Накасіў гэтым годом цэлую старану сена.* Заполле Кос.

**СТАРА́Я** *прым*. Позна скошаная (пра траву). *Гаспадар з цябе, ідзеш касіць, калі пераспела трава, старая, як дубцы.* Заполле Кос.

**СТАРЫ́ МЕ́СЯЦ** *м*. Апошняя квадра месяца, ветах. *Кажуць, косы дзяўчатамніможно адрэзваць, калі стары месяц. Расці ні будуць.* Альшаніца Квас. *Авечкі ні стрыгуць у стары месяц, бо воўна ні будзя расці.* Халап'я Падст.

**СТАЎ** *м*. Панарад. *Стаў – гэто воз без калёс.* Любішчыцы Любішч.

**СТАЎБУ́Н, СТУЎБУ́Н** *м*. Аб'едзенае сцябло расліны. *Карова так аб'есць лебяду, адны стаўбуны тырчаць.* Боркі Падст. *Чэрві аб'елі ўсю капусту, ано стуўбуны тырчаць.* Альшаніца Квас.

**СТА́ЎДУР** *м. і ж. абразл.* Высокі чалавек. *Ні дзеўка, а стаўдур, як яна сабе жаніха дабярэ.* Панкі Люб.

**СТАЎПЕ́Ц** *м.* 1. Брусок у граблях, у які ўстаўляюцца зубы. *Стаўпец у граблях або бярозавы, або есянёвы.* Аляксейкі Стайк. 2. Брусок у весніцах, веснічках. *Аснова ў вешніцах, вешнічках складаецца з двух стаўпцоў і двух папярочак.* Заполле Кос.

**СТАЦІ́ВА** *ж. ткац.* Аснова кроснаў; станіна. *Бакавіны ў кроснах – стаціва.* Старажоўшчына Кос.

**СТАЯ́К** *м.* Ніжняя частка ступы. *Апора, аснова ступы – стаяк.* Заполле Кос.

**СТО́РАЖ** *м.* 1. Вартаўнік. *Кажуць, у Германіі німа старажэй.* Майск Люб. 2. *ткац.* Нітка на жалежным прутку ў сукале. *Прыладзіш цэўку на пруток, насучаш трохі ніток па ўсёй цэўцы, а тады ўжэ стоража ніткамі мацуяш, каб цэўка ні злятала.* Альшаніца Квас.

**СТРАХАПУ́ДЗІНА** *м. і ж. зневаж.* Чалавек, знешні выгляд якога выклікае абурэнне, агіду; пудзіла. *Гэта модніца на страхапудзіну падобна, яно яе ў агарод гараб'ёў палохаць.* Заполле Кос.

**СТРАХО́ЎКА** *ж. этнагр.* Дошчачка, якой раўняюць страху, як крыюць саломай. *Саломаю даўней хаты крылі, то ў кожнаго страхоўка была.* Аўсто Стайк.

**СТРАЧЫ́ЦЦА** *незак.* Гізавацць. *Як пачуюць каравы строка, не ўтрымаць на пашы, так строчацца, шукаючы ратунку.* Заполле Кос.

**СТРОК** *м. заал.* Авадзень. *Строк, як пчала, але большы, надто яго каравы баяцца.* Любішчыцы Люб.

**СТРУ́ГА** *ж.* 1. Багна, дрыгва. *Стругі баяліся, каб ні ўлезці.* Заполле Кос. 2. Куп'істае мокрае балота. *Правальваешся ў струзі: адной нагой ступаяш, а другую ледзьві выцягняш.* Альшаніца Квас. 3. Дрыгвяністае балота сярод лесу. *Пад Ворляю струга была, купіны велькія, вада стаяла, страшно было хадзіць.* Бялавічы Кос. 4. Нізкае мокрае месца. *Дзе моцно грузко, то гэто струга.* Квасевічы Квас.

**СТРУГА́ЦЬ** *незак. ткац.* Касмаціць, камлаціць. *Як стружа бердо, то ніці мажуць адварам з льняного семя.* Заполле Кос.

**СТРЭМП** *м.* Частка зламанага дрэва, якая засталася стаяць. *Бурай паламало лес, адны стрэмпы стаяць.* Заполле Кос.

**СТУ́БЛО** *н.* Грузкія глыбокія ямы ў балоце. *У стублах і ў гарачую летнюю спёку гразко, не ступіш, прорва.* Заполле Кос.

**СТУ́ЖАЦЬ** *зак.* Абсохнуць, увабраць у сябе вільгаць. *Зямля за ноч стужала, хоць цвёрдо пад нагамі стало.* Заполле Кос.

**СТУ́ЖЫЦЬ** *незак.* Зрабіць тугім, уціснуць. *Перавяжаш перавяслячком снапа, а тады клымбом стужыш, уцісняш.* Заполле Кос.

**СТУПА́** *ж.* Ступня. *У цябе ступа, як у Лагача, 45 размера.* Альшаніца Квас.

**СТУ́ПІЦА** *ж.* Калодка (у коле). *Ступіца ў калясе.* Бараны Ягл.

**СТУПІ́ЦЦА** *зак.* Стаць кароткім ці малым пасля мыцця. *Сукенка яшчэ новая, а памыла, то ступілася, ано на дзіця.* Хадоркі Кос.

**СТУ́СІНА** *ж.* 1. Пуга. *Ля каня трэба, каб яшчэ добрая стусіна была.* Мілейкі Міл. 2. Дубец. *Стусіна – гэто гнуткі доўгі дубец.* Альшаніца Квас.

**СТЭ́ЎДУР** *м і ж.* Тое ж, што і с т а ў д у р. *Ужэ добры стэўдур, а з дзяцьмі граяшся.* Квасевічы Квас.

**СУГО́РАК** *м.* Узгорак, пагорак. *На сугорку ніц ні вырасця: за лето сонцо выпячэ, выжарыць.* Заполле Кос.

**СУДАСІ́ЦЬ** *зак.* Здарыцца, напаткаць. *Ба, як Зосю судасіло: то ногу зламала, то сын у аварыю папаў.* Заполле Кос.

**СУ́ДАЧКІ** *толькі мн.* Веснічкі. *Нехто не закрыў на ноч судачкі, павыпускаў авечкі, ні ведаю, дзе іх шукаць.* Заполле Кос.

**СУ́ДЗІНА** *ж.* Вялікая бочка, у якую ссыпалі зерне. *Прымаўку маці мая ўсё казала: "Як судзіна поўна, то і гаспадынька моўна".* Заполле Кос.

**СУКА́ЙЛО** *н.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога навіваюць ніткі на цэўкі; сукала. *Ніткі на сукайлі сукаць – дзіцячы занятак.* Заполле Кос.

**СУКАЧЭ́** *мн.* 1. *ткац.* Няроўнасці на паверхні палатна з-за дрэннай пражы. *Хто ні ўмея прасці і нітку вядзе то танчэй, то таўшчэй, то сукачэ будуць відны на палатне.* Альшаніца Квас. 2. Бруд на целе. *На сенакосе пабудзяш цэлы дзень, станяш мыцца, ажно сукачэ качаюцца на целі.* Скураты Квас.

**СУС** *м.* Кухталь, штурханец. *Гадкі хлопяц у Галі, спадцішка сусоў надаваў маёй дзеўчыні.* Була Міл.

**СУ́СЛО** *н.* Самаробная соска. *Даўней хлеб жавалі, клалі ў льняную ганучку і давалі дзіцяці ссаць.* Альшаніца Квас.

**СУСТРЭ́ЧА** *ж. абрад.* Частка вясельнага абраду. *Едуць маладыя з вянца, то ля хаты маладой вясковая молодзь ладзіць сустрэчу: прывязваюць дзве бярозкі да шулы ў варотах хаты, звязваюць іх вярхі, утвараючы браму. Ставяць стол, на стол сваю гарэлку, хлеб, соль. Прыязджаюць маладыя з вясельнікамі. Маладых, свата са сваццяй і дружыну запрашаюць для вітання. Наліваюць чаркі маладым, зычаць ім дабра, шчасця, падкідваюць, пасадзіўшы на зэдлік, на ўра. Гэдык робяць з усёй дружынай, са сватам і сваццяй. За ўсё гэта просяць гасцінец: гарэлку ды закуску.* Заполле Кос.

**СУ́ТАЧКІ** *толькі мн.* Вузенькая дарожка між платамі. *Усё сутачкамі вадзілі коні на выган.* Альшаніца Квас.

**СУХАВЕ́ЙКА** *ж. бат.* Цмен пясчаны. *Сухавейка ад жаўцюхі памагая.* Заполле Кос.

**СУХАПАСТО́Й** *зб. м.* Сухастой. *Казалі, што сухапастою нельга было ў зруб класці: хварэць будуць у такой хаці. Яглевічы Ягл.*

**СУХАРЭ́БРЫК** *м. экспр.* Худы чалавек. *Сухі, худы, адны*

*рэбры, вось табе і сухарэбрык.* Бусяж Міл.

**СУ́ЧКА** *ж.* Малая самапрадка, калаўрот. *Сучка – маленькая каваротка, надто добра на ёй воўну прасці.* Альшаніца Квас.

**СУ́ЧКІ** *мн.* Падсанкі, якімі карыстаюцца пры перавозцы доўгіх бярвенняў. *Каб хлысты ні валакліся па зямле, канцы хлыстоў клалі на сучкі.* Заполле Кос.

**СХАДНЕ́Й** *прысл.* Па сходнай цане, танней. *У гэту нядзелю схадней парасят купіла.* Сенькавічы Падст.

**СХВАТ** *м.* Прылада для вымання патэльні з печы. *Возьмеш схвата, то пятэльню на самы вялікі агонь паставіш.* Альшаніца Квас.

**СХНУ́ЦЬ** *незак.* Сохнуць. *Атаву скосіш раней, то схне хучэй.* Быч Стайк.

**СХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Узыходзіць (пра сонца, месяц). *На Яна сонцо як сходзіць, то, кажуць, грая.* Сакоўцы Міл.

**СХО́ДНЫ** *прым.* 1. Памяркоўны (пра характар чалавека). *Сходны чалавек, з ім можно паладзіць.* Альба Квас. 2. Пра цану тавару, якая задавальняе прадаўца і пакупніка. *Па сходнай цане купіў цялушачку ў свата.* Заполле Кос.

**СХРОН** *м.* Схоў. *У вайну на агародах людзі схроны рабілі.* Яглевічы Ягл. *У кожнай жонкі е схрон ад мужыка.* Бялавічы Кос.

**СЦЕ́ЖАР** *м.* Жэрдка, якую ставяць у сярэдзіну стога. *Гэто зараз не ставяць сцежар у стажку, а даўней ставілі, бо сено дробнае было.* Заполле Кос.

**СЦЕ́ПЛЕЦЬ** *зак. безас.* Пацяплець. *Маразы трашчалі два тыдні, дзякуй Богу – сцепляло.* Заполле Кос.

**СЦЕПЯНУ́ЦЬ** *зак. 1. безасаб.* Страсянуць. *Аж сцепянуло ад холаду.* Руда Падст. 2. *экспр.* Тузануць. *Сцепяні яго за каўнер, то як міленькі прызнаяцца.* Верашкі Квас.

**СЦЁ́ПКА** *ж.* Кладоўка. *У нас кажуць каморка, а ў Скуратах – сцёпка.* Альшаніца Квас.

**СЦІБА́ЦЬ** *незак.* Ісці хутка, шырокімі крокамі. *Старая*

# Т

**ТАБАРЭ´ТКА** *ж.* Табурэтка. *Пастаў табарэтку і абірай вішні.* Юкавічы Стайк.

**ТАБАЧКО´ВЫ** *прым.* Зеленавата-карычневы. *Купіла сукенку сабе табачковаго коляру.* Галенчыцы Ягл.

**ТАБЛЯВА´ЦЬ** *незак.* Замацоўваць у зрубе адно бервяно да другога пры дапамозе драўляных шыпоў. *Сцены таблюють тэблямі, каб ні пакруціло.* Яблонка Жытл.

**ТАКАВУ´СЬКІ** *займ.* Такі самы. *Картоплі выгорваюцца леташнія, такавуськія ляжаць.* Жамайдзякі Міл. *Думала, спрэла мая блюзка, лежачы ў сундуку, дастала, а яна такавуська.* Харошча Міл.

**ТАКВЕ´ЛЯ** *прысл.* Так многа, столькі. *Я сёні таквеля ягад назбірала, ажно самой ні верыцца.* Альшаніца Квас.

**ТАЛМУ´ДЫ** *мн. перан.* Кнігі. *Заваліў гэтымі талмудамі ўсю хату.* Заполле Кос.

**ТА´ЛУБ** *м.* Вонкавая частка чаго-н. *Мышы павыносілі гарбузянята з гарбуза, адзін талуб застаўся.* Заполле Кос.

**ТА´ЛЬКА** *ж.* Маток мулінэ. *Купі пяць талёк горыню чырвонаго.* Альшаніца Квас.

**ТА´МАКА** *прысл.* Там, вунь. *Тамака музыка грая.* Ёдчыкі Квас.

**ТАПАРНЯ´К** *м.* Тонкі лес, які можна высекчы сякерай. *Прывёз добры воз тапарняку, можно будзя і сякерай на дрова парубаць.* Старажоўшчына Кос.

**ТАПАРЫ´СКО** *н.* Тапарышча. *На тапарыско даўней шукалі чачотаву бярозу.* Грыўда Міл.

**ТАПЛЯ´К** *м.* Дрэва, якое ляжала ў вадзе. *З дуба-тапляка робяць мянташкі.* Стайкі Стайк.

**ТАРАХТА´ЙКА** *ж. абразл.* Воз, калёсы. *Зараз вазы на гумавых калёсах, а даўней гэтыя тарахтайкі грукацелі жалезом па каменнях.* Заполле Кос.

**ТА´РКА** *ж.* Дошка з выступамі-грабянямі для мыцця

бялізны. *Зараз машынай мыюць, а даўней на тарцы аджымалі.* Заполле Кос.

**ТАРПА́** *ж.* 1. Торф. *На тарпе ўсе расце: і картоплі, і буракі, і моркоў.* Альшаніца Квас. 2. Торфабрыкет. *Тарпы дзве тоны прывёз, на ўсю зіму будзя.* Альшаніца Квас.

**ТАРПАТЫ́Н** *м.* Шкіпінар, тарпатына. *Тарпатыном націраюць грудзі ад кашлю.* Даргужы Міл.

**ТАРФЯ́НІСКО** *н.* Тарфянішча. *Тарфяніско летом гарэло.* Заполле Кос.

**ТАРЭ́НЧЫЦЬ** *незак.* Цягнуць, валачы. *Куды ты сумку тарэнчыш? Можа, да дачкі?* Гошчава Стайк.

**ТАЎКЕ́НЯ** *ж. кулін.* Тое ж, што і к а м я к. *Люблю таўкеню, як у пячэ запячэцца, усмажыцца.* Квасевічы Квас.

**ТАЎСЦЕ́РАЗНЫ** *прым. павел.* Таўшчэзны. *Такі корань у баравіка быў таўсцеразны, зроду такого ні бачыў.* Скураты Квас.

**ТАЎСЦЮ́ХА** *ж. бат.* Таўстуха. *Таўсцюхі тоўсценькія, чысценькія, марынаваныя смачныя.* Заполле Кос.

**ТАХТА́** *ж.* Такт, раўнамернае чаргаванне ўдараў. *Як у тахту пападзеш, то ў тры цэпы малацілі.* Альшаніца Квас.

**ТКА́ЛЯ** *ж.* Жанчына, якая тчэ; ткачыха. *Мая мама – здатная ткаля была.* Альшаніца Квас.

**ТКО́ЛЯ** *прысл.* На ўсякі выпадак, наўгад. *Хадзем тколя ў лес, мо маліна паспела.* Гладышы Міл.

**ТО́НЯ** *ж.* Затока. *На рэчцы Грыўда е место, якое называяцца Марусіна тоня.* Сенькавічы Падст.

**ТО́ЎСТА** *ж.* Цяжарная. *Кажуць, Таццяна ўжэ шостым тоўста.* Руда Падст.

**ТРАЙКО́** *ліч.* Трое. *Слава Богу, трайко дзетак нажылі.* Галынка Міл.

**ТРАЙЦЯ́К** *м. устар.* Трэцяя частка надзела зямлі. *За ёй у пасаг бацькі некалі далі трайцяк зямлі. Зараз гэто прыкладно шэсць гактароў.* Сакоўцы Міл.

**ТРАЙЦЯ́ЧКА** *ж.* Цялушка ў 3 гады. *Добра, як цялушка трайцячкай пабегая: з яе добрая карова будзя.* Рацкевічы Міл.

**ТРАЛЯВА́ЦЬ** *незак.* 1. Звозіць, звалакаць зрэзаныя дрэвы ў адно месца. *Пілою спусцяць дзеравіну, а тады канём тралююць.* Бялавічы Кос. 2. *перан.* Насіць, валачыць. *Кожны дзень да поязда сумкі з яблыкамі тралюя: мусі, капейку добрую мая.* Бялавічы Кос.

**ТРА́МЫ** *мн.* Вышкі ў хляве. *Гэты год поўныя трамы забіў сеном, думаю, карові хваціць.* Плехава Люб.

**ТРАПА́ЦЦА** *незак. асудж.* Лёгкадумна паводзіць сябе. *Ззамаладу трапалася – з тою славаю і пamрэ.* Размеркі Стайк.

**ТРАПА́ЦЬ** *незак. перан.* Гаварыць бязглуздзіцу. *Трэпляш ты абы-што.* Бусяж Міл.

**ТРАПА́ЧКА** 1. *ж.* Трапло. *Трапачка – прылада, якой трэплюць лён.* Падстарынь Падст. 2. *м. і ж.* Пустабрэх. *У гэтае трапачкі ў мінюту сто слоў вылятае і ўсе – пацяруха.* Падстарынь Падст.

**ТРАСА́ЛКА** *ж. тэх.* Бульбакапалка. *Зараз лягчэй стало картоплі капаць: з Польшчы трасалок навязлі.* Няхачава Стайк.

**ТРАХТАВА́ЦЬ** *незак.* Тое ж, што і т р а л я в а ц ь 2. *Трахтуя маці гэтым дзецям сумкі, а яны лянуюцца прыехаць з горада.* Була Міл.

**ТРО́ПНУЦЬ** *зак.* Стукнуць, ляснуць. *Тропні па рукам, калі бярэ запалкі.* Заполле Кос.

**ТРУСКАЎ́КІ** *мн.* Трускалкі, клубніка. *Трускаўкі першыя ягады, якія спеюць.* Бараны Ягл.

**ТРУХЛЯ́ВЫ** *прым.* Дуплаваты. *Рэдзька трухлявая, бо велькая парасла.* Мілейкі Міл.

**ТРУХЦЕ́ЦЬ** *незак.* Утвараць глухі гук (пра надтрэснуты посуд). *Трэснуў збан, ажно трухціць.* Заполле Кос.

**ТРЫБ** *м.* Трыба, лясная прасека. *Трыбом можно напрамую папасці ажно ад нас у Смольню.* Бялавічы Кос.

**ТРЫ́БЛО** *м. і ж. груб.* Чалавек з вялікім трыбухом, чэравам. *Гэтае трыбло не ўкорміш.* Лазаўцы Міл.

**ТРЫМА́ЦЬ** *незак.* Гадаваць, разводзіць. *Хто трымая*

*карову, свіней, курэй, то работы ўдома хапая.* Аўсто Стайк.

**ТРЫ´МКАЦЬ** *незак.* Брынкаць. *Ні трымкай ля вуха, бо паляціць твая гітара на гуліцу.* г. Косава.

**ТРЫМЦЕ´ЦЬ** *незак. экспр.* Трасціся, дрыжаць ад жадання. *Гэдык хоча навучыцца на ровары ездзіць, аж трымціць.* Куляшы Міл.

**ТРЫНДЭ´ЛІЦЬ** *незак. экспр.* Доўгі час гаварыць пра адно і тое ж. *Надакучыло ўжэ: трындэліш ды трындэліш пра адно і тое ж цэлы вечар.* Заполле Кос.

**ТРЭ´ЛІЦЬ** *незак.* Тое ж, што і т р ы н д э л і ц ь. *Цэлы час трэліш, а я і ні ведаю, чаго ты хочаш.* Аляксейкі Стайк.

**ТРЭЛЬ** *ж.* Месца, куды звалакаюць, звозяць зрэзаныя дрэвы. *Дзеравіну зрэжуць, а тады ў трэль валакуць трактаром.* Квасевічы Квас.

**ТРЭ´ПЫ** *мн.* Басаножкі на драўлянай падэшве. *Пасля вайны трэпы насілі.* Альшаніца Квас.

**ТУ´БЕЛЬНІК** *м.* Старажыл. *Яны прыезджыя, тут мало тубельнікоў.* Заполле Кос.

**ТУДО´МІ** *прысл.* У тым напрамку, у той бок. *Тудомі ідзі, бліжэй будзя.* Альба Квас.

**ТУКАЦЕ´ЦЬ** *незак.* Стукаць. *Нехто тукаціць у дзверы.* Азярцо Падст.

**ТУ´МАР** *м.* Пануры, нелюдзімы чалавек. *Вось з гэтым тумаром века дажываю.* Заполле Кос.

**ТУ´МБА** *ж. буд.* Выемка, гняздо ў бэльцы, куды ўстаўляецца прамавугольны шпень кроквы. *У бэльках выдзёўбваюцца тумбы, куды ўстаўляюцца пальцы кроквоў.* Заполле Кос.

**ТУПАВА´ТО** *прысл.* Туга, дрэнна. *"Як у вас з прадуктамі?" – "Тупавато".* Заполле Кос.

**ТУ´ПКО** *прысл.* Цвёрда пад нагамі, можна прайсці (пра балота). *Ступай сюды, тут тупко, можно прайсці.* Заполле Кос. *Замочвалі калёсы ў Бродзі: там заўсёды тупко было.* г.Косава

**ТУ´РЗАЦЬ** *незак.* 1. Торгаць, трасці. *Чаго ты мяне*

*турзаяш за грудзі?* Заполле Кос. 2. *перан.* Тузаць, ныць (пра боль). *Паляц нарывая, то гэдык турзая, цэлу ноч ні спаў.* Заполле Кос.

**ТУ´РОК** *м.* 1. Турак. *У кургане туркі пахаваны.* Даргужы Міл. 2. *перан.* Неразумны чалавек. *Гэты турок усё робіць па-свойму і ўсё па-дурному.* Ятвезь Квас.

**ТУ´РЫЦЬ** *незак. экспр.* Гнаць (пра самагонку). *Турыць самагонку як днём, так і вечаром, і міліцыі на яе німа.* Квасевічы Квас.

**ТУ'ТАКА** *прысл.* Тут. *Тутака жыў пісьменнік Яраслаў Пархута.* Мілейкі Міл.

**ТУ´ХЛЯЦЬ** *незак.* 1. Марнець, гібець. *Гэты чалавек не жыве, а тухляя.* Альшаніца Квас. 2. Ляжаць, пазбягаць працы, валяцца. *Цэлы дзень тухляя на гэтом ложку, а трава ў агародзі някошаная стаіць.* Заполле Кос.

**ТУШО´НІКІ** *мн. кулін.* Тушаная бульба. *На абед у нас тушонікі.* Альшаніца Квас.

**ТХНУЦЬ** *незак.* 1. Патыхаць, несці, веяць чым-н. *Вецяр падуў, то тхнуло такім смыродом, хоць нос затыкай.* Заполле Кос. 2. Пачаць псавацца, смярдзець. *Мясо тхне, выкідай ці вымочвай.* Заполле Кос.

**ТЫ´РКАЦЬ** *незак.* Бадзяцца, валэндацца. *Тыркаюся во цэлы дзень у хаці і работы ні відно.* Хрышчонавічы Квас.

**ТЫ´ЦАЦЬ** *незак.* Тыцкаць. *Што ты тыцаяш сваю балячку пад нос, ні хочаш рабіць, то так і скажы.* Любішчыцы Люб.

**ТЫ´ТУС** *м. мед.* Тыф. *Каб цябе тытус забраў!* Заполле Кос.

**ТЫ ´ЧКА** *ж.* Шост з круком на канцы, якім дастаюць вядро са студні. *У мяне тычка новая, яловая.* Яглевічы Ягл.

**ТЫЧКО´ВАЯ ПАСО´ЛЯ** *ж.* Гатунак фасолі. *Тычковая пасоля ўецца па тычцы.* Зыбайлы Жытл.

**ТЭ´БЕЛЬ** *м.* 1. *буд.* Інструмент для свідравання дзірак у бервяне. *Тэблём круцяць дзіркі ў дзераве.* Заполле Кос. 2. Драўляны шып, якім мацуюць бярвенні ў зрубе. *Тэбляў, як будуюць хату, много трэба.* Заполле Кос.

# У

**УАДНО́СТАЛЬ** *прысл.* У адну столку. *Ручнікі выткала, скруціла ўадносталь, схавала: унукам будзя.* Альшаніца Квас.

**УБІ́ЦЬ** *зак.* Заплаціць чалавеку не па колькасці здадзенага малака, а па яго якасці. *Я здала за месяц сто літроў малака, але тлустасць у мае каровы 3,2%, то ўбілі 3 літры.* Заполле Кос.

**У БАРО́ЗНЫ** *прысл.* Спосаб пасадкі бульбы. *У барозны садзяць так: прайшоў круг – пасадзілі, другі ідзе – прапускаюць, трэці – зноў садзяць, і так далей.* Заполле Кос.

**У БЛІ́ЗНА** *прысл.* Спосаб пасадкі бульбы. *У блізна так садзяць: дзве баразны падрад садзяць, а трэцяя – пустая.* Заполле Кос.

**УБО́ІСКО** *м.* Лянівы, непаваротлівы чалавек. *Ці ж гэто чалавек? Убоіско. З печы ні злазіць.* Юкавічы Стайк.

**УВАДВО́Й** *прысл.* У дзве столкі, удвайне. *Выткала радзюшок у 12 цэпоў, скруціла ўвадвой, прыедуць дочкі, дочкам аддам.* Альшаніца Квас.

**УВАЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. *экспр.* Набіць, стукнуць. *Як уваліў кіём па карові, то аж, бедна, прысела.* Жытлін Жытл. 2. *перан.* Заплаціць. *Уваліла гэдыкія грошы за туфлі, а ў іх на другі дзень падэшва адвалілася.* Хрышчонавічы Квас.

**УВАПРЭ́ЦЬ** *зак.* Упацець. *Пакуль па цаліку прайшоў, то весь увапрэў.* Размеркі Стайк.

**УВІЛЬНУ́ЦЦА** *зак.* Памерці, мала хварэўшы. *Ба, як Андрэй увільнуўся, яшчэ ўчоры бачыў яго ў магазіні.* Любішчыцы Люб.

**УВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Набіць, адлупцаваць. *Памятаю, палез у чужы сад па яблыкі, то пакойны бацько мне добра ўвярнуў.* Заполле Кос.

**УГАНУ́ЦЬ** *зак.* Угадаць. *Угані, шчо я ў руцэ трымаю.*

Заполле Кос.

**УГРЭ´БАЦЬ** *незак.* Зграбаць. *Даўней пройдзяш баразну, а тады гной угрэбаяш граблямі ў баразну.* Заполле Кос.

**УГРЭ´БЦІ** *зак.* Згрэбці. *Трэба ісці, пагода стаіць, можа, якую капіцу сена і сам уграбу.* Заполле Кос.

**УДА´Р** *м. этнагр.* Месца, па якім ударылі, выцялі. *Трэба схадзіць да Зосі, каб пагаварыла ад удару.* Альшаніца Квас.

**УДВАЕ´** *прысл.* Удвая. *Ты яму зробіш добра, то ён табе ўдвае.* Альшаніца Квас.

**УДЗІВАВА´ЦЦА** *зак.* Уразіцца, здзівіцца. *Як вытраслі капалкаю картоплі, то ўдзівуваўся – горамі ляжаць.* Альшаніца Квас.

**УДО´МА** *прысл.* У доме, у хаце. *Прыходзь узаўтры, я ўдома буду.* Заполле Кос.

**УДУ´ХА** *ж.* Астма. *Німа як жыць: удуха мучыць.* Альшаніца Квас.

**УЕ´ДЛІВЫ** *прым.* Прыдзірлівы. *Німа спасу : такі ўедлівы мой чалавек.* Заполле Кос.

**УЖЫ´ЦЬ** *зак.* Пажыць у дастатку. *Вера за сваім мужыком што ўжыла, то ўжыла.* Квасевічы Квас.

**УЖЫ´ШЧА** *ж.* Доўгая тоўстая вяроўка. *Сено ўціскалі ўжышчай.* Альшаніца Квас.

**У ЗАМО´К** *прысл. буд.* У гладкі вугал. *Кажуць у нас так: робяць гладкі вугал у замок у адзін палец, у два пальцы.* Заполле Кос.

**УЗА´ЎТРЫ** *прысл.* Заўтра. *Узаўтры да Косава паеду.* Альшаніца Кос.

**УЗВАРО´Т** *м.* Месца ў канцы загона, дзе разварочваліся коньмі. *Гарэш, то на ўзвароце добра трэба глядзець, каб коні ў пастронкі ні запуталіся.* Заполле Кос.

**УЗДО´Р** *м.* Здор. *Сала німа, але ўздор е, дацягням да свят, а там будзям калоць свіню.* Куляшы Квас.

**УЗДУ´ХА** *ж.* Багна, гіблае месца на балоце. *Уздуха – дрыгва, там праходу німа ні чалавеку, ні скаціне – патапленне.* Альшаніца Квас.

**У´ЗІК** *м. бат.* Дуброўка прамая. *Узік, ці калган, цвіце дробным жоўтым цветом, лісты дробныя, пальцатыя. Расце ў лясных лугах у траве.* Заполле Кос.

**УЗУРЭ´** *мн.* Каленцы ў сцябле расліны. *Узурэ доўго сохнуць, а так сено можно ўжэ было б грабці.* Заполле Кос.

**УКАЛЫ´МІЦЬ** *зак.* Неспадзеўкі зарабіць. *Прывёз сено швагру: дзесяць рублей укалыміў.* Куляшы Міл.

**У КАПЕ´ЙКУ** *прысл.* Дорага. *Гэтыя дрова абышліся мне ў капейку.* Заполле Кос.

**УКВЕ´ЧАНЫ** *дзеепрым.* Упрыгожаны кветкамі, стужкамі. *Карова на Сёмуху прышла дахаты ўквечана.* Аўсто Стайк.

**УКВЯЛІ´ЦЬ** *зак.* 1. Уцвяліць. *Зуба ўквяліў, усю ноч ні спаў.* Кушняры Падст. 2. Давесці да плачу, пакрыўдзіць. *Уквяліў жонку, то і есці ні наварыла.* Боркі Падст.

**УКВЯЦІ´ЦЬ** *зак.* Упрыгожыць кветкамі. *Перш чым ехаць да маладое, трэба машыну ўквяціць.* Була Міл.

**УКЕ´ЎЗАНЫ** *дзеепрым.* Укачаны, упэцканы. *Хлопяц з гуліцы прышоў увесь укеўзаны.* Лазаўцы Міл.

**УКЛЯ´ПАЦЦА** *зак.* 1. *экспр.* Закахацца. *Укляпаўся ў суседку, кажа, жаніцца буду.* Мілейкі Міл. 2. Прычапіцца, прыстаць. *Укляпаўся я да чалавека, пакуль ні ўбачыў яго з твару: абазнаўся, а думаў Пятрусь Ладасоў.* Заполле Кос.

**УКРА´ДКОМ** *прысл.* Употай, тайна. *Украдком яблыкі з саду валочыць.* Гошчава Стайк.

**УКРУГАВУ´Ю** *прысл.* Кругом, усюды. *Укругавую хмарамі небо зацягнуло.* Быч Стайк.

**УЛЕ´ЦЯЦЬ** *зак.* Папасціся. *Мая дачка ўлецяла, то ўлецяла: гультай, і за яго, і за сябе робіць на ферміі.* Размеркі Стайк.

**УЛЯГА´ЦЬ** *незак.*Мець цягу да чаго-н., да каго-н. *Гэдык у ягады ўлягая, кожны дзень бегая ў лес.* Альшаніца Квас.

**УМЕ´РЦІ** *зак.* Памерці. *Я адна жыву, без дзяцей: мужыка на вайне забіло, адной умерці трэбо.* Няхачава Стайк.

**УМЯНЦІ´ЦЬ** *зак. экспр.* Умомант з'есці. *Ба, як есці*

*захацеў: у мінюту міску капусты ўмянціў.* Квасевічы Квас.

**УНІ´КНУЦЬ** *зак.* Прывыкнуць, прызвычаіцца. *Пайшоў я ў прымы ў гэтае сяло, хутко ўнік, знаю тут усіх ужэ.* Падстарынь Падст.

**УНУ´КА** *ж.* Унучка. *Мая унука вучыцца за доктара.* Верашкі Квас.

**УНУ´РЛІВЫ** *прым.* Пануры, хмуры. *Усё жыццё лесніком прарабіў, то гэдыкі ўнурлівы.* Яглевічы Ягл.

**УНЫ´ЛАСЦЬ** *ж.* Спецыфічны пах на пачатку гніення. *Слоіка з мясом адкрыла: уныласцю пахня.* Альшаніца Квас.

**УНЫ´ЛЫ** *прым.* Які пахне прэласцю, гніласцю, з "душком". *Я ні трымаю сало, мясо ў шклянках, як некаторыя, мне тое сало ўнылае, пах нехарошы ад яго. Я сало і мясо трымаю ў кубельцы.* Альшаніца Квас.

**УПА´ДЗІНА** *ж.* Паніжэнне на полі, нізінка. *У гэтай упадзіні век вада ні высыхая.* Хрышчонавічы Квас.

**УПЕ´РУД** *прысл.* Спачатку, перш. *Калі ўперуд альха распусціцца, то будзя мокры год, а як бяроза, то сухі.* Альшаніца Квас.

**УПЕ´РУЧ** *прысл.* Тое ж, што і ў п е р у д. *Уперуч я ў лесі рабіла, на смольні, а зара ў калхоз хаджу.* Воля Жытл.

**УПРАВУ´НОК** *м.* Штодзённы клопат па гаспадарцы. *Управунку много, гаспадарка велькая.* Заполле Кос.

**УПРЫПУ´СТ** *прысл.* Многа, уволю. *Сена даю ўпрыпуст, на поўную губу.* Заполле Кос.

**УПУСТАПА´Ш** *прысл.* Пустапасам, без нагляду. *Каравы сёні цэлы дзень упустапаш хадзілі: дзеці пасвілі, ні глядзелі.* Альшаніца Квас.

**УПЫНІ´ЦЬ** *зак.* Адагнаць, адвярнуць ад шкоды. *Упыні маю карову, у жыто пашла.* Любішчыцы Люб.

**УРАБІ´ЦЬ** *зак.* Наслаць чары, сурочыць. *Як урабілі мне, то папахадзіла па чмутарах, каб адгаварылі.* Альшаніца Квас.

**УРА´З** *м.* Хвароба жывата. *Спалохаўся моцно, ураз прыпаў. Трэба ісці да шаптухі якое.* Альшаніца Квас. *Ураз*

*прыпаў, бо падняў цяжко.* Заполле Кос.

**УРА́ЗНІК** *м. бат.* Крынічнік. *Уразнік расце ў сасновых лясах, але зараз рэдко яго ўбачыш: панішчылі, лес тралюючы трактарамі.* Бялавічы Кос.

**УРАСЦІ́** *зак.* Знерухомець, здранцвець. *Урос у зямлю ад страху.* Квасевічы Квас.

**УРО́КІ** *мн.* Сурокі. *Карова не даецца даіць: урокі, зайздрасць велькія.* Заполле Кос.

**УРО́СКІДЗЬ** *прысл.* Спосаб арання, пры якім пасярэдзіне загона атрымліваецца разора. *Гараць на зіму трэба ўроскідзь.* Заполле Кос.

**УРО́СКІДКУ** *прысл.* Тое ж, што і ў р о с к і д з ь. *Уроскідку гаруць, калі ні думаюць восяню сеяць, а ў адзін загон – гэто пад сяўбу.* Альшаніца Квас.

**УРО́ЧЫСКО** *н.* Урочышча. *Я налічыў каля нашаго сяла каля ста ўрочыскоў.* Заполле Кос.

**УРУБА́ЦЬ** *зак.* Насячы. *Урубай смальнякоў.* Хадакі Жытл.

**УРУ́НА** *ж.* Рунь. *Ні адгонішся ад варон, так і пасуцца на ўруні.* Заполле Кос.

**УРЭ́Х** *м.* Агрэх. *Урэхаў нарабіў гаручы. Пакапаў, як свіня, а ні згараў.* Альшаніца Квас.

**УСАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Прасолець. *Мясо ўсалело, можно і сырое есці.* Квасевічы Квас.

**УСМА́Л** *м.* Смалістая частка дрэва. *Гэтая шулка доўго прастаіць – адзін усмал.* Заполле Кос.

**УСЯНО́ЧНА** *ж. царк.* Ноч перад Вялікаднем. *Пайду на ўсяночну паску свянціць.* Бялавічы Кос.

**УСІ́ТАВЫ** *прым.* Трухлявы, паточаны. *Ёлка ўсітава гадзілася яно на лучыну.* Заполле Кос. *Усітава дзеравіна – на дрова, стрыжнёвая – на брус.* Аляксейкі Стайк.

**У СКЛАД** *прысл.* Спосаб ворыва ў адзін загон. *Восенню ўроскідзь гаруць, а вясною – у склад.* Падстарынь Падст.

**УСКО́ЧЫЦЬ** *зак.* 1. Трапіць. *Ускочыў у лужу, поўныя чаравікі вады набраў.* Скураты Квас. 2. *перан.* Няўдала

выйсці замуж, ажаніцца. *Ускочыла, як у агонь, і дзе мае вочы былі.* Гошчава Стайк.

**У´СЦІ** *толькі мн.* Жарало (у печы). *Гэдыкі каравай вырас, ажно ўсці разбіралі, каб дастаць.* Заполле Кос.

**УСЦІ´ЛКА** *ж. шав.* Вусцілка ў абутку. *Усцілкі на зіму трэба выразаць з аўчыны.* Сакоўцы Міл.

**УСЫ´ПКА** *ж.* Насыпка на падушку. *Зрабіла б падушку, але ўсыпкі німа з чаго пашыць.* Стайкі Стайк.

**УСЯЛЯ´К** *прысл.* Па-рознаму, усяк. *Усяляк цябе ганіў, самымі гадкімі словамі.* Бялавічы Кос.

**УТАМЛЕ´ННЕ** *н.* Стома. *Такоя ўтамленне напало, ледва ногі да ложка давалакла.* Альшаніца Квас.

**УТО´РЫ** *толькі мн.* Паз у ніжняй частцы драўлянай пасудзіны; утора. *Бочка знізу гніе, уторы дно ні трымаюць.* Заполле Кос.

**УТО´ЧКІ** *мн. буд.* Кароткае бервяно, якім даточваюць другое, каб хапіла ад вугла да вугла. *Хата на адных уточках пабудавана, бо цяжко было дастаць дзерава пасля вайны.* Альшаніца Квас.

**УТРАВЯНЕ´ЦЬ** *зак.* Зарасці травой, пустазеллем. *За год, шчо не гаралі, уся зямля утравянела, як хто пасеяў тую траву.* Яглевічы Ягл.

**УТРАПА´ЦЬ** *зак. экспр.* З'есці. *Утрапаў булку хлеба з салом і кажа, шчо галодны.* Яглевічы Ягл.

**УТРА´ТОК** *м.* Страта. *Карова прапала ў суседа: гэто зараз вялікі ўтраток.* Аўсто Стайк. *Німа статку, німа ўтратку.* Альшаніца Квас.

**УТРУБІ´ЦЬ** *зак.* Тое ж, што і у т р а п а ц ь. *Цэлу пятэльню камяка ўтрубіў.* Альшаніца Квас.

**УХАЙДО´КАЦЬ** *зак. экспр.* Сапсаваць, паламаць, знішчыць. *За лето ўнукі новаго ровара ўхайдокалі.* Харошча Міл.

**У´ХНАЛЬ** *м.* Спецыяльныя цвікі для прымацавання падкоў каню. *Зараз ухналёў ні купіш у магазіні, каваль куе.* Квасевічы Квас.

**УЦІСКА´ЦЬ** *незак.* Прыціскаць. *Уціскаюць рублём сено на возі.* Заполле Кос.

**УЦЯ´ЦЬ** *зак.* З цяжкасцю разрубаць, парэзаць. *Ледзьве ўцяла гэто палено: вядома, граб.* Заполле Кос. *Эх, дуб, дўбіна, ды ні ўцяці яе. Харошая мая мілка, ды ні ўзяці яе.* Заполле Кос.

**УЧА´ДЗЕЦЬ** *зак.* 1. Учадзець. *Ні закрывай коміна ў печы, а то ўчадзяям.* Стайкі Стайк. 2. *перан.* Захмялець. *Учадзяў ад гарэлкі, галава баліць.* Стайкі Стайк.

**УЧО´РЫ** *прысл.* Учора. *Учоры ў Косаво ездзіў.* Грыўда Міл.

**У´ШЛЫ** *прым.* Кемлівы, здагадлівы. *Ён хлопяц ушлы, яму пальца ў рот ні кладзі.* Заполле Кос.

**УШЛЯГАВА´ЦЬ** *зак.* Нарабіць сцежак, слядоў. *Ушлягавалі траву гэдык, шчо касіць ні будзя чаго: адны сцежкі.* Заполле Кос. *Буракі калхозныя за жытом растуць, то так ушлягавалі тое жыто, валочачы буракі, ажно страшно глядзець.* Була Міл.

**УШПІЛІ´ЦЬ** *зак. экспр.* Утнуць. *Бывае, як ушпіліць авадзень, то ажно пухір выскачыць.* Альшаніца Квас.

**УШТЭ´ЛІЦЬ** *зак.* Знянацку стукнуць, пацягнуць. *Забралася мая каза і грызе ўшчэпа, а я падкралася ды як уштэлю, ажно падскочыла тая каза.* Гошчава Стайк.

**УШЧАПІ´ЦЬ** *зак.* Прышчапіць. *Бацько дзічкі ўшчапіў, нівядома якія дуле будуць.* Падстарынь Падст.

**УШЧЭ´П** *м.* Прышчэпленае садовае дрэва; саджанец. *Восяннню ўшчэпоў насадзім каля новай хаты.* Гічыцы Ягл.

**У Я´БЛЫКІ** *у знач. прым.* Сівой масці з цёмнымі круглымі плямамі. *Конь у яблыкі.* Заполле Кос.

**УЯ´ДА** *ж.* Прыдзіра. *Ох, і ўяда мая свякроў, нічым ёй ні дагодзіш.* Заполле Кос.

# Ф

**ФАЕ́РКА** *ж.* 1. Кружкі ў газавай пліце. *У мяне вялікая пліта, на чатэры фаеркі.* Яглевічы Ягл. 2. Кружкі ў чугуннай пліце. *Пліты да печы робяць на дзве фаеркі.* Яглевічы Ягл.

**ФА́ЙНЫ** *прым.* Добры, прыгожы. *Файны хлопяц, ніц ні скажаш.* Заполле Кос.

**ФАЛЬШ** *м.* Хіба, недасканаласць. *Добры хлопяц, адна фальш – заікаяцца.* Бялавічы Кос.

**ФА́НДЫ** *мн.* Фалды. *Дзецям сукянкі з фандамі шыюць.* Панкі Люб.

**ФА́ЛЕЦ** *м. тэхн.* Выемка, паз. *Даўней, як рабілі каробку да дзвярэй, акон, то выбіралі фалец.* Альшаніца Квас.

**ФАЛЬШЫ́ВЫ** *прым.* Няшчыры, двудушны. *Сцяпан чалавек фальшывы, яму верыць ні трэба.* Хрышчонавічы Квас.

**ФАНАБЭ́РЫ** *толькі мн.* Пыха, ганарыстасць. *Пакінь свае фанабэры, бо яны нікому ні трэба.* Заполле Кос.

**ФАРЦІКУЛЬЦЯ́ПНЫ** *прым. іран.* Кемлівы, здагадлівы. *Ты не фарцікульцяпны, да цябе цяжко ўсё даходзіць.* Заполле Кос.

**ФАЦЭ́ТНА** *прысл.* Хораша, ладна. *Фацэтна на табе сядзіць сукенка, ты ў ёй бы пані.* Альшаніца Квас.

**ФІЛЁ́НЧАТЫ** *прым.* Фігурысты, узорчаты. *У нас ні простыя дзверы, а філёнчатыя.* Заполле Кос.

**ФІЛІТО́ВЫ** *прым.* Фіялетавы. *Філітовы коляр кожнаму да твару: і старому, і маладому.* Альшаніца Квас.

**ФЛЮ́НДРА** *ж. груб.* Несур'ёзная, лёгкіх паводзін жанчына. *І калі гэта флюндра паразумнея.* Ятвезь Квас.

**ФУГАНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Прагнаць, выкінуць. *Зайшоў Андрэйко п'яны, блэндзіць альбы-што – узяў і фугануў з хаты.* Заполле Кос.

**ФЫ́РКНУЦЬ** *зак.* Вылецець, узляцець хутка, з шумам. *Сабака забег у куратнік, то куры яно фыркнулі.* Гошчава Стайк.

# Х

**ХАЛАДЗЕ´ЧА** *ж.* Вялікі холад. *Яшчэ восянь, а гэдыка халадзеча, шчо пра зіму будзя казаць.* Размеркі Стайк.

**ХАЛАДЗІ´НА** *ж.* Тое ж, што і х а л а д з е ч а. *Халадзіна на двара, аж калоціць усяго.* Квасевічы Квас.

**ХАЛО´ДНАЯ МЯ´ТА** *ж. бат.* Від мяты. *Расце дома, у агародах. Чай робяць з халоднай мяты.* Заполле Кос.

**ХАЛЯ´ВА** *ж. груб.* Дарэмшчына. *Рыгор дзедом стаў, унучку замочвоў, то і мне на халяву сто грам папало.* Верашкі Квас.

**ХАМЕ´ЛЬ** *прысл.* Паціху, няспешна, хаваючыся. *Хамель, хамель – ды наўцёкі.* Заполе Кос.

**ХАМУ´ЛА** *м. груб.* Нявыхаваны, грубы чалавек. *Начальніка з сябе строіць, а такі хамула, не давядзі Госпадзі.* Быч Стайк.

**ХАМУ´ТНІК** *м.* Будынак на калгасным двары, дзе захоўваліся хамуты, лейцы, дугі, пастронкі, іншы сельскагаспадарчы інвентар. *Акуратны быў конюх Кандраш. І ў канюшні, і ў хамутніку былі чысціня і парадак.* Падстарынь Падст.

**ХАМЯНУ´ЦЦА** *зак.* Уздрыгнуць, страпянуцца, спалохаўшыся. *Птушка выляцяла з-пад ног, ажні я хамянуўся.* Альшаніца Квас.

**ХАПАТКІ´** *прым.* Хуткі, спрытны ў працы. *Хапаткі, Іван, твой сын, за шчо ні возьмяцца, усё гарыць у яго руках.* Заполле Кос.

**ХАПЯНУ´ЦЦА** *зак.* Усхапіцца, ускочыць, здрыганулца. *Крыкнула дзіця ў сне, ажно я хапянулася.* Заполле Кос.

**ХАРАШЭ´** *прысл.* 1. Чыста. *Мой хлопяц харашэ піша.* Галік Міл. 2. Прыгожа. *Мае бацько і маці харашэ спявалі.* Заполле Кос. 3. Прыгожа, з густам апранацца. *Сёння ўсе харашэ адзяюцца.* Рацкевічы Міл.

**ХАРАШЫНЯ´** *ж.* Прыгажосць, хараство. *Вясною такая*

*харашыня кругом, аж спяваць хочацца.* Галынка Міл.

**ХАРОʹШЫ** *прым.* 1. Добры. *Іван харошы чалавек.* Быч Стайк. 2. Прыгожы, вабны. *Харошую дзеўку з Украіны Міхась прывёз, хоць вады з яе напіся.* Бялавічы Кос.

**ХАʹТА** *ж. перан.* Смерць, кананне. *Хата табе.* Заполле Кос.

**ХВАІНАʹ** *зб. ж.* Хваёвы лес. *У хваіне і праўдзівіка знойдзяш, і лісічку.* Харошча Міл.

**ХВАЙНЯʹК** *зб. м.* Малады хваёвы лес. *У хвайняку маслякоў столькі, хоць косу закладвай.* Ятвезь Квас.

**ХВАЛІДУʹБ** *м. насмешл.* Чалавек, які любіць пахваліцца; хвалько. *У хвалідуба масло маслянейшае, сало сальнейшае.* Заполле Кос.

**ХВАЛЬБАʹНЫ** *мн.* Фальбаны. *Сукенка з хвальбанамі хароша, шкада, што мода на іх прайшла.* г. Косава.

**ХВАʹНДЫ** *мн.* Складкі ў сукенцы. *Пашыла спаніцу ў хванды.* Гладышы Міл.

**ХВАРСІʹСТЫ** *прым.* Ганарысты, фанабэрысты. *Хварсістая Іванава дзеўка, але ж дальбог прыгажуня.* Няхачава Стайк.

**ХВАРСІʹЦЬ** *незак.* Ганарыцца, задавацца. *А калі хварсіць, як ні маладым?!* Руда Падст.

**ХВАРСУʹН** *м.* Задавака. *Маладыя ўсе хварсуны, бо ёсць у што апранацца.* Гошчава Стайк.

**ХВАШЧАʹНКА** *ж. бат.* Хвошч. *Хвашчанка ёсцяка ўсякая: палявая, балотная, лясная, прырэчная.* Бялавічы Кос. *Хвашчанкі ў картоплях надто многа.* Міхнавічы Стайк.

**ХВОʹЙНІЧОК** *м.* Купка маладога хвойнага лесу. *У гэтым хвойнічку я летась кош праўдзівікоў нарэзоў.* Альшаніца Квас.

**ХІʹМЕЛЬ** *м. груб.* Карак. *У хімель палучыш, калі будзяш спаць ля кароў. І так усе картоплі здратавалі.* Заполле Кос. *Зыдзі з вачэй, а то палучыш у хімель.* Панкі Люб.

**ХІʹТКІ** *прым.* 1. Хісткі. *Ні лезь у лодку: яна хіткая, каб ні абярнулася.* Заполле Кос. 2. Складаны (пра час). *Вайна –*

*хіткая штука, ні ведаяш, дзе бяда сустрэня.* Заполле Кос.

**ХІ́ЦКІ** *прым.* Тое ж, што і х і т к і 1. *Мосцік хіцкі, страшно ісці, каб ні зваліцца падхалеру.* Альшаніца Квас.

**ХЛАБЫ́СНУЦЬ** *зак. экспр.* Выпіць (пра гарэлку). *Хлабыснуў грам трыста, мало, каб яшчэ.* г. Косава.

**ХЛАПЧЫ́СКО** *м. павел.* Падлетак. *Велькі хлапчыско, а ніц мацяры ні памагая.* Яглевічы Ягл.

**ХЛІ́БНУЦЬ** *зак.* Раптоўна пайсці (пра дождж). *Такі дождж хлібнуў і ў адну мінуту сціх.* Заполле Кос.

**ХЛІ́СТАЦЬ** *незак.* 1. Хлябтаць. *Кот хлішча малако.* Заполле Кос. 2. Піць (пра гарэлку). *Ён хлішча гарэлку за воду.* Заполле Кос. 3. Ліць, утвараючы гукі (пра дождж). *Чутно, як хлішча дождж па сцяне.* Заполле Кос.

**ХЛЯБО́ВА ПЕЧ** *ж.* Вялікая варыстая печ. *Зараз ні ў кожной новай хаці хлябову печ робяць, але ж німа смачнейшай вары, як з хлябовай печы.* Любішчыцы Люб.

**ХЛЯ́ПАЦЬ** *незак.* Хлюпаць, хлюпацець. *Туфлі завелькія купіла: хляпаюць.* Альшаніца Квас.

**ХО́ДКА** *ж.* Порцыя брагі ў самагонным апараце, якой хапае на адну гонку. *Брагі будзя на тры ходкі.* Заполле Кос.

**ХО́ДНІК** *м.* Палавік. *Мая цешча ходнікі з выдумкай ткала, у елачкі.* Альшаніца Квас.

**ХРА́КІ** *толькі мн. мед.* Флегма. *Ты хоць у бутэлячку хракі сплёўвай.* Галынка Міл.

**ХРАПА́ТЫ** *прым.* З шырокімі ноздрамі. *Алесявы дзеці ўсе храпатыя, невядома на каго і ўдаліся.* Альшаніца Квас.

**ХРАСТО́К** *м.* Парастак. *Храсткоў много на картоплях, трэба абціраць.* Скураты Квас.

**ХРАСЦІ́ЦЦА** *незак.* Прарастаць, пускаць парасткі. *Трэба ўжо садзіць: картоплі пачалі храсціцца.* Яглевічы Ягл.

**ХРО́БУСТ** *м. бат.* Расліна з крохкімі сцяблом і лістом. *Хробуст рос на балоці, рвалі і свіням давалі.* Бусяж Міл.

**ХРО́СЦІ** *мн.* Парасткі. *Пацяплело на дварэ, уся бульба ў хросцях.* Квасевічы Квас.

**ХРУЛЕ́ЦЬ** *незак.* Доўгі час хварэць, не папраўляцца;

недамагаць. *Увесь час хруліць, але гэта хруля перажыве здаровага.* Заполле Кос. *Маці мая хруляя ўсё, але і карові дасць сена, дроў прынясе – усё мне палёгка.* Квасевічы Квас.

**ХРУ́ЛІ** *толькі мн.* Тое ж, што і х р а к і. *Трымай платочка на сваё хрулі.* Квасевічы Квас.

**ХРУ́ЛЯ** *м і ж.* Той, хто доўгі час хварэе, не папраўляецца. *Хруля, усе хруліць і хруліць.* Альшаніца Квас.

**ХРУ́МАЦЬ** *незак.* Хрумстаць. *Конь паціху хрумая авёс.* Хадоркі Ком. *Не хрумай ты гэдык цукеркі, здэцца, ажно зубы трашчаць.* Альшаніца Квас.

**ХРУШЧ** *м. перан.* Малы худы чалавек. *Чаго ты натапырыўся, хрушч, хто цябе баіцца?* Заполле Кос.

**ХРЫПАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Хрыпець. *Прастудзіўся, ажно ў грудзях хрыпаціць.* Любішчыцы Люб.

**ХРЭ́СНІК** *м.* Хросны сын у адносінах да хросных бацькоў; хроснік. *Мяне хрэснік ні забывая.* Яглевічы Ягл.

**ХРЭ́СНІЦА** *ж.* Хросная дачка ў адносінах да хросных бацькоў; хросніца. *Маёй хрэсніцы васемнаццаты год пайшоў: хутко будзям замуж аддаваць.* Яглевічы Ягл.

**ХУДО́БА** *м і ж.* Пра вельмі худога чалавека. *Худоба. І есць, але адны рэбра тырчаць.* Заполле Кос.

**ХУНТ** *м.* Фунт. *У хунці – 400 грам.* Альшаніца Квас.

**ХУЧЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Хучэй ідзі, а то спознімся на аўтобус.* Быч Стайк.

# Ц

**ЦАЛЁ´ЎКА** *ж. устар.* Дошка таўшчынёй у адну цалю (2,54 см). *Даўней на тартаку дошкі рэзалі таўшчынёй у адну цалю, і называліся такія дошкі цалёўкамі.* Заполле Кос.

**ЦА´ЛЫ** *прым.* Увесь, ад пачатку да канца, цэлы (пра адрэзак часу). *Цалы дзень бадзяўся па лесі і ягад не назбіраў.* Заполле Кос.

**ЦАПУ´ЧЫ** *прым.* Учэпісты, хваткі. *Антось свайго ні ўпусціць, цапучы, у яго з рук ні вырвяш.* Заполле Кос.

**ЦА´РСКАЯ РЫ´БА** *ж. заал.* Стронга. *Ні ведаю чаму, але на стронгу кажуць царская рыба.* Размеркі Стайк.

**ЦВЕРДЗІНЯ´** *ж.* Цвёрдая зямля. *Цвердзіня, капачкі ў землю ні ўб'еш.* Хадакі Жытл.

**ЦВІ´ЧЫЦЬ** *незак.* Навучаць, выхоўваць. *Кожны дзень цвічу, каб рукі мыў перад ядой, а ён ні слухая.* Альшаніца Квас.

**ЦЕВЯЛЕ´ЦЬ** *незак.* Гібець, марнець. *Не жыву, а цевялею, і калі Бог смерці дасць.* Заполле Кос.

**ЦЕЛЯВА´ТЫ** *прым.* Спакойны, рахманы. *Андрэй хлопяц целяваты, але дзеўка, якая пойдзя за яго замуж, шкадаваць ні будзя.* Альба Квас.

**ЦЕЛЯМПЕ´Й** *м. зневаж.* Маруда, цяльпук. *Целямпей не паспяшыць.* Быч Стайк.

**ЦЕЛЯПА´ЦЦА** *незак.* экспр. Жыць, як жывецца, перакідацца. – *Як жывеш? – От, целяпаюся паціху, ведама, без здароўя.* Квасевічы Квас.

**ЦЕЛЯПЕ´Й** *м. зневаж.* Тое ж, што і ц е л я м п е й. *Памятаю, баба мая так гаварыла на дзеда: "Такі-сякі целяпей, а ўсе ж такі ляпей".* Альшаніца Квас.

**ЦЕЛЯШЫ´ЦЬ** *незак.* Прагна есці. *Добра ўзяўся целяшыць, аж за вушамі трашчыць.* Заполле Кос.

**ЦЕ´НЖАР** *м.* Цяжар. *Як ты ценжар гэты нясеш?* Мілейкі

Міл.

**ЦЕ́ПЕРО** *прысл.* Даўно, прыкметна па часе. *Цеперо вярнуўся з арміі, а дагэтуль ні жэніцца.* Заполле Кос.

**ЦЕ́ПЕРСЯ** *прысл.* Тое ж, што і ц е п е р о. *Сын цеперся паехоў на ровары да Косава і нешчо німашака.* Харошча Міл.

**ЦЕПЯТКІ́** *прым.* Цягавіты. *Цепяткі конік, здэцца, аж зубамі бярэцца за землю.* Заполле Кос.

**ЦЕРАБІ́ЦЦА** *незак.* Лезці, караскацца. *Трэба на печ церабіцца, выграцца, бо нешчо трасе з холаду.* Падстарынь Падст.

**ЦЕ́РАД** *прыназ. з род.* Пасярод (чаго-н.). *Церад печы ляжыць трыбух авечы (кажух).* Альшаніца Квас.

**ЦЕСТАВА́ТЫ** *прым.* Ацеслівы. *Хлеб выйшоў цеставаты. Але ў нас так кажуць: хлеб ні нявестка, які ўдаўся, такі з'есца.* Хадоркі Кос.

**ЦЕЦІВА́** *ж.* Лісце морквы. *Хоць цеціва дробная, а вырвоў, то моркоў ужэ з добры паляц вырасла.* Альшаніца Квас.

**ЦЕЦІВЕ́ННЕ** *зб. н.* Тое ж, што і ц е ц і в а. *Глянеш на цецівенне: моркоў павінна быць.* Заполле Кос.

**ЦІ́ГРА** *ж. перан. лаянк.* Злая жанчына. *Наша брыгадзірша гэдыка цігра, што ні давядзі Господзі.* Размеркі Стайк.

**ЦІ́ЖЫК** *м. дзіц.* Назва дзіцячай гульні. *Зараз дзеці забыліся, як граюць у ціжыка, а некалі я натто любіў гуляць у яго.* Заполле Кос.

**ЦІМА́ЛЫ** *прым.* Рослы, не малы. *Унучок мой цімалы ўжэ, ужэ трэба глядзець, каб шкоду ні рабіў.* Гладышы Міл.

**ЦІМА́ЛО** *прысл.* Шмат, многа. *Мой Пятрусь цімало грыбоў назбіраў, і ўсе праўдзівікі.* Стайкі Стайк.

**ЦІ́ХАН** *м. перан.* Лянота. *Яму ціхан за пазуху залез.* Стайкі Стайк.

**ЦІ́ХАЦЯ** *прысл. у знач. вык.* Ужываецца як загад не шумець, замаўчаць. *Ціхаця! Чуяця, нехто па надворку*

*ходзіць*. Квасевічы Квас.

**ЦО´ПАЦЬ** *незак.* Спяшацца скончыць работу, паспяшацца. *Цэлы дзень цопаю, а гэтай работы канца краю німа*. Заполле Кос.

**ЦО´ПНУЦЬ** *зак.* Стукнуць, пляснуць. *Знячэўку ззаду як цопнуў вартавому, у таго вінтоўка і вывалілася з рук*. Юкавічы Стайк.

**ЦУКРО´ВАЯ МЯ´ТА** *ж. бат.* Від мяты. *У цукровой мяты велькае лісця, цвіце так, як звычайная, але яна вышэйшая*. Заполле Кос.

**ЦУ´НТАР** *м.* Бярозавая губа. *Цунтар – гэто бярозавая губа, звараная ў вадзе, пабітая малатком на дробныя кускі. Служыла для развядзення агню. Кладуць цунтар на паляц, на цунтар крамушку. Крэсівом высякаюць іскру – цунтар загараяцца*. Мілейкі Міл.

**ЦУ´ПНУЦЦА** *зак.* Стукнуцца, чокнуцца. *Калі гарэлку п'юць, то кажуць: давай цупнямся*. Альшаніца Квас.

**ЦЫБУ´ЛЬКА І** *ж. бат.* Гладыёлусы. *Мае любімыя кляткі ў садку – цыбулька*. Альшаніца Квас.

**ЦЫБУ´ЛЬКА ІІ**. *ж. бат.* Веснавая асака. *Асака вясною маладзенькая, хучэй за траву расце, яе каравы надто ядуць, цыбулькай называлі*. Альшаніца Квас.

**ЦЫБУНЕ´ЦЬ** *незак.* Ісці, падаць буйнымі кроплямі. *Дождж цыбуніць за акном*. Квасевічы Квас.

**ЦЫБУРНЕ´ЦЬ** *незак.* Ліцца раўчакамі (пра вялікі дождж). *Гэдыкі дождж, што з крышы аж цыбурніць*. Заполле Кос.

**ЦЫГА´Н** *м. абрад.* Удзельнік народнага вясельнага абраду. *У нас заўсёды ў цыганоў пераапранаюцца*. Квасевічы Квас.

**ЦЫГА´НІК** *м.* Сцізорык. *Цыганік заўсёды пры мне*. Альшаніца Квас.

**ЦЫ´ГАЦЬ** *незак.* Скакаць. *Прыйдзя вясна, то дзеці панамалёўваюць класы ды цыгаюць сабе*. Квасевічы Квас.

**ЦЫ´МАС** *м.* Усё самае смачнае. *Усякія грыбы смачныя,*

*але баравікі – цымас.* Заполле Кос.

**ЦЫМБУРЭ'** *мн.* 1. Ніжняя частка сцябла збожжавых раслін. *Калі ў жыцці цымбурэ тоўстыя, то і колас важкі.* Альшаніца Квас. 2. Стрэлкі ў цыбулі. *Цыбуля ні выдымілася, то ўсю ў цымбурэ паперло.* Альшаніца Квас. 3. Бязлістае сцябло агародных культур. *Куры падзяўблі буракі, адны цымбурэ тырчаць.* Заполле Кос.

**ЦЫНЦАЛЕ'Й** *м. бат.* Падтыннік. *Пры скурных хваробах цынцалеём прамываюць цело.* Бялавічы Кос.

**ЦЫНЦО'ХА** *ж. 1. экспр.* Жанчына з вялікім бюстам. *Але ж ты і цынцоха: траім няслося – адной дасталося.* Скураты Квас. 2. *міф.* Ведзьма. *Ні хадзі ў жыто, бо цынцоха паймая і жалезнае цыцкі дасць.* Альшаніца Квас.

**ЦЫР** *м. бат.* Нарасць на дрэве, губа. *Цыр убачыш і на алешыні, і на бярозі, і на асіні.* Заполле Кос.

**ЦВІРКУ'Н** *м. заал.* Цвыркун. *Здаецца, і лето ні лето, калі цвіркуна ні чуваць.* Альшаніца Квас.

**ЦЫ'ТРА** *ж. груб.* Нахабная, злая жанчына. *Цытра, ты і старому, і малому вочы выпараш.* Стайкі Стайк.

**ЦЭ'БЕР** *м. ц* Цэбар. *У цэбры таўклі свіням, каравам мяшалі сечку.* Бусяж Міл.

**ЦЭ'ВА** *ж.* Частка рукі, нагі. *Частка рукі ад далоні да локця – цэва, і частка нагі ад пяты да калена – цэва.* Альшаніца Квас.

**ЦЭ'ЛІЦЬ** *незак.* Трапіць, папасці. *Антось цэліў ажні ў Булу, каб узяць сабе адтуль жонку.* Гошчава Стайк.

**ЦЭ'ЛКІ** *прым.* Які не прамахваецца, трапны. *Цэлкі, кажан раз кіём у клёк пападзя.* Заполле Кос.

**ЦЮРЭ'МНІК** *м. пагардл.* Чалавек, які сядзеў ці сядзіць у турме. *І як яна жыве з гэтым цюрэмнікам, я яго віду баюся.* Гічыцы Ягл.

**ЦЮЦЮПА'Н** *м. бат.* Рамонак. *Цюцюпан расце каля дарог, яго зараз мало, а ім надто добра мыць галаву.* Заполле Кос.

**ЦЯГЛАВІ'НА** *ж.* Прадаўгаватая балоцістая мясціна ў

лесе. *У цяглавіні много жураўлін.* Заполле Кос.

**ЦЯГНУ´ЦЬ** *незак.* Доўжыцца. *Гэтае балото цягня ажні да рэчкі.* Заполле Кос.

**ЦЯ´МЦЯ-ЛЯ´МЦЯ** *м. і ж. зневаж.* Вялы, марудны чалавек. *Цямця-лямця, ідзе і спіць.* Заполле Кос.

**ЦЯРПЛІ´ВЫ** *прым.* Сытны. *Як аладкоў бульбяных напяку, то мае мужыкі цэлы дзень есці ні просяць, бо аладкі цярплівыя.* Бусяж Міл.

**ЦЯРЭ´ДНАЧЫ** *прысл.* Сярод ночы. *Устаня цярэдначы. Сам ні спіць і другім ні дае.* Скураты Квас.

**ЦЯРЭ´СПАЛЯ** *прысл.* Напрасткі, полем. *Цярэспаля да лесу бліжэй, чым ісці па дарозі.* Куляшы Міл.

**ЦЯЦЕ´РА** *ж.* 1. заал. Цецярук. *Цяцера – рэдкая птушка.* Сенькавічы Падст. 2. *м. і ж. перан.* Чалавек, які не дачувае. *Глухая цяцера, злазь, прыехалі.* Бялавічы Кос.

# Ч

**ЧАБО́РЫК** *м. бат.* Чабор. *Баравы чаборык п'юць ад кашля.* Бялавічы Кос.

**ЧА́ВІЦЬ** *незак.* 1. Душыць, жаваць. *Німа зубоў, то чаўлю тое яблыко дзёснамі.* Заполле Кос. 2. Выціскаць, душыць. *Бяры, чаві вінаград, будзям віно рабіць.* Заполле Кос.

**ЧАПЕ́Ц** *м.* Кішэчнае сала на тонкіх кішках. *Чапец – сало на тонкіх кішках, а на тоўстых – уздор.* Альшаніца Квас.

**ЧАПЕ́РЫЦЦА** *незак.* Узбірацца, лезці ўгору. *Адзін чалавек начаваў на сені. Ноч'ю чуя: нехто чаперыцца на стажок. А гэто мядзведзь.* Заполле Кос.

**ЧАПЛЯЯ́** *ж. Чапяла. Чапляёю ставяць пятэльню ў печ, як аладкі пякуць.* Альшаніца Квас.

**ЧАРАВА́ТЫ** *прым.* З густымі пакручастымі валокнамі (пра дрэва). *Чаравату бярозу цяжко калоць.* Заполле Кос.

**ЧАРАДО́Ю** *прысл.* Разам, супольна, талакой. *Чарадою ды хутко рабіць.* Альшаніца Квас.

**ЧАРАНО́К** *м.* Дзяржанне. *У нас чаранкі да вілоў рабяць з арэшніку, добрыя чаранкі яловыя.* Яглевічы Ягл.

**ЧАРНАБЫ́ЛЬНІК** *м. бат.* Палын звычайны. *Перш чым картоплі ў яму сыпаць, кідаюць чарнабыльнік, каб мышы не заводзіліся.* Заполле Кос.

**ЧАРНО́ЦЦЕ** *м. зневаж.* Пра смуглага, чарнявага чалавека. *Гэто чарноцце да таго ліхоя, што цяжко жыць з ім.* Кушняры Падст.

**ЧАРНЯ́К** *м.* Сіняк. *З яе чарнякі ні сходзяць: такі злы мужык, што рады німа.* Бусяж Міл.

**ЧАРТАПАЛО́Х** *м.* Пудзіла, страшыдла. *Дзікі ў картоплі ўбіліся, чартапалохоў наставіў, але ці памогуць.* Мілейкі Міл.

**ЧАСНЫ́К** *м.* Часнок. *Зімовы часнык за вясняны лепшы: большы.* Яглевічы Ягл.

**ЧАЎНАЧО́К** *м. рыб.* Прылада, якой вяжуць рыбацкую сетку. *Чаўначок і просты, і складаны па будові, але ім лёгко вязаць сеткі.* Заполле Кос.

**ЧАЎНЫ́К** *м.* Чаўнок. *Як папалетая чаўнык у ніцях, то гладзянькі, аж блішчыць.* Любішчыцы Люб.

**ЧАЦВЯРТУ́ХА** *ж. устар.* Чацвёртая частка зямельнага надзела. *Мой бацько меў яно чацвяртуху ворнай зямлі.* Заполле Кос.

**ЧАЦВЯРЫ́К** *м. этнагр.* Драўляная пасудзіна з ручкай, якой мералі збожжа. *У чацвярыку было роўно пуд.* Заполле Кос.

**ЧАЧО́ТА** *ж. бат.* Бяроза з густымі пакручастымі валокнамі. *Камель у бярозы-чачоты ішоў на тапарыско, бо доўго служыў, моцны.* Заполле Кос.

**ЧАЧО́ТАВЫ** *прым.* 1. Зроблены з бярозы-чачоты. *Чачотавая бяроза з тоўстым кароткім камлём.* Заполле Кос. 2. *перан.* Рабаціністы. *Чачотавы той чалавек, у якого рабаценне ні толькі на твары, а па ўсім целі.* Альшаніца Квас.

**ЧА́ШКА** *ж.* Спосаб матання нітак у клубок, калі пераходзяць ад аднаго круга да другога. *Вірком матаюць ніткі ў чашку.* Альшаніца Квас.

**ЧА́ШНІК** *м. абрад.* Шафер, удзельнік вясельняга абраду. *Зараз на вяселы разбору німа, а то былі і дружкі, і чашнікі.* Галік Міл.

**ЧВЭ́РЫЦЬ** *незак.* Вытвараць, вырабляць. *Нармальны чалавек ні будзя чвэрыць абы-шчо, а п'янаму ды дурному ўсе можно.* Панкі Люб.

**ЧМУТА́Р** *м.* Варажбіт. *І даўней, і зараз много чмутароў, бо кожны шукая, як зарабіць. Я ім ні веру.* Стайкі Стайк.

**ЧМУТА́РКА** *ж.* Варажбітка. *У нашом сяле чмутарка была: усе людзі яе баяліся.* Мілейкі Міл.

**ЧУБО́К** *м. перан.* Участак лесу сярод бязлеснай прасторы. *Сярод жыта віднеяцца чубок лесу.* Размеркі Стайк.

**ЧУРБАКІ´** *мн.* Цурбаны. *Парэзалі дрова на чурбакі, калоць будзям.* Воля Жытл.

**ЧУР** *выкл. дзіц.* Вокліч, якім даецца права супыніць гульню, выйсці з гульні, увогуле звярнуць на сябе ўвагу. *Чур! Ні чапайця мяне, я выходжу з гульні.* Заполле Кос.

**ЧУ´ЧАЛАНКІ** *мн.* Суставы пальцаў. *Упаў, чучаланкі аб мерзлую землю пабіў.* Заполле Кос.

**ЧЫ´ЖЫК** *м. дзіц.* Тое ж, што і ц і ж ы к. *Чыжык – мая любімая была гульня.* Альшаніца Квас.

**ЧЫ´КАЦЦА** *незак.* Важдацца. *Ні чыкайся з ім, а рабі сваю работу.* Заполле Кос.

**ЧЫ´НЫ** *мн. ткац.* Месца, дзе перакрыжоўваюцца ніткі асновы, утвараючы зеў. *Закладваяш дошчачкі, каб чыны ні згінулі.* Альшаніца Квас.

**ЧЫСЛІ´НКА** *ж. ткац.* Тры ніткі ў пасме. *Калі снуюць кросна, то тры ніткі – гэто чыслінка, а дзесяць па тры – пасмо.* Альшаніца Квас.

**ЧЫ´СТО** *у знач. злуч.* Быццам, нібы. *Як пройдзя дождж, чысто бальзам паветра.* Скураты Квас.

**ЧЫ´СТЫ ЧАЦВЕ´Р** *м. царк.* Чацвер перад Вялікаднем. *У Чысты Чацвер устаюць да ўсходу сонца. Устаюць і бягуць мыцца ў цякучой вадзе, каб быць здаровым.* Альшаніца Квас.

**ЧЫ´ХАТКА** *ж.* Чханне. *Мабыць, прастудзіўся: чыхатка напала.* Любішчыцы Люб.

**ЧЭ´САНЫ** *дзеепрым.* 1. Ачасаны (пра драўніну). *Гэты чэсаны лес даўно ляжыць на гуліцы, а гаспадар і ні думая будавацца, жыве ў халупі.* Галік Міл. 2. *ткац.* Прапушчаныя праз шчоткі лён, воўна. *Чэсаную воўну прадуць, а тады ткуць.* Альшаніца Квас.

# Ш

**ШАБАРА́ХНУЦЬ** зак. экспр. Ударыць знячэўку, неспадзявана, толькі адзін раз. *Шабарахнуў з-за вугла, ён і зваліўся.* Заполле Кос.

**ШАЛЕ́НЕЦ** *м. бат.* Блёкат чорны. *Як баляць зубы, то таго шаленцу напарыш і дыхаяш парай: зубы перастаюць.* Гічыцы Ягл.

**ШАЛЕХТУНЫ́** *мн.* Званочкі на дузе, бомы. *Даўней усе з шалехтунамі ездзілі, каб на чалавека не наехаць.* Заполле Кос.

**ШАЛЁ́ХНУЦЬ** *зак.* З размаху выліць, хлібнуць. *Гаспадар з лесу прыехоў. Зіма. Мокры ўвесь. Жонка просіць: "Прынясі, Якаў, вады, ты ўсё роўно мокры". Успыхнуў Якоў: гэто так сустрэла... Пятнаццаць вёдзяр шалёхнуў праз парог на падлогу. Адышла гарачка, тады запытаў: "Ну, то хваціло табе вады?"* Альшаніца Квас.

**ШАЛО́ТА** *м і ж.* Чалавек, які гаворыць, робіць непатрэбнае. *Ён увесь у бацька ўдаўся, такі самы шалота.* Заполле Кос.

**ШАЛО́ЦІЦЬ** *незак.* Вярзці глупства. *З ім німа як рабіць: цэлы дзень шалоціць.* Уласаўцы Жытл.

**ШАЛЬПАТА́ЦЦА** *незак.* Варушыцца, шастаць. *Чаго ты шальпочашся? Я думоў, шчо кот лазіць.* Верашкі Квас.

**ШАЛУПЕ́ННЕ** *н.* Шалупінне. *Шалупенне ад цыбулі трэба пакідаць на градах, то, кажуць, прападзе драцянік.* Альшаніца Квас.

**ШАЛЯНО́ЎКА** *ж.* Квяцістая ваўняная хустка. *Купіла ў Косаві нову шаляноўку.* Яглевічы Ягл.

**ШАМРЭ́ЦЬ** *незак. безас.* 1. Так скажуць, калі ў хаце падтрымліваецца чысціня і парадак. *Вера жанчына акуратная, у хаці ў яе шамрыць.* Заполле Кос. 2. Так скажуць пра дзяўчыну, якая апранулася ў новае прыгожае адзенне, якое надзвычай уражвае. *На Алесявой дачцэ ўсё*

*шамрыць.* Заполле Кос.

**ША́ПА** *ж.* Шафа. *Мы трымалі святочнае адзенне ў сундуках, а багацейшыя ў шапі.* Альшаніца Квас.

**ША́ПКА** *ж. 1. буд.* Бервяно ў зрубе, якое зверху закрывала аконны праём. *Паклалі шапку ў зруб.* Любішчыцы Люб. 2. *буд.* Адзін з урачыстых момантаў пры будаўніцтве дома. *Пакладуць дзеравіну па вокнах, значыць, пакладуць шапку. Нясі, гаспадар, гарэлку.* Любішчыцы Люб. 3. Верхні сноп у мэндлі. *Шапка ў мэндлі ўся мокрая ад расы.* Мілейкі Міл.

**ША́ПАЧКА** *ж.* Зялёная абалонка, якая пакрывае арэх. *Арэх, які не выспеў, увесь схаваны ў зялёнай шапачцы.* Заполле Кос.

**ШАПТУ́Р** *м.* Шаптун, чараўнік. *Мой бацько, бало, ніякім шаптурам ні верыў.* Падстарынь Падст.

**ШАПТУХА́** *ж. 1. ткац.* Слабка намотаныя ніткі. *Напрала шпулю, а выйшла адна шаптуха.* Альшаніца Квас. 2. Мяккая галоўка капусты. *Ні парасла капуста, адна шаптуха.* Альшаніца Квас.

**ШАРАМЫ́ГА** *м. груб.* Валацуга. *Столькі шарамыг у сяле развялося, рабіць ні хочуць, шукаюць адно, дзе выпіць.* Бялавічы Кос.

**ША́РАЯ ГАДЗІ́НА** *ж.* Час пасля заходу сонца да цемнаты. *Памятаю, баба ўсё казкі нам расказвала ў шарую гадзіну, а тады ўжэ кладіся спаць.* Заполле Кос.

**ШАРВА́ЛОК** *м. устар.* Шарварак. *На гэту шашу жвыр вазілі коньмі, людзі адбывалі шарвалок.* Заполле Кос.

**ША́РО** *форма безас.* Змрок, прыцемак. *Шаро на дварэ, пара свет уключаць.* Заполле Кос.

**ШАЎКАВІ́ЦА** *ж. бат.* Від водарасці. *Шаўкавіца – водарасць такая, ёю абрастаюць сваі ў мастах.* Заполле Кос.

**ША́ХВАРАСТ** *м і ж. асудж.* Чалавек, які не шануе адзення, абутку. *Шахвараст, спрач пальто ў шкаф, хай ні валяяцца.* Гошчава Стайк.

**ШАХРА́Й** *м і ж. асудж.* Тое ж, што і ш а х в а р а с т. *Шахрай, на ём адзежына ляціць, як на калку.* Скураты Квас. *Мой футбаліст добры шахрай: на год тры пары чаравікоў гэтым футболом марнуя.* Куляшы Міл.

**ШВАРАНО́К** *м. памянш.* Шворан, жалезны стрыжань. *Глядзі, шваранок выпаў, воз раскідаяцца.* Заполле Кос.

**ШВЭ́ДАР** *м.* Світэр. *Ідзеш на холад, то швэдра падніз адзень: цяплей будзя.* Зыбайлы Жытл.

**ШКАРА́ДА** *м і ж. асудж.* Непаслухмяны падлетак. *Малако на губах не абсохла, а такі шкарада, усім пад пазур залез.* Боркі Падст.

**ШКАРАЛЮ́ПА** *ж.* Шкарлупіна. *Шкаралюпу збіраюць, а зімой кідаюць курам.* Заполле Кос.

**ШКВА́РКА** *ж.* Скварка. *У пост шкваркі грэх есці, на адном алеі жывем.* Сенькавічы Падст.

**ШКЛІ́НА** *ж.* Кусок шкла. *Шкліну ў акно трэба ўставіць.* Стайкі Стайк.

**ШКРАБЯНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Шкрабануць. *Ні з таго, ні з сяго шкрабянуў майго хлопца кіпцюрамі па твары і пабег.* Заполле Кос. 2. *перан.* Зашчымець. *Ідзе мужык дахаты, а мяне адразу па сэрцы шкрабяне, каб хоць ні п'яны.* Заполле Кос.

**ШЛЁ́МА** *м і ж. зневаж.* Чалавек, які ідзе, цягнучы ногі па зямлі. *Шлёма, ідзі па-людску, а то ідзе, ажні халявы адна аб адну труцца ў ботах.* Заполле Кос.

**ШЛО́МБА** *м і ж. зневаж.* Тое ж, што і ш л ё м а. *Гэты шломба каблукі за месяц сцірая, ногі цёгаючы па зямле.* Альшаніца Квас.

**ШЛО́МБАЦЬ** *незак.* Ісці, цягнучы ногі па зямлі. *Дзядок ужэ стары, але шломбая паціху.* Альшаніца Квас.

**ШЛЫК** *м.* Касмыль. *Як вазьмуцца сабакі грызціся, толькі шлыкі ляцяць.* Дубітава Міл.

**ШЛЯГ** *м. ткац.* Шляк. *Радзюшку тку ў шляг, палоска будзя адна па краю.* Альшаніца Квас.

**ШЛЯ́ПІЦЬ** *незак. цясл.* Зверху закрыць бервяном

аконны ці дзвярны праёмы. *Хату будую, учора ўжо вокна шляпілі.* Сенькавічы Падст.

**ШМА́ЛЕЦ** *м.*Ператоплены свіны ці гусіны тлушч. *Шмалец на хлеб намазвалі і елі.* Бялавічы Кос.

**ШМАТКІ́** *мн.* Кускі, абрэзкі ад нечага. *Сабака на шматкі хустку парваў.* Гошчава Стайк. *Маці перадала табе шматок сала.* Хадоркі Кос.

**ШНО́БЕЛЬ** *м. груб.* Нос. *От нос, добры шнобель. Бог пецярым нёс, ёй адной дастаўся.* Альшаніца Квас.

**ШПА́НКА** *ж.* Рыдлёўка. *Мужык кожную весну шпанку нагострыць, каб лягчэй грады было капаць.* Хрышчонавічы Квас.

**ШПАРА́ГУС** *м. бат.* Аспарагус. *Шпарагус, як ёлачка, ім вэлюм убіраюць.* Бялавічы Кос.

**ШПА́РЫЦЬ** *незак. экспр.* Хутка ісці, ляцець. *Куды шпарыш? Пастой, скажу нешчо.* Бусяж Міл.

**ШПІКУЛЯ́НЧЫЦЬ** *незак.* Спекуляваць. *Работы німа, то ўсе людзі кінуліся шпікулянчыць.* Размеркі Стайк.

**ШПІ́ЛЬКІ** *мн.* Ігліца. *Даўней ні было чым падсцілаць у хляве, то шпількі з лесу насілі.* Харошча Міл. *Колісь шпількамі ўсё прызбы абсыпалі на зіму, каб цяплей было ў хаці.* Заполле Кос.

**ШПО́КНУЦЬ** *зак. экспр.* Забіць. *У вайну голасу не меў мужчына: адразу шпокнуць, калі шчо ні так скажаш.* Няхачава Стайк.

**ШПО́НКІ** *мн.* Запінкі. *У дзяўчат брошкі на блюзках, а ў хлопцаў шпонкі ў рукавах. Адзін хворс!* Альшаніца Квас.

**ШПО́РТАЦЦА** *незак.* Варушыцца, корпацца. *Маёй бабцы дзевяносто мінуло, але шпортаяцца паціху.* Заполле Кос.

**ШПУ́ГА** *ж. стал.* Выемка, канаўка. *Са шпугамі робяць каробку ў вокна.* Заполле Кос.

**ШПУ́РГАНКА** *ж. дзіц.* Кіёчак з рашчэпленым канцом. *Рашчэпіць канец адзін у кіёчку, засадзіць камяня і кідая. Гэдак робяць шпурганку.* Ятвезь Квас.

**ШПУРГАНУ́ЦЬ** *зак.* Шпурнуць. *Лоўкі хлопчык. Так шпургане камяня, ні ўбачыш, як ляціць.* Руда Падст.

**ШТАНЫ́** *толькі мн. перан.* Дрэва, з кораня якога растуць два ствалы. *Як ляснікі бачаць, што штаны, то стараюцца адзін ствол зрэзаць, а то ў буру раздзярэ.* Заполле Кос.

**ШТАЦІ́ВЫ** *мн. ткац.* Стацівы. *Варштат – высокі, а штацівы нізкія.* Заполле Кос.

**ШТО́НДАР** *м. ткац.* Нітка, якая трымае цэўку на прутку ў сукале. *Не было б штондара, то цэўка злятала б з прутка.* Альшаніца Квас.

**ШТРАП** *м.* Шраф. *Даўней сабаку бяз прывязі ні трымалі, а зараз цэлымі зграямі па сяле валочацца. І ніхто штрапу ні дасць.* Хадоркі Кос.

**ШТЫ́РХАЦЬ** *незак.* Штурхаць. *Малеча яшчэ, а маці, бало, ранянько штырхая пад бокі: будзіць каравы гнаць.* Грыўда Міл.

**ШУГА́Й** *м.* Капуста, у якой не завязалася галоўка. *Суш такая была, з капусты адны шугае тырчаць.* Заполле Кос.

**ШУ́ГАНКА** *м. дзіц.* Гушкалка. *Сусед шуганку зрабіў, то дзеці з усяе гуліцы збягаюцца да яе.* Квасевічы Квас.

**ШУ́ГАЦЦА** *незак.* Гушкацца. *Надто любіла шугацца, любіла, каб ад страху сэрцо млело.* Верашкі Квас.

**ШУ́ГАЦЬ** *незак.* Гушкаць. *Як малы быў, то ўсе прасіў, каб бацько на назе шугоў.* Бялавічы Кос.

**ШУМ** *м.* 1. Пена, якая выступае ў каня пасля цяжкай работы ці хуткай язды. *Трэба шанаваць каня, а то ўсяго ў шумі прыгнаў.* Заполле Кос. 2. Пена, якая ўтвараецца пад час мыцця. *Е такі парашок, што як мыяш, то поўная балея шуму.* Заполле Кос.

**ШУРАВА́ЦЬ** *незак. экспр.* Ісці. *Шуруй, пакуль трамваі ходзяць.* Альшаніца Квас.

**ШУРУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Шныпарыць. *Нехто шурудзіць кожну ноч у пустой хаці, што на краю сяла, аж страшно.* Гошчава Стайк.

**ШЧАВЕ́Й** *м.* 1. *бат.* Шчаўе. *Усё палявы шчавей рвалі і варылі.* Квасевічы Квас. 2. *кулін.* Страва. *Я люблю шчавей, гатовы кожны дзень варыць, ды яшчэ з костачкай.* Альшаніца Квас.

**ШЧАЛАКІ́** *толькі мн. кулін.* Тое ж, што і к р ы ш а н ы. *Шчалакі, гарачыя, заскварaныя, – смачная яда.* Заполле Кос. *На вячэру шчалакоў наварыла.* Аляксейкі Стайк.

**ШЧАТКІ́** *мн.* Дошка з набітымі на яе жалезнымі дроцікамі для часання льну. *Лён трэплюць, а пасля чэшуць на шчатках.* Альшаніца Квас.

**ШЧО** *займ. 1. пытальны.* Што. *Шчо ты надумаўся рабіць нядзелькаю?* Заполле Кос. 2. *адносны.* Што. *Зацвіла чарэшня, шчо садзілі мінулай вясной.* Заполле Кос.

**ШЧО́КІ** *толькі мн. перан.* Нерухомая частка церніцы. *У церніцы язычок ходзіць то ўгору, то ўніз, а шчокі на месці.* Заполле Кос.

**ШЧО́ЛАК** *м.* Рэдкая частка стравы. *Мне гушчы ні лі, лепяй улі больш шчолаку.* Альшаніца Квас.

**ШЧО́ПЦІ** *мн.* Колькасць сыпкага рэчыва, якую можна ўзяць трыма пальцамі. *Сыпані ў капусту шчопці солі.* Падстарынь Падст.

**ШЧЫКЕ́Т** *зб. м.* Штыкет. *Хату абгарадзілі новым шчыкетом.* Бусяж Міл.

**ШЧЫКЕ́ЦІНА** *ж.* Штыкеціна. *Зараз спачатку кожную шчыкеціну пагаблююць, а тады ўжэ габлёванымі гародзяць.* Галік Міл.

**ШЧЫ́ЛНО** *прысл.* Шчыльна, цесна. *Шчылно падганяй адну дзеравіну да другое, каб ні было зазору.* Квасевічы Квас.

**ШЫ́КАЦЬ** *незак.* Шаптацца, шушукацца. *Чаго шыкаяця, кажэця ўсім.* Заполле Кос.

**ШЫ́ЛІЦЦА** *незак.* Туліцца, гарнуцца. *Ні шылься, сядзі спакойно.* Даргужы Міл.

**ШЫПУ́ЛЬ** *м.* Ражон, завостраная палачка. *Даўней замкоў на дзвярах людзі ні чаплялі. Прыткне шыпулём:*

*знай, шчо німа нікого дома. Зладзяёў у сяле ні было.* Заполле Кос.

**ШЫХАВА́ЦЦА** *незак.* Рыхтавацца, збірацца. *Сын здумаў жаніцца, трэба шыхавацца да вяселья.* Заполле Кос.

**ШЫХАВА́ЦЬ** I *незак.* Прыбіраць. *Дочкі павырасталі: шыхуй маці прыданае.* Скураты Квас.

**ШЫХАВА́ЦЬ** II *незак.* Шанцаваць. *Мне шыхуя сёні: падвязлі на машыні да самуткой бальніцы.* Старажоўшчына Кос.

**ШЫ́ЦЦА** *незак.* Лезці, прабірацца. *Куды шыяшся ў гэдыку гушчэру, вочы павыдзіраяш.* Аляксейкі Стайк.

**ШЫ́ШКА** *ж. бат.* Тое ж, што і к а л а ч ы к. *Шышка бабкі падобная на выцягнуты колас, на якім месяцца дробныя светлыя кветачкі.* Заполле Кос.

**ШЭ́ЎКАЦЬ** *незак. экспр.* Гаварыць неўцямна, невыразна. *Перастань шэўкаць, гавары па-чалавечы.* Няхачава Стайк.

# Ю

**Ю́Р'Я** *н. рэліг.* Веснавое свята, якое адзначаецца 5 мая. *На Юр'я спрадвеку выганялі кароў на пашу.* Любішчыцы Люб. *У нас казалі: "На Юр'я трэбо, каб сено было і ў дурня".* Куляшы Міл.

**Ю́ХА** *ж.* Кроў. *Зараз як дам, то юхаю зальешся.* Яглевічы Ягл. *Калі колям паршука, то юху на крывянку збіраям.* Бусяж Міл.

**Ю́ЦІК** *м.* Начынены прыпраўленым мясам свіны страўнік. *Юцік гаспадыні хавалі на сенакос.* Уласаўцы Жытл.

**Ю́ШКА** *ж.* I. Тое ж, што і ю х а. *І свіня вялікая, а юшкі ў ёй мало.* Падстарынь Падст.

**Ю́ШКА** *ж.* II. Канфорка. *У пліце, што палім, юшкі.* Була Міл.

# Я

**Я́ВАР** *м. бат.* Тое ж, што і а і р. *Дзе ніжэй, дзе макрэй, то там і явар большы расце.* Бялавічы Кос.

**ЯГА́** *ж. перан.* Худая, высокая злая жанчына. *Усякія на свеці е жанкі, але мая яга ягою, злая, як ведзьма.* Заполле Кос.

**Я́ГАДКА** *ж.* Пучка ў пальцы. *І як я буду карову даіць: усю ягадку нажом разваліла.* Альшаніца Квас.

**ЯГАДНІ́К** *м.* Чарнічнік. *Была ягады знайшла харошыя. Праз дзень зноў туды прышла – увесь ягаднік патоптаны, ні так пазбіралі, як змясілі ўсяго.* Бялавічы Кос.

**Я́ГАДЫ** *толькі мн. бат.* Чарніцы. *Калі ў нас кажуць, шчо пайдуць па ягады, то ўсе ведаюць, шчо гэто па чарніцы.* Заполле Кос. *Ягады – гэто чарніцы, а маліна – гэто маліна.* Альшаніца Квас.

**ЯДКІ́** *прым.* Якасны, спажыўны (пра сена). *Гэты год сено ядкоя, карова па поўніцы есць, і об'ядзёў німа.* Заполле Кос.

**ЯДЛАВЕ́Ц** *м.* Ядловец. *Ягады ядлаўца запарваюць і п'юць пры хворых нырках.* Альшаніца Квас.

**Я́ДЛО** *н.* Тое ж, што і г а р м у ш к а. *У старых зубоў німа, то ім яно ядло есці.* Квасевічы Квас.

**ЯДЫ́НЫ** *прым.* Адзіны. *Ядыная ў мяне ўнучка, любімая.* Заполле Кос.

**ЯЖЫ́НА** *ж. бат.* Тое ж, што і к у р ы н а – м а л і н а. *Яжыну мало хто збірая, бо яна калючая. Усе рукі паабдзіраяш збіраючы.* Бялавічы Кос.

**Я́ЗВА** *ж. перан.* Пра чалавека, які любіць выказваць нездавальненне па дробязях. *Гэтая язва сваею буркатнёй надакучыла.* Була Міл.

**ЯЗЁ́ЎКА** *ж. заал.* Язь. *Язёўка пахожая на плотку, толькі ў плоткі воко чырвонае, а ў язёўкі белае. Зараз мало яе водзіцца ў рэках.* Заполле Кос.

**Я́ЗІК** *м. заал. памянш.* Невялікі язь. *Язік па велічыне, як плотка.* Размеркі Стайк.

**ЯЗЫ́ЧНІЦА** *ж. асудж.* Пляткарка. *Яна такая язычніца, чаго ні было, то выдумая.* Заполле Кос.

**ЯЗЫЧО́К** *м. ткац.* Рухомая частка ручной церніцы. *У церніцы е дзве шчокі, а паміж імі ходзіць язычок. Пакладзеш на шчокі лён, языком мнеш – і кароста адлятая.* Альшаніца Квас.

**Я́ЗВІНА** *ж.* Ясень. *Язвіна – рэдкае дзерава.* Заполле Кос.

**ЯЛІНА́** *ж.* Стары яловы лес. *У яліне много вавёрок водзіцца.* Заполле Кос.

**Я́МА** *ж.* Магільная яма. *У Заполы кажуць: дол трэба капаць, а ў Альшаніцах – яму.* Альшаніца Квас.

**ЯРГІ́НЯ** *ж. бат.* Вяргіня. *Восяню яргіня ў садку аж гарыць.* Галік Міл.

**Я́РКІ** *прым.* Востры. *Яркая каса, гострая; яна мне ад бацька засталася.* Заполле Кос.

**ЯСЁ́НКА** *ж.* Вясенняе жаночае паліто. *Купіла нову ясёнку сабе.* Мілейкі Міл.

**ЯСЯНЁ́ВЫ** *прым.* Зроблены з ясеню. *Каблукі на вокна ясянёвыя рабілі.* Яглевічы Ягл.

**Я́ТРЫЦЦА** *незак.* Запаляцца, чырванець. *Ятрыцца рана, ні хоча гаіцца.* Заполле Кос.

**Я́ЧНЫ** *прым.* Ячменны. *Ячны крупнік смачны.* Харошча Міл.

# ТЭКСТЫ

***

Н. К. Турчына, 1922г.н..
в. Грыўда, Мілейкаўскі сельсавет.
Тэкст запісаны ў 1995 годзе.

Унука цэло лето ў мяне была, а ўжэ велька. Яшчэ год ды школу скончыць. Ано папабалела душа мая. Як сцямнея, то яна на тую дзіскацеку. Вядома, маладая, хочацца. Ні застаўлю ж яе дома сядзець. І во ні сплю, жду. Але дзе ты дажджэсся! Вазьму і засну. А калі яна прыходзіць, Бог яе ведая.То я папрасіла хлопца суседскаго, пасля арміі ўжэ, добры хлопец, сур'ёзны, каб ён глядзеў за ёю, апекаваўся.

Ці ж даўней так было? Бало, сонцо яшчэ высоко, а ўжэ му'зыкі е. Да якую да часоў адзінаццаці – ды ўсё, канец, павялі хлопцы дзяўчат дахаты.

А сёні, каб хоць музыка люцкая, а то гэта катрынка як начне граць,то аж галава звініць. А яны пастануць у круг і ўсё кулакамі месяць, як тая каравайніца ў дзяжы.

Даўней Пятровіч пакойны на гармоні як заграя, то жніво, зморысся, замучысся, а поўну гуліцу за сабою вядзе, і ўтамлення німа. А каб гэто адны дзяўчата танцавалі, то не. Колісто выдзя дзеўчына з дзеўчынаю на круг, то выжануць або разаб'юць. Дзеўчына гонар мела, каб гэто з п'яным хлопцом танцаваць, то зроду. Да й ні было п'яных хлопцоў. А то ўнучка прышла да кажа, шчо хлопцы былі п'яныя.

Памятаю, Антось мой расказваў, як яны кавалерамі былі. На базар у Косаво сходзілася ўся маладзёж, з усіх сёл збіраліся. То, бывало, купяць чакушку на трох, вып'юць, то такія вясёлыя. Ідуць з Косава дахаты і ўсю дарогу пясне

спяваюць.

І ніякаго дзіва ні было, бо ўсе спявалі. А зараз ці п'яны, ці цвярозы – ніхто ні спявае, усё пагінуло.

На вяселлі была ў радні, то маўчаць людзі. А сват ано зная: налівайця і выпівайця за здароўя маладых. А каб песню якую хоць мармытнулі, то не, адны ано магнітафоны граюць. А бало на каравае ўсю ноч спяваюць, на вяселлі ні сціхаюць. Музыка: гармоня, скрыпка, бубян – ні ўседзіш. Весяло было без гарэлкі.

На маё вяселле бацька купіў 20 бутылок гарэлкі, то гэто ой – ё – ёй, гэто много, бо радня велька (самагонкі тагды ні было, палякі моцно каралі за самагонку). Дваццаццю бутылкамі вяселле зрабілі. Адзін кілішок па кругу хадзіў. Сват госьцю наліваў кілішок, і госьць віншаваў маладых, а тыя дзякавалі госьцю за харошыя слава. Усяго самаго лепшаго жадалі маладым. Адны перад адным стараліся, шчо лепшае сказаць.

Даўней ні пілі, бо ні было за шчо і ні было калі. Як укіня сонцо, як паспея ўсё зараз: і жыто жаць, і лён рваць, і хоць ты ў адзін дзень. Ранянько, цёмненько, у пяць часоў устаняш – ідзеш ячмень жаць, бо ячмень надто крышыцца, каласы адлятаюць, з расою ячмень жалі. А дахаты ідзеш шаро, ужэ цямнея. А мужчыны сабе стараюцца.

А сёні шчо: ні жаць, ні вязаць, ні малаціць. На работу ў калхоз ідуць, як магазін адчыніцца, каб адразу перад работаю выпіць.

Нап'юцца зранку, то такія з іх і работнікі: землю запусцілі, і каравы галодныя, і ўсё галоднае, бо ні гаспадарэ, усё чужое чалавеку, каб на сваё ішоў рабіць, то ні піў бы.

Зара за гарэлку ано і робяць, і грошай ні хочуць – бутылку давай.Дрова прывязла – гарэлка, парэзала – гарэлка, парубаць – гарэлка, усё на гарэлцы трымаяцца. Ехоў во мне адзін па дрова, пытаяцца: "Бабушка, есть жидкий

доллар?” Я і вочы вытрашчыла. А ён рагоча:”Самагонка!” У нас зара на гарэлцы ўсё трымаяцца.

Але шчо гэто, міленькі, усё пра гарэлку да пра гарэлку? Хай яе ліхо бярэ. Бо дзе гарэлка, там дабра німа.

***

*В. І. Лушчык, 1930г.н..*
*в. Альшаніца, Квасевіцкі сельсавет.*
*Тэкст запісаны ў 2003 годзе.*

У майго бацькі было два старэйшых браты і сястра. Браты за багаццем пагналіся ды пабралі сабе жанок з добрым прыданым, а мой бацько ўзяў маці за красату, але бедную. За гэто браты з бацькі і пасміхаліся: “Мы пасеялі жыто на полі, а ты, Гнат, на сундуку пасеяш”. Але бацько не апускаў рукі. Упраўляўся і на сваёй зямлі, і асадніку польскаму абрабляў поле, дужы надто быў. Асаднік быў нікепскі чалавек, крыўды ні чыніў: і з умалоту збожжа дасць, і картоплямі дзяліўся. Мы галодныя не раслі.

Бацька любіў мяне. Старэйшы брат у мяне быў, Саша, з фронту не вярнуўся, і сястра (яшчэ двоя меншых), а бацька ўсюды мяне з сабою браў. Каня на начлег вадзіла. Як збярэмся гуртом ля кастра, як начнуць страхі расказваць, то баімся глянуць у цемень. А могліцы нідалёко былі.

Памярла была дзеўка, а харошая была. Хлопцы велькія дый кажуць: “Давай паклічам, то, можа, прыйдзя.” І давай гукаць: “Зінка,хадзі сюды! Зінка, хадзі сюды!”Сядзімо мы гуртом, бачым: едзе нехто на кане белом, ано тупу-тупу, тупу-тупу, але ні пазнаць хто. І гэты конь нідалёко ад нас стаў і нагою землю грабе. А мы адзін на аднаго: “Бачыш?” – “Бачу.” – “Бачыш?” – “Бачу.” Косы дыбом на галаве сталі.

На гэтых хлопцаў шэпчам: "Гэто праз вас!"І давай мы хрысціцца. Бачым, той конь тупу – тупу – і пабег да могліц, і ано агонь пайшоў. І ўсё, па той раз ніхто ні галёкнуў, ніхто на тыя могліцы і нагою ні ступіў.

Ўсё рабіла з маленькае, бо маці хварэла. І прала – ано шпулі вылятали, і картоплі на дзве рукі капала за вельку, і жала, і ткала.

Вайна пачалася, а мы само ў дзявок браліся. Брат старэйшы ў парцізанах быў, то бывало поўна хата іх найдзе. Бацько брату гаварыў:"Ано, сынок, чужого ні бяры нідзе, прыходзь дахаты сам і хлопцоў прыводзь, знайду, шчо паесці і з сабою аддам паследняе, каб ано цябе людзі ні клялі."

Але папатрасліся, баяліся, шчо немцы расстраляюць. Але ў нас у сяле надто стараста харошы быў, Буткевіч фамілія. Сяло парцізанскае было, ля Гуты блізко, а ні аднаго чалавека ў сяле ні расстралялі, ні спалілі ні аднае хаты, стараста адстойваў людзей. Пачалі ў Германію адпраўляць маладых, то сваіх дзвюх дочок адправіў, каб чужых ні вывозілі. А ўжэ пад самы канец вайны Буткевіча забілі. А людзі шкадавалі яго: усіх ратаваў, а сам прапаў, і магілы не ведаем яго. Шкадавалі ўсе, плакалі.

Брата майго пакідалі, як кончылася парцізаншчына, у міліцыі служыць. Але ён сказаў: "Чым у міліцыю, то лепш на пазіцыю."

Маці мая выгадавала пяцёро дзяцей, хварэла ўсё. І пенсіі не заслужыла ў гасударства, і за сына забітаго ано за пару гадоў да смерці яе сталі даваць 12 рублёў.

У 46-м я пайшла пачтальёнкаю рабіць. А почта была на краю Косава, туды, пад Старажоўшчыну. Равароў не было, пяшком хадзіла. Праўда, тады яшчэ калхозоў ні было, то сваімі коньмі часцяком у Косоў людзі ездзілі: то ў млын, то да дохтара. То падвозілі і мяне. І дождж, і кудаса, а трэба

ісці, бо людзі ждуць: каму пенсія дзецям, шчо бацькоў на фронці пабілі, каму пісьма, бо много тады па вярбоўцы павыязджало, да хлопцоў у армію пабралі. Бывало, мароз трашчыць, бацько мне кажушка пашыў, а калені ўсё раўно сінія з холаду. Стану, патру– патру, ды зноў пабегла.

Палучу почту і бягу ў Скураты, адтуль – у Квасавічы, патом у Хрышчонавічы, і нарэсці ў Альшаніцы, дахаты. Як падумаю зара, як гэто я ўсё вытрымала ? Але ж маладая была, дужая, рослая. Бачу, ужэ і хлопцы на мяне паглядаюць. І пахварсіць хацеласё, да не было ў чом.

Даўней Альшаніцы не было такое закінутае сяло, як зараз: і сямігодка была, і медпункт, і сельсавет.Музыкі рабілі ў Топталавой хаці. Хлопцы з усёй акругі да нас прыходзілі. Скуратоўскія галасістыя былі, надто харашэ спявалі. Здалёк было чутно, шчо на музыкі ідуць. Я іх усіх ведала, а прыглянуўся мне Іван Лушчык, Казак, так іх называлі па-вулічнаму. І я яму глянулася.

Але хітры быў мой Іван, ведаў, шчо трэба бацькоў улагодзіць. А ён, хоць малады хлопец, але столяр быў на ўсю акругу. То шпулю вытачыў, то калясо ў каваротку, то палазы ў санкі майму бацьку зрабіў, ды ўсё настае:"Выходзь за мяне замуж." Я яшчэ маладзенькая, 17 гадкоў ано, хацеласё і дзеўкаю пахадзіць. А бацько кажа:"Дурань, ідзі, зямлі німа, каб яны паземлянелі, то ніхто замуж ні возьмя. Бярэ, то ідзі, пускай жабракі на свет, хай гадуюцца." (Смяецца). Гэто бацько мяне выпер за яго, але я не шкадую, душа ў душу пражылі. Іван надто шкадаваў мяне.

Праз год сын радзіўся, пасля дачка, пасля зноў сын. Трое дзяцей у нас, усіх выгадавалі. Добрыя яны ў мяне. Але ж надто рано памёр мой Іван, Казак, як яго ўсе клікалі. Дбаў пра сям'ю, кідаўся ўсюды, каб грошай зарабіць: у калхозі ніц ні плацілі, а мы будаваліся. То на Бронну ездзіў,

там сталярны цэх быў. Хацеў на Броннай хату ставіць, а я, дурная, ні дала. Можа, там лягчэй пражылі б. А тут начальнікі рабілі, шчо хацелі з людзьмі.

Накасіў мой Іван сена на Пабежыне (балото за км 25 ад Альшаніц), на плечах з вады выносілі, сушылі, прывязлі, на вышкі закінулі. А на другі дзень падагналі калхозну машыну (Савін прадсядацялём быў) і з вышок сено забралі. Можа, тады ў Івана і першы рубец на сэрцы паявіўся.

А то пашла дачка ў магазін, з дзецьмі, усім хлеба прадалі, а ёй магазіншчык сказаў:"Табе хлеба німа, твой бацько ў калхозі ні робіць".

" Ой, усяго і ні раскажаш. А я ўсё жыццё ў калхозі прарабіла, граматоў назарабляла, а пенсія – курам на смех. Гэто зараз, як першу групу далі, то трохі больш палучаю. Але што з таго? Зараз мае рукі ложкі да рота не давядуць. Дзякую Бога за дзяцей, шчо не акінулі.

***

Г. В. Бахур, 1923г.н..
в. Яглевічы, Яглевіцкісельсавет.
Тэкст запісаны ў верасні 2003 года.

А зімой дзяўчата варожаць.

На Каляду збяруцца, пайдуць у куратнік, знімуць з седала чорную курыцу, насыплюць горбачкамі жыто у адзін роўненькі радок. І пускаюць курыцу. Колькі дзяўчат, столькі гарбачок. З чые ўперуч пачне дзяўбсці, тая першая і замуж пайдзе. Во адну пачала дзяўбсці, патом другую, адышлася – пачала трэцюю. Гэдык адна за аднаею

і замуж выходзілі, а чыю не захацела – тая яшчэ ў дзеўках сядзела.

А некаторыя дзяўчата булкі пяклі і клалі ў радочок. Колькі дзявок, столькі і булачок. Клалі ў радок і пускалі сабаку. Чыю булачку ўхопіць сабака, тая першая замуж пайдзе.

Яшчэ рабілі калодзежа з дроў, з лучыны. Клалі пад ложок. Як прысніцца, шчо прыдзя хлопец воду браць, то гэто будзе твой суджаны.

шчэ на люстэрко гадалі. У цёмной хаці, у поўнач. Ставілі люстэрко адно спер態аду, адно ззаду. Трэба сядзець і глядзець, каго ўгледзіш якраз у поўнач. Але ўгледзіш і як амага закрывай люстэрко, бо можа па мордзі даць. Каго ўгледзела, твой кавалер будзя.

А яшчэ бралі жыто ў сарочку і поначы, каб ніхто ні бачыў, сыпалі ад калодзезя. А каладзязе былі грамадскія, з усяго грудка паілі коняй. Зробіш дарожку, бяжыш дахаты, кладзесся ў пасцель. Гэтай ноччу прыдзе воду браць і прынясе яе вам у хату суджаны. Праўда, пакуль шчо ў сне.

Дзяўчата напрадуць кудзелі і ніткаю перапутваюць гуліцу. І схаваюцца дзе там у шулках, і ждуць. Хто парве нітку, той тваім кавалером будзя.

Усяго-усяго маладыя навыдумляюць, цяжко мне, старой, і здумаць. Але во яшчэ. Гэто ж не палянуюцца і вынясуць на гуліцу рубля з гумна, з-пад стрэхі. Паставяць стойма: куды ўпадзя, у той бок дзеўка і замуж пойдзя. А пасля бацько дае карбунцоў, бо на место не заняслі таго рубля.

Памятаю, усё хваталіся за плот. Як да па́ры схопіш карпанін, то замуж гэты год пойдзеш, а не да па́ры, то яшчэ ў дзеўках хадзіць будзяш.

Смеху, віску было на ўсю гуліцу. А яшчэ баяліся, каб хлопцы не ўбачылі, бо праходу ні дадуць, смяяцца будуць.

Клалі дзяўчата ў апалушкі чаравікі і апалалі. У які бок упадзя наском чаравік, у той бок дзеўчына і замуж пойдзя.

Але ж кожнай дзеўчыні хацеласё ведаць, які ж будзя мужык: добры ці ліхі. Бо кажуць: з добрым нажывесся, а з ліхім нагаруясся.

Каб ведаць, які будзя, то ішлі вечаром у цёмны хлеў і руку перад сабою выстаўлялі. Як даткнецца рука да нечаго мяккаго, цёплаго, то мужык будзя добры, ласкавы, а як на халодная нешчо наткнецца рука, то і мужык будзя нядобры.

А пра характар дазнаваліся так: кідалі каменьчыка ў калодзязь і слухалі ўсё: як ціхо ў воду зайдзе, то ціхі мужык будзя, спакойны, выбачлівы. А як каменьчык булькня, то бурклівы будзя.

Ох, дзеткі, варажба варажбою, а як Бог дасць, так і будзя.

# З РАЗМОВЫ

*в. Заполле Косаўскі сельсавет.*
*Тэкст запісаны ў 1980 годзе.*

**Зайка Фама Якаўлевіч, 1907г. н.**

– Прыехалі мы з бежанства ў дваццаць першом гаду, перад Сёмухаю. Усё кругом пазаростала.Ад аселіцы да лесу ўжэ беразняк у рост чалавека. Надворкі буліною пазарасталі па самыя стрэхі. Вужоў много развялося, яшчарок. Воўк сярод дня ў Тамаша Куткавого падсвінака ўкраў. Сабак не было, бо самым не было чаго есці. Пустыя прыехалі, ано самы сябе прывязлі. Каб згараць, то трэба быў конь, а нічого ні было. Пад лапату пасадзілі два кашэ картоплёў аднымі вочкамі, да яшчэ расады сястра дваюрадная дала, то капусты пасадзілі, і ўсё. Без работы ні сядзецімяш, да пашлі сено касіць. Бацько да мы двоя, ужэ добрыя подляткі былі. А ўвосянь з Амерыкі дваіх прыехалі. Раней ні маглі, бо вайна йшла. Ды тыя амерыканцы купілі двоя коней, карову, а сена не было, ды мы й прадалі ім сено, а сабе за гэтыя грошы купілі цялушачку. Да той год картоплі ўрадзілі, да капуста як ведра, грыбоў много насушылі, шчаўю загатавалі. А цялушачка тая да Каляд пабегала, прывяла бычка велькаго, а сама маленька была. Выгадавалі бычка,прадалі, і самы зарабілі, ходзячы на Бронну карчэ рваць, ды ў дваццаць трэцём годзі ў жыда ў Косаві каня купілі. Хамута ў людзей узялі, бо свайго яшчэ не было, пастронкі, плуга. А конь здаровы, сівае масці. Можно было б на заробкі такім канём ездзіць. Вывялі на загумення. А людзей назбіраласё, бо мало ў каго коні былі. Ано зачапілі плуга за землю, а ён як пачаў кідацца: то ўбакі, то назад, рады німа, ні хоча цягнуць. Васіль Наскоў, сусед, кажа: "Мoжа, у пары будзя хадзіць, давай я сваю

кабылу прывяду." Прывёў, запраглі, то кабыла пайшла, а ён зноў дурэя. Да счапіўся на кабылу. Той Васіль: " Якоў, хай ён здохня, кабылу акалечыць." Усё, распраглі. Да бацька ўзяло за душу, начамі ні спаў. Пайшоў да таго жыда: -"Ах, е-е-е, як ты мяне наказаў, як ты мяне абідзеў, дзеці мае. Я так збіраўся на гэтаго каня."– "Ну, слухай, прывядзі ў чацвер, прадамо."

Ды бацько павёў, да той жыд прадаў другому такому даверліваму Якаву. То ажно ў Клецку бацько жарэбчыка купіў, паўтара года было.

**Зайка Еўдакія Якаўлеўна, 1903 г. н.**

– Бацько наш добры быў па натуры, анёл, хоць часом і любіў крыкнуць. Біць ні біў. Ано раз мяне набіў: залезла на свінінчык ды давай па саломі з'яжджаць.

Мы былі бедныя, восім душ, а зямлі чацвяртуха.

А маці злосна была: і праўзака, і карбунцоў дасць, бо трэба было нас і адзець, і накарміць. А ўсяго было вобмаль. Бало, бегаям па гуліцы, прыбяжым: "Мамо, мы есці ні хочам яшчэ." – "Ні хочаця, дзеткі?" – "Не, мы яшчэ ні хочам." Пабеглі. Пабегаям, зноў прыбягаям: "Мамо , мы есці ні хочам." А самы ж хочам. І не дасць маці лустачкі хлеба, пакуль у абед усе ні збяруцца палуднаваць. Усё ашчаджала. Хлеб быў дзецям даўней як пірог.

**Зайка Ф. Я.**

– Даўней калолі перад Калядамі і ніхто пучкі ні аблізаў, бо пост.

А ўжэ на Коляды ад пуза елі.

**Зайка Аляксандра Пятроўна, 1911 г. н.**

–Варыць маці капусту, укіня костачку, а перш чым на стол падаць, абярэ з тае косткі мясо, растаўчэ на дробныя шматкі – і зноў у капусту. І ўсім: каму пападзя, то пападзя, ніхто так ні еў, як зараз.

**Зайка Е.Я.**

– Ля кубельца ніхто ні меў права быць, адна гаспадыня.

Даўней чэрві тоя мясо елі, а самы ні елі. Заколя паршука і цягня, каб хваціло да другіх Каляд.

**Зайка А. П.**

– То я кажу: сала напячэш – гэто ўжэ велькі гонар. Аладкоў напячэш, і сала напячэш – гэто ўжэ свято. Пірагі пяклі толькі на Вялікдзень, і то ні ўсе, бо ні было з чаго. Спячэш булачок пяць пірага, бо трэба, каб засталосё на зацерку.

**Зайка Ф. Я.**

– А калі зарэжуць на Вялікдзень цяля, то хто еў?

**Зайка Е. Я.**

– Як? Усе елі.

**Зайка Ф. Я.**

– А як зарэжуць авечку?

**Зайка А. П.**

– То так, затаўкай пойдзя, а наадвал ні елі.

**Зайка Ф. Я.**

– Наш бацько харошых паршукоў калоў к Калядам. К Вялікадню цяля, авечок трымалі аж да хутароў. Бало, за тры гады ды кажуха можно шыць.

**Зайка Е. Я**

– Хавая маці кумпяка: хай на сенакос. На той кумпяк нападуць чэрві, у печ запхнуць, то тыя чэрві аж вылятаюць. Бралі ў балото тоя мясо, то аж есці ні хочацца. Даўнейшае жыццё было чарвівая

**Зайка Ф. Я.**

– Цяля ні елі чэрві, авечку тож. К Успленню зарэжаш авечку, к Дзядам. Хай сабе цяжко рабілі, кепско елі, а вясёлыя былі, песні спявалі, у небо глядзелі. А зараз лёгко робяць, добра ядуць, а ўсё ў землю глядзяць.

Вот і разбярыся ў чалавеку.

Рыхтуюцца да выдання наступныя кнігі Алеся Зайкі:

«Мікратапанімія Івацэвіччыны»,
«Паселішчы Івацэвіччыны»,
«Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны»,
«Прымаўкі і прыказкі Косаўшчыны».

Даведачнае выданне

**ЗАЙКА** Алесь (Аляксандр Фаміч)

ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК КОСАЎШЧЫНЫ

| | | |
|---|---|---|
| Рэдактары: | — | М. М. Аляхновіч,<br>Н. В. Томчык |
| Дызайн вокладкі | — | Л. Ф. Валасюк |
| Камп'ютэрны<br>набор і вёрстка | — | Г. І. Хаванская,<br>А. І. Зайка |
| Карэктар | — | А. І. Зайка |

Падпісана да друку 10.10.2011.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 14,28. Ул.-выд. арк. 9,25. Наклад 200 экз. Заказ 2819.

Выдавец і паліграфічнае афармленне:
Гродзенскае абласное унітарнае паліграфічнае прадпрыемства
«Слонімская друкарня».

ЛИ № 02330/0494472 от 08.04.2009.
ЛВ № 02330/0150493 от 11.03.2009.

Вул. Хлюпіна, 16, 231800, Слонім, Гродзенская вобл.



**Алесь Фаміч Зайка** нарадзіўся 12 жніўня 1948 года ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У 1966 годзе скончыў Касаўскую сярэднюю школу, у 1971 – філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Пасля службы ў Савецкай Арміі вярнуўся ў родную вёску, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Цяпер загадвае школьным этнаграфічным музеем.

Аўтар кнігі «Дым з коміна» (2011), у якой краязнаўчы досвед аўтара ўвасобіўся ў літаратурныя формы – лірычныя запісы, мініяцюры, апавяданні.

«Дыялектны слоўнік Касаўшчыны» – плён шматгадавой працы руплівага збіральніка самабытнай народнай лексікі. Ілюстрацыйная частка жывая, поўніцца галасамі людзей, што зберaглі айчыннае моўнае багацце, у ёй раскрываюцца асаблівасці маралі, побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры аднаго з куточкаў Беларусі.


ISBN 985-6602-93-9
9789856602934